Пераклад Васіля Раманава 2016 год.

Марозаў Мікалай Аляксандравіч

# Хрыстос

(Гісторыя чалавечай культуры ў прыродазнаўча-навуковым асьвятленні.)

# Кніга IV

У імгле мінуўшчыны пры сьвятле зорак

# Частка III.

Чароўная казка пра старажытную класічную Элладу.



Мал. 83

Рэчаісны вынік уяўляемага шматстагоддзевага культурнага развіцця старажытнагрэцкіх класічных гарадоў, на вуліцах якіх (відавочна, яшчэ больш цесных, чым гэтыя) прамаўляў быццам бы знакаміты Перыкл і хадзіла з ім 2000 гадоў назад сусьветная красуня Аспазія, меўшая свай салон у адной із такіх сядзібак. Тыповы выгляд сучаснага грэцкага мястэчка (з фатаздымка).

# Глава I.
## Лагічныя высновы.



Мал. 84
Карабель Клеапатры. У далечыні флот Антонія. (Із «Эллады» Вагнера.)

Адной із самых вялікіх перашкод пры дасьледаванні старажытнага жыцця, патрабуючага для свайго тлумачэння папярэдніх ведаў у галіне амаль усіх сучасных навук, з’яўляюцца недасканаласьці нашай сярэдняй адукацыі, пры якой розным навукам не выдаткуецца адпаведнага часу, і яшчэ ад таго, што ў галовах большасьці так званых агульна адукаваных людзей нават і вывучаўшыяся пад час юнацтва навукі былі толькі часовымі гасьцямі.

Пагасьцяваўшы ў мазках прызначаную колькасць навучальных дзён, яны ўжо больш не запрашаюцца ў яго мазкавыя звіліны занятыя іншымі пытаннямі і таму з імі адбываецца тое ж самае, што і з нашымі былымі школьнымі таварышамі, раз’ехаўшыміся па розных мясцовасьцях. Праз некалькі гадоў мы забываемся нават пра прозвішчы большасьці з іх і пры сустрэчах не пазнаём. А становішча асоб, набыўшых пазней спецыяльную адукацыю, адрозніваецца ад гэтых псеўда-агульна-адукаваных людзей толькі тым, што, абраўшы вечным спадарожнікам адзін са сваіх школьных прадметаў, яны сыходзяцца з ім яшчэ больш, і таму, магчыма, яшчэ больш забываюцца пра астатнія.

Але ўсё ж аднавіць знаёмства і зноў сысьціся са сваім ранейшым школьным таварышам нашмат лягчэй, нават і праз дзясяткі гадоў, чым пачаць нейкае цалкам новае знаёмства і сысьціся з невядомым вам раней чалавекам. У гэтым сэнсе становішча таго, хто з зацікаўленасьцю і без падману прайшоў сярэднюю школу ў навучальнай установе ці самастойна, і хто некалі грунтоўна пазнаёміўся з падставамі навейшых навук, нашмат лягчэй чым становішча таго, хто гэтага не мог зрабіць ці атрымаў толькі ўрыўкавыя і аднабаковыя веды. Падставамі ж навук я называю фундаментальныя тэарэмы абстрактных ведаў і фундаментальную сістэматыку ведаў апісваючых. Чалавек, які не можа па памяці паўтарыць перыядычную сістэму элементаў ці галоўныя гамалагічныя рады вуглевадародных радыкалаў і не ведае самыя важныя хімічныя формулы, не мае права нават і разважаць пра хімію. Не могучы паказаць сузор'і на мапе неба (а разам з гэтым

непазбежна і на самым небе, таму што гэта тая ж самая мапа) і не могучы пералічыць планеты сонечнай сістэмы, назваць іх найбольш важныя асаблівасьці і паказаць тыповыя класы зорак, гэтак жа мала кампетэнтны ў астраноміі, як не ведаючы табліцы памнажэння – у матэматыцы, і не ведаючы геаграфічнай мапы – у геаграфіі і этнаграфіі. Не могучы пералічыць асноўныя аддзелы і класы жывёл і расьлін і пазначыць іхныя анатамічныя і фізіялагічныя асаблівасьці, не мае права разважаць пра біялагічныя пытанні. Не могучы назваць па парадку асноўныя напластаванні зямной паверхні і даць іхную біялагічную характарыстыку – павінен устрымлівацца ад геалагічных і касмалагічных разважанняў, а не ведаючы адрознення працоўнай каштоўнасці матэрыяльных тавараў ад іхнага рынкавага кошту і сацыялагічнага ўжывання дадатковых каштоўнасьцей фізічнай працы, а таксама і характарыстычных асаблівасьцей асноўных аддзелаў чалавечай дзейнасьці ў культурных грамадствах – не можа быць сьвядомым грамадзянінам.

Тое ж самае можна сказаць і пра ўсе астатнія навукі. Тыя іхныя асновы, якія трэба ведаць, як таблічку памнажэння, для сьвядомага стаўлення да іхнага прадмета, не займаюць больш дзесяці старонак для кожнай навукі. Але ў выпадку абсалютнага ведання гэтых дзесяці старонак усё астатняе даецца лёгка і таму чытаецца з цікавасьцю. Я не кажу, вядома, што у школах першай ступені патрэбна абмяжоўвацца толькі гэтымі дзесяццю старонкамі, а толькі тое што без іхнага абсалютнага ведання нельга дапускаць да школы 2-й ступені.

Папулярныя кнігі па розных навуках прыносяць вялізную карысць толькі для таго, хто ўжо добра ведае гэтыя іхныя асновы. Тады чытанне такіх кніг у вашай галаве мае тое ж наступства, як прыход да вас дадому ранейшага старога сябра. Вам прыемна яго слухаць, згадваць з ім пра мінулае і, калі вы запрашаеце яго бываць у вас зноў, г.азн. час-ад-часу чытаеце нешта па дадзенай навуцы, то знаёмства робіцца трывалым, і вы можаце з упэўненасцю сказаць: у гэтым сябры я не памылюся і магу разлічваць на яго дапамогу пры цяжкіх акалічнасьцях жыцця.

Цалкам іншым з’яўляецца становішча чалавека, у галаву якога пад час маладосьці не былі закладзены трывалыя асновы галоўных абласьцей ведаў ад матэматыкі і астраноміі да параўнальнага мовазнаўства з уменнем перакладаць чытаемае з двух-трох замежных моваў (хаця б і з дапамогай слоўніка). Калі ён без гэтага пачне чытаць папулярныя кніжкі, то атрымае толькі цьмяныя ўяўленні пра прадмет і замест сур'ёзных ведаў выпрацуе ў сябе адну ганарлівасць, якая заахвоціць яго, калі ў яго ёсць уяўленне, будаваць недарэчныя фантазіі, якія смешна слухаць чалавеку, сур'ёзна азнаёмленаму з дадзеным прадметам.

І такімі без выключэнняў былі высновы ўсіх сярэднявечных тэолагаў пра ўладкаванне сусьвету і пра характар кіруючых ім магутнасьцей, зробленыя да ўзнікнення сучасных align рознабаковых ведаў, грунтуючыхся на досьведзе, назіранні і разважанні.

Такім жа было становішча і ранейшых гісторыкаў старажытнага сьвету. Яны яшчэ не разумелі, што псіхіка першабытнага чалавека не была нададзена яму звыш, а была дачкой атачаючай прыроды, і што цэнтрамі грамадзкага жыцця і культуры маглі зрабіцца толькі самыя надзеленыя прыродай мясцовасьці, а ніяк не пустыні, нападобе, напрыклад, наваколля Мёртвага мора, ці малюсенькія ў геафізічным маштабе далінкі, нападобе Спарты на несуднаходнай рачулцы Еўрота на грэцкай паўвыспе, не здольныя вытрымаць (як і ўся паўвыспа) самай найменшай канкурэнцыі з атачаючымі мараходнымі краінамі, якія былі ў стане зрабіць высадку невялікага атрада ваяроў у вусьце гэтай самай рачулкі Еўрота.

Для чалавека, добра ведаючага пра залежнасць цэнтраў чалавечай культуры ад геафізічных умоваў іхнага месцавання, упершыню навукова даказаную Боклем у яго «Гісторыі цывілізацыі», адна думка вярнуцца да ўяўлення пра тое, што ў наваколлі Мёртвага мора некалі існаваў цэнтр культуры і што Спарта некалі была магутнай сухапутнай дзяржавай, з'ўляецца такой жа недарэчнай, як і думка старажытных пра тое, што зямная паверхня з’яўляецца гіганцкім дзіравым плытом, плаваючым на паверхні сусветнага акіяна.

Да гэтай апошняй ідэі – ідэі пра зямлю-плыт зараз рэдка вяртаецца нехта із так званых адукаваных людзей. Большасць із іх ужо памятаюць на працягу усяго свайго жыцця, як настаўнікі некалі іх научалі, што, калі яны будуць глядзець на Месяц падчас яго зацьмення, то пабачаць як па яго паверхні праходзіць круглы цень Зямлі, а калі будуць назіраць з марскога берага ў добрую падзорную трубу за аддаляючымся караблём, то ужо на адлегласьці двух-трох дзясяткаў кіламетраў заўважаць, што із-за выпукласьці воднай паверхні ад яго застаюцца бачнымі толькі верхнія ветразі, і што грунтуючыся на адноснай велічыні аддаленасьці карабля і засланення воднай выпукласьцю яго ніжняй часткі можна вылічыць і саму крывізну паверхні мора, а разам з ёю і прыблізны папярэчнік зямнога шара, не карыстаючыся недаступнымі для неспецыялістаў дакладнымі геадэзічнымі вымярэннямі. І запомніўшы амаль толькі адно гэта, яны ўжо са спачуваннем будуць ставіцца да тых са сваіх неадукаваных субратоў па чалавечаму роду, якія і зараз пярэчаць, быццам ніхто не бачыў на ўласныя вачы шаравістасьці Зямлі.

Дакладна такжа сучасны фізік са спачуваннем ставіцца да тых экстравагантных адэптаў усеагульнага прынцыпу адноснасьці, якія жадаючы ісьці ў ім да лагічнага канца, сцвярджаюць, быццам усё адно, ці Зямля круціцца вакол сваёй восі ці ўвесь сусьвет вакол яе, хаця ківач Фуко кожны дзень можа паказаць кожнаму ахвотніку, што круціцца не сусьвет, а Зямля. Для кожнага ж, не забываўшагася пра гэты ківач відавочна, што ён захоўвае плоскасць свайго вярчэння ніяк не адносна да Сонца, ці да і сумы ўсіх зорак, а толькі адносна да ўсё напаўняючага пругкага сусветнага асяроддзя, у якім ён вагаецца.

Але чаму ж мы яшчэ да гэтага часу не ставімся спачувальна да тых гісторыкаў старажытнага сьвету, які вераць, быццам бы, напрыклад, вайна такога вялізнага маштабу, як апісаная Фукідыдам і ахапіўшая ўвесь басейн Міжземнага мора, магла ўзнікнуць толькі дзякуючы таму, што горная вёсачка Спарці, у якай згодна з яе геафізічнымі ўмовамі ніколі не можа існаваць (ні ў мінулым, ні зараз, ні ў будучым «да заканчэння стагоддзяў»!) ніякага культурнага дзяржаўнага цэнтра, пасварылася з губернскім мястэчкам Афінамі, якія таксама не маглі быць і не будуць «да заканчэння стагоддзяў» першаступенным цэнтрам культуры і дзяржаўнага жыцця ў адносна вялікім маштабе?

А калі гэта вайна была выклікана не сваркай вёсачкі Спарці з губернскім мястэчкам Афінамі, то чаму ж Фукідыд апісвае яе, як вайну за міравую (згодна з тагачасным маштабам) гегемонію гэтых двух пігмеяў сярод атачаючых іх, у шмат разоў больш буйных народаў на ўзбярэжжах Міжземнага мора?

З гэтага боку гледжання нам не застаецца іншага выйсьця як дапусьціць, што ці ўсе творы Фукідыда з’яўляюцца дзікім фантастычным раманам, ці што пад імёнамі Спарты і Афінаў у ім схаваны, як пад псеўданімамі, непараўнальна больш магутныя культурныя цэнтры, а пад Пелапанэсам апісаны ўвесь басейн Міжземнага мора. У Грэцыі ці каля яе берагоў маглі адбыцца толькі рашучыя змаганні іншых буйных дзяржаваў падобна таму, як у змаганні французаў і

ангельцаў пры Напалеоне I важнейшая сухапутная бітва адбылася на тэрыторыі ні той, ні другой краіны, а ў Бельгіі пад Ватэрлоа, а важнейшая марская бітва нават і яшчэ далей ад абедзьвюх краін – каля мыса Трафальгар на паўднёвы-ўсход ад гішпанскага Кадыса. Толькі ў такім выпадку кніга Фукідыда будзе з’яўляцца рэчаіснай гісторыяй змагання нейкіх двух першаступенных культур Міжземнага мора, нападобе лацінскага Захаду і элінскага Ўсходу, сапраўдныя дзяржаўныя цэнтры якіх схаваны Фукідыдам пад псеўданімамі Афінаў і Спарты, а не дзікім фантастычным раманам, гульнёй нястрымліваега ўяўлення аўтара, і калі ў нас атрымаецца вызначыць значэнне псеўданімаў і вызначаць грунтуючыся на астранамічных і іншых метадах эпоху, то мы набудзем тут вельмі каштоўны гістарычны матэрыял.

Але перш чым паспрабаваць зрабіць гэта, я маю жаданне апраўдацца перад гісторыкам грэцкай культуры ў тым, што я назваў «нават самі Афіны» не сталіцай старажытнай культуры, а толькі яе губернскім горадам. Пачну і тут трохі здалёку і пакажу перадусім недарэчнасць усёй фукідыдавай вайны, калі глядзець на яе са звычайнага стратэгічнага боку гледжання.

Уявіце чытач, што вас выправілі із Масквы па далёкіх вёсках тлумачыць земляробам сучаснае міжнароднае становішча ў Яўропе. Вы ўжо сабралі ў нейкую сядзібу большую частку тубыльцаў і прыгатаваліся распавясьці ім пра самыя апошія дачыненні Англіі, Францыі і Германіі, але ў гэты самы момант у памяшканне заходзіць мясцовы конны фурман, таксама толькі-што із Масквы, і, перахрысціўшыся на ікону і зрабіўшы агульны паклон усім прысутным, прамовіў:

– Бяда, браткі! Сёння раніцай я быў у загадчыка і даведаўся ад яго пра дрэнную навіну. Станцыі Вылязайка і Праяджайка, недзе за Волагдай абвясьцілі адна адной вайну за гегемонію ў Яўропе. Іхная вайна хутка пашырылася: Перм, Вятка, Кіеў сталі на бок Вылязайкі; Ноўгарад, Тыфліс, Смаленск – далучыліся да Праязджайкі. Масква сёння павінна выказацца на чый бок стане яна, і тады мабілізуюць і нас.

– Ратуй, госпадзі! – вымавіў царкоўны стараста. – Яшчэ прыйдуць ваяваць на маё жытнае поле. Усёператопчуць!

Астатнія земляробы здзіўлена глядзяць на вас, чакаючы, што вы скажаце.

Якім было б ваша становішча? Вы сказалі б, вядома, што загадчык са Спажыванаўкі пажартаваў над палітычнай неадукаванасьцю свайго пакупніка, што адзіным вынікам, які мог бы мець месца з нагоды такіх вялізных прэтэнзій Вылязайкі і Праязджайкі, гэта высыланне «завадатараў» у шпіталь для звар'яцелых.

Але хіба знакаміты «старажытны» гісторык Фукідыд не прапануе нам амаль такое ж у сваёй гісторыі Пелапанэскай вайны, быццам бы ўзнікшай з нагоды таго, згодна з яго словамі, што Афіны і Спарта пачалі змагацца за гегемонію ў краінах Міжземнага мора? А яго не толькі не лічаць простым раманістам, але пішуць да яго каментары, і малююць мапы перамяшчэння сіцылійскіх і іншых караблёў.

Пагледзіце ж на мапу Міжземнага мора больш ўважліва, калі геафізічныя і этнаграфічныя асаблівасьці гэтага басейна вам яшчэ недастаткова вядомы.

Перадусім, што такое Афіны? Пад пратэктаратам Англіі яны сталі ў XIX стагоддзі сталіцай маленькай грэцкай дзяржавы, маючай зараз дзякуючы свайму добраму порту і амаль стагадовым субсідыям ангельцаў больш за 100 000 жыхароў, універсітэт, палітэхнікум, музей і невялікую абсерваторыю, а да гэтага часу, у 1825 г., у іх налічвалася не больш 300 сядзіб, ды і то малога памеру.

Ці мог тут некалі ў мінулым, і ці зможа некалі ў будучым, утварыцца цэнтр моцнай дзяржавы, здольнай хоць неяк уплываць на жыццё ў Італіі, Сіцыліі, на Балканскай паўвыспе ці ў Малой Азіі?

Ніколі! Навакольная мясцовасць занадта бедная фізічна, параўнальна з гэтымі краінамі, каб тут некалі асноўнае насельніцтва змагло выпрацаваць дастатковую колькасць матэрыяльных каштоўнасьцей для ўтрымання моцнага ўдарнага ядра, здольнага пераможна быць перакінутым ў пералічаныя мной краіны. Афіны згодна са сваёй прыродай і геафізічным месцаваннем – гэта не больш як просты прыпынак для праязджаючых, звычайная станцыя Вылязайка, для гандлёвых караблёў, ідучых ад Неапаля, Мясіны, Венецыі і Ламбардыі ў Адрыянопаль, і Канстантынопаль і наадварот. Дзякуючы гэтаму Афіны непазбежна павінны былі зрабіцца пад час сярэдніх стагоддзяў нашай эры, калі з'явіліся ветразевыя караблі далёкага плавання, і нават пазней, даволі заможным і культурным, але ніяк не магутным горадам.

Заможным горадам Афіны павінны былі зрабіцца таму, што праплываючыя праз іх марскія гандляры, – знудзіўшыся ў дарозе, непазбежна шукалі тут забаваў і пакідалі дзякуючы ім значны адсотак сваіх прыбыткаў у забаўляльных установах і рэстаранах. Гэта непазбежна павінна было зрабіць Афіны збольшага легкадумным і вясёлым горадам (гетэры і г.д.), але моцным горадам Афіны ніколі не маглі быць. Заезны двор не можа ваяваць са сваімі пастаяльцамі, адразу ж не абваліўшыся сам, з нагоды іх адсутнасьці. Гэта ўсё адно, як калі б нейкае гандлёвае прадпрыемства абвясьціла вайну сваім пакупнікам. Можна сказаць цалкам наадварот: калі ў старажытнасьці і быў нейкі горад, найбольш зацікаўлены ў захаванні ўсеагульнага міру ў басейне Міжземнага мора, то гэта былі менавіта Афіны.

Такім чынам, само сабай зразумела, што згодна са сваім геаграфічным месцаваннем Афіны павінны былі зрабіцца пад час першага перыяду ветразёвага мараплавання па Міжземнаму мору толькі простым культурным цэнтрам.

Яны першымі атрымлівалі навіны з захаду ад абавязкова заходзіўшых у іх карабёў, якія накіроўваліся на ўсход, і першымі ж атрымлівалі паведамленні з усходу ад караблёў, плывучых на захад. Гэта быў натуральны клуб культурных пластоў насельніцтва ў басейне Міжземнага мора і таму сюды імкнуліся да знакамітых прафесароў маладыя дапытлівыя людзі із прывілеяваных станаў усяго Міжземнаморскага ўзбярэжжа, каб пазнаёміцца з дзеячамі навукі і адзін з адным, як пазней збіраліся ў Сарбоне, у Гейдэльбергу, ды і вядомыя навукоўцы не маглі знайсьці для сябе больш прыдатнага месца, як у клубе ўсіх народаў.

Такім чынам, усё, што паведамляюць нам «класічныя» аўтары пра афінскія школы, праўдападобна, а таму і нам няма патрэбы лічыць, што пад гэтым імем маецца на ўвазе нейкі іншы горад. Атрымліваецца цалкам іншае, калі мы будзем лічыць Афіны адміністрацыйным цэнтрам усяго ўсходняга басейна Міжземнага мора. У гэтым дачыненні Афіны не былі ў стане вытрымаць нават самай найменшай канкурэнцыі з Александрыяй ці Каірам, са Смірнай ці Адрыянопалем. Але калі адміністрацыйны, і непадзельны з ім пад час старажытнасьці вайсковы цэнтр быў не тут, то што ж магло тут знаходзіцца падчас вайны элінскага Ўсходу з лацінскім Захадам за гегемонію? – Толькі галоўны штаб усходняга флоту, для якога гэтае месца было асабліва зручным, як са стратэгічнага боку гледжання, так і з боку гледжання бяспекі ад стыхійных з'яваў. І падобна таму як змаганне Брытаніі і Францыі за марскую гегемонію натуральней усяго магло вырашыцца бітвай пры

Трафальгары, недалёка ад Гібралтарскага праліва, так і змаганне за такую ж гегемонію лацінскага Захаду з элінскім Усходам павінна была натуральна вырашыцца каля берагоў сучаснай Грэцыі. У агульных жа рысах яна моцна нагадвае гісторыю чацьвёртага крыжовага паходу, ці ў крайнім выпадку змаганне Актавіяна Аўгуста з Ліцыніем, і згодна са сваімі побытавымі ўмоваі ніяк не можа быць раней гэтага часу.

# Глава II.

## Агульны змест чароўнай казкі Кадзіладацеля (Фукідыда).

«*Відаць краіна, маючая назву Эллада, трывала заселена не з вельмі даўняга часу. Раней адбываліся ў ёй перасяленні, і кожны народ лёгка пакідаў сваю зямлю, бубучы цяснімым нейкім іншым, больш шматлікім народам*».

«*Справа ў тым, што пры адсутнасьці гандлю і бяспечных узаемных шляхоў стасункаў, як на сушы, так і на моры, кожны апрацоўваў свае палеткі толькі так, каб было на што жыць. Ніхто не меў лішку ў сродках, не апрацоўваў шмат зямлі, таму што невядома было, калі нападзе на яго іншы, і, карыстаючыся безабароннасцю яго жылля, забярэ ў яго маёмасць. Да таго ж кожны лічыў, што ўсюды можна будзе здабыць сабе патрэбны дзённы пражытак. Вось чаму ўсе жыхары лёгка здымаліся з месца і, з нагоды гэтага ж, нідзе не было ні вялікіх моцных гарадоў, ні наогул нейкіх прыстасаванняў для абароны*».

«*Змены насельніцтва адбываліся заўсёды пераважна на больш лепшых землях Элады – мясцовасьцях, зараз маючых назву Фесалія і Беотыя, а таксама на большай частцы Пелапанэса, акрамя Аркадыі, і, нарэшце, на ўсіх не вельмі ўрадлівых мясцовасьцях астатняй Элады. Але калі дзякуючы ўрадлівасьці глебы магутнасць некаторых плямён і ўзрастала, то, спараджаючы ўнутраныя звады, вёўшыя іх да знясілення, яно разам з тым яшчэ хутчэй мела наступствам замах з боку іншаплямennікаў. Наадварот, Атыка з нагоды дрэннай глебы ад самых даўніх часоў не ведала ўнутраных пераваротаў і была населена адным і тым жа насельніцтвам*».

Такім выдатным складам напісаны на адной із замежных моваў восем невялікіх тамоў грунтоўнай гістарычнай кнігі, перакладзенай вельмі дакладна на рускую мову адным вядомым нашым гісторыкам.

Што гэта за кніга, чытач?

Ці ўсеагульная гэта гісторыя Шлосэра, ці гісторыя Вэбера, ці гэта нейкая іншая, навейшая, гісторыя старажытнага сьвету? – Так! – адкажаце вы. – Вядома, гэты ўрывак узяты з нейкай гістарычнай працы нашага ці ва ўсякім разе вельмі нядаўняга часу. Тут стройнае пасьлядоўнае развіццё адной і той жа рэалістычнай ідэі ў цэлым шэрагу каардынаваных паміж сабай складаных выказванняў. Такая характарыстыка павінна быць дапасавана да навейшай стадыі развіцця літаратурнай творчасьці. Гэты ўрывак паказвае на існаванне ў аўтара вялікай папярэдняй начытанасьці і пісьменніцкай спрактыкаванасьці. Відавочна, што ён ні ў якім разе не вымалёўваў тут кожную літару асобна, загалоўным напісаннем, без знакаў прыпынку і без падзелу фразы на асобныя словы, як гэта рабілі аж да сярэдніх стагоддзяў згодна з сучаснымі палеаграфічнымі пошукамі. Ён пісаў хуткапісна і з выразным уяўленнем пра граматычныя правілы, як і мы, перачытаўшы ўжо не адну сотню кніг і спісаўшы папярэдне не адну сотню лістоў паперы, папірусу ці пергаменту, перш чым пачаў такі свой твор, нават калі б ён быў і не васьмітомным, як у дадзеным выпадку. Кніга, напісаная такім складам і

прытым з чыста рэалістычным адценнем мышлення, са скептычным стаўленнем да ўсяго звышнатуральнага ў жыцці людзей, магла з'явіцца толькі ў перыяд вельмі значнага развіцця агульналітаратурнай творчасьці, калі попыт на пісьмовыя матэрыялы быў такім вялікім, што выклікаў узнікненне для свайго задавальнення цэлай прамысловасьці, калі папера перастала быць рэдкасьцю ў руках некаторых асоб. Тут цяжка пазбавіцца ад дакучлівай думкі, што гэты твор напісаны не раней XV-XVI стагоддзя, калі друкарства дало ўжо вялікі матэрыял для чытання і выпрацавання пісьмовай мовы. Тут склад і выказванне думак Леанарда ды Вінчы, Шэкспіра, Бэкана, ці ва ўсякім разе іхных папярэднікаў...

А тым часам, нас пераконваюць, што гэтая кніга напісана яшчэ пад час пятага стагоддзя да пачатку (!) нашай эры, калі згодна з тымі ж аўтарамі (а не згодна з нашымі дасьледаваннямі, якія дапасуюць усе гэтыя падзеі да часу на некалькі стагоддзяў пазьней) у Ягіпце пісалі яшчэ іерогліфамі на сьценах храмаў, калі ў Месапатаміі яшчэ драпалі разцом клінапісы на гліняных дошчачках, калі нават і грэкі пісалі свае лісты адзін да аднаго, не ведаючы паперы, на кавалачках драўнянай кары ці завостранымі кійкамі на дошчачках, пакрытых пластом воску, і калі самыя адукаваныя людзі пры самым крайнім напружанні сваіх разумовых здольнасцей не маглі ў галіне літаратурнай творчасьці падняцца вышэй, чым аравійскія шэйхі і мулы ці тыбецкія ламы і мангольскія вандраўнікі-гандляры XIX стагоддзя! А ці былі выпадкі, каб нехта із гэтых апошніх напісаў хаця нешта крыху падобнае на гэтую гісторыю Пелапанэскай вайны Фукідыда, хаця б пра паходы Чынгіс-хана, ці нешта па гісторыі сваёй краіны? Вядома, ніводзін, калі ён папярэдне не зведаў уплыўву еўрапейскай літаратуры. Нават і нашы рускія дзячкі XIX стагоддзя не змаглі б напісаць падобную кнігу, як гэты Кадзіладацель (г.азн. Фукідыд па-грэцку)!

Такім чынам, пасьля першай жа спробы чытання цытаванай мной кнігі Фукідыда (і – дадам ад сябе – іншых падобных класічных) у чалавека, які прызвычаіўся да архаічнага складу не выклікаючых сумневаў старажытных (г.азн. да-друкарскіх) кніг, як Біблія, ці Евангеллі, ці Талмуд, ці Каран, ці розныя іерагліфічныя і клінапісныя запісы егіпцянаў і старажытных персаў, – з'яўляецца інстынктыўны недавер да праўдзівасьці чытаемага твора.

З пергаментных рукапісаў «Гісторыі» Фукідыда самым старажытным лічыцца «Codex Laurentinianus» у Фларэнцыі, які дапасуецца да крайняй, згодна са старажытнасьцю, даты – да X стагоддзя. Потым лічацца найбольш старажытнымі: «Codex Vaticanus» у Рыме, «Codex Palatinus» у Гейдэльбергу, і «Codex Britannicus» у Лондане, «Codex Augustinus» у Мюнхене – дапасуемыя да XI стагоддзя. А із нешматлікіх астатніх, «Codex Cisalpinus» у Парыжы, дапасуецца да XII і «Codex Monacensis» у Мюнхене да XIII стагоддзя. Але і такія даты мне ўяўляюцца перабольшанымі. Ва ўсіх гэтых рукапісах існуюць індывідуальныя адрозненні не прынцыповага характару, а некаторыя нязначныя, урыўкавыя матэрыялы, што ўвайшлі ў другую кнігу Фукідыда, знойдзены вандроўнікамі XIX стагоддзя ў Ягіпце на папірусах у вельмі сапсаваным стане[1]. Да гэтай жа другой кнігі захаваўся і каментар на папірусе, выдадзены ў Oxyrhinchus Papyri (VI, 107; 1908 г.), але і гэта не павінна нас бянтэжыць: папірус замяняў паперу ў Ягіпце нават і пасьля вынаходніцтва друкавання. Ва ўсякім разе, кніга Фукідыда належыць не да старога перыяду пісьмовасьці, калі вымалёўвалі кожную літару асобна. Гэта –

[1] Fr. Fischer, Thucydidis reliquiae in papyris et membranis aigiptiacis servatae, Lipsiae, 1913.

хуткапісны перыяд літаратурнай эвалюцыі, а разам з ім і эвалюцыі хуткага чалавечага мышлення.

Такая кніга ў самым крайнім выпадку не можа мець старажытнась большую чым 700-800 гадоў назад ад нашых дзён. А пісьмовыя дакументы, якімі непасрэдна карыстаўся аўтар, калі яны нават і былі – як толькі-што згаданыя – на папірусах, таксама наўрад ці маглі мець старажытнасьць большую чым дзьве-тры сотні гадоў да яго. Лічыць, што яны недзе захоўваліся ад –410 гада да XI ці XII стагоддзя нашай эры, г.азн. на працягу паўтары тысяч гадоў, таксама немагчыма.

Гэта азначае што і тут вельмі важна выкарыстаць наш астранамічны метад дасьледавання, вылічыўшы, дзе гэта можна, час апісваемых у кнізе астранамічных з'яваў. Пра спалучэнні планет у ёй, на жаль, нічога не паведамляецца, і таму даводзіцца задаволіцца толькі двума апісанымі тут сонечнымі і адным месяцовым зацьменнем. Але перш чым перайсьці да гэтага, я пазначу яшчэ некаторыя асаблівасьці дасьледуемага твора.

Слова Фукідыд па-грэцку азначае Кадзіладацель, нешта накшталт дзячка[2].

Кніга Фукідыда ў самых старажытных із вышэйназваных грэцкіх рукапісах мае назву «Сюнграфе»[3], г.азн. «Супольнае Апісанне», ці «Кампіляцыя», але ў перакладах яна звычайна мае назву «Гісторыя Пелапанэскай вайны». Пад словам Пелапанэс (што ў перакладзе азначае выспа Пелапа)[4] мы прызвычаіліся мець на ўвазе сучасную грэцкую Марэю, але ж Марэя цалкам не выспа і ніколі ёй не была. Якім жа чынам для Марэі магла б атрымацца не ў нейкай аддаленай краіне, а ў самай жа Грэцыі такая няправільная назва?

Калі падобныя найменні дапасуюцца да аддаленых паўвыспаў, да якіх із Грэцыі можна было дабрацца толькі морам, напрыклад, да Херсанэса, то гэта яшчэ можна дапусьціць, але каб грэкі, жывячы ў сябе дома, не ведалі, што жывуць не на выспе, гэта выглядае вельмі дзіўным. Пелапанэсцы, – сведчыць Фукідыд, – былі дарыйскага паходжання (VI, 71), яны знаходзіліся ў «Лакедэмонскім» ці Спартанскім звязе, імі былі заснаваны асады ў Сіцыліі і ў Італіі (I, 12, 4). А ўжо адно гэта супярэчыць наступнаму выказванню Фукідыда, быццам бы ў сваёй прамове ў Афінах Перыкл сказаў пра пелапанэсцаў: «Такія бедныя[5] людзі не маюць магчымасьці часта выпраўляць на вайну ні ўзброеных ваярамі караблёў, ні сухапутных войскаў, каб не аддаляцца ад сваіх уладанняў і разам з тым не марнаваць сваіх сродкаў. Акрамя таго, мора для іх зачынена» (I, 14, 15).

Уся гэтая прамова відавочна складзена аўтарам кнігі «Сюнграфе», як і іншыя такія ж прамовы яго герояў, ці дададзена некім іншым пазней да першапачатковага варыянту кнігі, і таму засноўвацца на ёй у сваіх меркаваннях мы не маем права тым больш, што Пелапанэскі звяз, як паказвае ўсё выкладанне аўтара, паспяхова вёў, хаця і з цяжкасьцю, марскую вайну з Афінскім звязам.

У гэтым сваім знакамітым «Супольным апісанні» Фукідыд выкладае гісторыю 27-гадовага змагання паміж «іянійцамі» і «дарыйцамі» (дорачымі)[6] за гегемонію. Ён сведчыць, што ў той час усе дзяржавы элінскай культуры былі згуртаваны ў два звязы: адзін – манархічны дарыйскі, з Сіцыліяй, выспай Пелапа і

---

[2] Ад – Θύκος курыльніца, кадзіла і δίδωμι – даю.

[3] Συγγραφή г.азн. Συν-γραφή, што згодна з сэнсам лепш усяго перакласьці, як мне здаецца, словам кампіляцыя.

[4] Πελοπόν-νησος (Пелапан-несас).

[5] Гульня слоў на падзеле імя Лакедэманянаў на λακίς – лахманы, і δήμος – народ.

[6] Ад δωρέω (дарэо) – дару, дарую, выплачваю.

Беотыяй, у якім царскай сталіцай была Спарта (што ў перакладзе азначае проста цугля, вяроўка)[7], а другі із выспаў і прыбярэжных гарадоў Эгейскага, Чорнага і Мармуровага мораў, дзе панавала дэмакратыя. Іянійскія пірацкія флатыліі штогадова рабавалі, і з даўніх пор, прыбярэжныя дарыйскія гарады і цар дарыйцаў павёў вясной (калі наогул пачыналіся старажытныя паходы) сваё сухапутнае войска супраць іянійцаў на Афіны.

Гэты першы перыяд змагання – Архідамава вайна – працягваўся дзесяць гадоў, пры гэтым дарыйскім наступленнем, магутнасць якога складалася ў цудоўнай пяхоце, кіраваў сам цар «дорачых» Архідам (што азначае Звыш-Пераможца)[8].

На пачатку яго валадарання адбылося паўстанне дарыйскіх рабоў, незадавальненне месенцаў (пры чым пад Месеніяй тлумачальнікі Фукідыда маюць на ўвазе не сіцылійскую Месіну, а маленькую вобласць «Выспа Пелапа»), і землятрус устрос яго сталіцу «Вяроўку» (па-грэцку «Спартэ»). На зіму Архідам ішоў дадому, разрабаваўшы неабароненыя іянійскія мясцовасьці, а вясной, вяртаўся зноў рабаваць.

У асяроддзі збіраўшыхся ў Афінах іянійскіх грэкаў пачалася пад час першага ж года вайны жахівая заразная хвароба, меўшая назву чума, ад якай на другім годзе вайны памёр знакаміты іянійскі стратэг (на-лаціне: імператар, г.азн. правадыр войска), дэмагог із арыстакратаў «Перыкл (г.азн. Самы славуты)[9], выхаванец Зянона, Анаксагора і сябар знакамітага разьбяра Фідыя». Гэта быў, згодна з Фукідыдам, час росквіту грэцкага майстэрства і тагачасных прота-навук. Пры ім, кажуць, былі заснаваны Пантэон, Прапілеі, Адэон. Пасьля Перыкла іянійскае войска абрала імператарам грубага вайсковага правадыра Клеона, пры гэтым са звязу адразу выйшла выспа Лесбас, але была хутка заваявана. Праз шэсць гадоў вайны іянійскі красамоўны вайсковы правадыр Дэмасфен, захапіўшы адзін із месінскіх гарадоў, пачаў адтуль падбухторваць незадаволеных даранамі рабоў. Дараны выправілі туды вайсковы атрад, падмацаваны нараджаючымся дарыйскім флотам, але гэты флот быў затоплены больш мацным іянійскім, і атрад быў вымушаны здацца. Праз 8 гадоў адважны дарыйскі вайскавы правадыр Устрасальнік (Брасід) прывёў сухапутнае войска ў Фракію (пры чым цалкам немагчыма зразумець, як яны, змаглі туды патрапіць праз Афіны, калі лічыць «Выспу Пелапа», адкуль ён іх вёў, за паўвыспу Марэя). «Знакаміты» (Клеон) выйшаў супраць яго, але зведаў паразу, пры чым абодва вайсковыя правадыры былі забіты. Праваяваўшы яшчэ два гады, дарыйцы і іянійцы; заключылі мір праз 10 гадоў вайны. Ён вядомы пад назвай Нікіевы мір, згодна з імем заключыўшым яго афінскім марскім стратэгам Нікіем (што азначае: Пераможны).

Аднак, іянійцы, аднавіўшы свай флот, праз некалькі гадоў зноў наладзілі напад на дарыйцаў у Сіцыліі і пачалі (праз 17 гадоў ад пачатку першай вайны) спусташаць з мора Лаконію, замест чаго дарыйцы захапілі і ўмацавалі Дэкелаю ў Атыцы. Марскі стратэг Алківіяд прынёс іянійцам некалькі буйных марскіх перамог, але ад звязу адпала Еўбея. Праз 23 гады пасьля пачатку першай вайны, дарыйцы прызначыліа сваім галоўным стратэгам Лізандра (імя якога азначае Леў-

---

[7] Σπάρτη (спарце) – вяроўка, цугля, пятля, ад ςπαρτος (спартос) – расьліна, із галін якой рабілі вяроўкі; лічыцца за адзін із відаў жоўтазелля (genista)

[8] Ад прыназоўніка Ἀρχί (архі) – над, і ад δάμασις (дамасіс) – утаймаванне, падпарадкаванне, перамаганне.

[9] Ад περί (перы) – праз, звыш, і κλέω (клеа) ці κλήσω (клезо) – слаўлю.

Чалавек) і запрасілі на дапамогу сабе яшчэ «персаў»[10]. Яны паспелі да гэтага часу пабудаваць і сабе моцны флот (а дзе была ў іх гавань для моцнага флота?!), які зрабіў іянійцам рашучую марскую паразу каля ракі Эгос, а потым, пасьля чатырохмесяцовай аблогі голадам прымусіў Афіны да здачы. Іанійскі звяз быў гэтым знішчаны, і на 27-м годзе вайны дэмакратыя заменена дарыйскай алігархіяй на чале з манархам.

Такое заканчэнне мае «Супольнае апісанне» Фукідыда.

# Глава III.

## Спроба астранамічнага вызначэння часу апісаных Кадзіладацелем падзей.

Пра зацьменні ў Кнізе «Фукідыда» паведамляецца ў чатырох месцах. У кнізе I – увогуле; у кнізе II – пра поўнае сонечнае ў Афінах; у кнізе IV – пра частковае сонечнае (праз сем гадоў пасьля першага) і ў кнізе VII – пра месяцовае, праз 18 гадоў пасьля першага, на 19-м годзе вайны. Разбяром іх дэталёва.

«*Гэтая* (Пелапанэская) *вайна* – паведамляецца ў першай кнізе – *зацягнулася надоўга, і падчас яе Эллада зведала столькі бедстваў, колькі не зведвала раней на працягу такога ж прамежаку часу. Сапраўды, ніколі не было захоплена і спустошана столькі гарадоў, часткова варварамі, часткова самімі ваюючымі бакамі (у некаторых гарадах пасьля іхнага заваявання нават замянілася насельніцтва), не было столькі выгнанняў і забойстваў, выкліканых ці ходам самой вайны ці паміж усобіцамі. Тое, што паведамляецца пра мінулае на падставе паданняў, а на справе падцвярджваецца вельмі рэдка, тут зрабілася відавочным: землятрусы, ахапіўшыя разам з жудаснай магутнасьцю вялізную частку зямлі, сонечныя зацьменні, здараючыяся часьцей параўнальна з тым, як перадаюць па памяці пра ранейшыя часы, потым засухі, і, як іх наступства, жорсткі голад і, нарэшце, заразная хвароба, вырабіўшая самую вялікую бяду і забраўшая нямала людзей, – усё гэта абрынулася зараз разам з вайной. Пачалі гэтую вайну афіняне і жыхары «Пелапавай выспы» парушэннем трыццацігадовай мірнай дамовы, якая была заключана паміж імі пасьля заваявання Эўбеі* (I, 23)».

«*Гэтым жа летам* (пад час якога афіняне выгналі із Эгіны жыхароў у Фірэю, лічачы іх галоўнымі вінаватымі вайны), *пад час маладзіка – здаецца толькі тады гэта і магчыма –* ***Сонца зацямнілася апоўдні і зноў папоўнілася, прыняўшы выгляд паловумесяца і з'явілася некалькі зорак*** (II, 28)».

Але мы ведаем, што зоркі бываюць бачнымі толькі пры поўным зацьменні, і таму гэтае паведамленне набывае рэчаісны выгляд толькі пры такім чытанні: «Сонца цалкам зацямнілася і зноў папоўнілася, набыўшы выгляд паловумесяца, і з'явілася (падчас поўнай фазы) некалькі зорак»[11].

Але такога поўнага пасьляпаўдзённага зацьмення не было ў Грэцыі на працягу V стагоддзя да пачатку нашай эры. Пятавіус, першым астранамічна вызначаўшы час гэтай вайны, знайшоў для дадзенага месца толькі частковае зацьменне 3 жніўня (н. з.) –430 г. Гэта ж знайшоў і Кеплер (сярэдзіна XVI ст.), з нагоды чаго да –430 году і быў дапасаваны з XVI стагоддзя пачатак вайны,

[10] Такую назву мелі і туркі падчас крыжовых паходаў.

[11] Вось па-грэцку: Тоΰ δ'αντοΰ θέρος .... ό ήλιος έξέλιπε μετά μεδημβρίαν (пры чым Месембрыя ў адзін і той жа час азначае і поўдзень, і старажытны горад Месембрыя, на поўнач ад сучаснага Бургаса ў Баўгарыі на беразе Чорнага мора) και πάλιν άνεπληρώθη, γενόμενος μηδοειδής και άδτερῶν τινῶν έκφανένων (II, 28).

апісанай Фукідыдам, хаця ён і прыпадаў на час не праз 30, а толькі праз 15 гадоў «пасьля заваёвы Эўбеі».

Але навыя, больш дакладныя дасьледаванні паказалі, што пры гэтым зацьменні засланілася толькі $^4/_5$ часткі паверхні Сонца ў Афінах, і ніякіх зорак ці планет, немагчыма было бачыць. Ды акрамя таго, і зацьменне адбылося не каля поўдня, а ў 5 г. 22 хв. вечара бліжэй да заходу Сонца. Вось чаму словы пра зоркі некаторыя із навейшых дасьледчыкаў лічаць за рытарычнае ўпрыгожванне (Гофман), а іншыя (Johnson, Lynn) шукалі бліжэйшых да яго поўных сонечных зацьменняў, але не знайшлі ніводнага задавальняючага.

Другое сонечнае зацьменне апісана ў «Фукідыда» ў IV кнізе такім чынам:

«*Падыходзіла да заканчэння зімовая кампанія, і скончыўся сёмы год вайны, гісторыю якай напісаў Фукідыд. На **пачатку** наступнай **летняй кампаніі*** (г.азн. восьмага года) *адбылося **сонечнае зацьменне***[12], *а **пад час першых дзён таго ж месяца*** (сакавіка, г.азн. Марсава, калі пачыналіся новыя паходы пасьля зімовых перапынкаў) *адбыўся землятрус. Большасць мітыленскіх і іншых лесбаскіх выгнаннікаў, маючы пунктам выпраўлення мацярык, нанялі дапаможнае войска із Пелапанэса і, сабраўшы яшчэ войска на месцы, захапілі Райтэй* (IV, 51-52)».

Пятавіус, а за ім і Кеплер у XVI стагоддзі знайшлі для гэтага павядамлення частковае, перадпаўдзённае для Афінаў, сонечнае зацьменне 21 сакавіка (н. з.) у –423 годзе.

Месяцовае ж зацьменне восенню праз 18 гадоў пасьля першага сонечнага ў VII кнізе Фукідыда апісана такімі словамі: «*Калі* (пад час летняй кампаніі 19-га года вайны) *усё было гатова да адплыцця* (із Сіцыліі), *і афіняне збіраліся адплываць, адбылося месяцовае зацьменне. Тады была поўня*[13]. *Большасць афінянаў, збянтэжаныя гэтым, запатрабавала ад стратэгаў пачакаць з адплыццём, а Нікій* (галоўнакамандуючы), *надаваўшы занадта вялікае значэнне прадвесьцям і ўсяму падобнаму, казаў, што і думаць няма чаго пра тое, каб выправіцца з месца раней, як пасьля заканчэння дваццаці сямі дзён: такое тлумачэнне знаменню давалі вешчуны. З гэтай нагоды афіняне засталіся. Сіракузяне ж* (іхныя ворагі) *са свайго боку, даведаўшыся пра гэта, значна мацней загарэліся жаданнем выкарыстаць для сябе становішча, у якім знаходзіліся афіняне. Яны зразумелі, што афіняне зараз ужо слабейшыя за іх на моры і на сушы, інакш яны не думалі б пра адплыццё* (VII, 50-51)». І яны напалі на афінянаў і зрабілі ім моцную паразу.

Для гэтага месяцовага зацьмення Пятавіус знайшоў 27 жніўня –412 года.

Такім чынам, час падзеі здаваўся падцверджаным і астраноміяй, акрамя месца пра з'яўленне зорак падчас летняга сонечнага зацьмення –430 г. і таго, што яно было адразу пасьля поўдня, а не вечарам. Праўда, грэцкае слова μετά μεσεμβρίαν можна разумець не следам за поўднем, а за Месембрыяй, як зваўся грэцкі порт, на поўнач ад сучаснага баўгарскага Бургаса. Але і гэта не выпраўляе справу. Зацьменне –412 гады згодна з навейшымі дакладнымі вылічэннямі выявілася не поўным, а колападобным, так што «некалькіх зорак» пры ім не было бачна нідзе на зямным шары.

Грунтуючыся на сваім асноўным цверджанні, што пры астранамічным дасьледаванні помнікаў старажытнасьці ўтрымліваючых астранамічныя ўказанні і «знойдзеных» не раней Эпохі Адраджэння ці першых дзесяцігоддзяў друкарства, без дакладнага ўказання часу і месца ранейшага захоўвання рукапісу, мы заўсёды

---

[12] Τοῦ δ'έπιγιγνομένον, θέρους εὖθύς του τε ήλίου έκλιπές, τι έγένετο περι νουμηνίας (II, 51-52).

[13] Μελλόντων αύτῶν άποπλεῖν ή σελήνη έκλείπει έτυγανε γάρ πανσέληνος οὖσα (VII, 50).

можам дапусьціць буйную храналагічную памылку ў вызначэнні часу кнігі, ці нават узаконіць апокрыф, я і тут не задаволіўся вышэйпрыведзеным вызначэннем Пятавіуса і Кеплера, а пачаў шукаць і наступныя трыяды зацьменняў, прасачыўшы ўсю пасьлядоўнасць гэтых з'яваў, аж да часу саміх толькі-што названых храналагістаў.

Вынікі майго дасьледавання я і даю ў прыкладзеным канспекце.

**1 триада**







**2 триада**

Мал 85

Зацьменні ў Фукідыда.

## Першая трыяда. (Гады –430, –423, –412.)

Год –430-VIII-3. У момант мясцовага паміжмесячча Сонца апынулася (дзякуючы непагадненню рознамясцовых зімовых гадзін дня) узыходзячым у колападобным выглядзе для Берынгава праліва. Колападобным паўдзённым яно было паблізу Паўночнага полюса (мал. 85, 1-я трыяда), і такім жа вечаровым яно было для Швецыі, Крыма, а захадзячым у выглядзе кола для Месапатаміі. У Грэцыі яно было частковым.

Год –423-VIII-21 (праз 7 гадоў пасьля папярэдняга). У момант паміжмесяцца Сонца выявілася ўзыходзячым-колападобным для Атлантычнага акіяна, такім жа перадпаўдзённым – для Ірландыі, Швецыі і (дзякуючы нявызначанасьці поўдня каля палюсаў) амаль адразу і паўдзённым і захадзячым-колападобным для Паўночнага полюса.

Год –412-VIII-27 (праз 18 гадоў пасьля першага). Пад час гэтай еўрапейскай ночы было поўнае месяцовае зацьменне з фазай 13"2, усё бачна ў Яўропе, а ў зяніце яно было над +44° даўготы і –18° шыроты для зямнай паверхні, на поўначы Мадагаскара.

У гэтай трыядзе цалкам не дапасуе самае галоўнае: першае зацьменне не толькі ў Афінах, але і нідзе на Зямлі не было поўным, як апісана ў Фукідыда, а толькі колападобным, і прытым, як я ўжо паведамляў, не пасьляпаўдзённым для Афінаў, а ў 5 г. 22 хв. вечара і частковым (мал. 85. 1-я трыяда). Калі б на яго ўжо не спасылаліся гісторыкі, то яго не было б нагоды і разбіраць: пры колападобным зацьменні ніякае вострае вока, акрамя хіба ўжо ведаючага месцаванне зорак на небе і асабліва іх шукаючае, не заўважыць нават самых яркіх планет, асабліва ў трывозе (калі глядзельны пігмент вока ўжо стомлены працяглым глядзеннем на Сонца без абараняючых прылад), як сцвярджае Фукідыд. А тут, згодна з Гінцэлям, і іншым вылічэнням, максімальная фаза для Афінаў была 10"0, г.азн. $^{1}/_{5}$ частка Сонца не была заслонена, што дае яшчэ дастаткова ясны дзень. Акрамя таго, пры зацьменні 3 жніўня –430 г., калі Сонца было ў Ільве, і самая вялікая фаза ў Грэцыі наступіла каля 5 г. 22 хв. вечара, Юпітар быў у Двайнятах пад гарызонтам, Сатурн у сузор'і Рыб таксама пад гарызонтам, Марс направа ад Сонца, усяго 3° над гарызонтам. Пры такіх умовах із усіх планет магла быць заўважана, ды і то толькі ў выпадку адмысловых пошукаў, нават і пры поўным зацьменні, хіба што адна толькі Венера, а із прысутнічаўшых тут зорак Рэгула, Денеболы, Коласа і Арктура самае зоркае, непадрыхтаванае вока не змагло б заўважыць ніводнай. Вось чаму Гофман, які падзяляе думку Пятавіуса, што гаворка ідзе пра зацьменне –430 г., лічыць Фукідыдавы «зоркі» за «рытарычнае ўпрыгожванне». Але чаму тады і ўсё зацьменне не абвясьціць простай рыторыкай? Перадзаходжанне замест паўдзённасьці першага зацьмення таксама не дапасуе, і таму нам даводзіцца адкінуць гэтую трыяду.

## Другая трыяда. (19-26-37 гг.)

Год 19-VI-21. У момант паміжмесяцовасьці Сонца выявілася ўзыходзячым у поўным зацьменні каля Вест-Індыі, такім жа паўдзённым у Германіі, цалкам зацемненым пасьля-паўдзённым – у Крыму і на Каўказе і заходзячым у гэтым выглядзе – у Індыі (мал. 85, 2-я трыяда). У Афінах жа самая вялікая фаза была 8"8 балаў. Пад час гэтага года Юпітар быў у Рыбах, а Сатурн – у Скарпіёне, пры Сонцы ў Двайнятах каля Рака. Ніводзін з іх не мог быць, бачным пры гэтым зацьменні ў Афінах, але за Месембрыяй, каля вусьця Дуная і Дона і ў Крыму, дзе зацьменне было поўным, маглі быць бачнымі нават зоркі Арыёна, Сірыус, Капэла, Пракіён, Рэгул, Дэнебола і іншыя.

Год 26-II-6 (праз 7 гадоў). У перыяд паміжмесяцовасьці Сонца выявілася ўзыходзячым у колападобным выглядзе ў Сахары, такім жа перадпаўдзённым на поўдні Аравійскай паўвыспы, такім жа паўдзённым перад Індыяй і заходзячым у Маньчжурыі. Ва ўсёй Паўднёвай і Сярэдняй Яўропе гэтае зацьменне была частковым, а ў Афінах фаза была 8"3 балы, г.азн. засланілася $^{3}/_{4}$ дыска.

Год 37-VII-15 (праз 18 гадоў). Няпоўнае месяцовае зацьменне з максімальнай фазай 4"4 балы, г.азн. пры зацямненні $^{1}/_{3}$ месяцовага дыска, было ўсё выдатна бачна ў Яўропе (у зеніце над +21° даўготы і –23° шыраты).

У гэтай трыядзе, як мы бачым, усё больш-менш дапасуе (мал. 85, 2-я трыяда), толькі «буйныя зоркі» маглі быць бачнымі не ў Марэі, а толькі ў горадзе Месембрыі, пасярэдзіне заходняга берага Чорнага мора, ў Крыму і на паўночным беразе Чорнага мора, як магчыма зрабіць выснову із выказвання ό ήλιος έξέλιπε μετά μεσεμβρίαν (Сонца зацямнілася за Месембрыяй). Магчыма, што тут у першакрыніцы маецца на ўвазе горад Месембрыя, але так як месембрыа па-грэцку азначае і поўдзень, то наступныя перапісчыкі гэтага паведамлення паміж I і XII

стагоддзямі, якія не ведалі пра само існаванне такога горада, палічылі гэтае слова за «поўдзень» і адпаведна карэктавалі выказванне. Ва ўсякім выпадку гэтая трыяда зацьменняў дапасуе да апісання нашмат лепш, чым папярэдняя, нават і без горада Месембрыі. Сонечнае зацьменне 19 г. было поўным, і буйныя зоркі былі бачнымі ва ўсіх грэцкіх асадах Паўночнага берага Чорнага мора.

За два гады перад другім зацьменнем «Фукідыд» апісвае жахлівае вывяржэнне Этны, якое прыпадае тут на 23-24гг. нашай эры, але такога нам першакрыніцы не паказваюць. Я лічу і гэтую трыяду зацьменняў занадта ранняй.

3 триада







4 триада

## Трэццяя трыяда. (319-326-337 гг.)

Год 319-V-6. У момант паміжмесячча Сонца выявілася ўзыходзячым у поўным зацьменні ў Каліфорніі; прайшло такім праз Ньюфаўндленд; было такім жа паўдзённым у Атлантычным акіяне, вечаровым у Англіі, у Аўстрыі, па абодва бакі вусьця Дуная, за старажытнай Месембрыяй, і на поўдні Крыма, і зайшло ў стане поўнага зацьмення ў Закаўказзі. Яго самая вялікая фаза ў Афінах была 9"5 балаў, у Рыме 10"0. Яно было пасьляпаўдзённым і адзначана ў зборніку Consnlaria Constantinopolitana: «Пад час консульствы Ліцынія V і Цэзара Крыспа была цемра (tenebrae) у 9 гадзін ад пачатку дня». (Monum. Germanica: старажытныя аўтары, стар. 332, т. IX; мал. 85, 3-я трыяда). Юпітар у гэты час быў у сузор'і Ільва, налева ад Сонца, якое было ў Цяльцы і таму выдатна мог быць бачным; Сатурн жа быў пад Зямлёй.

Год 326-XII-11 (праз 7 гадоў пасьля першага). Сонца ўзышло ў поўным зацьменні ў Марока, было такім жа паўдзённым каля берагоў Самалі ў Індыйскім акіяне і зайшло ў поўным зацьменні каля выспы Барнэа. Яго самая вялікая фаза ў Афінах была 5"8 балаў, у Рыме 6"2 і ў Мемфісе 6"8.

За 2 гады перад ім – паведамляе Рыгор Гамартолі у сваёй грэцкай хроніцы – у 324 г. «быў землятрус (σεισμός) у Італійскай Кампаны, разбурыўшы 13 гарадоў, і сонечнае зацьменне каля трэццяй гадзіны дня, так што нават зоркі былі бачнымі на небе[14].

---

[14] ὥστε καί ἀστέρας ἐν ὗρανῷ φανῆναι Класічная энцыклапедыя Migne, стар. 611-612. Georgii Hamartoli, Chronic, lib. IV).

Год 337-V-31 (праз 18 гадоў пасьля першага). Частковае месяцовае зацьменне з фазай 7"0, г.азн. з засланеннем амаль $^2/_3$ месяцовага дыска, усё было выдатна бачна ў Яўропе (у зеніце ж пад –12° даўгаты, –22° шыраты).

Калі лічыць, што словы сучасных рукапісаў Фукідыда «мета Месембрыян» маюць дачыненне не да паловы дня, а да аднайменнага з ім горада Месембрыі, пасярэдзіне Заходняга берага Чорнага мора, то і гэтае другое зацьменне выяўляецца адпавядаючым апісанню, калі лічыць, што зімовая кампанія закончылася толькі 11 снежня.

У такім разе выяўляецца: што пад назвай Пелапанэская вайна апісана проста заваяванне Кастусём I грэцкага Ўсходу; што назву Спарта (Узда) меў па-грэцку лацінскі Рым, што пад Лакедэмонам і Лаконіяй[15] маецца на ўвазе італійскі Лацыум, пад дарыйцамі – італьянцы, у адрозненні ад іянійцаў-грэкаў, а пад імем Вярхоўнага заваёўніка (Архідама II), лаконскага цара, маецца на ўвазе Кастусь I. Тады Нікіеў мір наляжа на Нікейскі сабор, а астатніх імёнаў і падрабязнасьцяў я пакуль не разбіраю.

Але ўсё ж гэтае апісанне зроблена ніяк не сучаснікам Кастуся I, ці Канстанцыя II, а аўтарам Эпохі Адраджэння, і таму ўтрымлівае шмат анахранізмаў, не кажучы ўжо пра белетрыстычнасць усяго твора. Гэтае рашэнне было б цалкам дастатковам з астранамічнага і нават з гістарычнага боку гледжання, але для паўнаты дасьледавання працягваю далей.

## Чацьвёртая трыяда. (Гады 733, 740, 751.)

Год 733-VIII-14. У момант паміжмесяцовасьці Сонца выявілася ўзыходзячым у колападобным выглядзе ў Атлантычным акіяне, паблізу Ньюфаўндленда, такім жа перадпаўдзённым на поўдні Англіі і ў Германіі, паўдзённым над Крымам, і зайшло ў колападобным выглядзе ў Інда-Кітаі. У 733 г. Юпітар быў у Стралку, а Сатурн у Ільве, пры Сонцы ў Ільве. Сатурн мог быць бачным пры гэтым зацьменні, калі кола зацямніўшагася дыска Сонца было дастаткова вузкім (мал. 85, 4-я трыяда.)

Год 740-IV-1 (праз 7 гадоў). У момант паміжмесяцовасьці Сонца выявілася ўзыходзячым у стане поўнага зацьмення ў Цэнтральнай Афрыцы, такім жа перадпаўдзённым у Паўднёвай Аравіі, паўдзённым у Тыбеце, і заходзячым у поўным зацьменні каля берага Камчаткі. У Паўднёвай Грэцыі і ў Афінах яго фаза была каля 3,0" балаў, г.азн. была заслонена Месяцам толькі $^1/_4$ сонечнага дыяметра.

Год 751-VIII-11 (праз 18 гадоў). Частковае месяцовае зацьменне з фазай 4,6" усё было бачным у Яўропе (у зеніце ж пад +82° даўготы і –14° шыроты). Гэта трыяда была б самай прыдатнай із усіх, калі б зноў не пашкодзіла колападобнасць першага сонечнага зацьмення, пры якім немагчыма было бачыць зорак.

[15] Λάκαινα – па-грэцку лакедемонянка сугучна з лакіум, лацыум.



5 триада



6 триада

Пятая трыяда. (Гады 418, 425, 437.)

Год 418-VII-19. Гэтае знакамітае сонечнае зацьменне было поўным перад поўднем у Рыме, а ў Паўночнай Грэцыі, Салоніцкай паўвыспаве і ў Дарданэлах яно было адразу пасьля поўдня. Зоркі пры ім абавязкова павінны былі з'явіцца: направа ад Сонца – Капэла, Кастор, Палукс, Пракіён, Сірыус, зоркі Арыёна, Альдэбаран, а налева – Рэгул, Дэнэбола над імі зоркі Вялікай Мядзведзіцы, пры Сонцы зацямніўшымся ў сузор'і Рака. Юпітар у гэты час быў у Стралку пад гарызонтам, Сатурн жа быў выдатна бачны ў Ільве, ды і Венера ззяла поўным бляскам. Яно пакуль адзінае прыдатнае, калі разумець словы Фукідыда пра зоркі літаральна (мал. 86, 5-я трыяда.)

Год 425-III-6 (праз 7 гадоў). Гэтае сонечнае зацьменне дапасуе дрэнна. Яно было паўдзённым поўным каля паўднёвага берага Аравіі, перадпаўдзённым частковым у Ягіпце, Сірыі і ў слабай фазе на грэцкім архіпелагу. У самой Грэцыі яно наўрад ці было заўважана.

Год 437-VIII-3 (праз 19 гадоў). Месяцовае поўнае зацьменне было цудоўна бачна ў сузор'і Вадаліва па ўсёй Яўропе пры поўным наступленні ночы.

Без сумневаў, што і гэтая трыяда адна із прыдатных да літаральнага сэнсу апісання Фукідыда, але пры ёй паміж месяцовым зацьменнем і другім сонечным прайшло 12 гадоў, а не 11, як лічаць гісторыкі.

## Шостая трыяда. (Гады 1133, 1140, 1151.)

Год 1133-VIII-2. У момант паміжмесяцовасьці Сонца выявілася ўзыходзячым у стане поўнага зацьмення на Паўднёвым узбярэжжы Гудзонава заліва, такім жа перадпаўдзённым яно было бачным у Англіі, паўдзённым у Галандыі, пасьляпаўдзённым у Германіі, Аўстрыі, каля Басфора, у Месапатаміі, на Аравійскім заліве, і заходзячым у поўным зацьменні ў Індыйскім акіяне. У 1133 г. Юпітар быў у Авене над гарызонтам, а Сатурн – у Стралку таксама над гарызонтам, пры Сонцы ў Ільве. Із планет пры гэтым зацьменні маглі быць бачнымі Меркурый і Венера, а із зорак: Рэгул, Дэнэбола, Колас, Арктур і, магчыма, усё сузор'е Вялікай Мядзведзіцы (мал. 86, 6-я трыяда).

Год 1140-III-20 (праз 7 гадоў). У момант паміжмесяцовасьці Сонца выявілася ўзыходзячым у стане поўнага зацьмення на поўдні Мексікі, такім жа паўдзённым на Атлантычным акіяне, пасьляпаўдзённым на Ламаншы, на поўначы Германіі і ў сярэдняй Расіі, і захадзячым за Ўральскім хрыбтом.

Год 1151-VIII-28 (праз 18 гадоў). Частковае месяцовае зацьменне з фазай 4"0 было бачна па ўсёй Яўропе (у зеніце над 8° даўготы і –7° шыраты).

Гэта трыяда самая прыдатная, таму што буйныя зоркі былі добра бачнымі пры першым зацьменні ўжо каля Канстантынопаля. Калі грэцкі аўтар гэтай кнігі жыў каля 1133-1151 гг. у Канстантынопалі, то ён мог запісаць усё гэта з натуры.

Пазначым, што гэта быў час пасьля першага крыжовага паходу і заснавання Ерусалімскага каралеўства, здольны ўразіць уяўленне і выклікаць літаратурную творчасць апакрыфічнага характару. Нават і апісанне чумы тут дарэчнае, бо ад яе пад час XII стагоддзя часта пакутавала войска крыжакоў.

* * *

Рэзюмуючы гэтую поўную выбарку ўсіх трыяд зацьменняў, прыдатных да апісання Фукідыда ад мінус VI стагоддзя і да «адкрыцця» рукапісаў Фукідыда ў XIII (нават магчыма ў XIV ці XV) стагоддзі нашай эры, мы бачым, што ўсталяваная Пятавіусам храналогія апісанай тут вайны (каля 431 года да пачатку нашай эры) не вытрымлівае астранамічнай крытыкі. Калі аўтар тут і нафантазіяваў, і прытым не настолькі недарэчна, як старажытныя аўтары пры апісанні зацьменняў, а вельмі праўдападобна з выгляду (зрабіўшы папярэдні разлік патрэбных яму зацьменняў), то дакладна гэтак жа ён мог праўдападобна нафантазіяваць і пры сваіх астатніх апісаннях. Гэты талент (праўдападобнага фантазіявання) у яго без сумневаў вельмі добра развіты. Звярніце толькі ўвагу на факт літаральнага аднаўлення ім «грунтуючыся на адным толькі ўласным натхненні» шматлікіх разнастайных прамоваў» быццам бы выказаных пры розных нагодах яго героямі, якіх ён відавочна не мог чуць і якіх, вядома, яны ніколі не прамаўлялі.

Із гэтага магчыма выказаць здагадку, што ён дадаў і гэтую трыяду зацьменняў із асабіста назіраемых ім пад час эпохі крыжовых паходаў у Канстантынопалі ці ў яго наваколлях, як астранамічнае ўпрыгожванне ў сваю кнігу, падстава якой была ўзята ім з іншых крыніц, ці ж ён меў намер у такім выглядзе пакінуць для нашчадкаў таемнае для недасьведчанных указанне на час свайго жыцця і аўтарства, ды і падставай да «Гісторыі змагання Ўсходу і Захаду за гегемонію» ён мог узяць крыжовыя паходы.

З гэтага боку гледжання ўся яго кніга з'яўляецца адмысловым міфам, маючым толькі праўдападобную форму.

Калі ж лічыць, што аўтар кампіляваў напачатку сярэдніх вякоў сваю кнігу грунтуючыся на старажытнейшых дакументах, то даводзіцца зрабіць выснову, што

апісаныя ім падзеі хутчэй усяго дапасуюць да чацьвёртага стагоддзя нашай эры, а ніяк не за пяць стагоддзяў да яе. Калі грунтавацца на трыядзе 319-326-337, то ўся традыцыйная храналогія пераносіцца на 749 гадоў наперад. Пачатак вайны Лаконіі (Лацыума, г.азн. Рымскай краіны) з Іёніяй (Элладай) за гегемонію, згодна з Фукідыдам, даводзіцца датаваць 319 годам за 6 гадоў да перанясення Кастусём І сталіцы ў Візантыю із Рыма. Чума ў Афінах, загубіўшая Перыкла, прыпадае па 320-321 гг. Забіццё вайсковых правадыроў Брасіда і Клеона пад час узаемнага бою ў Фракіі прыпадае на 327 г. Нікіева мірная дамова на 329 г. Аднаўленне вайны за гегемонію прыпадае на год сьмерці Кастуся, калі яго імперыя падзялілася паміж Кастусём ІІ, Канстанцыяй і Канстансам. У Канстансе можна пазнаць Лісандра (чалавека-ільва), у Кастусю ІІ – іянійскага суперніка Лісандра. Канчатковае знікненне іянійскай федэрацыі, згодна з Фукідыдам, прыпадае на 346 г., а згодна з візантыйскімі аўтарамі смерць іянійскага валадара Кастуся ІІ дапасуецца да 340 г., за 6 гадоў да гэтага.

Калі ж грунтавацца на трыядзе 418-425-437 гг., то час падзей прыпадае на перыяд валадарання Хвядоса ІІ у Візантыі і Ганорыя ў Лацінскай імперыі пасьля іхнага падзелу. Але звычайная гісторыя не згадвае пра вайну паміж імі, падобную на апісаную Фукідыдам. Дакладна гэтак жа не пагадняюцца з гістарычнымі сведчаннямі і астатнія трыяды за выключэннем апошняй, якая ўжо налягае на крыжовыя паходы. Без сумневаў тут апісваюцца падзеі, адбыўшыяся не раней IV стагоддзя нашай эры. Але ў те жыццё дададзена сёе-тое із больш пазнейшай ідэалогіі.

Я не магу тут зноў не паказаць на вялікі недахоп сучасных гістарычных навук, пра які выказваўся раней. У той час, як хімія мае сваю «гісторыю хіміі», матэматыка – «гісторыю матэматыкі», астраномія – «гісторыю астраноміі» і гэтак далей для ўсіх дакладных навук, у нашай навуковай літаратуры цалкам адсутнічае «гісторыя гісторыі», г.азн. сістэматычны агляд таго, калі і пры якіх умовах былі знойдзены нашы асноўныя першакрыніцы па гісторыі старажытнага сьвету, хто, калі і як вызначыў час, да якога дапасуюцца паведамляемыя імі сведчанні, таму што ў саміх першакрыніцах ніякага вызначанага датавання звычайна не існуе, а паведамляецца, як і ў Фукідыда, толькі пасьлядоўнасць апісваемых падзей.

Чаму такая «гісторыя гісторыі» да гэтага часу не з'явілася? Няўжо ніхто не спрабаваў яе стварыць, нягледзячы на тое, што сюжэт надзвычай цікавы? Яе патрэбна стварыць. Тады мы даведаемся і пра тое, якім чынам узнікла і разглядаемая намі зараз кніга Фукідыда і якім чынам героі вялікага змагання за гегемонію паміж Усходняй і Заходняй Рымскай імперыямі перанесьліся на шмат стагоддзяў назад і ператварыліся ў герояў змагання паміж малюсенькай Спартай і малюсенькай Афінскай вобласьцю.

# Глава IV.

## Сейсмічныя, геаграфічныя і эканамічныя паведамленні Кадзіладацеля.

Разгледзім зараз і іншыя фізічныя з'явы, якія пазначаны ў «Супольным апісанні» Фукідыда.

Із іх асаблівую ўвагу звяртае на сябе вывяржэнне Этны (Αἴτνη) у Сіцыліі (III, 116) пад час 6-а года вайны і другое за 49 гадоў да яго.

«*На самым пачатку гэтай вясны* – сведчыць «Кадзіладацель» – *струмень лавы выбег із Этны, што здаралася і раней. Ён спустошыў частку вобласьці катанян, якія жывуць пад Этнай, самай высокай гарой на Сіцыліі. Кажуць, гэтае вывяржэнне адбылося на пяцідзясятым* годзе пасьля папярэдняга. З таго ж часу, як Сіцылія была заселена элінамі, усіх вывяржэнняў было тры. Так прыйшоў да заканчэння шосты год той вайны, якую апісаў Фукідыд (III, 116)», – выказваецца Фукідыд ад імя трэццяй асобы пра самога сябе.

Згодна з нашымі пяццю рашэннямі грунтуючыся на зацьменнях, гэтае вывяржэнне павінна прыпадаць ці на –425, ці на +24, ці на +324, ці на +423, ці на +738, ці на +1138 гады нашай эры. Аднак, першае вывяржэнне (–425 г.) немагчыма ўлічваць, так як яно само вылічана «згодна з Фукідыдам», а із наступных толькі-што пералічаных гадоў ні пад адным не пазначана пазнейшымі збіральнікамі падзей нейкіх вывяржэнняў Этны. Дакладна тое ж самае можна сказаць і пра адбыўшаяся за 49 гадоў да яго. Найбольш прыдатнай і ў гэтым выпадку выяўляецца трыяда 418-425-437 гадоў, таму што ў такім выпадку для вывяржэнняў Этны атрымліваюцца 423 і 374 гг. нашай эры. А гісторыкамі пазначаецца 420 год, г.азн. усяго за тры гады да паведамляемай «Фукідыдам» даты. Дакладна так жа і ў ужо цытаванай намі нататцы із «Канстантынопальскай хронікі Рыгора Гамартола» мы ведаем, што ў 324 годзе адбыўся жахлівы землятрус у італьянскай Кампаны, разбурыўшы 13 гарадоў, і цяжка дапусьціць, каб ён не суправаджаўся вывяржэннем Этны, злучанай з гэтай вобласцьцю падземнай магматычнай пратокай, і не спыняўшай у тай час сваёй вулканічнай дзейнасьці.

Не менш цікавымі з’яўляюцца ў Фукідыда і ўказанні на вулканічныя з'явы яго часу на Ліпарскіх выспах, на поўнач ад Сіцыліі, дзе і да гэтага часу увесь час дзейнічае Стромбалі.

«*Гэтыя выспы,* – паведамляе аўтар,– *апрацоўваюцца ліпаранамі, асаднікамі кнідзян. Жывуць яны на адной із выспаў, невялікай, маючай назву Ліпара. Выпраўляючыся адсюль, яны апрацоўваюць і астатнія выспы Дыдыму, Странгіму і Іеру (Ἱέρα). Тамтэйшае насельніцтва думае, што на Іеры бог Гефест займаецца кавальскай справай, бо ночч у там можна бачыць высока паднімаючаяся полымя, а пад час дня – дым*» (III, 88).

Ні пра Неапаль з Вязувіем, ні пра Рым (калі гэта не яго ён мае на ўвазе пад назвай Вяроўка (Спарта), у Фукідыда няма ні слова, хаця Візантыя (Βυζάντιον) і згадваецца шмат разоў, як адно із месцаў падзей тагачаснай марскай і сухапутнай вайны, якая пашырылася, акрамя Грэцыі і Сіцыліі, і на малаазійскае ўзбярэжжа. Пра землятрусы ў Фукідыда паведамляецца наступнае:

«*Здараліся за гэты час* (пад час зімовай кампаніі пятага года вайны, цалкам згодна з паведамленнем Рыгора Гамартола*) і частыя землятрусы: у Афінах, на Эўбеі, у Беотыі, асабліва ж у Беатыйскім Архамене* (III, 87)».

А потым мы чытаем:

«*Пад час наступнай летняй кампаніі* (VI год вайны) *пелапанесцы з хаўруснікамі пад правадырства лакедэмонскага цара Аіда сына Архідама дайшлі да перасмыка, маючы намер уварвацца ў Атыку. Але з нагоды адбыўшыхся шматразовых землятрусаў яны вярнуліся назад, і ўварванне не здзейснілася. Каля гэтага ж часу мора пры Аробіях, што на Эўбеі, з нагоды працягваючыхся землятрусаў, адступіла ад тагачаснага берага; пачалося жахлівае хваляванне, захапіўшае частку горада. Пасьля гэтага вада часткова*

*заліла сушу, часткова адступіла назад ад берага, і там, дзе раней была суша, зараз стала мора. Пры гэтым усе, не паспеўшыя збегчы на высокія месцы, загінулі*».

Усё гэта знаходзіцца ў поўнай адпаведнасьці з паведамленнямі нашых сярэднявечных першакрыніц пра землятрусы часу Кастуся I, магчыма, і заахвоціўшыя яго сабраць Нікейскі сабор тагачасных навукоўцаў тэолагаў, ды і пад час крыжовых паходах яны адбываліся.

*Падобная ж паводка,* – працягвае Фукідыд, – *спасьцігла выспу Аталанда каля Лакрыды Апунтскай, пры гэтым адарвала частку афінскага ўмацавання, а із двух выцягнутых на сушу караблёў – адзін зламала. Мора злёгку адступіла ад берага таксама на Пепарэце, аднак, тут за гэтым следам не наступіла паводкі. Землятрус разбурыў частку гарадзкой сьцяны, частку прыстаняў і некалькі сядзіб. Нагода гэтай з'явы складаецца, на мой погляд, у наступным: дзе землятрус быў самы моцны, там ён спачатку адводзіў ваду ад берага, потым раптоўным новым штуршком ён рабіў яшчэ больш мацную паводку. Без землятрусу нічога падобнага, як мне здаецца, не магло б адбыцца*» (III, 89).

Далей (V, 45) Фукідыд распавядае, як пад час народнай нарады ў Афінах на 12-ы год вайны адбыўся новы землятрус, з нагоды чаго сход быў спынены і перанесены на іншы дзень; і яшчэ (V, 50), як тое ж самае адбылося ў Карынфе, пад канец зімовай кампаніі каля Алімпійскіх сьвятаў таго ж дванаццатага года вайны (г.азн. згодна з нашым першым злічэннем каля 331 г.)

Дакладна таксама «*пад час вясны* (18-га года вайны), *калі лакедамяне выступілі ў паход на Аргас і дайшлі да Клеоны, адбыўся землятрус, які вымусіў іх вярнуцца назад* (VI, 95)». Потым, «*да заканчэння 19-га гады вайны*» адбыўся новы землятрус «*у Лакедэмоне*» (г.азн. згодна з нашым перакладам у Лацыуме), і каля гэтага ж часу горад Каўн зведаў «*вельмі моцны землятрус, які калі-небудзь адбываўся на нашай памяці*» (VIII, 41).

Гэты землятрус, згодна з нашым злічэннем, дапасуецца ўжо да 338 года.

Із планет, грунтуючыся на якіх мы таксама маглі б вызначыць час апісваемых тут падзей, за увесь час Пелапанэскай вайны не згадана ніводная, а із зорак толькі Арктур, для пазначэння пары года.

«*Да часу* (геліятычнага) *узыходжання Арктура* (пад час летняй кампаніі 3-га года вайны, пры аблозе пелапанэсцамі Платэны ў Атыцы) *усе аблажныя прыгатаванні былі закончаны. Пелапанэсцы паставілі сваю варту на палове ўмацаванняў* (іншую ахоўвалі беацяне) *і вярнуліся з войскам дахаты*» (II, 78).

Із замежных цароў тут пазначаны Артаксеркс (Ἀρταξέρξης) сын Ксеркса; згадваецца Аляксандр Македонскі такімі словамі: «*сучаснай прыморскай Македоніяй завалодаў перадусім Аляксандр, бацька Пердыкі, і продкі яго цеманіды, якія выйшлі ў старажытнасьці з Аргаса. Яны запанавалі там пасьля таго, як перамаглі ў бітве пієрыян і прагналі іх із Пієрэі*» (II, 99).

Кір (Κῦρος) лічыцца тут першым царом персаў, другім – яго сын, Камбіз (Καμβύσης).

*Дарый* (Δαρεῖος), – паведамляе Фукідыд, – *пярсідзкі цар пасьля Камбіза, сына Гістаспа, некалі падпарадкаваў сваёй уладзе элінскія выспы, з дапамогай фінікійскага флота* (I, 16), *а Дарый, сын Артаксеркса, браў удзел у Пелапанэскай вайне* (VIII, 5). Кіраўнік яго прыморскай вобласьці тут мае імя Тысаферн.

Із мясцовасцей цікава згадванне Кіферона (Κιθαιρών – Кітайрон), пакрытага лесам, каля Платэі ў Беотыі (на адлегласьці 50 міль, ці 75 вёрст ад Афінаў), а на адлегласьці каля паловы вярсты на поўнач ад Акропаля існаваў струмень Эрыдан (Ярдан), найменні сугучныя з евангельскімі Кедрон і Ярдан, але ужо не ў Сірыі, а ў

Грэцыі. Із народаў згадваюцца скіты, ці скіфы (σκύθαι), як вельмі шматлюдны народ, і готы (γέται – біблейскія геты – ГТ). Гэтыя «*готы* (немцы) *і іншыя тамтэйшыя народы памежныя са скіфамі* (г.азн. кіеўскімі паўднёва-славянамі, найменне якіх, хутчэй усяго, паходзіць ад славянскага слова скіты, г.азн. вандраўнікі, качэўнікі; II, 96). «*Із усіх царстваў Яўропы* (Ἑυροπη), *размешчаных паміж іянійскім залівам і Еўксінскім понтам* (Чорным морам), *царства ад-русаў* (όδρύσαι – ад-русы, г.азн. ад Русі, русіны?) *было самым магутным згодна з велічынёй прыбыткаў і дабрабытам. Аднак, у дачыненні да вайсковай магутнасьці і колькасьці войска яно далёка саступае скіфам* (продкам казакаў?) *З апошнімі не можа параўнацца ніводны народ не толькі ў Яўропе, але і ў Азіі. Ніводны народ сам па сабе не здолеў бы выстаяць супраць скіфаў, калі б усе яны жылі паміж сабай у згодзе. Аднак, скіфы не вытрымліваюць параўнання з іншымі народамі як наогул у розуме, так і ў разуменні сапраўдных пабытавых патрэб*» (II, 96).

Мяркуючы па тым, што ў Македоніі існаваў горад Яўроп таго ж кораня, як і Яўропа, можна выказаць здагадку, што назва Яўропа паходзіць ад гэтага горада і спачатку ўжывалася толькі да Македоніі і да краін, размешчаных за ёю. «*Фракіяне*, – паведамляе Фукідыд, – *аблажылі таксама горад Яўроп, але не змаглі захапіць яго. Потым яны прадоўжылі шлях у астатнюю частку Македоніі*» (II, 100).

Слова Азія (Ἀσία) у Фукідыда ўжываецца ўжо не ў сэнсе маленькай правінцыі на Анаталійскай паўвыспе, дзе жылі грэкі, а ў сэнсе ўсяго кантынента, як у нас. «*Яшчэ і зараз*, – кажа ён, – *у тых варвараў, пераважна азіятцаў, якія ладзяць спаборніцтвы ў кулачным двубоях і ў змаганні, апошнія адбываюцца толькі ў паясах*» (I, 65). «*Пелапанэс*» (г.азн. выспа Пелапа) – паведамляе ён у іншым месцы – *атрымаў сваю назву ад Пелапа, які з'явіўся туды із Азіі да людзей бедных з вялікім багаццем* (I, 92).

«*Лакедамяне* (лаціны), як характарызуе іх Фукідыд, – *моцныя на сушы, афіняне* (грэкі) *на моры. Узаемны хаўрус паміж імі захаваўся нядоўга. Хутка падзеленыя варажнечай лакедамяне і афіняне, разам са сваімі хаўруснікамі, ваявала адзін супраць другога, а астатнія эліны, у выпадку, калі ім даводзілася дзе-небудзь варагаваць паміж сабой, пачалі далучацца ці да афінянаў, ці лакедэманянаў. Таму, ад часу пярсідзкіх войнаў і да гэтай вайны афіняне і лакедэманяне ўвесь час, то заключалі хаўрус, то ваявалі паміж сабой, ці з адпадаўшымі ад іх хаўруснікамі* (як і крыжацкія грэцкія дзяржавы ў XII-XIII стагоддзях).

«*Пры гэтым яны ўдасканальваліся ў вайсковай справе і, набываючы вопыт сярод небяспек, набылі вялікі досьвед. Лакедамяне карысталіся гегемоніяй, не спаганяючы даніну са сваіх хаўруснікаў, а клапоцячыся толькі пра тое, каб, падобна ім, і ў хаўруснікаў быў алігархічны* (хутчэй абмежавана манархічны, бо ў іх існавалі цары) *лад кіравання. Афіняне, наадварот, з цягам часу забралі ў хаўрусных з імі дзяржаў, за выключэннем хіасцаў і лісбасцаў, караблі і абклалі ўсіх сваіх хаўруснікаў грашовай данінай. Таму да часу гэтай вайны баявая падрыхтоўка афінянаў была больш значная, чым у пару самага высокага росквіту іхнага хаўрусу, калі апошні не быў яшчэ знясілены*» (I, 18-19).

Чытач бачыць, што тут паўтарылася тое ж, што і ў лягендзе пра цароў ізраільскіх і юдэйскіх. Характарыстыка спартанцаў спісана із характарыстыкі італійцаў і франкаў, а характарыстыка афінянаў – із характарыстыкі візантыйцаў. Такім чынам, і пелапанэская варажнеча апісана Фукідыдам згодна з дачыненнямі паміж заходняй і ўсходняй часткамі рымскай імперыі.

Із гарадоў выклікае цікавасць згадванне пра Марсэль (Масалія), як пра асаду факеян (Φώκαια, Phocaea), якія перамаглі карфагенцаў у марскіх бітвах (I, 13). Але парэшткі гэтай Факеі мяркуюцца на малаазійскім узбярэжжы пад назвай Караджа-Фокія . . .

Ягіпет, маючы ў Бібліі найменне Міц-Рым, а ў сябе – Хемі, у Фукідыда мае ўжо назву, як і ў нас, Ягіпет (Αΐγυπτος) і лічыцца аддзяліўшымся ад пярсідзкага цара Артаксеркса (I, 104).

Апенінская паўвыспа усюды мае назву Італія (Ἰταλία), як пад канец сярэдніх стагоддзяў і ў наш час; гэтае найменне паходзіць ад Італа (Ἰταλος), цара сікулаў-сіцылійцаў (σικελοι), якія ўварваліся ў Трынакрыю, набыўшую ад іх найменне Сікелія (Σικελία), г.азн. Сіцылія.

Італія згадваецца ў Фукідыда шмат разоў. Так, распавядаецца, што эліны засялілі Іёнію і большасць выспаў, а пелапанэсцы – вялікую частку Італіі і Сіцылію. Гэта азначае, сапраўды, Італія лічылася дарыйскай (у вузкім сэнсе – спартанскай) вобласцю, а час узнікнення італійскіх дзяржаў дапасуецца Фукідыдам да 80-га года пасьля ўзяцця Іліёна (Ἴλιον)[16] ці Троі (Τροία).

«*Італія,* – кажа Фукідыд, – *мела шмат лясоў* (VI, 90)*, із яе афіняне атрымлівалі* (морам) *харчаванне* (VI, 103 і XII, 14), *але пад час вайны італійцы былі на баку пелапанесцаў* (II, 7)*, а потым часам і афінянаў* (VII, 57*). На шляху ў Італію із Афінаў размяшчалася Керкіра і мела магчымсць не прапускаць караблі із Італіі і Сіцыліі да Пелапанэса* (I, 36; III, 72; IV, 2-8; VI, 34 і г.д.). Там існавала ўмацаванне і гавань, і алігархія змагалася з дэмакратыяй, як у Венецыі. Яе гісторыкі лічаць, грунтуючыся на сугучнасьці найменняў, за сучасную выспу Корфу, і ў такім выпадку даводзіцца зрабіць выснову, што падчас Пелапанэскай вайны караблі былі такімі дасканалымі, што маглі пераплываць у Італію праз Атрантцкі праліў, не менш 150 кіламетраў (ці вёрстаў) шырынёй.

Карфаген (Καρχηδών) згадваецца некалькі разоў, як вельмі блізкі да Сіцыліі (VI, 2). У ім існаваў кірмаш Новы горад (VII, 50), (а па-арабску і сам Карфаген азначае тое ж самае). Ім спрабаваў завалодаць Алківіяд, і, нарэшце, факеяне перамаглі яго (I, 13). Я нагадваю пра яго сугучча з гішпанскай Картахенай.

Пра Мемфіс і Мендэскі рог Ніла паведамляецца так:

«*Інар сын Псаметыха, цар памежных з Ягіптам лівіян, падняў супраць пярсідзкага цара Артаксеркса вялікую частку Ягіпта і паклікаў па дапамогу афінянаў. Спачатку афіняне было завалодалі Ягіптам». «Пярсідзкі цар выправіў туды Мегабіза, сына Запіра, з вялікім войскам. Пасьля прыбыцця ў Ягіпет сухім шляхам Мегабіз перамог у змаганні ягіпцянаў і іхных хаўруснікаў, прагнаў із Мемфіса элінаў, замкнуў іх на выспе Прасапетыда і там абложваў іх год і шэсць месяцаў, пакуль не адвёў ваду канала ў іншым накірунку. Такім чынам караблі (элінаў) засталіся на сушы і, пераправіўшыся на выспу, ён захапіў яе па сухому». Ягіпет зноў падпаў пад уладу пярсідзкага цара, за выключэннем балот, якімі валодаў цар Аміртэй* (Ἀμυρταῖος). *А цар лівійцаў Інар, распачаўшы ўсю справу ў Ягіпце, быў схоплены, дзякуючы здрадзе, і ўкрыжаваны. Пяцьдзясят трыер з ваярамі із афінянаў і іншых хаўруснікаў, накіраваліся ў гэты час у Ягіпет на змену раней выпраўленаму войску і кінулі якары каля Мендэскага рукава* (усходняй пратокі Нілу). *Але із сушы на іх напалі сухапутныя войскі, а із мора фінікійскі флот, пры чым вялікая частка караблёў загінула. Такое заканчэнне меў вялікі паход афінянаў і іхных хаўруснікаў на Ягіпет*» (I, 110).

Заняткам фінікіян (Φόινιχες), згодна з Фукідыдам быў не столькі гандаль, колькі рабаванне. «*Не менш займаліся пірацтвам і жыхары выспаў, меўшыя назву карыйцы і фінікіяне, якія насялялі большасць выспаў*» (I, 8). «*Кір падпарадкаваў гарады на кантыненце, а пазней Дарый, абапіраючыся на фінікійскі флот, падпарадкаваў і выспы*» (I, 16).

[16] Іліён – сугучна з Элія Капіталіна, назва якую меў Эль-Кудс (палестынскі Ерусалім).

Больш усяго гаворыцца пра фінікіянаў, як пра частку насельнікаў Сіцыліі (VI, 46), а пра знакамітыя «Цір і Сідон» не згадваецца цалкам, хаця з нагоды ўдзелу фінікіянаў у войнах на боку персаў, гэта было б непазбежным, калі б Цір і Сідон сапраўды існавалі там у той час.

Слова «мідзяне» (μῆδοι) Фукідыд ужывае шмат разоў. Вось яго галоўныя выказванні: «*Яны* (афіняне і шмат іншых хаўруснікаў пад правадырствам спартанца Паўсанія) *накіравалася да Візантыі, занятай мідзянамі, і захапілі яе з дапамогай аблогі*» (I, 94). А ў іншым месцы: «*Пасьля адступлення ад Кіпра ён* (Паўсаній) *абраў у якасьці месцавання ранейшае сваё валоданне на Гелеспонце Візантыю, якая была занята мідзянамі, у тым ліку некаторымі сваякамі цара* (Ксеркса), *тады ж забранымі ім у палон*» (I, 128). Але пасьля гэтага і сам ён згодна з Фукідыдам ператварыўся ў персафіла. Потым паведамляецца, што мідзяне валодалі тады ўмацаваным горадам Сестай (на паўночным беразе Дарданельскага праліва, VIII, 62), і некалькі разоў згадваецца пра «мідыйскую вайну».

Слова персы (πέρσαι) таксама ўжываецца не раз, пры гэтым іхнымі царамі называюцца Кір, Камбіз (I, 13 і 16), Дарый (I, 14) і Артаксеркс (I, 137), і распавядаецца пра іхны звычай даваць гасьцінцы, што ставіцца ў процілегласць звычаю суседніх скіфаў, маючых назву ад-русы[17] (сапсаванае слова «ад Русі», г.азн. із Русі), выпрошваць сабе гасьцінцы (II, 97).

Апісваючы элінаў, Фукідыд малюе іх цалкам такімі ж, якімі яны былі пад час Эпохі Адраджэння і нават напачатку XIX ст., калі яшчэ не было ні параходаў, цалкам перамяніўшых марское жыццё, ні чыгунак, перамяніўшых сухапутную псіхалогію.

«*Пад час старажытнасьці*, – сведчыць ён, – *эліны і тыя із варвараў, якія жылі на мацерыку паблізу мора, а таксама ўсе насельнікі* (іянічных) *выспаў, звярнуліся да пірацтва з таго часу, як пачалі часьцей стасавацца паміж сабай па моры* (з гандлёвымі мэтамі). *На чале іх прызначаліся асобы найбольш магутныя, якія і падтрымлівалі пірацтва дзеля ўласных выгод і дзеля знаходжання сродкаў для жыцця больш слабым* (сваім блізкім). *Нападаючы* (з мора) *на паселішчы не маючыя ўмацаванняў, складаючыяся із асобных мястэчак, яны рабавалі іх і большай часткай менавіта такім шляхам здабывалі сабе сродкі да жыцця. Тады падобны занятак яшчэ не лічыўся ганебным, хутчэй прыносіў нават некаторую славу. Доказам гэтага з’яўляюцца і зараз тыя із насельнікаў, у якіх спрыт у гэтай справе карыстаецца павагай, а таксама старажытнейшыя паэты, у якіх прапануецца прыстаючым да берага людзям адно і тое ж пытанне: ці не рабаўнікі яны, таму што ні тыя, у каго яны пытаюцца, не лічаць гэты занятак ганебным, ні тыя, якім гэта пажадана ведаць, не лічаць яго заганным*[18].

«*Дарэчы, жыхары рабавалі адзін аднаго і на сушы. У шмат якіх частках Элады практыкуецца і да гэтага часу гэты старажытны спосаб жыцця, менавіта, у локраў азольскіх, эталян, акарананаў і ў насельнікаў памежнага з імі мацерыка. Сам звычай нашэння з сабой зброі захаваўся ў гэтых мацерыковых народаў ад старажытнага занятку іх разбоем*» (I, 5).

---

[17] Ці ж гэтае слова скарацілася ад ода-русы, ад грэцкага ὁδός (одас) – пераход, і славянскага рус – рускі.

[18] Адысея III, 71 сл. Гімн да Апалона 453.



Мал. 87
Уяўляемы вынік культурнай эвалюцыі нашчадкаў філосафа Арыстоцеля і паэткі Сафо. Грэка-турэцкі князёк сярэдзіны XIX стагоддзя.

Чытач бачыць сам, што ўсё гэтае апісанне з'яўляецца жывой выявай іянійскіх грэкаў нават пры турэцкім валадаранні, г.азн. каля XII-XIII стст., калі ў іх славілася пірацтва і калі яны хадзілі нават у сваёй сядзібе ўзброенымі з ног да галавы (мал. 87). Магчыма, што яны былі такімі ж і пад час сярэдніх стагоддзяў ці ж аўтар, які жыў у новы час, апакрыфіраваў ім сучасную яму фігуру турэцкага грэка.

Але я не буду тут доўга спыняцца на гэтым прадмеце, а папрашу толькі звярнуць асаблівую ўвагу на тое выказванне, дзе Адысей ужо называецца старажытным паэтам. Ён жа – старажытны паэт толькі з боку гледжання нашага часу, а як жа ён мог быць старажытным для аўтара гэтай кнігі, калі ён жыў, як сцвярджаюць, за 400 гадоў да пачатку нашай эры? Не можам жа мы і зараз упарта сцвярджаць, што такія паэмы, як Адысея ці Іліяда сапраўды былі складзены за 1280 гадоў да «Нараджэння Хрыста» непісьменнымі аркадзкімі пастухамі і пастушкамі, якія шчасьліва бегалі галымі за сваімі авечкамі, як іх нам малююць мастакі Эпохі Адраджэння, а перазнімаючы ў іх і сучасныя?

Тут аўтар Пелапанэскай вайны відавочна ўжыў, не падумаўшы, звыклае для яго сучаснікаў выказванне «старажытныя паэты» і гэтым выдаў сваю ўласную нядаўнасць. Я не пераглядаў усю кнігу Фукідыда з мэтай знайсьці і іншыя анахранізмы, але ўпэўнены, што пры адмысловым пераглядванні выявіцца іх нямала нападобе, напрыклад, ужо паказаных мной геаграфічных і народных назваў, на чале якіх я стаўлю слова Італія.

Хаця гісторыкі класіцызму, не сумняваўшыяся ў праўдзівасьці класічнай літаратуры, і прыйшлі, на яе падставе, да высновы, што Апенінская паўвыспа пачынаючы з глыбокай старажытнасьці мела назву Італія; што пазней пад час першых стагоддзяў нашай эры гэтая назва замянілася на Раманію (Roma), а потым пад час сярэдніх стагоддзяў зноў вярнулася із забыцця Італія, але гэтае вяртанне да старога найменне мала верагодна. Для гэтага не існуе ніякіх заахвочваючых нагод, нападобе той, якая вымусіла немцаў замяніць пасьля 1871 г. сваю Deutschland старажытным імем Germania, але і гэты старажытны патрыятызм не выціснуў із нямецкай мовы і роднае слова «Deutschland».

Глеба станавіцца ў гэтым выпадку больш цьвёрдай (калі нават мы і адкінем астранамічны метад), калі мы будзем разглядаць псеўда-старажытную класічную літаратуру з боку гледжання гісторыі матэрыяльнай культуры, падмуркі якай пачалі сур'ёзна распрацоўвацца толькі з пачаткам XX стагоддзя.

У гісторыі тэхнікі, дзякуючы яе маладосьці, мы яшчэ не маем такой масы з дзяцінства наданых намоваў, запазычаных намі без якой бы то ні было крытыкі ад папярэднічаўшых нам пакаленняў, як у гісторыі вытанчанай літаратуры і ў палітычнай і рэлігійнай гісторыі народаў старажытнасьці, а дзякуючы гэтаму і крытычная думка працуе там вальней. Сьледам за сваім узнікненнем гісторыя матэрыяльнай культуры ўжо пабіла трымаўшаяся да апошняга часу ўяўленне пра тое, быццам бы пры чалавечай эканамічнай эвалюцыі «бронзавы чалавек» папярэднічаў «жалезнаму». Выявілася што бронзу вырабляць нашмат цяжэй і складаней чым жалеза... Толькі «каменны век, пачынаючыся, напэўна, следам за Pithecantropus erectus, сцёгнавая костка якога, карэнныя зубы і частка чэрапа, маючыя выгляд напалову як у чалавека і напалову як у малпы, знойдзеныя ў 90-х гадах у пліяцэнавых адкладаннях Явы, застаўся із гэтых трох перыядаў на ранейшым першапачатковым месцы дапісьмой эпохі чалавечай культуры. Без сумневаў, што ўжыванне навукі пра развіццё матэрыяльнай культуры пры развіцці сучаснай гісторыі дась вельмі важны матэрыял і для яе ўпарадкавання.

І ў Фукідыда мы знаходзім некалькі месцаў, паказваючых на стан матэрыяльнай культуры пад час апісваемага ім перыяду. Згадваецца пра цэглу, вырабляўшуюся із гліны для пабудоваў (II, 78), пра жалезныя ланцугі для таранаў; пра залатыя капальні на выспе Фасас каля берагоў Фракіі (I. 160; 10131; V, 1054), пра срэбныя капальні каля гары Лаўрыя ў Атыцы (11, 55; VI, 917). Згадваецца пра існаванне верхавых коней і кінжалаў, якія насілі фракійцы, г. азн. калявізантыйскія грэкі (II, 16).

«*Готы і іншыя тамтэйшыя народы, памежныя са скіфамі,* – сведчыць аўтар, – *маюць аднолькавае з імі ўзбраенне: усе яны конныя стралкі із лука. Хлебасіл* (правадыр ад-русаў)[19] *падпарадкаваў шмат фракійцаў, жыўшых незалежна і ўзброеных кінжаламі* (кароткімі мячамі). *Яго царства распасьціралася да ляеў* (λαιαῖοι, ляхаў?), *рубак* (παίονες) *і ракі Струмона* (Στρυμών), *напэўна, ад нямецкага Strom, выцякаючай із гары Скомбра* (Σχομβος) *і працякаючай праз землі паляўнічых* (ἀγριᾶνες) *і ляяеў. Яно межавала з зямлёй рубак, ужо незалежных ад яго. З боку п'яніц* (τριβάλλοι), *таксама незалежных, на мяжы ўладанняў Сіталка жылі палахлівыя* (τρῆρες) *і вадка-сёрыя*[20] (τιλαταῖοι). *Апошнія жывуць на поўнач ад гары Скомбра і на захадзе распасьціраюцца да*

---

[19] Сіталк па-грэцку азначае гасьцінны, ад σῖτος – хлеб, правіянт і 'αλκαῖος – магутны, моцны. А ад-русы, як я ўжо згадваў, скарачэнне ад ада-русаў, г.азн. качавых рускіх.

[20] Ад τιλάω – вадка спаражняюся і дададзенага τις – нехта

*ракі Аксія. Гэтая рака выцякае з той жа гары, адкуль і Нест* (Νέστος) *і Эбр* (Εβρος). *Гэтая гара незаселена, вялікая і прылягае да горада Радопэ* (΄Ροδόπη)».

«*Што ж да шырокасьці царства ад-русаў, то яно распасьціралася з боку мора ад горада Абдэры да Еўксінснага Понту, менавіта да вусьця ракі Істр* (лічымай за Дунай, старажытны Danubius, нямецкі Danau). *Па сушы самы кароткі шлях ад Абдэраў да Істра лёгка апрануты хадок адолее за 11 сутак. Такім з'яўляецца працяг гэтых (русінскіх) уладанняў з боку мора. Па сушы шлях ад Візантыі да зямлі ляеў і гары Скомбра – самая вялікая адлегласць ад мора ў глыбіню мацерыка – лёгка апрануты хадок адолее за 30 дзён. Із усёй зямлі варвараў і із элінскіх гарадоў, над якімі ад-русы панавалі пры Сеўце* (Σεύθης), *валадарыўшым пасьля Стылакса і павялічыўшым да найвышэйшай ступені памер падаткаў, да іх паступала золатам і срэбрам амаль 400 талентаў на грошы* (каля 600 000 залатых рублёў). *Не менш гэтай сумы яны бралі золата і срэбра ў якасьці гасьцінцаў, не лічачы вышыванай і гладкай тканіны і рознага хатняга начынення. Гэтыя гасьцінцы рабіліся не толькі Сеўту, але і кіраваўшым разам з ім дынастыям, а таксама шляхетным ад-русам... З гэтай нагоды царства ад-русаў дасягнула вялікай магутнасьці* (II, 96-97)».

Тут рака Страмон без сумневаў уяўляе сабой агульную нямецкую назву рэк – Strom, рака Неста лічыцца гісторыкамі за сучасную Месту ва Ўсходняй Румеліі; Радоп – за сучасны Дэспата-Даг (інакш Дэспата-Планіна), а Скомб – за сучасную вяршыню Віташ, ці Скаміас, каля 2290 метраў вышыні ў Фракіі. Калі лічыць Істр, як гэта робяць, за Дунай, то гаворка ў дадзеным выпадку ідзе пра Баўгарыю з Усходняй Румеліяй, як пра радзіму ад-русаў (ада-русаў). Але ў такім выпадку, якой жа рацэ дадзена назва Strom? Згодна са сваёй нямецкай назвай гэта хутчэй усяго Стром-Данау (Дунай). Але ў такім выпадку Істр будзе не Дунаем, а Днястром, а гара Скомбра павінна будзе атаясамляцца з вяршыняй Шварцвальдам паблізу мястэчка Данау-Этынген. Дунай цячэ па Германіі, Аўстрыі, Вугоршчыне, па мяжы Сербіі, Балгарыі, Румыніі і ранейшай Расіі, і таму магчыма шукаць у гэтых землях месцаванне і астатніх народаў, апісаных у Фукідыда, дапасуючы першакрыніцы гэтай вялікай працы да сярэдніх стагоддзяў.



Мал. 88
Бюст Фукідыда Герма ў Неапалітанскім музеі (Аперцэпцыя скульптара Эпохі Адраджэння лічымая за антычную.)

З боку гледжання гісторыі матэрыяльнай культуры, тут яшчэ выклікую цікавасць уяўляе згадка пра лямцавыя панцыры лакедаманянаў, «аб якія ламаліся кідаемыя ў іх дроцікі, але якія не баранілі ад стрэл» (IV, 34).

Яшчэ большую цікавасць выклікае апісанне флату ваюючых бакоў: «*Кажуць, што карынфяне першымі засвоілі сабе марскую справу бліжэй да сучасняга яе ўзору,* – паведамляе аўтар, – *і першыя ў Элладзе трыеры* (г.азн. высокабартавыя вайсковыя караблі з трыма ўзвышаючыміся адін над другім шэрагамі лаў для весляроў і стралкоў пры бітве) *былі пабудаваны ў Карынфе. Самая старажытная марская бітва, наколькі мы ведаем, адбылася ў карынфянаў з керфаранамі* (жыхарамі Корфу*) і ад гэтай бітвы да таго часу* (заканчэння Пелапанэскай вайны) *прайшло не менш 260 гадоў*» (1,13). «*У* (малаазійскіх) *іанян флот з'яўвіўся значна пазьней пры валадаранні Кіра, першага цара персаў і яго сына Камбіза*» (I, 13). «*Нарэшце, факіяне, насяляўшыя Масалію* (Марсэль), *перамаглі карфагенцаў у марскіх бітвах*» (I, 13). «*Незадоўга да пярсідзкіх войн і сьмерці Дарыя, які быў царом персаў пасьля Камбіза, з'явілася вельмі шмат трыер у сіцылійскіх піратаў і ў жыхароў Кяркіры. Эгіняне ж, афіняне і некаторыя іншыя эліны мелі нікчэмную колькасць караблёў, і то большай часткай пентакантэры* (пяцідзесяцівеславыя, мал. 89). Трыеры ж з'явіліся ў афінянаў пазьней, з таго часу, калі Фемістокл пераканаў афінянаў падчас вайны з эгінянамі, і ў разліку на тыя сродкі, якія мелі персы, пабудаваць караблі. Дарэчы, і гэтыя караблі не былі яшчэ цалкам палубнымі» (1, 14).



Мал. 89
Класічная пентакантэра згодна з Вагнерам. З боку гледжання эвалюцыі караблебудавання такі трохмачтавы ветразёва-веславы кcрабель не мог узнікнуць раней венецыянскага ці генуэзскага мараплаўства пад час сярэдневечча. Згодна з месцаваннем ветразяў бачна, што ён здольны лавіраваць (г.азн. плыць зігзагамі супраць ветру) і, такім чынам, гэта ўжо кілявы карабель, патрабуючы веславання толькі пры поўным штылі.

Лепшую выяву трыеры ў наш час мы маем на прыкладзе рэльефа Акропаля (гл. Баумгартэн, Поланд і Вагнер: «Элінская культура», СПБ., 1906 г., малюнак 169). У часы, апісваемыя Фукідыдам, гэты вайсковы карабель меў да 40 метраў (г.азн. 20 сажняў) даўжыні і 6 метраў (3 сажні) шырыні, прасядаў у ваду амаль на 2 метры і меў ёмістасць да 250 тон. Трыера мела тры мачты, із якіх сярэдняя называлася вялікай, а руль складаўся із двух вёслаў. Каманда трыеры налічвала 200 весляроў, з якіх 18 былі ўзброенымі. Згодна з паданнем, яна, пры поўнай камандзе весляроў, магла плыць з хуткасьцю да 10 міль за гадзіну. Пелапанэскія ж вайсковыя караблі, – праконваюць нас, – мелі каманды і да 1000 чалавек.

У час, апісваемы аўтарам, караблі грэкаў былі ўжо вельмі разнастайнымі. Так, ім згадваюцца караблі: доўгія (IV, 16 і 118), хуткія (VI, 313 і 43), лёгкія (II, 835 і VII, 40), круглыя (II, 97), для перавозкі ваяроў (VI, 252 і 313), для перавозкі коней (II, 562 і IV, 421), для перавозкі хлеба (VI, 30 і 441), правадырніцкія (II, 843), ластавыя (II, 674; VI, 22 і 44; VII, 184), гандлёвыя (IV, 1188) і правіянтныя (III, 62; IV, 27).

Такімі з’яўляюцца апісанні караблёў у класікаў, а іхныя выявы дадзены тут на малюнках. Але дастаткова самых элементарных ведаў у галіне механікі і гісторыі ветразёвага мараплаўства, каб пазначыць анахранізм гэтых рымскіх і грэцкіх караблёў у класічных пісьменнікаў, а, такім чынам, апакрыфічнасць і іх саміх. Таму што толькі пад час сярэдніх стагоддзяў было вынайдзена досьледным шляхам, што дзякуючы здольнасьці кілявога карабля разразаць ваду сваім кілем, а не выцясняць яе бакамі, і здолнасьці ветру сазлізгаць уздоўж ускосна пастаўленага да яго накірунку ветразя, пакідаючы на ім толькі перпендыкулярны да яго ціск, кілявы ветразевы карабель набывае магчымасць плыць не толькі ў накірунку ветру, але нават, хаця і зігзагамі, супраць яго накірунку. Класічныя пісьменнікі нічога пра гэта не ведаюць, і сама здагадка, што мараходы магуць плыць на ветразях, напрыклад, із Александрыі ў Афіны тым часам як вецер дзьме ўвесь час із Афінаў у Александрыю, здалася б ім умяшаннем самога Пасяйдона. Здзіўляючыя дасягненні ветразёвага мараплаўства да часу Калумба таксама ўзніклі не адразу, а прайшлі доўгі эвалюцыйны шлях.

Вось апісанне адной із вайсковых экспедыцый, афінянаў у Сіцылію, якая выяўляе вялікую складанасць культурнага жыцця падчас Пелапанэскай войны, якім яно вглядае ў аперцэпцыйным выкладанні «Кадыладацеля».



Мал. 90
Старажытная выява міжземнамарскога карабля эпохі гуманізму і часу крыжовых паходаў.

«*Большасьці афінскіх хаўруснікаў загадана было сабрацца спачатку каля выспы Корфу з караблямі, нагружанымі хлебам, з малымі гандлёвымі краблямі і ўсімі іншымі, рухаўшыміся за імі, прыстасаваннямі, з тым, каб адтуль усім разам пераправіцца па Іянійскім заліве* (г.азн. відавочна па Адрыятычным моры) *да мыса Япігіі. Самі афіняне і некаторыя са знаходзіўшыміся пры іх хаўруснікаў у прызначаны дзень, на світанні, спусьціліся ў Пірэй* (афінскі порт) *і размяшчаліся на караблях, рыхтуючыся адплысьці ў Сіцылію. Сабралася тут, можна сказаць, усё насельніцтва, якое было ў горадзе: і гараджане, і чужакі. Мясцовыя жыхары з'явіліся правесьці сваіх блізкіх; адны – сяброў, іншыя – сваякоў, трэцція – сыноў. Выпраўляўшыя адчувалі пачуццё надзеі і нуды: надзеі на тое, што праводзімыя могуць скарыць Сіцылію, нуды – таму што не былі ўпэўнены, ці пабачаць іх яшчэ калі-небудзь, думаючы пра тое, як далёка ім патрэбна плыць ад роднай зямлі*» (VI, 30).



Мал.91
Класічная трыера (згодна з Вагнерам). З боку гледжання эвалюцыі мараходства, – гэта не раней як сярэднявечны ветразёвы, кілявы карабель хуткаходны з баластам на кілі і здольны лавіраваць.

Ды дазволіць мне чытач перапыніць тут на хвіліну гэтую цытату пытаннем: няўжо нехта із сучасных навукоўцаў можа паверыць, быццам гэтае мастацкае псіхалагічнае апісанне выпраўлення людзей у далёкі і небяспечны шлях магло быць напісана не толькі раней Эпохі Адраджэння, але за цэлых чатырыста гадоў да пачатку нашай эры, калі не існавала нават і хуткапіснага альфабэту? Не буду адказваць на гэтае пытанне, а толькі папрашу чытача прачытаць з гэтага ж боку гледжання і далейшае апісанне выпраўлення згодна з дакладным перакладам прафесара Ф. Мішчанкі, адрэдагаванага ў дадатак С. Жэбелевым. Я знарок перакладаю не сам, каб не падумалі, быццам я тут выправіў склад аўтара...

«*У момант, калі выпраляючымся і выпраўляючым належала развітацца адным з другімі, яны былі ахоплены думкамі пра надыходзячыя небяспекі. Рызыкоўнасць прадпрыемства ўявілася ім зараз выразней, чым у той час, калі яны падавалі голас за адплыццё. Аднак, яны зноў падбадзёрваліся пры ўсьведамленні сваёй магутнасьці ў дадзены час, бачачы мноства ўсяго, што было перад іхнымі вачамі. Чужынцы і іншыя з'явіліся на гледзішча з такім пачуццём, як быццам справа ішла пра дзіўнае пачынанне, перавышаючае магчымую верагоднасць. І, сапраўды, тут было самае шмат каштуючае і пышнае войска із усіх рыхтавўшыхся да таго часу, войска ўпершыню выступаўшае ў марскі паход на сродкі адной элінскай дзяржавы*».



Мал. 92
Фантастычны вайсковы карабель старажытных грэкаў з вёсламі, якія былі б выдраны ці зламаны пры першым жа моцным хваляванні, а карабель быў бы пастаўлена бокам і перавернуты (Акропальскі рэльеф).

«*Праўда, згодна з колькасьцю караблёў і латнікаў (г.азн. цяжка ўзброеных вояроў са шляхты, у панцырах, шлемах і набедраніках з мячом, дзідай і авальным шчытом) не меншым было і тое войска, якое – на чале з Перыклам – хадзіла на Эпідаўр, а потым пад правадырсвам Гагнопа на Патыдэю. Тады ў марскім паходзе брала ўдзел 4000 афінскіх латнікаў, 300 конных вояроў і 100 афінскіх трыер, з 50 трыерамі ад лесбасян і хіосцаў і яшчэ са мноствам хаўруснікаў. Але тое войска выпраўлялася ў кароткі паход і яго забяспячэне было звычайным*».

«*Гэтая ж экспедыцыя насупраць, была разлічана і абсталявана для працяглага паходу і ў разліку на абодва спосабы вядзення вайны, згодна з тым, дзе які запатрабуецца. Таму яна была забяспечана як марскімі, так і сухапутнымі сродкамі*».

«*Забяспячэнне флота каштавала вялікіх грошай з боку капітанаў і дзяржавы. Дзяржаўны скарб штодня плаціў кожнаму матросу па драхме* (каля 25 капеяк на срэбра), *ён падрыхтаваў 60 хуткаходных неабсталяваных караблёў і 40 для перавозкі латнікаў і набраў для іх самыя лепшыя каманды, а капітаны плацілі ад сябе дадатак да казённага пенсіёну. Акрамя таго, яны забяспечылі караблі вонкавымі ўпрыгожваннямі і каштоўным унутраным аздабленнем, пры гэтым кожны прыкладаў вялікія намаганні, каб яго карабель найбольш вызначаўся пышнасьцю і хуткасьцю ходу. Што ж да сухапутнага войска, то і яно было набрана з усёй дбайнасьцю, пры чым у справе ўзбраення і іншага вайсковага экіпіявання, камандыры спаборнічалі паміж сабай з вялікай стараннасьцю. Да гэтага далучылася ўзаемнае суперніцтва асоб, веданню якіх падлягала тая ці іншая справа. Некаторым элінам усё гэта ўяўлялася хутчэй за ўсё выстаўленнем на від афінскай магутнасьці і перавагі, чым забяспячэннем вайсковага пачынання. Сапраўды, калі б нехта падлічыў усе дзяржаўныя і грамадзкія выдаткі і асабістыя выдаткі ўдзельнікаў паходу; усё, што раней было выдаткавана дзяржавай і з чым яна выпраўляла*

*вайсковых правадыроў; усё, што кожны асобны чалавек выдаткаваў на сябе; усё, што кожны капітан выдаткаваў і збіраўся яшчэ выдаткаваць на свой карабель, не кажучы ўжо пра прыпасы, якія, натуральна, звыш казённага пенсіёну, рыхтаваў сабе кожны для харчавання пад час маючага адбыцца далёкага паходу; усё, што ўзялі некаторыя ваяры з сабай для гандлёвага абмену, – калі б нехта, скажу я, падлічыў усё гэта, то выявілася б, што ў агульным, шмат талентаў золата было вывезена із дзяржавы*».

«*Гэты паход быў знакаміты столькі ж згодна з выклікаючай здзіўленне адвагай прадпрыемства і вонкавым бляскам, колькі і згодна з перавагай вайсковай магутнасьці над сродкамі тых, супраць якіх ён пачынаўся. Знакаміты ён быў і тым, што яшчэ не было марскога паходу, настолькі аддаленага ад роднай зямлі, не было пачынання, якое мела б такія надзеі на будучыню, у параўнанні з сучаснасьцю*».

«*Калі ваяры селі на караблі, і было пагружана ўсё, што яны бралі з сабай ў паход, быў дадзены сігнал трубой: «смір-р-на*!».

«*Тады на ўсіх караблях адначасна, а не на кожным паасобку, згодна з голасам апавяшчальніка выканаліся малітвы, належныя перад выпраўленнем войска. У адзін і той жа час па ўсёй лініі караблёў матросы і кіраўнікі, змяшаўшы віно з вадой ў чарках здзейснілі ўзліванне з залатых і срэбных кубкаў. У малітве браў ўдзел і астатні натоўп, стаяўшы на сушы: маліліся як грамадзяне, так і іншыя із прысутных, спачуваўшыя афінянам*».

«*Пасьля малітвы пра дараванне перамогі і пасьля здзяйснення ўзліванняў, караблі паднялі якары. Спачатку яны ішлі ў адну лінію, а потым да Эгіны спаборнічалі паміж сабай ў хуткасьці. Афіняне спяшаліся даплыць да Корфу, дзе збіралася і астатняе войска хаўруснікаў*»... (VI, 32).

Ну, ці не чароўная гэта казка, чытач? Дя нас тут зараз не мае вялікага значэння веданне, наколькі фантазіяваў аўтар пры сваім апісанні выпраўлення ў паход афінянаў і наколькі фантазіяваў ён пры ўсіх іншых такіх жа апісаннях на працягу васьмі кніг сваёй працы. Нам важна пазначыць характар гэтай фантазіі, нам важна ведаць, што такім было гэтае пачынанне ў яго ўяўленні. А яго ўяўленне мела магчымасць развіцца да такой ступені толькі ў тым выпадку, калі пад час яго жыцця ўжо існавалі падобныя флаты, калі да яго ўжо існавалі падобныя асобныя мастацкія апісанні. Параўнаеце з яго складам хаця б нават і выдатны склад грэцкага Евангелля Яна, ці склад Апакаліпсіса, не кажучы ўжо пра Евангеллі Марка, Мацвея і Лукі – гэтых не выклікаючых сумневаў сярэднявечных кніг і вы пераканаецеся самі, якая тут велічэзная розніца ў эвалюцыі літаратурнай творчасьці!

Кніга Фукідыда – гэта не старажытнасьць, гэта не сярэднія стагоддзі, гэта, прынамсі, трынаццатае стагоддзе нашай эры, гэта Эпоха Адраджэння, разумеемая не як аднаўленне чагосьці забытага на працягу тысячагоддзяў, а як адмысловы прарыў новай літаратурнай творчасьці, характэрным прыёмам якога быў апокрыф, г.азн. хаванне сваіх уласных твораў пад прыдуманымі імёнамі ніколі не існаваўшых старажытных аўтараў.

Гэта не старажытнасьць, а выпраўленне генуэзскага ці венецыянскага флота з крыжакамі, дзе Афіны толькі пераблытаны з адным із гэтых мараходных гарадоў.

# Глава V.

## Элінская псеўда-паганская рэлігія Кадзіладацеля (Фукідыда), як родная сястра хрысьціянскай.

Але ж пачынаючы ад IV стагоддзя нашай эры, – запярэчаць мне, – ужо наспявала хрысьціянства з богам-Бацькай, з богам-Сынам і яго маці Паннай, далучанай да багінь, і з богам Святым Духам. Наколькі ж адпавядаюць апісанні Фукідыда гэтай стадыі рэлігійнай думкі?

Перадусім, адкажу я, – не будзем падобнымі на тых із нашых напалову адукаваных суайчыннікаў, якія шчыра перакананы, што, напрыклад, туркі ўшаноўваюць «не нашага бога, а Аллаха». Паднімемся вышэй нашага паланення разнамоўнымі словамі і звернем увагу на іхны сэнс; тады мы адразу заўважым, што і класічны Зеўс такі ж не «наш» бог, як і сучасны турэцкі Аллах, ці французкі Dieu, ці нямецкі Gott.

Паклічам па дапамогу лінгвістыку. Адкуль бярэ пачатак жыдоўская назва ўяўляемага стваральніка Сусвету слова АЛ (ці ЭЛЬ), тое ж самае, як і арабскае АЛА? Яно падобна на суседняе згодна з месцаваннем грэцкае слова ЭЛІ-ос, г.азн. Сонца, дзе “ос” з’яўляецца толькі дадаткам назоўнікаў мужчынскага роду. Гэта азначае, першапачаткова стваральнікам Сусьвету лічыўся ЭЛЬ – Сонца, якога і ўшаноўвалі, як такога. Але ў Бібліі мы сустракаем яшчэ назву вярхоўнага бога АЛ-АЛЕІМ, г.азн., Бог-Багоў (Сонца-Сонцаў) і там часта таксама ўжываецца проста слова АЛЕІМ, г.азн. багі, сведчачы гэтым, што пры стварэнні Бібліі яшчэ існавала шматбожжа. Для рэчаіснага ж Сонца, як дённай сьвяцільні, жыды пазней запазычалі, відаць у Сірыі, новае слова САМС (ШМШ), адкуль і паходзіць імя Самсон (Сонечны), а ад слова Эль паходзіць імя Ілія, і ад яго пераіначвання Аль – імя першага ягіпецкага халіфа – Алі.

Такім чынам, хрысьціянская Біблія, захаваўшая назву «бог-багаў» у еўрапейскіх перакладах не скасоўвае існаванне іншых багаў, акрамя стваральніка Сусьвету. І гэта шматбожжа захоўвалася ў культурных пластах насельніцтва Грэцыі нашмат пазьней, чым мы прызвычаіліся лічыць, нават і пад час хрысьціянскай эпохі, магчыма, аж да крыжовых паходаў. А ў асяроддзі напалову адукаваных пластоў насельніцтва глыбокае шанаванне ўсіх багоў-фетышаў, захавалася і да нашага часу ў славянскіх краінах і на прасторы ўсяго хрысьціянскага усходу, як перажытак даўніны.

Па-жыдоўску АЛ, ці ЭЛЬ, азначае і Стваралнік Сусвету і Волат, таму што Сонца ўяўлялася да самай эпохі Адраджэння асляпляючым тварам нябеснага волата, астатняе цела якога нябачна пад засланяючым яго, блакітным, як усё неба, адзеннем.

Адсюль лёгкі пераход і да славянскага слова «бог», вымаўляемага як «бох». Гэта корань слова “багатыр”, першапачатковая назва магутнага чалавека, якім уяўляўся славянам стваральнік сьвету і цар нябёсаў. У элінскі пантэон гэты славянскі бог, ці дакладней бох, прабраўся пад найменнем Бахус (дзе ус – з’яўляецца дадаткам для пазначэння мужчынскага роду, так што першапачаткова Бахус вымаўляўся як Богус, ці як Вакх, таму што грэкі не ўмелі чыста вымаўляць выбуховае славянска-рускае “б”. Гэты бог быў прымеркаваны там да п'янства, цалкам пагадняючыся са словамі летапісца: «весялосць Русі піці». Пілі ж славяне ў гонар бога на сьвяты, галоўным чынам, закісшы мёд, а магчыма і хмельнае піва, у грэкаў замененае вінаградным віном. Так празаічна пачалося наша сучаснае ўяўленне пра стваральніка Сьвету, і першае набажэнства яму, перайшоўшае і ў культурную Раманію, было ў выглядзе вакханалій, пра якія згадвае Ціт Лівій, таксама позні псеўданімны аўтар, як пабачым у пятай кнізе «Хрыста», падобна Фукідыду. Пойдзем зараз некалькі далей.

Пад час некаторага ўжо позняга перыяду, які я злучаю з узнікненнем месіянства (адно із адгалінаванняў хрысьціянства) першапачатковая біблейская назва стваральніка нябёсаў – **АЛ** – атаясамляемая з Сонцам – замянілася новым **ІЕУЕ**[21], г.азн. – Той-Хто-Будзе, пры гэтым ніхто не мог вымаўляць голасна цалкам усё гэтае грознае імя, каб не наклікаць неадкладны гнеў Будучага бога, і таму ў Бібліі, пры словаўтварэнні, яго пачалі пазначаць проста **ІЕ** ці нават **І**, так пішацца і слова І-Ісус (Ἰ-ησ-ους г.азн., І-ІС-УС (Ἰησοῦς), што ў перакладзе азначае Будучы Ратавальнік, ці Той-Хто-Прыйдзе-Ратаваць. Адсюль жа бярэ пачатак і лацінскае найменне бога-Бацькі – Юпітар, г.азн. І-ПАТЭР, скарочанае ІЕУЕ-ПАТЭР (бог Будучы Бацька).

Із гэтага мы бачым, што лацінскі Бацька богаў (Юпітар) быў ужо месіянскага паходжання, на што паказваюць і астатнія склоны гэтага імя, застаўшыяся без дадатку слова **pater** (бацька), проста ад жыдоўскага кораня ІЕУЕ (Іегава). Так, клічны склон Юпітара быў на лаціне: **Iove**!, г.азн. непасрэдна жыдоўскае: **Ieve**!

Такім чынам, біблейскі Ягова, ці Будучы бог хрысьціянаў, быў уключаны ў элінскі пантэон пад найменнем Юпітара і акрамя таго, чамусьці, аддзяліўшыся ад Сонца, раптам даў сваю назву самай яркай і пастаяннай у бляску планеце, якая і да гэтага часу у асяроддзі ўсіх еўрапейскіх народаў мае назвв Юпітар, г.азн. Будучы Бацька. Па-грэцку ж Юпітар у назоўным склоне мае назву Зеўс, г.азн. Жывучы, Існуючы, Існы (ад ζάω – жыву), замест лацінска-жыдоўскага ІЕУЕ (Будучы), магчыма таму, што ён лічыўся ў грэкаў таго часу ўжо прыйшоўшым. У астатніх жа склонах слова Зеўс-Жывучы, і ў грэкаў, як і ў раманцаў, перамяняе корань, і яно выводзіцца ад лацінскага слова deus – бог (французкае Dieu). Так родны склон слова Зеўс па-грэцку вымаўляецца dioc (dies, deus), і ўсе астатнія склоны таксама. Із гэтагам бачна, што старажытнае найменне «Юпітар» ці «Зеўс» мы для выразнасьці яго рэлігійнага сэнсу павінны перакладаць яго значэннем Месіянскі бог, ці ж, як рабіў я гэта раней, аб’ядноўваць усе гэтыя разнамоўныя назвы адным іх агульны старажытным атрыбутам: Грамабой.

Так, лінгвістыка дае нам выразныя ўказанні на эвалюцыю першапачатковых уяўленняў пра боскасць. Але тут жа мы бачым і некаторыя яе непагадненні з нашай сучаснай міфалогіяй.

Бахуса, славянскага бога, яна ўяўляе на малюнках Эпохі Адраджэння то ў выглядзе сталага, моцнага мужчыны з доўгімі валасамі і барадой, што, вядома, адпавядае абліччу славянаў таго часу, і, акрамя таго, у выглядзе чароўнага грэцкага юнака Дыёніса з вянком із плюшчу на галаве і з жазлом, абвітым вінаградная лазой ў руках. Калі адбылося гэтае пераўтварэнне? Нараджэнне Дыёніса ад бога-Бацькі і дзеўкі Сямелы і выхаванне німфамі ў лясной даліне Нісе так нагадвае нараджэнне евангельскага Хрыста, што мы не маем права адкідаць такое падабенства. Дыянісіі як сьвяты вясны ўзніклі, магчыма, нават пад уплывам хрысьціянства, таму што яны суправаджаліся працэсіямі, вакальна-музычнымі канцэртамі, тэатральнымі пастановамі і публічнымі спаборніцтвамі, як пад час хрысьціянскіх Вялікодных сьвятаў. Само імя Дыёніс павінна быць толькі адным са старажытных імёнаў евангельскага Хрыста, які таксама ператвараў ваду ў віно на вяселлях і сябраваў з гетэрамі. З гэтага боку гледжання згадванне Дыёніса і дыянісій ў старажытных аўтараў можа служыць указаннем на хрысьціянскую эпоху ў яе першапачатковым выглядзе (мал. 93 і 94).

[21] Будучы час ад дзеяслова ЕУЕ – быць, я яго перакладаю словам Будучы.



Мал. 93
Старажытны бюст маладога Дыёніса-Хрыста.



Мал. 94
Дыёніс-Хрыстос (Бахус, г.азн. богус) у сталым узросьце.

Некаторую супярэчнасць лінгвістычных высноваў з традыцыйнай міфалогіяй можна паказаць таксама і на прыкладзе Зеўса-Юпітара-Яговы. Згодна з лінгвістыкай мы бачым, што гэта толькі тры найменні аднаго і таго ж Будучага Бога-Бацькі, а згодна з традыцыйнай міфалогіяй Зеўс-Юпітар лічыцца сынам Хронаса-Часу (ці Сатурна) і Рэі – вечна бягучай ракі, богам нябёсаў, братам бога мораў Пасяйдона і бога глыбінь зямлі Плутона, братам бога пекла Гадэса і Геры-Юноны-Зямлі, выхаванай у сядзібе Акіяна і зрабіўшайся пазней яго адзінай законнай жонкай. Ён з'яўляецца, акрамя таго, братам Дэметры-Цэрэры – апякункі земляробства, і Гесты-Весты – багіні хатняга агменю. Зеўс лічыцца таксама бацькай ужо згаданага Дыёніса, сына грачанкі Сямелы, загінуўшай у полымі ад загарэўшайся сядзібы, калі яна папрасіла яго паказацца ёй ва ўсім сваім бляску і славе. Мы бачым, што тут атрымалася тая ж самая мешаніна, як і ў хрысьціянскім веравучэнні, дзе бог не толькі адзін у трох асобах, але ў той жа час з'яўляецца і бацькай і сынам самога сябе. Сярэднявечныя спрачальнікі пры сваім нясьцерпным жаданні бараніць з крыкамі кожную выказанаю імі паспешную ідэю, відавочна, да таго заблыталіся, што гатовы былі дэкрэтаваць, як рэлігійны дагмат, кожную недарэчнасць. Так і тут Юпітар, як Хрыстос, стаў пад іншымі імёнамі і бацькай і сынам самога сябе. Нават больш таго. Ён жа з'яўляецца бацькам Арэса-Марса ад Юноны, бацькам Венеры ад Дыёны і г.д.



Мал. 95
Бог-Бацька ў сярэднявечнай аперцэпцыі (класічны Ю-Пітар).

Як і хрысьціянскі біблейскі бог-Бацька, ён кідае грамы і маланкі, але таксама падае і ў выглядзе дабрадзейнага дожджу. Ён, як мы бачым, таксама Бог-Багоў, як і ў Бібліі АЛ-АЛЕІМ, і валадарыць над імі і над усім сьветам са справядлівасьцю, непазбежна караючы кожнае злачынства. Гэта выява і сучаснага хрысьціянскага бога-Бацькі. На сучасным царкоўным выявах яго малююць у грэка-рускіх і каталіцкіх храмах у выглядзе старца, які паважна сядзіць на аблоках ці на нябесным пасадзе (мал. 96), пад час Эпохі Адраджэння яго малявалі маладзейшым, а раней рабілі і статуі бога-Бацькі (мал. 95). Зараз праваслаўныя хрысьціяне і каталікі не будуюць больш храмаў богу-Бацьку, а толькі Езусу-Дыёнісу ці сьвятым, але раней яны не грэбавалі і богам-Бацькай. Галоўнымі храмамі яму лічыўся Капіталійскі храм у Рыме і Алімпійскі – у Грэцыі. Лепшай выявай бога-Бацькі лічыцца каласальны бюст Ватыканскага музея, але ён так добра зроблены, што яго цяжка палічыць не толькі за старажытны, але нават за сярэднявечны твор, калі стаяць, як я, на баку гледжання бесперапыннай эвалюцыю чалавечай культуры.



Мал. 96
Бог-Бацька класічны (Ю-Пітар), носячыся на аблоках у аперцэпцыі Мікель-Анджэла (Сікстынская капэла).

Што ж мы бачым? Нешта вельмі важнае. Згадванне ў нейкай кнізе пра храмы Зеўсу ці Юпітару і пра ахвяраванні ім ніяк не паказвае на дахрысьціянскую эпоху кнігі. Зеўс і Юпітар – гэта толькі грэцкая і лацінская назвы біблейска-хрысьціянскага бога-Бацькі, а глыбокае ўшанаванне бога-Бацькі і пабудова яму храмаў і статуй скасаваны ў хрысьціянаў наўрад ці раней крыжовых паходаў. Засталіся толькі яго шматлікія выявы (мал. 96 у 97). Згадванне пра Дыёніса таксама не дае ўказанняў на паганскую эпоху: ён занадта падобны на евангельскага Хрыста.

Разгледзім зараз і іншых «класічных» багаў і багінь. Першым з іх, вядома, з'яўляецца Апалон. Імя гэта паходзіць ад грэцкага слова «апаллюмі» (ἀπόλλυμι) і азначае загінуўшы, знікшы. Згодна з традыцыйнай міфалогіяй ён лічыцца сынам бога-Бацькі і адной чалавечай дзяўчыны на імя Лета, ці Латана. Ён быў таксама двайнікам Дыяны-Артэміды. Ён лічыцца вынаходнікам спеваў, струннай музыкі, лекарам хвароб, вялікім архітэктарам і прадвеснікам будучых падзей. Адразу пасьля нараджэння ён узнёсся на неба, дзе забіў Цмока, і за гэта быў зноў выпраўлены на Зямлю.

Што ж гэта азначае: узнёсся на неба і забіў на ім Цмока? Зірніце на мапу неба і вы самі пабачыце. Ён усталяваў там полюс экліптыкі, працяў, так бы мовіць, гэтае сузор'е вялікай воссю, на якой, згодна з ўяўленнямі сістэмы Пталямея, круцяцца сем нябесных сфер, носячыя планеты вакол шарападобнай Зямлі. Узносячыся думкай на неба, ён прыйшоў да высновы, што Зямля не дыск, плаваючы на паверхні бяскрайняга акіяна і накрыты шкляным купалам нябёсаў, а шар, аточаны сферамі, якія круцяцца на восі пранізваючай сузор'е Цмока. За гэта ён быў адлучаны тагачаснымі багасловамі ад заняткаў астраноміяй і скінуты такім чынам з нябёсаў на Зямлю.

Там, – паведамляе далей легенда, – ён пасвіў статкі цара Неўтаймаванага (Адмета), пабудаваў Трою (г.азн. Іліён, ці Элію Валадараючую (Эліа Капіталіна), як пад час сярэдніх стагоддзяў зваўся палестынскі Эль-Кудс-Ерусалім) і потым,

калі мясцовы цар адмовіўся плаціць яму даніну (г.азн. пагадзіцца з яго вучэннем), наклікаў на яго чуму, якая спустошыла горад. Пасьля гэтага ён быў падняты на неба дзе атрымаў ад бога-Бацькі наказ кіраваць коньмі Сонца, і быў атаясомлены з гэтым сьвяцілам.

Усё гэта ў сваёй падставе толькі парафраз евангельскай легенды пра Хрыста. У Гамера гэты знікшы бог мае назву Феб (Φοιβος), г.азн. прадвяшчаючы, прамяністы, і на статуях Эпохі Адраджэння малюецца, як і Дыяніс, у выглядзе прыгожага юнака з лірай і руках. Яго лепшая статуя – Апалон Бельведэрскі – знойдзена ў 1500 г. у парэштках Акцыума. Другая яго статуя – Апалон Танійскі – знаходзіцца зараз у Мюнхенскім музеі. Калі мы будзем лічыць, што гэтая легенда пра знікшага сына бога-Бацькі і пра евангельскага Хрыста аднаго і таго ж кораня, то давядзецца зрабіць выснову, што і Іліяда з Адысеяй напісаны ніяк не раней V стагоддзя нашай эры.

Пры атаясамленні «Знікшага бога» з Сонцам (у сувязі з сонечным зацьменнем), непазбежна даводзілася прызнаць Месяц яго сястрой-двайнікам, што і было зроблена пад імем Артэміды-Селены-Дыяны (яна ж Геката і Феба), і гэта не супярэчыць евангельскаму паданню, дзе гаворыцца, што ў Езуса былі браты і сёстры. Дзякуючы таму, што Месяц каля перыяду маладзіка набывае выгляд паляўнічага лука, яна і малявалася з ім, і лічылася багіняй палявання, і, акрамя таго, яшчэ дапамагала пры родах, бо нараджалася кожны месяц. А астатнія браты і сёстры евангельскага Хрыста лёгка маглі сімвалізавацца планетамі.



Мал. 97
Бог-Бацька класічны (Ю-Пітар), ствараючы жанчыну із рабра мужчыны ў аперцэпцыі Мікель-Анджэла (Сікстынская капэла).



Мал. 98
Купаючаяся німфа. (Лондан.) Лемуан (1704-1748).

Усё гэта паказвае, што элінскі пантэон не толькі не супярэчыць першапачатковаму хрысьціянству ў Грэцыі і ў Італіі, але збольшага і ўзнік із яго ці супольна з ім. Першая паспяховая спроба ўсталявання адзінабожжа была з гэтага боку гледжання зроблена толькі ў VII стагоддзі спадкаемцамі Магамета, якія абвясьцілі сваё знакамітае: «Няма бога акрамя Бога, а Магамет яго прарок» і пачаўшыя пад гэтым дэвізам практычна руйнаваць усе статуі багаў аж да X ці XI стагоддзяў, пакуль крыжовыя паходы не спынілі гэты наступ і не захавалі ад разбуранага «ворагамі» і скасаванага сваімі «Пантэона сярэдніх стагоддзяў» толькі статуі «Ратавальніка» і «Найчысьцейшай Панны» ў каталікоў, ды маляўнічыя выявы бога-Бацькі (Зеўса-Юпітара), бога-Сына (Апалона-Дыёніса-Езуса), і яго маці «Найчысьцейшай Панны», а астатніх багаў і напаловубагоў пераназвалі ў анёлаў, дэманаў, нарачоных хрыстовых (німфаў, мал. 98) і «сьвятых».

Першая старажытная спроба абвяшчэння адзінабожжа ў запавеце: «Я твой Будучы Бог і ды не будзе табе Бога іншага, акрамя мяне, яшчэ не было абвяшчэннем адзінабожжа, а толькі ўсталяваннем асобнага бога-багаў, апякуна ўшаноўваючых яго і не церпячага, каб яны клікалі сабе на дапамогу замежных багаў. Але із той жа самай Бібліі мы бачым, што «ізраіль» ніколі не выконваў яго і нават пасьля свайго размяркавання па розных краінах, «ушаноўваючы свайго бога, ушаноўваў таксама і багоў чужых народаў» (заканчэнне кнігі Цароў).

Менавіта гэтую выяву мы і назіраем у апавяданнях класічных пісьменнікаў. Так і ў кнізе Фукідыда мы знаходзім, акрамя глыбокага ўшанання бога-Бацькі – Юпітара-Яговы, таксама глыбокае ўшанаванне яго сына Апалона-Дыёніса-Езуса, яго братоў і сясьцёр і нават яго замежным адбіткаў, нападобе Бахуса.

Пра бога (τό θεῖον) у сярэднім родзе, як і ў нас, у «Кадзіладацеля» згадваецца ў шмат якіх месцах. Ён згодна з ім, як і згодна з Бібліяй, зайздросьлівы, але і літасьцівы. «*Калі сваім паходам,* – сказаў свайму войску афінскі вайсковы правадыр Нікій (у перакладзе: пераможны), – *мы абудзілі зайздрасць у бога, то за гэта ўжо зведалі дастатковае пакаранне*». «*Нам зараз патрэбна спадзявацца,* – паведамляецца ў іншым месцы, – *на літасць бога*» (VIII,778,4). *Бог,*– гаворыцца яшчэ далей, – *кіруе лёсам*» (V, 105 112) і «*дапамагае людзям пры патрэбе*» (IV, 986). Але ж гэта ўжо сучаснае абстрактнае, уяўленне!

У мужчынскім родзе і ў адзіным ліку слова бог (θεός) ужываецца ў Фукідыда толькі ў якасьці сінроніма Езуса-Апалона, які паведамляе людзям пра будучыню, і якога асобна запытваюць пра гэта.

«*Эпідамяне выправілі пасланнікаў у Дэльфы*, – паведамляе ён, – *запытаць бога: ці не перадаць ім свой горад карынфянам*?», і «*бог даў адказ: прызнаць кіраванне карынфянаў*» (I, 25.) Дакладна так жа пазней: «*лакедаманяне выправілі ў Дэльфы запытаць бога, ці ваяваць ім і, кажуць, бог адказаў, што яны здабудуць перамогу*» (I,1183 і II,545).



Мал. 99

Дэльфійскі аракул, у аперцэпцыі Эпохі Адраджэння (Пяціскус: Алімп).Зверху налева Піфія, направа Апалон.

Галоўны яго храмам у Грэцыі знаходзіўся ў Дэльфах каля Парнаса на поўнач ад Карынфскага заліва (мал. 99). Ён быў зачынены, – пераконваюць нас, – Феадосіям I (г.азн., трохі раней 395 г. нашай эры і зараз там знаходзіцца толькі нязначная грэцкая вёсачка Кастры). Ад імя Апалона там давала адказы яго памочніца, якая мела імя Піфія (πεθία). Іншыя храмы гэтаму богу існавалі, згодна з Фукідыдам, у Афінах, у Дэласе (на яго ўяўнай радзіме), у Спарце і г.д.

Што да гімнаў, прысьвечаных яму, «Кадзіладацель» нават размяшчае цытату із Гамера:

*«Радасьцю, Феб, ты нідзе так не цешышся, як тут на Дэласе,*
*Там, дзе па стогнах тваіх іянiяне ў доўгіх кашулях*
*Разам з дзецьмі і мужамі славяць цябе ўсенародна,*
*Боем кулачным, і песьняй, і скокамі твай дух забаўляючы*
*Ў дні, калі ў памяць тваю ладзяцца сьвятыя гульбішчы* (III, 104).»

Такім чынам, у Фукідыда мы маем, як і ў першапачатковай хрысьціянскай тэалогіі, двух галоўных багаў: бога-Бацьку – Зеўса-Егову-Грамабоя, пазбавіўшага пасады свайго бацьку Час (па-грэцку Хронаса) і Бога-Сына, узнёсшагася на неба – загубленага на зямлі Апалона, ці Феба, а ў Латане, ці Леце, ці ў Сямеле, а магчыма, і ў некаторых іншых багінях, мы бачым абагаўлённую панну-Марыю. Аднак, мы яшчэ не знаходзім тут пазнейшай хрысьціянскай тэалагічнай сафістыкі, заяўляючай нам, што бог-Бацька і бог-Сын – гэта не два асобныя багі, а адзін і той жа, непадзельны, але ўсё ж падзяліўшыся на бацьку і сына шляхам адружання з Боскай Паннай – адзіны бог.

Яшчэ не дайшоўшы да гэтай стадыі тэалагічнага развітая хрысьціянства ці проста маючы намер намаляваць больш натуральную тэалогію, існаваўшую да яго і ўвасабляўшую ў знаках бога розныя праявы адзінай па сваёй сутнасьці фізічнай творчай энергіі прыроды, Фукідыд вымушае сваіх герояў выказвацца пра «бога» не толькі ў сярэднім родзе, як я нядаўна згадваў, але і ў множным ліку(οϊ θεοί) – багі – як гэта мы бачым і ў біблейскай кнізе Быццё, дзе замест бог (АЛЕ), заўсёды значыцца багі (АЛЕІМ): «На пачатку багі стварылі неба і зямлю, але зямля была бязводная і пустая» (Быццё І). Гэтыя «багі» падзяляюцца ў яго на агульна-элінскія і на ўшаноўваемых толькі ў асобных месцах, падобна сучасным праваслаўным і каталіцкім сьвятым, якія зараз ужо лічацца (разам з анёламі), толькі напалову-багамі, хаця ім таксама прысьвячаюцца асобныя маленні пра выратаванне і заступніцтва і прысьвячаюцца асобныя храмы, якіх не мае толькі бог-Бацька.

Такім чынам: тэалогія, намаляваная ў Фукідыда, адрозніваецца толькі варыяцыяй імёнаў і некаторых іншых тэрмінаў ад сучаснай хрысьціянскай тэалогіі, і шмат якія із яго багоў можна пазнаць у вобразе рознастайных арханёлаў навейшай грэцкай і рымскай царкваў. Што ж да адрознення дэталяў апісваемага ім то тут, то там рэлігійнага рытуалу, то мы павінны адзначыць, што гэты рытуал і зараз вельмі разнастайны ў паўднёвых краінах і нават скокі ў храмах і па-за імі да апошняга часу лічыліся там вельмі добрай справай, асабліва падчас Вялікадня і іншых радасных сьвят. А розныя практыкаванні нападобе разнастайных спаборніцтваў і зараз суправаджаюць хрысьціянскія сьвяты, хоць больш і не згадваюць пра іхную сувязь з ушаноўваемымі асобамі.



Мал. 100
Адломак бюста, лічымы за статую «Ўмілаванай-Ушаноўваемай» (на грэка-лаціне; Афрадыты-Венеры). Луўрскі музей. З новага боку гледжання гэта хутчэй усяго была статуя панны-Марыі, зробленая не задоўга да рэформы хрысьціянства перад крыжовымі паходамі.

Із іншых багінь і багаў у Фукідыда згадваецца яшчэ пра Афрадыту (Αφροδίτη) (мал. 100), якая, згодна з ім, мела храм у горадзе Эрыка ў Сіцылії (VI,463), і пра Афіну (Αθηναλια = Атенайя) (мал. 101), уласна кажучы, пра «Афінскую Панну», якая часта называецца проста «багіня» (I,1262; II,135, 152). Згодна з міфалогіяй, Афіна выйшла ў поўным узбраенні із галавы бога-Бацькі (Юпітара) і была вынаходніцай плуга, караблебудавання, прадзення і арання, і падахвочвальніцай якой бы то ні было разумовай дзейнасьці. Як і Дыяна-Артэміда, яна засталася Паннай (цнатлівай) і мела галоўны храм у Афінах, із чаго можна зрабіць выснову, што і яе вышэйзгаданыя выявы прыпісваліся гэтаму гораду (ці сапраўды былі ў ім выраблены), бо і сама назва багіні Афіна ці, больш дакладна, Афінская Панна (Атенайя Партэнас) паказвае яе алегарычнасць. Яе іншая назва Афінская Меднадомная (Ἀθηναία χαλκέοικος; I,1282-1341) паказвае, як мне здаецца, не на тое, што яе сьвяцілішча было із медзі, а што выплаўленне гэтага металу із руды было вынайдзена афінскімі навукоўцамі. Прыметнік жа цнатлівая знаходзіўся, магчыма, у сувязі з той акалічнасьцю, што грэкі, якія прысьвяцілі сябе таямніцам навук, у старажытнасьці абавязвалі сябе адмаўляцца ад сямейнага жыцця з яго зямнымі турботамі.



Мал. 101

Афінская Сьвятая Панна (Атэнаія Партэнас па-грэцку), забіваючая волата Энкелада пры спрыянні савы і голуба. Рыцарская варыяцыя ўяўлення пра Панну-Марыю, не раней XIII стагоддзя нашай эры (малюнак на вазе).

Гермес (Ἑρμῆς), ці Меркурый, згодна з Фукідыдам, меў храм каля Мікалеса (VII,$29_3$). Ён быў богам адкрыццяў і вынаходніцстваў, апякуном прамысловасьці і гандлю, правадніком падарожнікаў і нават правадніком душ у падземны сьвет, і маляваўся моцным юнаком з крыламі на пятах. Ад яго паходзіць назва Гермія-Тройчынайвялікшага, згодна з іерогліфамі Тота і Тэута, сына Азірыса і Ізірыды ў Ягіпце, а ў Грэцыі Гермес лічыўся сынам бога-Бацькі (Зеўса) і Маі, дачкі Атланта, падтрымліваючага зямны шар. Герметычныя (г.азн. таемныя) кнігі, прыпісваемыя III стагоддзю нашай эры і ўтрымліваючыя сумесь ягіпецкіх і грэцкіх забабонаў, мы маем толькі ў друкаваных выданнях, самым старажытным із якіх з'яўляецца кніга Пемандра, складаючаяся із 14 трактатаў на лацінскай мове. Яна з'явілася ў 1471 г. у

«перакладзе» Марсілія Фіціны[22] і ўяўляецца мне не перакладам, а самастойным апокрыфам, дзе сабраны паведамленні і са значна больш позняга часу, чым III стагоддзе.

У Фукідыда пра гермы паведамляецца толькі наступнае: «*Афіняне рыхтаваліся да паходу* (у Сіцылію). *У гэты час у вялізнай большасьці каменных выяваў Гермеса, якія знаходзіліся ў Афінах і, згодна з мясцовым звычаем, стаяўшых у вялікам колькасьці ў сенцах прыватных сядзіб і ў храмах, за адну ноч былі пашкоджаны твары. Вінаватых не ведаў ніхто, але іх шукалі і прызначылі вялікія ўзнагароды за паведамленні*». «*Гэтая падзея здавалася тым больш важнай, што ў ёй угледзелі благое прадвесьце адносна паходу і разам з тым змову, накіраваную на скасаванне дэмакратыі*» (VI, 27, 28).

«*Нават і пасьля адплыцця войска*, – сведчыць Фукідыд, – *афіняне працягвалі выведваць злачыннае зневажэнне таемстваў і выяваў Гермеса і, не вельмі правяраючы сведчанні даносчыкаў, хапалі і садзілі ў кайданы цалкам бездакорных грамадзянаў гунтуючыся на сьведчаннях людзей заганных*» (VI, 53). *Нарэшце, адзін із зняволеных* (па Фукідыду, ілжыва) *паказаў у справе пра гермы на сябе і іншых. Народ з радасьцю ўхапіўся за гэтае сьведчанне, якое лічыў праўдзівым, тым больш, што раней баяўся магчымасьці таго, што змоўшчыкаў не знойдуць. Выкрывальнік, а з ім і ўсе іншыя, на якіх не было сведчанняў былі адразу вызвалены, а над абвінавачанымі народ учыніў судовы разбор, пры чым усе схопленыя былі пакараны сьмерцю, а збегшыя прысуджаны да сьмерці і галовы іх, звыш таго, ацэнены*» (VI,60).

Гефест (Ἥφαιστος) згадваецца толькі раз (III,88з), як бог Ліпарскіх выспаў, занімаючыся там кавальскай справай у вулкане Стромбалі.

Багіня Гея (Γῆ – Зямля) згадваецца таксама толькі адзін раз (II,154) пры пералічэнні афінскіх храмаў у Акропалі:

«*Раней цара Тэзея*, – паведамляе Кадзіладацель – *горад АФІНЫ складаўся із Акропаля ў яго сучасным аб'ёме і із часткі схілу, павёрнутага да поўдня на значнай адлегласьці. Докад гэтага ў тым, што дзяржаўныя храмы і храмы чужых богаў знаходзяцца ці ў Акропалі, ці размешчаны па-за ім, большай часткай у накірунку паўднёвай часткі горада, якімі з'яўляюцца: храм бога-Бацькі* (Зеўса) *Алімпійскага, Піфіяў* (г.азн. храм яго сына Апалона Піфійскага), *храм Геі-Зямлі і Дыёніса Балацянога, у гонар якога спраўляюцца 12-га дня Анфестэрыёна самыя старажытныя дзыянісіі*». «*Тут жа знаходзіцца і крыніца, якая мае назву ў сучасным яе выглядзе Дзевяціструменнай, а раней, калі білі яе ключы, мела назву Выдатнай крыніцы*».

«*І ў наш час захаваўся ад старажытнасьці* (!) *звычай браць ваду із гэтай крыніцы перад вясельнымі сьвятамі і для іншых сьвятадзеянняў*» (Фукід. II,15).

«*Пад час сваёй бытнасьці архантам, Пізістрат прысьвяціў на Агоры ахвярнік Дванаццаці багам і Апалону ў храме Апалона Піфійскага, на якім і зараз яшчэ бачны наступны надпіс непашкоджанымі літарамі*:

*Гіпія сын, Пісістрат на долю Піфійскага Феба.*
*Уладзе сваёй на хвалу, помнік гэты ўзвёў*» (VI,55).

Посяйдон (Ποσειδῶν), ён жа Няптун, бог мораў і якой заўгодна вады, сын Хронаса і Рэі, утаймавальнік каня і выраблялньік землятрусаў, меў, згодна з Фукідыдам, храмы ў Калане, на Тэнары каля Нісеі і каля Менды, і атрымліваў у якасьці ахвяры карабель афінянаў (VI,844).

[22] Із больш пазніх перакладаў большасьці герметычных кніг можна паказаць на французкае выданне Louis Menard, 1868 г.

Із асабліва важных сьвятаў згадваюцца Алімпійскія ўрачыстасьці, спраўляючыяся раз на чатыры гады (пад час цотных юліянскіх «да Н. Х.» і няцотных – «пасьля Н. Х.») у жніўні ці ў верасні, і вялікія Панафінеі, якія святкаваліся на трэццім годзе кожнай Алімпіяды, у першай палове жніўня, калі Афінскай Панне прыносілася шыкоўнае адзенне, вышытае знакамітымі грамадзянкамі горада, у складзе ўрачыстай працэсіі, выява якай існуе на фрызах Партэнона. Гэтае сьвята супадае згодна з часам з Успеннем хрысьціянскай Панны-Марыі (15 жніўня).

А Дзыянісіі-Анфестэрыі (ці трохдзённае сьвята ў гонар Дыёніса) спраўляліся ў першай палове сакавіка, пры заходжанні Сонца ў сузор'е Авена, адпаведна хрысьціянскаму Вялікадню. Такім чынам, увесь апісаны Фукідыдам пантэон больш усяго адпавядае не дахрысьціянскай старажытнасьці, а першым і сярэднім стагоддзям хрысьціянства, г.азн. згодна з нашай храналогіяй перыяду паміж IV і X стагоддзямі нашай эры.

# Глава VI.

## Фукідыдава чума, яе час і наступствы.

Я ўжо не раз паведамляў, што кожная хвароба пад час сярэдніх стагоддзяў прыпісвалася ўплыву нячыстай магутнасьці і што дэманалогія была неад'емнай часткай усіх старажытных і сярэднявечных рэлігій. Таму цалкам відавочна, што ў выкладанні кожнага сапраўды старажытнага аўтара такая жахлівая хвароба, як чума, набыла б містычны характар. А што ж мы бачым у нашага Кадзіладацеля? – Самае сапраўднае навуковае апісанне!

«*Як кажуць*, – паведамляе Фукідыд, – *спачатку гэтая хвароба з'явілася ў Эфіёпіі, што за Ягіптам* (на 2-і год вайны), *потым спусьцілася ў Ягіпет і Лівію і ахапіла вялікую частку ўладанняў «пярсідзкага» цара. На Афіны хвароба абрынулася раптам і перш усіх ахапіла жыхароў Пірэя, чаму афіняне і казалі, быццам пелапанесцы атруцілі там цыстэрны, бо вадаводаў у тай час у Пірэі яшчэ не існавала. Пасьля хвароба ахапіла верхні горад, і людзі сталі паміраць у значна большай колькасьці*».

*«Гэты год у дачыненні да іншых хвароб быў самым здаровым. Калі ж хто перад тым і захварэў нечым, то кожная хвароба заканчвалася чумой. Тых, хто быў здаровы, раптам без бачнай нагоды, ахопліваў моцны жар у галаве, з'яўлялася чырвань і запаленне вачэй. Потым унутраныя часткі, гартань і язык, зацякалі крывёй, дыханне рабілася няправільным і смуродным. Пасьля гэтых сімптомаў пачыналася чыханне і хрыпата, а трохі пазьней пакуты пераходзілі ў грудзі, што суправаджалася жорсткім кашлем. Калі хвароба перакідалася на страўнік, яна выклікала млоснасць, і потым пачыналіся ўсе віды вывяржэння жоўці, пазначаемыя ў лекараў асобнымі найменнямі, пры чым хворыя адчувалі цяжкія пакуты. Потым у большасьці хворых пачыналася ікаўка без вывяржэння, што выклікала моцныя курчы, якія ў адных хутка спыняліся, у другіх працягваліся яшчэ доўгі час. Цела на-дотык не было занадта гарачым, яно не бялела, а было чырванавата-сінім, і на ім высыпалі бурбалкі і нарывы. Хворы так гарэў, што не быў у стане пераносіць дакранання самага лёгкага ваўнянага адзення, халщовых пакрывалаў і таму падобных, а распранаўся да голага цела і з асаблівым задавальненнем кідаўся ў халодную ваду»*.

*«Шмат хто, не маючы дагляду, пакутуючыя ад нясьцерпнай смагі, кідаліся ў студні. І было абыякава, ці піў нехта шмат, ці мала. Немагчымасць супакоіцца і адсутнасць сну безперапынна перасьледавалі хворага. Пакуль хвароба была ва ўсёй*

*магутнасьці, цела не слабела, а звыш чакаемага змагалася з пакутамі, так што хворыя большай часткай памiралi ад унутранага жару на сёмы ці на дзявяты дзень, усё яшчэ захоўваючы здольнасць рухацца*».

*«Калі хворы пераджываў гэтыя дні, хвароба спускалася ў жывот (на пахвінную вобласць), і там утвараліся моцныя нагнаенні-нарывы, суправаджаемыя жорсткім паносам, і большасць хворых, знясіленыя ім, паміралі*».

*«Узнікшы спачатку ў галаве, хвароба праходзіла па ўсяму целу, пачынаючы зверху. А калі хто пераджываў самы цяжкі стан, то хвароба давала сябе ведаць слабасьцю рук і ног. Гэтую слабасць зведвалі дзетародныя часткі, пальцы рук і ног, і шмат хто пасьля акрыяння гублялі гэтыя часткі, а некаторыя страчвалі і зрок. Былі і такія, якія адразу пасьля акрыяння забываліся пра ўсё і не пазнавалі ні саміх сябе, ні сваіх блізкіх. Што пакута ад гэтай хваробы перасягае якое б то ні было апісанне, відаць, між іншым, із таго, што яна ўражвала кожнага з такой магутнасьцю, якай не магла супраціўляцца чалавечая прырода. А што хвароба гэта ўяўляла сабой нешта незвычайнае, відавочней усяго бачна із наступнага: усе птушкі і чатырохногія, якія ядуць трупы – шмат хто із памёршых заставаліся непахаванымі – ці не набліжаліся да іх, ці, паспрабаваўшы іх, гінулі. Доказам служыць тое, што гэтыя пароды птушак на вачах ва ўсіх знікалі, і іх не было бачна ні побач з трупамі, ні ў нейкіх іншых месцах. Лепш усяго такое ўздзеянне трупаў заўважалася на сабаках, бо яны жывуць пры людзях*».

«*Такім быў агульны характар хваробы, пры гэтым мы апусьцілі шмат нязначных асаблівасьцей, якімі яна адзначалася ў асобных хворых. Ніякімі іншымі са звычайных хвароб людзі ў тай час не хварэлі*». «*Паміралі і тыя, за якімі не было дагляду, роўна як і тыя, якіх атачалі вялікімі клопатамі. Не знайшлося, можна сказаць, ніводнага медычнага сродку, ужыванне якога магло б дапамагчы хвораму: што было карысна аднаму, тое шкодзіла другому. Ніякі арганізм, ці быў ён дужым ці слабым, не быў у стане вытрымаць хваробу. Яна ахоплівала ўсіх без разбору пры якім бы там ні было ладзе жыцця. Самым жа жудасным пад час гэтага бедства быў заняпад духу. Як толькі пачынала адчувацца недамаганне, як захварэўшыя гублялі надзею, аддаваліся на волю лёсу і ўжо не супраціўляліся хваробе*». «*Самая вялікая смяротнасць паходзіла ад заразы*». «*Так апусьцела шмат сядзіб дзякуючы недахопу асоб, якія б даглядалі за хворымі. Калі ж іншыя і набліжаліся да хворых, то гінулі самі, больш за ўсё людзі, жадаўшыя зрабіць нейкую паслугу. Із пачуцця гераізму яны не шкадавалі сябе і наведвалі сяброў, нават калі самі сямейныя пад канец пакідалі сваіх, стомленыя горам і прыгнечаныя жудасным бедствам*».

*«Больш спачування да паміраючых і хворых выяўлялі акрыяўшыя ад хваробы, таму што яны самі перанеслі яе раней і былі ўжо ў бяспецы: другі раз хвароба, ва усякім разе са сьмяротным вынікам, не спасьцігала нікога. Багаслаўляемыя іншымі, яны самі ад надзвычайнай радасьці ў цяперашні час лёгка падпадалі пад надзею на тое, што ў будучым больш ніколі ніякая хвароба не будзе для іх сьмяротнай*».

«*У даваршэнне да напаткаўшага бедства афіняне былі прыгнечаны яшчэ прыбыццём народа із палетак у горад, асабліва прыхадняў. Дзякуючы таму што сядзіб не хапала, і летам яны жылі ў душных халупах, то яны і паміралі ў стане поўнага бязладдзя. Хворыя ляжалі адзін на другім, як трупы, ці поўзалі напаловупамёршыя па вуліцах і каля ўсіх крыніц, пакутуючы ад смагі. Сьвятыні, дзе размясьціліся ў намётах прыхадні, былі напоўнены трупамі, таму што людзі паміралі тут жа*».

«*Дзякуючы таму, што хвароба вельмі лютавала, то людзі, не ведаючы, што з імі будзе, перасталі шанаваць і божыя, і чалавечыя законы. Усе звычаі, якія раней выконваліся пры пахаванні, былі скасаваны, і кожны здзяйсняў пахаванне, як мог*». «*Зараз кожны лягчэй адважваўся на такія ўчынкі, якія раней хаваліся каб пазбегнуць нараканняў у разбэшчанасьці. Людзі бачылі, з якай хуткасьцю адбываліся змены з заможнымі, як яны раптоўна паміралі і як людзі, нічога раней не меўшыя, адразу набывалі маёмасць*

*нябожчыкаў. Таму ўсе жадалі хутчэй зведаць пачуццёвыя асалоды, лічачы аднолькава эфемернымі як жыццё, так і грошы. Ніхто не меў жадання загадзя пераносіць пакуты дзеля таго, каб выглядаць прыемным, таму што не было вядома, ці не загіне ён раней, чым дасягне гэтай прыемнасьці. Тое што было ў дадзеную хвіліну карысным для дасягнення прыемнага, тое і лічылася добрым. Людзей ніколькі не стрымлівалі ні баязнь бога, ні чалавечыя законы, бо яны бачылі, што ўсе гінуць аднолькава, і таму не лічылі маючым значэння, ці будуць яны паважаць богаў ці не будуць. З другога боку, ніхто не спадзяваўся дажыць да той пары, калі на судзе атрымае пакаранне за свае злачынствы. Значна больш цяжкім прысудам лічыўся той, які ўжо вісеў над галавой, а таму здавалася натуральным, перш чым ён насьцігне, нацешыцца хоць нечым ад жыцця*».

Але ж гэта, чытач, апісанне чумы падобнае на тое якое ёсць у Бакачыю ў 1348 годзе! Прачытайце ўводзіны да яго Дэкамерона, а нам кажуць: палюбуйцеся, як пісалі пра медыцынскія пытанні яшчэ за чатырыста гадоў «да Нараджэння Хрыста»! Прачытаем жа і далей.

«*Вось якое бедства абрынулася на афінянаў і прыгнятала іх у той час, калі ў сярэдзіне горада паміралі людзі, а за яго сьценамі спусташаліся нівы. У няшчасьці, як і натуральна, згадвалі пра наступны верш, гучаўшы, згодна са сведчаннем старых, са старажытнейшых часоў* (гэта азначае і для Фукідыда ўжо існавала старажытная літаратура!):

«*Пачнецца дарыйская сваркa і чума разам з ёю*!»

«*Узнікла спрэчка, быццам бы такую назву мела не чума* (λοιμός), *а голад* (κιμός). *Але пры маючыхся акалічнасьцях перамагла, без сумневаў, тая думка, што ў вершы маецца на ўвазе чума, таму што людзі дапасуюць свае ўспаміны да перажываемых бедстваў*». «*З другога боку, ведаючыя людзі згадвалі выслоўе аракула* (у Дэльфах), *дадзенае лакедэманянам* (г.азн. ворагам афінянаў), *калі на пытанне, выказанае богу* (Апалону), *ці варта ваяваць, – ён адказаў, што яны здабудуць перамогу, калі будуць ваяваць з поўнай напругай здольнасьцей, і абвясьціў, што сам будзе спрыяць ім. Выказвалася меркаванне, што падзеі апраўдалі гэтае прароцтва, бо за ўварваннем пелапанэсцаў у Афінах хутка прыйшла чума. На Пелапанэс жа хвароба не пранікла, ва ўсікім разе ў такіх памерах, каб была нагода гаварыць пра яе. Больш за ўсё яна ахапіла АФІНЫ, а потым і іншыя мясцовасьці, гусьцей усяго населеныя*» (11, 54).

Такое заканчэнне мае апісанне аўтарам чумы.

Разглядаючы гэтую хваробу з боку гледжання медыцыны і бяручы ў разлік уяўляемую старажытнасьць кнігі, W. Ebstein[23] прыходзіць да высновы, што гэта была не сучасная бубонная чума і не сыпны тыф, а P. Waltz[24], наадварот, думае, што гэта менавіта сучасная бубонная чума. Толькі выказванне «хвароба апускалася ў жывот і там утваралася моцнае нагнаенне», на яго думку, патрэбна чытаць: «хвароба апускалася на ніжнюю частку жывата, дзе ўтвараліся моцныя нарывы».

Згодна з нашым злічэннем гэтая хвароба прыпадае на час не раней, як каля 320-321 года нашай эры, ці апакрыфікавана са знакамітай «Юстыніянавай» чумы 542 года, ці із чумы падчас Крыжовых паходаў.

Вельмі магчыма, што пра яе і выказваўся Арыбасій: «у Ягіпце, Лівіі і Сірыі назіраліся чумныя бубоны вельмі смяротныя і вострыя», пры чым гісторыкі даасуюць гэтае паведамленне пра чуму да канца другога і пачатку трэцяга стагоддзя «пасьля Нараджэння Хрыстова».

Асаблівую ж вядомасць набыла ўжо згаданая чума пры Юстыніяне ў 542 г., узнікшая ў Ніжнім Ягіпце, Сірыі і Малой Азіі. Яна перайшла да вясны 543 года ў

[23] «Die Pest des Thukydides» («Deutsche medicinische "Wocheaschriftn, 1889, № 36).
[24] Revue des etudes grequos, XXVII (1914.).

Канстантынопаль, дзе, – кажуць нам, – у сярэдзіне эпідэміі памірала за дзень да 5 і нават да 10 тысяч чалавек. Памёршых звальвалі на караблі і выкідвалі ў Чорнае мора, а ўцекачы з горада разнеслі яе па ўсёй Яўропе.

Калі ж мы будзем лічыць, што ў кнігу «Кадзіладацеля» былі ўключаны і больш позьнія паведамленні і апокрыфы, то можам спыніцца і на самай жахлівай із усіх эпідэмій чумы, так званай «чорнай сьмерці», якая прыйшла каля 1350 года із Кітая праз Індыю і Месапатамію ў Яўрапу, аж да Нарвегіі і нават Грэнландыі, а таксама і ў Паўночную Афрыку.

Кажуць што ад яе памёрла не менш чвэрці ўсяго насельніцтва Яўропы, але, у адрозненне ад апісанай, яна кідалася больш усяго на лёгкія.

Згадаўшы, што ў 395 г. Апакаліпсіс пагражаў грэшнікам агіднымі нарывамі на целе і сьмерцю ад жудаснай павальнай хваробы, прыносімай анёламі-знішчальнікамі і вершнікамі, імя якім «сьмерць», мы можам сабе ўявіць, як яна спрыяла развіццю рэлігійных забабонаў. І калі над хрысьціянскай рэлігіяй носіцца яшчэ, так бы мовіць, попел даўніх вывяржэнняў Вязувія, то ў глыбіні яе дэманалогіі яшчэ не памёрлі і чумныя мікробы (мал. 102).

Я не магу тут разважаць пра ўплыў павальных эндэмічных хвароб на псіхіку зведаўшых іх пакаленняў і на вынікаючыя із гэтага ўчынкі цэлых народаў, а хачу толькі паказаць, што гэты прадмет заслугоўвае асаблівага вывучэння. Гэтыя ж мікробы (мал. 102-110) далі нагоду да сярэднявечным уяўленням пра дэманаў.

Возьмем хаця б моцны выбух чумы ў Яўропе на прыканцы XI стагоддзя. Ці думаў хто-небудзь, што яна была істотнай нагодай крыжовых паходаў? А тым часам гэта так.



Мал. 102
Бактэрыі чумы (Bacillus pestis).



Мал. 103
Мікроб (Spirochaete pallida).



Рыс. 104
Мікробы вяртаючагася тыфа (Spirochaete Obermeieri).



Рыс. 105
Туберкулёзная бацыла (Bacillus

tuberculosis).



Рыс. 106
Халерны вібрыён.



Рыс. 107
Дызентерыйная амёба.



Рыс. 108
Бацылла брушнога тыфа.



Рыс. 109
Дызентэрыйная палачка.

Сярэднестагоддзевыя дэманы-катавальнікі пад сучасным мікраскопам.
(Із «Падставы Эпідэміялогіі» акадэміка Забалотнага.)

Прайшоўшы, як і толькі-што апісаныя выпадкі, у лютай форме па Заходняй Яўропе, яна адразу пранікла і ва Ўсходнюю і ў 1090 г. за два тыдні загубіла ў Кіеве 7 000 чалавек.

Само сабай зразумела, што ніводная із вядомых нам гістарычных першакрыніц не тлумачыла ёю стыхійны рух еўрапейскіх народаў да вызвалення «труны госпада» ад іншаверцаў у далёкай Палестыне, хаця і прызнавала, што крыжакі моцна пакутавалі ад чумы.

Але параўнайце вы самі храналагічныя даты гэтых абодвух эпідэмій, і вы заўважыце паміж імі непарыўную сувязь. Эпідэмія чумы прайшла, як мы бачылі, па Яўропе каля 1090 года, і сьледам за гэтым Пятро Пустэльнік, вернуўшыся із пілігрымства да «труны госпада», пачынае маляваць, – як кажуць нам, – яскравыя выявы не існаваўшага прыгнёту «прававернымі» і «ісламітамі» і заклікаць усе народы да выгнання із Палестыны няверных.

Няма ніякіх сумневаў, што калі б ён абмежаваўся простымі заклікамі, не паведамляючы пра больш істотныя матывы, то вынікам яго прамоваў было б толькі платанічнае жаданне, не пераходзячае да дзеянняў (таму што масы еўрапейскага насельніцтва не былі зацікаўлены ў такім паходзе ў далёкія краіны). Вынікам было б тое ж самае што і ў нас, калі у 1920 годзе аглядалі мошчы: вернікі толькі з цікаўнасьцю чакалі, як «сьвятыя» абароняць самі сябе, і былі вельмі разачараваны, калі нічога не здарылася. Але ўявіце сабе, які выбух фанатызму адбыўся б, калі б адразу пасьля гэтага выпадкова ўзнікла яшчэ невядомая насельніцтву павальная сьмяротная хвароба?



Мал. 110
Узбуджальнік крупознай пнеўманіі (Pneumococcus lanceolatus).

Нешта падобнае адбылося і перад першым крыжовым паходам. Незадоўга перад гэтым, як я ўжо даводзіў у першай кнізе, узнікла евангельскае хрысьціянства, перанёсшае ў Палестыну слупаванне першапачатковага апакаліптычнага Хрыста і прыпісаўшае гэта быццам бы жывучым там юдэям, а пагрозы Апакаліпсіса нявернікам усё яшчэ працягвалі чытацца і абмяркоўвацца. І раптам грымнула жудасная хвароба, як доказ вялікага гневу бога на сваіх прыхільнікаў...

Натуральна ўзнікла пытанне: За шта? – За тое, – адказвалі ім Пятро-Пустэльнік і фанатызаваныя ім манахі, – што вы пакінулі няверным труну вашага ратавальніка, сына боскага ў Палестыне, і вы ўсе пагалоўна памрэце за гэта.

Іншага тлумачэння не было, і вось фізічная чума мае наступствам за сабай чуму душэўную. Абараніўшыся ад яе крыжамі на грудзях, напалоханае мужчынскае насельніцтва амаль ці не цалкам кідаецца ў Палестыну вызваляць труну госпада, каб пазбавіць сябе і сваіх жонак і дзяцей ад жудаснай сьмерці. А іхныя сем'і, падахвочваемыя жахам, самі заахвочваюць іх.

З гэтага ж боку гледжання мы павінны глядзець і на апісаную (відавочна ўжо вальнадумным аўтарам эпохі Адраджэння!) фукідыдаву чуму. Ніякі старажытны аўтар не мог бы апісаць яе так безстаронне, без увядзення ў апавяданне разважанняў пра гнеў божы і разгул дэманаў, і, акрамя таго зразумела, што нагодай да яго апавядання без сумневаў была рэчаісная чума, бачаная аўтарам, ці пра якую захаваліся запісы.

Спынімся пакуль на «Юстыніянавай чуме».

Ці не было і пры ёй чагосьці падобнага на крыжовы паход? Выяўляецца, што – так. Яна, як я ўжо паведамляў, прыйшла із Заходняй Азіі ў Яўрапу праз амаль вымершы ці разбегшыся Канстантынопаль вясной 542 года, а потым у 562 годзе ў Італію прыходзяць лангабарды з сярэдняга Дунаю, і славяне кінуліся на захад і не супакоіліся аж да 600 года... Гэта быў апошні наплыў «вялікага перасялення народаў. А ці не былі іншыя наплывы V стагоддзя таксама ў сувязі з прыступамі той жа хваробы?

Назіраючы ў Месапатаміі парэшткі адразу пакінутых жыхарамі мястэчак, якія, відавочна, доўга не наведваліся навакольным насельніцтвам, бо там шмат чаго ацалела пад больш пазьнімі адкладаннямі, мы не знаходзім гэтаму экстравагантнаму ўчынку і наступнаму стаўленню да пакінутых мястэчак ніякага іншага тлумачэння, акрамя доўгага забабоннага жаху нават перад іхнымі парэшткамі дзякуючы нейкай істотнай нагодзе. А гэтай нагодай магла быць толькі заразлівая чума.

Я ўжо разглядаў у папярэдніх тамах залежнасць гістарычнага ходу духоўнай культуры чалавецтва і яго рэлігійных вераванняў ад геаграфічных, геафізічных і астранамічных з'яваў і ад паступовага развіцця матэрыяльнай культуры, і рабіў із гэтага выснову пра патрэбу для сур'ёзнага гісторыка мець папярэдняе знаёмства з адпаведнымі навукамі, а тут я хачу дадаць да іх таксама патрэбу знаёмства як з мікрабіялогіяй так і паталогіяй (мал. 102-110).

* * *

Рэзюмуючы ўсё павядомленае, мы прыходзім да высновы, што гісторыя змагання дарыйцаў і іянійцаў, якая прыпісваецца Фукідыду, з’яўляецца апакрыфічным апавяданнем пра змаганне латынян (лаканійцаў) з грэкамі (іянійцамі) за палітычную гегемонію, напісаны аўтарам эпохі Адраджэння гунтуючыся на нейкіх меўшыхся ў яго дастаткова дакладным дакументах адносна незвычайных з'яваў прыроды і чалавечага жыцця. Час, які ён апісвае, не раней чым час Кастуся Вялікага (Кастуся Архі-Дамаса), храналагічна налягаючы на першы перыяд вайны, і яго сына Канстанцыя, які налягае на другі перыяд ужо пад час дзяцінства евангельскага Хрыста, які такім чынам павінен быць сучаснікам Перыкла, Фідыя, Анаксагора, згадваных у Фукідыда.

У такім выпадку «стагоддзе Езуса», ці IV стагоддзе нашай эры, выявілася б з нашага боку гледжання вельмі багатым на выдатных дзеячоў у галіны навукі, мастацтва, літаратуры.

Аднак, у апісанні «Фукідыда», зробленых на некалькі сот гадоў пазьней, непазбежна павінны былі пракрасьціся анахранізмы ў апісанні такіх не кідаючыхся ў вочы праяваў грамадзкага жыцця, як незаўважаемае развіццё культу ці дзяржаўнай і матэрыяльнай культуры, не абуджаўшых у свой час асаблівай увагі сучаснікаў, якія пазначалі ў сваіх запісах толькі незвычайнае. Гэта трэба заўсёды мецьна ўвазе пры вывучэнні дасьледуемай кнігі. Дакладна тое ж можна сказаць і пра апісанне Фукідыдам суседніх краін, адносна якіх у яго не было пад рукой дакументаў, і пра апісанне ім дробных дэталяў розных падзей.

Ён увесь час фантазіруе, і рэчаісная гісторыя пераходзіць у яго ў гістарычны раман з усімі эмбрыянальнымі асаблівасьцямі рыцарскіх раманаў эпохі Адраджэння: з доўгімі маналогамі герояў і рытарычнымі адступленнямі ад асноўнага сюжэту.

А акрамя ўсяго гэтага ніяк немагчыма пакінуць без увагі і тое, што я тут паведамляў і пра зацьменні, апісаныя ў Фукідыда (стар. 509-510). Больш менш дапасуючае рашэнне для іх астраномія дала не для часоў валадарання Кастуся І, калі першае зацьменне было поўным толькі на поўначы Балканскай паўвыспы (гл. мапу, стар. 505), а толькі для перыяду 1133-1151 гадоў (гл. мапу, стар. 509), для эпохі крыжовых паходаў, г.азн. таксама для перыяду змагання за гегемонію паміж лацінскім Захадам і грэцкім Усходам. Але з каго ж тады спісаны героі Фукідыда?

Ва ўсякім разе, гэта кніга напісана не раней Дэкамерона Бакачыю.

# Частка чацьвёртая

## Супастаўленні. Антычны тэатр і антычная архітэктура.



Мал. 111
Агульнадаступны тэатр Дзыянісія ў Афінах у яго сучасным стане. Дапасуецца класікамі да глыбокай старажытнасьці, але належачы, хутчэй усяго, да часу Афінскага крыжацкага феадальнага герцагства (1204-1460 гады нашай эры).

# Глава I.

## «Антычная» драма як сястра набажэнстваў.



Мал. 112
Камічная і дзьве трагічныя «маскі антычнага тэатра». Згодна з Вагнерам. Узор першабытнага акторства.

Я не магу тут не сказаць хоць некалькі слоў пра элінскую літаратуру, якая мае асабліва блізкае дачыненне да дамінуючага прадмета майго дасьледавання: эвалюцыя рэлігійных уяўленняў. Сама ж назва тэатр з’яўляецца скарочаным тэатрыум, г.азн. пярэдадне багоў, камедыя – азначае, шэсьце ў гонар бога, трагедыя – азначае, ахвяры богу[25], а ў хрысьціянскім рытуале і да гэтага часу ужываецца сугучны выраз для царкоўнай службы: прас-камідыя хоць яе і выводзяць зараз ад προςκομίζω – прыношу.

І царкоўная служба, і тэатральныя пастановы дзва розныя адгалінаванні, вырасшыя з аднаго і таго ж кораня, а таму для разумення першай галінкі трэба пазнаёміцца і з другой, і з іх агульным коранем.

Што было раней: царкоўныя пастановы ці свецкія?

Вядома, царкоўныя. Паглядзіце толькі на царкоўныя падмосткі. На іх выходзяць толькі сьвятар і дыякан ці псаломшчык. Іхныя вымаўленні не складаныя, і ім дапамагае толькі хор на клірасе. А як далёка пайшоў ад гэтага сучасны свецкі тэатр, дзе на падмостках з'яўляецца шмат людзей, а ва ўверцюрах выконваюцца складаныя музычныя кампазіцыі! І калі мне запярэчаць, што антычны складаны тэатр папярэднічаў нашаму набажэнству, якое з'яўляецца толькі яго ўпадніцкім перараджэннем, то я адкажу: антычны тэатр – гэта гістарычны міраж, простае адлюстраванне ў глыбіні стагоддзяў тэатра Эпохі Адраджэння.

Нас пераконваюць, што грэцкая трагедыя пышна расквітнела на ўзбярэжжах Іанійскага мора яшчэ ў VI стагоддзі да нашай эры, і нават дакладна пазначаюць, што Сафокл нарадзіўся ў мінус 490 г., а Эўрыпід – у мінус 480 г. Але прачытайце

---

[25] «Слова τραγώδία (трагайдзія) звычайна выводзіцца ад τραγός – казёл і ώδή – песьня. Аднак жа казліны спеў мае мала агульнага з трагічнымі пастановамі. Я думаю, што тут арфаграфічная памылка перапісчыкаў, зробленая яшчэ пад час дадрукарскага перыяду, і што першапачатковае значэнне было: τραγόι-Δίι, што.азн. ахвяры богу, з нагоды звычаю снежаньскага ўсенароднага ахвяравання жывых істот, калі сузор'е Казярога апускалася ў полымя вечаровага зарыва як бы для ўсеспалення і для будучага аднаўлення цэлым з полымя ранішняга світання. Адсюль жа, напэўна, паходзяць і гладыятарскія баі, у турніры рыцараў, і баі быкоў у Гішпаніі. А адносна камедый непагаднення няма. Усе прызнаюць, што κωμωδία — κῶμοί-Δίι – шэсьці ў гонар бога.

гэтых пісьменнікаў (хаця б у рускім перакладзе ў выдатных выданнях «Помнікаў сусветнай літаратуры» братоў Сабашнікавых) у перамежу з напалову фантастычнымі драмамі Шэкспіра нападобе «Перыкла», «Карыялана», «Антонія і Клеапатры», ці «Сну пад час летняй ночы», і вы самі заўважыце, што падабенства дзіўнае. І ў Шэкспіра ў XVII стагоддзі тыя ж прыёмы з пралогамі і эпілогамі, з грэцкімі імёнамі дзеючых асоб, з уяўляемым старажытна-грэцкім адзеннем, а ў некаторых выпадках, хаця б ўжо і напалолу жартаўліва, і з дадаваннем да дзеяння фантастычных істой і ўяўляемых старажытна-грэцкіх богаў. І месца дзеяння абавязкова пераносіцца ў аддаленую Элладу, хаця Шэкспір ніколі і не быў у Грэцыі.

Яшчэ больш мы бачым тое ж самае ў Францыі, у Расіна і Карнэля. Я не маю магчымасьці перапісваць тут цалкам цэлыя камедыя і драмы ўяўляемых старажытна-грэцкіх аўтараў у параўнанні з такімі ж творамі ўсім вядомых заходне-еўрапейцаў першых трох стагоддзяў друкарскага перыяду, пачынаючы ад 1456 г. Зрабіце гэта вы самі і, калі ў вас існуе хаця б невялікі літаратурны нюх, то вы самі зараз жа пабачыце і скажаце, што тут тая ж самая літаратурная школа і тая ж самая эпоха. А калі аднаго простага літаратурнага нюху для вас недастаткова, каб адмовіцца ад наданых вам старых ідэй, то зірніце хаця б на аздабленне падмосткаў, неабходнае для пастаноў класічных твораў.

Вось, напрыклад, сцэнар перад пачаткам «Трахеянак» Сафокла якім ён дадзены ў рускім перакладзе:

«*Дзеянне адбываецца на пляцы перад сядзібай Дыяніры ў Трахіне. Фасад сядзібы бачны пад касым кутом з правага боку падмосткаў. Перад ім накрыты порцік, із якога шырокія дзьверы вядуць у сядзібу. У порціку стаяць крэслы Дыяніры і на іх амаль ужо гатовы мужчынскі плашч. Перад ім сядзенне. Перад калонамі порціка, абвітага плюшчам, статуі багоў-апекуноў. Пасярэдзіне Апалон і Артэміда, па баках Гермес і Дыёніс. Налева ад порціка брама, вядучая ў двор. Фон падмосткаў утварае гара Эта, на вяршыні якай расьцілаецца сенажаць эгейскага бога-Грамабоя. Налева, дзе падмосткі заканчваюцца, мяркуецца спуск праз горад да Фермапілаў і да мора*»[26].

Праўда, у грэцкім тэксце апісання падмосткаў няма, але гэта ўсё адно. Яно мяркуецца, бо інакш пастанова немагчыма, і кніжка прыдатная толькі для чытання, пры якім атачэнне само сабай малюецца чытачу згодна са зместам апавядання.

І такія падмасткавыя анахранізмы мы бачым не ў аднаго Сафокла, а і ва ўсіх старажытных драматургаў. Вось, напрыклад, хоць бы «Прыгажуня Алена» Эўрыпіда, пастанова якой на афінскіх падмостках, згодна з надпісам, наладжана роўна за 412 гадоў да «Нараджэння Хрыста».

*У яе сцэнары на пярэднім плане знаходзіцца магільня памёршага цара. За ёю сьцяна крамля, у якога брама адчынена насьцеж. Далей узгорак, на якім узвышаецца раскошны палац Феаклімена, але яго дзверы зачынены. Выява першая. Перад магільняй на ляжанцы із лісьця і галін Алена. Раніца. Царыца паднімаецца з ложка.*

*АЛЕНА*.

*Тут бачацца Нілу некранутыя хвалі.*
*Наўзамен расы нябеснай ён поіць,*
*Толькі снег* (!!) *знікне ў Ягіпце, па нізінах ляжачых палетак*...[27]

---

[26] Прыняўшы за правіла для эканоміі часу перачытваць класікаў у перакладах, я пазначаў цікавячыя мяне месцы і правяраў іх, перш чым цытаваць, згодна з арыгінальным тэкстам. Для Сафокла я браў за ўзор Лейпцыгска выданне E. Mekler'a: Sophoclis Tragoediae. 1882 г.

[27] Νείλου μέν αίδε καλλιπάρθενοι ροαί   Ος άντί δίας Ψακάδος Αίγύπτου πέδου   Λευκε̃ς τατείσες χιόνος (!!) ύγραίνει γύας...

Чытач сам разумее, што фарба сораму на твары не дазваляе мне засяроджваць яго асаблівую ўвагу на снезе, пакрываючым Ягіпет і лежачым спакойна –

*Там, дзе вечна чужы цені мые жоўты Ніл*
*Распаленыя прыступкі царскіх магіл...*

Скажу толькі, што прыдумаць такую недарэчнасць не мог ніводзін іянійскі ці нейкі іншы грэк, а толькі француз – не паўднёвей Парыжа, ці германец – не паўднёвей Вены.

Але зноў звярніце ўвагу на начыненне падмосткаў, асабліва патрэбнае пры чацьвёртай выяве, калі «*на фоне світання адна нявольніца нясе высока паднятую паходню і чарку, у якай дыміцца сера, а яе спадарыня спыняецца і доўга глядзіць на перадсвітанкавае неба*».

Як магчыма было нават напісаць усё гэта без папярэдняга знаёмства з абмежаванымі заходне-еўрапейскімі падмосткамі, хоць б пярэдадня Шэкспіра? І калі Шэкспір уздымаецца сваім літаратурным геніем над гэтымі «класічнымі аўтарамі», як магутны дуб над атачаючым яго дробным дубняком, то ўсё ж адразу бачна, што і гэтыя меншыя пісьменнікі не разлучаны з ім прамежкам у дзьве тысячы гадоў.

Яшчэ складаней начыненне падмосткаў у тых месцах «класічных аўтараў», дзе з'яўляюцца багі. Вось, напрыклад, трагедыя «Геркулес» таго ж Эўрыпіда, на якай сціпла напісана, што яе пастанова «паладжана ў Афінах каля 420 года «да Нараджэння Хрыста».

Пастанова чацьвёртая.

*Набягае змрок. Глухія грымоты. У паветры над сядзібай Геркулеса паказваецца крылатая маладая багіня Ірыда ў шафранавым плашчы і вельмі кастлявая істота, Ліса, са змеямі ў чорных валасах і з агідным тварам, у чорным адзенні. Яна прамаўляе з вышыні:*

*Гэтулькі жаху і сьмерці стрэлы маланак не насілі,*
*Колькі жаху і выцця і вар'яцкіх уздрыганняў*
*Я прынясу ў сядзібу Геркулеса.*
*Я палац яго разбуру, раскідаю калоны сядзібы,*
*Але перш дзяцей заб'е ён.*
*Так! Сваёй рукай маленькіх заб'е ён без усведамлення!*
*Доўга, доўга пасьля будзе сон яго крывавы працягвацца.*

(абедзьве знікаюць.)

Я зноў дадам: у грэцкім тэксце, згодна з якім я пераўноўваў пераклад[28], ніякага апісання падмосткаў не існуе але яно дададзена перакладчыкам слушна: без такога аздаблення наладзіць пастанову перад гледачамі «Алены» і «Геркулеса» немагчыма.

[28] Euripidis Tragoediae. Выд. Aug. Nauckii, Lipsiae, 1857.

| | | |
|---|---|---|
| Частка I. Вершы 254-386. | 271-280. Ямбічная сістэма. | Хор старых. |
| | 281-285. Ямбічныя тетраметры. | |
| | 286-295, Ямбічная сістэма. | |
| | 296-305. Ямбічная сістэма. | |
| | 306-318. Ямбічныя тетраметры. | |
| | 319-335. Харэямбы. | Хор жанчын. |
| | 336-349. Харэямбы. | |
| | 350-386. Ямбічныя тэтраметры. | Абодва хоры. |
| Частка II. Вершы 387-613. | Уступленне 387-416. Ямбічныя трыметры. | Скасавальніца Войска і Дарадчык. |
| | 417-485. Крэтыкі. | Хор старых. |
| | 486-537, Анапестычныя тетраметры. | Скасавальніца Войска і Дарадчык. |
| | 538-550. Крэтыкі. | Хор жаншчын. |
| | 551-613. Анапестычныя тетраметры. | Скасавальніца Войска і Дарадчык. |
| Частка III. Вершы 613-705. | 613-625. Крэтыкі. | Хор старых. |
| | 626-635. Харэічныя тетраметры. | Правадыр старых. |
| | 636-648. Крэтыкі. | Хор жанчын. |
| | 649-658. Харэічныя тетраметры. | Правадыр жанчын. |
| | 659-670. Харэічныя сістэма. | Хор старых. |
| | 671-680. Харэічныя тетраметры. | Правадыр старых. |
| | 681-695. Харэічныя сістэма. | Хор жанчын. |
| | 696-705. Харэічныя тетраметры. | Правадыр жанчын. |
| Частка IV. Вершы 706-979. | 706-780. Ямбічныя трыметры. | Скасавальніца Войска і жанчыны. |
| | 781-806. Харэічная сістэма. | Хор старых. |
| | 807-828. Харэічная сістэма. | Хор жанчын. |
| | 829-979. Ямбічныя трыметры. | Асляпляючая і ее чалавек. |
| Частка V. Вершы 980-1216. | 980-1013. Ямбічныя трыметры. | Спартанскі і афінскі вестуны. |
| | 1014-1072. Харэічная сістема. | Паловухоры аб'яднанага хора. |
| | 1073-1188. Ямбічныя трыметры. | Спартанскія і афінскія пасланнікі. Скасавальніца Войска. |
| | 1189-1216. Харэічная сістэма. | Паловухоры аб'яднанага хора. |
| Эпілог. | Вершы 1217-1320. Ямбічныя трыметры і лірычныя сістэмы. | Усе. |
| У схеме пазначаны толькі асноўныя размеры. Размеры, сустракаючыяся ў якасьці дадатковых да асноўных, з мэтай спрашчэння табліцы, не бяруцца да ўвагі. | | |

І вось, – я і тут толькі пытаю чытача: ці можна дапусьціць нават думку, што толькі-што разабраны «Найлепшы Асвятляльнік Нораваў» напісаў 44 такіх нецырымонных (і доўгіх) камедый няйнакш як з дапамогай шыпа ад ружы на кляновых лістах, пад час калі ў шчасьлівай старажытнай Грэцыі яшчэ бегалі за сваімі статкамі голыя аркадзкія пастушкі і пастушкі, калі яшчэ не было вядома хуткапісання і нават пішчай паперы, вынайдзенай маўрамі толькі пад час сярэдніх стагоддзяў? Ці можна сабе ўявіць, што і тады на тэатральных падмостках з мастацкім аздабленнем спяваліся песенькі, падобныя ўкладзенай тут у вусны Пераможна-Прыгожай:

*«Ах! што ж зрабіць можам мы разумнага*
*І ўхвальнага, мы жанчыны, прыбіральніцы,*
*У шафранавых хустачках, пераборлівыя,*
*У фальбонках нянецкіх, у напаловутуфліках»?*

І ці не больш праўдападобнымі з’яўляюцца тут харэямбічныя чатырохвершшы із оды старых у гэтай самай камеды:

*«Як шмат дзіўнага нас чакае ў доўгім, доўгім жыцці!*
*Ну хто б паверыў, Стрымодор, у тое, што тут здарылася?»*

Мне здаецца, дастаткова толькі прачытаць нейкую із класічных камедый пасьля таго, як пазнаёмішся хаця б толькі з Бокачыю і Рабле, для таго, каб пабачыць, што гэта вырабы адной і той жа эпохі, і што прамая лінія, злучаючая, згодна з удалым выказваннем Піятроўскага, падобныя камедыі з аднастайнымі згодна са стылем і зместам творамі і апокрыфамі Эпохі Адраджэння, не такая ўжо неверагодна доўгая, як гэта думаюць да гэтага часу, а наадварот – вельмі караценькая.

# Глава III.

## Цырк, тэатр і царква пад час сярэдніх стагоддзяў.

Нагадаю ж зноў павядомленае тут у першай частцы, адносна таго, што царква, кірха і цырк з’яўляецца адным і тым жа словам у трох розных вымаўленнях, пра што не можа быць, вядома, ні ў каго сумневаў, а такім чынам не можа быць сумневаў і ў першапачаіковым адзінстве прадмета, які меў такую назву.

Слова sermo, якое азначае царкоўная служба, набыло ў множным ліку значэнне «цырымонія» (sermones).

Non sermonalis sed rationalis deus (не набажэнскі, а рацыянальны бог), – выказваецца Тэртуліян. А выказванне theatrales sermones – тэатральныя набажэнствы ў сэнсе ўжо адкінутых, пастаянна сустракаецца ў больш позніх хрысьціянскіх пісьменнікаў.

Слова «тэатр (theatrum, θέατρον)» звычайна выводзяць ад «тэама (θεάμα)» гледзішча, але, мне здаецца, што хутчэй усяго само гэтае слова паходзіць ад слова тэатра, бо яно і дапасуецца толькі да тэатральных пастаноў. Звычайнае ж відовішча па-грэцку мае назву опсіс (ὄψις) і эйдас (ἔιδος) – выгляд, ці та-арата (τα όρατά) – назіраемае, адкуль і аратас (όρασής) – назіральнік. Такім чынам, існуючае зараз тлумачэнне ўзнікнення слова «тэатр» цалкам няправільнае. Першы склад «тэ» ў слове тэатр з’яўляецца хутчэй усяго коранем слова тэас (θεός) – бог, якім ён з'яўляецца і ў слове тэ-ўргія (θε-ουργία) – боскае дзеянне, боская оргія (адкуль і хрысьціянская літургія – ад літэ (λιτή) – малітва, літыя, і ад оргія. Падобным жа чынам утварылася і грэцкае слова – тэойнія (θε-οινια) – прычашчэнне, ад тэ (θεος) – бог і ойнэ (οΐνη) – віно, так што згодна з першпачатковым сэнсам праваслаўнае прычашчэнне проста азначае – богавінаспажыванне. Із гэтага ж бачна і тое, чаму ў хрысьціянскіх цэрквах сьвяты дух сімвалізаваўся голубам: дзікі голуб па-грэцку мае такую ж назву, як і віно – ойнас (οΐνας) і таму яго выява на царкоўных дзьвярах была проста знакам піцця віна, падобна таму, як на булачных вывешваецца завітушка. А пазней голуб ператварыўся ў галубку (перыстэра па-грэцку).

Такім чынам, што да сэнсу першага склада «тэ» ў слове тэатр няма ніякіх сумневаў: яно азначала боскі. Але не цяжка заўважыць, што і заканчэнне “атр” тут хутчэй усяго паходзіць ад грэка-лацінскага atrium – бабінец царквы, сенцы, уваход, і ўсё найменне “тэатр” набывае тады поўны сэнс: уваход да багоў. Напэўна,

першапачаткова тут было *тэ-атрыум*, ці, згодна з першапачатковым вымаўленнем, *тэ-атрыён*, а ў грэцкіх краінах ператварыўшаяся ў *тэ-атрон*, якім мы яго і маем зараз у Грэцыі, хаця магчыма і тое, што гэтае слова паходіць ад θε-ορατα (тэарата) – богавідовішча.

Із гэтага мы бачым, што тэатр пры сваім узнікненні меў чыста рэлігійнае значэнне, і яго камедыі не дарэмна маюць тую ж назву, як і хрысьціянская царкоўная служба (па-грэцку: праскамідыя, г.азн. у перакладзе прад-камедыя)[46].

Із усяго павядомленага мы бачым, што лаціны перадалі славянам свае цыркі ў выглядзе цэркваў, а наўзамен за іх славяне перадалі старажытным італійцам свайго «бога». Слова ж Бахус (Bachus) без сумневаў з'яўляецца латынізаваным славянскім словам бог (згодна з вымаўленнем ***б о х***), перайшоўшым у Італію разам са славянскімі наймітамі і нянькамі-нявольніцамі ў выглядзе богуса і перайначанага пазней у Бахуса. А ў Грэцыі той жа «бог» набыў назву Бахос (Βάκχος) і вярнуўся назад у славянскія землі ў выглядзе бога вінаробства Вакха з яго папойкамі.

Дакладна так жа і лацінская назва храма «templum» адназначная з цыркам, таму што асобна пазначала: месца для відовішчаў, адкуль паходзіць і слова «contemplator» – назіральнік, як антытэза актору, г.азн. дзейнічаючай асобе. Qua tuemur, templum est (храм з'яўляецца месцам, дзе назіраюць) – выказваецца Тэрэнцый. А ў Феста чытаем: contemplari dictum est a templo, id est loco qui ab omni parte aspici, vel ex quo omnis pars videri potest, quern autiqui (!?) templum norainabant (глядзець належала із храма, г.азн. із месца, якое ты маеш магчымасць назіраць з усіх бакоў, ці із якога кожную частку маеш магчымасць назіраць: яно ў старажытных мела назву храм).

Дакладна таксама і па-жыдоўску храм мае назву Е-ІКЛ-ІЙ ה-ללי-יי – боскае атачэнне, г.азн. боскі цырк, ад кораня КЛЛ – абдымаць, ахопліваць, атачаць. А іншая старажытная жыдоўская назва тэатра «тэрасы відовішча»[47] ці проста вышыні сустракаецца часта і ў Бібліі. «Вынішчу», – кажа прароцтва Іезекііл (48.35) – акторнічаючага на падмостках і кадзячага сваім багам[48].

І мы разумеем зараз, чаму слова БМЕ па-жыдоўску лічыцца да гэтага часу загадкавым: яно пазначае грэка-лацінскія тэатральныя эстрады, а не натуральныя ўзгоркі, на якіх быццам бы здзяйсняліся паганскія набажэнствы ў Сірыі.

Дакладна так жа і само рускае слова «храм» паходзіць, хутчэй за ўсё, ад біблейскага Ха-Ромун (רמון-ה). г.азн. раманскі ці рымскі, адкуль і палац, г.азн. рымскія сядзібы.

Такімі выяўляюцца філалагічныя сляды, выводзячыя нас і тут на натуральна навуковы шлях дасьледавання, паза сляпым даверам да славесных паведамленняў, дайшоўшых да нас праз дзясятыя рукі і маючых няправільную назву «сведчанні старажытных». Але гэтыя сьляды, як амаль і бывае заўсёды, шмат у чым ужо сьцёрліся і пераблыталіся з іншымі чужымі, а таму нам патрэбна іх правяраць іншымі першакрыніцамі (якімі з'яўляюцца ў дадзеным выпадку парэшткі старажытных храмаў і тэатраў), а таксама і маючыміся ў нас пісьмовымі паведамленнямі. Для выразнасьці ўяўленняў я буду карыстацца і тут метадам пераходу ад нядаўняга і добра вядомага да далёкага і цьмянага, каб будучае

---

[46] Προσκομιδη (праскамідэ) – пярэдадзень.

[47] במות חזיון (БМУТ НЗІУН) – узвышша для назірання ці проста חמב (БМЕ) – вышыня.

[48] אלהונ-ל מקטיר ו במה מהלה (МЕЛЕ БМЕ Ў МКТІР-Л АЛЕУН).

асьвятляла нам папярэднічаўшае. Каб быць безстароннім, я знарок буду выказвацца і тут у фактычнай частцы непасрэдна словамі маіх першакрыніц. Таму што прадметам гэтай часткі не з’яўяецца паведамленне чытачу нейкіх новых фактаў із гісторыі тэатра, а толькі новае каардынаванне старых ужо вядомых паведамленняў, з боку гледжання эвалюцыйнай тэорыі, пануючай зараз ва ўсіх дакладных навуках, але з якай сучасная тэалогія, і непарыўна злучаная з ёю старажытная гісторыя, усё яшчэ стаяць у дзіўнай супярэчнасьці.

Маёй першакрыніцай паслужыць тут, галоўным чынам, кніга Г. К. Лукомскага «Старажытныя тэатры» (1913 года). Аўтар яшчэ падзяляе меркаванне пра глыбокую старажытнасць «антычнага» тэатра і, такім чынам, пагаджаецца з больш чым тысячагадовым пустым прамежкам ў яго эвалюцыі, хоць і сам здзіўляецца такаму перапынку. Але калі пачынаеш чытаць яго кнігу ад пачатку да канца, то храналагічны зрух выяўляецца і тут сам сабой, і сярэднявечнае нараджэнне антычнага тэатра, які павінен быць з эвалюцыйнага боку гледжання непасрэдным папярэднікам тэатральнага псеўда-рэнесансу, вымалёўваецца з дзіўнай выразнасьцю. Спачатку я ставіўся вельмі адмоўна да гэтай кнігі, але потым перамяніў сваю думку пра яе, праверыўшы сумнеўныя для мяне месцы грунтуючыся на першакрыніцах, пры гэтым аўтар заўсёды выяўляўся маючым рацыю.

Сваё дасьледаванне тэатраў сярэднявечча ён пачынае нямецкім вершам Фуртэнбаха[49], аўтара першай паловы XVII стагоддзя, малюючага ў такім выглядзе стан тагачасных падмосткаў:

*Wie sich das blau Gewolb sampt Soon, Mond und den Sternen,*
*Und Donoer und der Blitz, der Regen uod der Schnee,*
*Wurd allhie furgestelt dazu die wittend See.*
*Das nun dies alles fall dem Menschen in die Augen.*
*Und jedes seinem Orth und Person recht mog taugen.*
*Darzu muss hubscb und schon durch Prospeetivisch Kunst*
*Der Schauplatz sein formiert, sonst alles ist umbsonst.*

(«Як тут пададзены блакітны небасхіл з сонцам, месяцам і зоркамі,
З громам і маланкамі, і дажджом, і снегам і выючым морам!
Для таго, каб усё гэта бачылася ў вачах чалавека
І каб усё адпавядала свайму месцу і адлюстроўваемай асобе –
Для гэтага падмосткі павінны быць выдатна ўладкаванымі інакш усё дарэмна».)

А потым Г. К. Лукомскі працягвае словамі Ніцшэ:

«Ужо пад час сярэдневечча, у Германіі, дзякуючы ўплыву Дыёніса (Бога-Ўражанага па-грэцку, ён, жа богус, ці Бахус) збіраліся вялізныя натоўпы, якія ўсё больш павялічваліся, пераходзячы са сьпевам і скокамі ад аднаго месца да другога. У гэтых скоках Св. Яна і св. Віта, мы бачым тую ж сутнасць, як і ў вакхічных харах і оргіях, паходжанне якіх дапасуецца да глыбокай старажытнасьці і далёкіх адсюль краін, аж да Малой Азіі і Месапатаміі».

І, сапраўды, пад час сярэдніх стагоддзяў у Яўропе з'яўленне шануемых сьвятых заўсёды суправаджалася дыфірамбамі. А із гэтых сьпеваў, ці із песень «трагаў» (у гонар Казярога, вяртаючага Сонца на поўнач), г.азн. із хору бога-ўражанага (дыянісіянскага) набажэнства з яго выпіўкамі (перажыткі якога захаваліся ў прычашчэнні ўсходняй царквы) і набыўшаму пазьней форму дыялога і драматычны элемент, але раней быўшым толькі харавымі скокамі, узнікала

[49] Joseph Furttenbach, «Manhafter Kunst Spiegel». Ulm 1641.

складаная свецкая драма. А паралельна гэтаму ва ўяўляемых намі (са слоў апакрыфістаў Эпохі Адраджэння) старажытных грэкаў і латынянаў у іхных напалову рэлігійных тэатральных пастановах мы бачым шмат падобных жа рыс, г.азн. тут, відавочна, існавала натуральная цесная сувязь, а пагэтаму іх і немагчыма аддзяляць шматлікімі стагоддзямі адзін ад аднаго.

Драматызаванае Евангелле паслужыла падставай развіцця рэлігійных містэрый, як аднаго із адгалінаванняў тэатральнай творчасьці. Існуе грэцкая трагедыя «Пакутуючы Хрыстос» (Χριστός πάσχων), якая паказвае пакуты евангельскага настаўніка цалкам у такім жа стылі, як і драмы Эўрыпіда. Гэтая п'еса із 2 640 вершаў большай часткай у ямбічных трыметрах, прыпісвалася спачатку Рыгору Назіанзісу, але ў XIX стагоддзі было даказана і зараз усімі прызнана, што яна належыць сярэднім стагоддзям. Яна ўяўляе добра прадуманы і адчуты твор, асабліва ў тым месцы, дзе малююцца маці Хрыста і яго шануемы вучань Ян каля слупа Езуса[50] і яна цалкам дарэмна лічыцца адзінай драмай, якую выпрацавала візантыйская культура.

Стваральнікі першага хрысьціянскага рытуалу, – кажа Ашкназі[51], – жыўшыя ў асяроддзі народаў з лёгка ўзгараючымся ўяўленнем і з патрэбай у мастацкім кульце, дадалі да набажэнства драматычныя элементы із паданняў пра жыццё, сьмерць і ажыванне Ратавальніка. Сама старажытная літургія была пабудавана на прынцыпе дыялогу на антыфонах і рэспансорыях і такой яна засталася і да гэтага часу на ўсходзе. Гэта першапачатковая тэатральная пастанова.

«Патрэбна, – кажа далей Ашкназі, – у думках аднавіць ліхаманкава-рэлігійную атмасферу, у якой жылі першыя хрысьціяне, іхнае апакаліптычнае ўзрушэнне, каб зразумець, якую вялізную ролю набыў у іхным кульце актыўна драматычны «аргійны элемент».

Але, як тут пакуты Хрыстовы, так і ва ўяўляемых аўтарамі Эпохі Адраджэння старажытных грэкаў маляваліся тымі ж самымі танамі пакуты Бога-ўражанага (Дыёніса) у падзеі із жыцця іншых багаў. Толькі грунтуючыся на архітэктонаграфіі вядомых нам пастаноў (літургічных драм XI стагоддзя, міраклей XII, пастараляў XIII, маралітэтаў XV, фарсаў пачатку XVI, і нават вулічнага народнага тэатра першай паловы XVII стагоддзя, калі ўжо была падрыхтавана глеба ў арыстакратычных па духу класах насельніцтва) у развіцці тэатра, хаця б і палацавага, можна заўважыць яшчэ мала класічнага. Нават, калі так званае «адкрыццё літаратуры старажытных» дадало разам з агульным гуманітарным накірункам «псеўда-антычнае» ў разуменнях і гусце, – усё ж у публічным тэатры і асабліва ў характары яго дзеянняў не было яшчэ ніякага антычнага падыходу.

«Першыя містэрыі, – выказваецца далей Ашкназі, – ладзіліся ў самой царкве і былі як бы часткай набажэнства. Але паступова яны пачалі прыцягваць да сябе ўсё шырэйшае кола гледачоў, якія з'язджаліся на царкоўныя сьвяты і, на прымеркаваныя да іх, кірмашы із навакольных прыходаў».

Асабліва гэта было характэрна для Рыма, як цэнтра пілігрымства. Там у царкве стала цесна, і містэрыю перанесьлі спачатку на царкоўны дзядзінец, а потым і проста на вуліцу, на асобна пабудаваныя падмосткі. **І вось, тэатр аддзяліўся ад царквы.**

Звычайна для гэтай мэты вуліцу перагароджвалі падмосткамі («Brucke») так, што вокны сумежных сядзіб служылі як бы бакавымі ложамі, а сама вуліца –

---

[50] Крумбахер, Geschichte der Bizantinischeu Litteratur, §196.

[51] З. Ашкназі, Трагедыя, Містэрыя і Маралітэт (Штогоднік імп. тэатраў (912, № 13).

партэрам. На другім канцы вуліцы ладзіліся масткі накшталт галярэй. На невялікім узвышэнні ладзіліся трохпавярховыя падмосткі: знізу – геена палаючая, змрочнае царства ўпаўшых анёлаў, зверху – царства славы, а паміж імі – чалавечы сьвет».

На ўсіх трох паверхах падмосткі былі забяспечаны дзвума калонамі, утвараючымі як бы тры аддзяленні, ці «ўваходы», нападобе трох дзвярэй царкоўнага праваслаўнага ахвярніка. І гэтыя ж тры ўваходы мы бачым і ў уладкаванні ўяўляемых старажытна-грэцкіх трагедыйных падмосткаў. «Лёгка зразумець», – дадае Ашкназі, – велізныя вартасьці такім чынам уладкаваных падмосткаў у сэнсе ажыўлення пастановы, і ў сэнсе відовашчнасьці». На містерыйных падмостках не існавала «занавескі», але замест гэтага ўся труппа, задаўга да пачатку пастановы, вызначалася і садзілася паўколам на падмостках.

Развіццю царкоўных пастановаў надзвычай спрыяла імкненне хрысьціянскай царквы ўключыць у сябе ўсе праявы культурнага жыцця. Ад гэтага і набыла развіццё пышнасць тэатральных гледзішчаў, набываўшых часам надзвычай грубы і цынічны характар, паралельна таму, як царква павялічвала пышнасць сваіх набажэнстваў, што зрабілася для яе адным із самых магутных сродкаў культурнага падпарадкавання паганскіх краін.

Такім чынам зямное жыццё і ўрачыстасць богачалавека зрабіліся падставай развіцця сярэднявечнага тэатра і зрабіліся першапачатковай кропкай развіцця «антычнай» трагедыі.

«Нямецкі рэнесанс XII стагоддзя быў эпохай пышнага росквіту царкоўных пасноваў, – кажа Г. К. Лукомскі. – Увесь год ад Каляд да Каляд быў запоўнены цыклямі пастановаў, якія працягваліся па некалькі дзён, а часам, як пазьнейшыя пастановы Здзяйсненняў Апосталаў у Буржэ ў 1536 годзе, працягваліся 40 дзён».

І зразумела, – дадам я ад сябе, – што для іх неабходны былі амфітэатральныя партэры на адкрытым паветры, цалкам нападобе тых, што ўяўлялі із сябе, напрыклад, так званы – «Тэатр Дыёніса-Бога-ўражанага» ў Афінах (Мал. 111), ці Траянэум у Пергаме (Мал. 129), ці два Пампейскія тэатры параўнальна невякіх памерам (Мал. 130 і 131).

У містэрыі пачынае мім; дадаецца пабытавая камедыя, а ўзнікае маралітэт – нешта сярэдняе паміж містэрыяй і рэалістычнай драмай.

Так, паступова, падстава пастановаў пераходзіць да перадачы чалавечых пачуццяў. Адначасова з гэтым, акторскае мастацтва афіцыйна парывае з царквой і адасабляецца ў самастойныя згуртаванні, чаму нямала спрыяе ўласьцівы для сярэднявечча карпарацыйны дух.

У Францыі ўтвараюцца два акторскіх цэхі: Confrerie de la Passion, ладзячы містэрыі і Confrerie de la Bazoche для пастановы маралітэтаў. У Італіі яшчэ ў сярэдзіне XIII стагоддзя ўтвараецца супольнасць del Gonfalone; у Англіі і Германіі, адасабляюцца аналагічныя ім гільдыі і цэхі.

Большасць іхных п'ес, прыстасаваных да густу простага народа, з адпавядаючай эпосе перавагай пачуццёвага элементу, выяўляюць неверагодна-матэрыяльнае разуменне рэлігійных дагматаў, старажытнае захапленне дзівамі і фантастыкай. У іх такая вялікая колькасць забабонаў з большым ці меншым адценнем хрысьціянства, што робіцца зразумелым змаганне больш позьняй царквы з ёю ж усталяваным раней звычаем рэлігійных пастаноў. Але толькі ў 1471 годзе біскуп Ведэга із Гавельберга, забараніў наладжваць пастановы ў цэрквах, на той падставе, што «яны больш служаць юрлівасьці і сьмеху, чым шкадаванню пра грахі».

«Храмам-тэатрам пад час сярэдніх стагоддзяў быў адкрыты цырк, які складаўся із некалькіх шэрагаў прымітыўных лавак, нават не павялічваўшыхся па вышыні пры аддаленні ад падмосткаў накшталт сучасных трыбун, ладзячыхся падчас урачыстасьцяў і працэсій. У сэнсе уладкавання падмосткаў – калі пастанова адбывалася ў храме – навуковыя дадзеныя даюць нам да гэтага часу яшчэ вельмі мала падставаў сцвярджаць пра безумоўнае падабенства гэтых накірункаў сярэднявечнага тэатра з сучасным і з антычным»[52]. Сама сутнасць сярэднявечнага тэатра, як дзейства, калі мы зірнем безстаронне, дапасуецца да антычнага так жа, як бацька да сына ці, лепш сказаць, сярэднявечны тэатр дапасуецца да антычнага, як шкілет, які пакрыўся пазьней новымі мязамі і працягвае існаваць нават і ў сучасным тэатры. Таму мы і можам лічыць, што пераемнасць традыцый тэатра ішла не перапыняючыся, ад сярэднявечнага праз «антычны» да сучаснага, аж да нашых дзён, і што перанясенне антычнага на дзьве тысячы гадоў назад ад ренесанснага і злучэнне апошняга непасрэдна з «сярэднявечным» тэатрам (якім ён нам аперцэпцыйна ўяўляецца) з'яўляецца чымсьці накшталт аддзялення чалавечай груднай клеткі ад жывата і галавы і злучэнне апошніх паміж сабой, адкінуўшы грудную клетку далёка ад іх.

«Дэталі сярэднявечнага тэатру былі ці вельмі прымітыўнымі, – паведамляе Лукомскі, прытрымліваючыся звычайнага погляду, – ці складаліся із чыста гарнітурных (зробленых із матэрыі, а не із каменя) прыстасаванняў і таму страціўшыхся... Навуковае дасьледаванне гэтага тэатра яшчэ недастатковае». «Але, ва ўсякім разе, – працягвае ён, – паміж тэатрам сярэднявечным, царкоўна-народным і антычным значна больш падабенства, чым тым жа сярэднявечным і рангавым (XVII стагоддзя) з вузкімі куліснымі падмосткамі, даючымі магчымасць штучнага асьвятлення пры пастановах (ноччу) і атрымаўшым пазьней назву барока, г.зн. пераіначанага».

У змроку першых стагоддзяў нашай эры аж да V стагоддзя адзінай вядомай падзеяй у гісторыі тэатра з'яўляюцца, згодна са сведчаннем сярэднявечных аўтараў, буйныя ахвяраванні Тэадорыха і Атанарыха на наладжванне пастановаў, каштаваўшых не «столькі вялікіх грошаў, колькі вялізных намаганняў.

Але мы павінны раз і назаўсёды адкінуць ілжывае ўяўленне, нададзенае нам царкоўнымі аўтарамі, быццам бы тэатральныя відовішчы былі забаронены некалі хрысьціянскай рэлігіяй і «рымскія амфітэатры на працягу шматлікіх гадоў былі заплямлены крывёй пакутнікаў за веру», і быццам бы пазьней, калі хрысьціянства перамагло, старажытныя тэатральныя пабудовы былі з асаблівай жорсткасьцю разбураемы. Іхнае разбурэнне магло адбыцца ужо нашмат пазьней само сабой, калі дзякуючы ўдасканаленню тэатральных падмосткаў мастацтва перайшло на зачыненыя падмосткі і сярэднявечныя адкрытыя цыркі-цэрквы былі пакінуты без ужывання.

«Напалову дзікія пачуцці пад час сярэдніх стагоддзяў патрабавалі грубых задавальненняў і яны знайшлі сабе іх у святочных гульнях і царкоўных сатурналіях», – кажа той жа аўтар.

Атрымалася злучэнне сьвятай мелодыі з вельмі грубым згодна з сюжэтам жанрам. Пазнейшая вышэйшая царкоўная ўлада, праўда, змагалася з падобнымі сумяшчэннямі, але карані гэтага прысмаку былі пушчаны так глыбока, што такі «тэатр» працягваў развівацца. Пазней гэтыя пастановы былі перанесены і ў іншыя

---

[52] Лукомскі, стар. 268.

краіны, а ў Францыі яны атрымалі асоблівае прызнанне ў Sens'е, дзе існавалі да XVII стагоддзя, калі сфармаваўся народны тэатр.

У Рыме ў 1264 годзе было заснавана, як мы ўжо паведамлялі, таварыства Gonfalone, якое і пабудавала для пастановаў сваіх спектакляў «Калізей», які таксама дарэмна лічыцца вельмі старажытнай пабудовай. Яно заставалася ў Калізеі яшчэ і ў 1443 годзе (мал. 117).



Мал. 117
Калізей (Colosseum), пабудаваны верагодна пры дапамозе папаў, таварыствам Confalone у 1264 годзе ў Рыме. Выгляд парэшткаў (згодна з фатаздымкам).

У большасьці выпадкаў, аднак, пастановы і тады ладзіліся на адкрытых месцах, у дварах кляштароў, у напалавузачыненых высокай стрэшкай дварах albergo'ў і ў палаццо. Але часьцей усяго для гэтай мэты служылі гатэлі.

І зараз яшчэ можна заўважыць, напрыклад, на поўдні Францыі ва ўнутраных дварах старажытных гатэлей доўгія балконы, якія распасьціраліся на ўсе паверхі такім чынам, што кожнаму пакою адпавядаў кавалачак балкона, і такім чынам у нашай звычайнай тэатральнай зале з ложамі можна пабачыць састарэлы перажытак гэтага своеасаблівага, сярэднявечнага ўладкавання залы для гледачоў[53].

Пазней, са з'яўленнем жадання сесьці і размясьціцца больш зручна, г.азн. у XIII стагоддзі, пачалі шукаць больш абароненыя месцы. Захавацца ў памяшканні Jeu de Paume было першым непасрэдным памкненнем, і гэта мела наступствам вельмі значныя змены ва ўладкаванні тэатра ў Францыі таго часу. Утварыліся ложы. Эканамічныя разлікі і жаданне бачыць не толькі актораў, але і публіку, з ложы ў ложу, вымусілі забыцца на нетэатральнасць гэтай новай залы вузкай і доўгай формы, і такія залы яшчэ доўга заставаліся нават пасьля таго, як з'явіліся

[53] Акрамя Г. К. Лукомскага «Старажытныя тэатры», паведамленні пра іх можна знайсьці ў кнігах: Вітрувій «Пра архітэктуру!, пераклад Н. В. Бажэнава, 1794 г.; Emile Male: «Histoire de l'art pendant le moyen age»; Molmenti: «La storia di Venezia nella vita privata; Весялоўскі: «Старажытны тэатр у Яўропе», у сёмай кнізе «Штогадовіка імператарскіх тэатраў»; артыкул Зігфрыда Ашкназі: «Трагедыя, Містэрыя і Маралітэт». Некаторыя фрэскі Джота ў Падуі (Chieza S-ta Maria della arena) малююць зародкі пастановаў містэрыі. Гравюры і мініяцюры мастакоў XIV-XVII стагоддзяў (Costodis Furtenbach) з'яўляюцца крыніцай для адшукання і навочных дадзеных пра тэатр таго часу. Jean Foucquet намаляваў нямала пастановаў свайго часу, падрабязна паказаўшы нам «Пакуты св. Апалонія» (Musee Chantilly, Musee Bibliotteque National, Musee des Chartrs) і яго мініятуры 1466 года паказваюць нам, якія падмосткі, якія дэкарацыі і якое адзенне ўжываліся ў тыя часы.

творы Карнэля, Расіна, Мальера, хаця гэтыя геніі і пайшлі ўжо цалкам новай дарагой.




Мал. 118
Лебядзіны тэатр у Лондане (згодна з малюнкам 1596 года).

Што да тэатральнай літургіі, то, кажуць, яшчэ ў IV стагоддзі існавала рэлігійна-драматычнае прасякнутае наскрозь царкоўнымі ідэямі і тэндэнцыямі сьвятарства, а ў X стагоддзі ў Англіі і Германіі пад час велікоднай суботы ладзіліся пастановы на на лацінскай мове, якія рабіліся пры ўдзеле самога сьвятарства.

У XV стагоддзі рэлігійныя пастановы дасягаюць вялікага росквіту асабліва ў Францыі і з 1428 года, г.азн. з «адкрыцця (а на справе напісання) тварэнняў Плаўта», пачынаецца развіццё іншай драматычнай літаратуры, меўшай наступствам абсталяванне цалкам новых тэатральных памяшканняў. І сьледам за тым першы карнавал, наладжаны Эрколе I д'Эсту ў 1486 годзе пры папе Інакенцію VIII у Ферары, кладзе пачатак развіццю цалкам асобнага роду драматычных пастаноў.

Тэатр часоў Людовіка XI у Туры пераходзіць пад імем Stockwerksbuhne у Германію, дзе залы робяцца значна больш доўгімі.

Дзякуючы аднаму арыгінальнаму малюнку XVI стагоддзя мы можам збольшага мяркаваць пра тып познасярэднявечнай ці ранне-ренесанснай пастановы

германскай містэрыі ў царкве (напэўна, сярэдзіны XV стагоддзя). Уся зала для гледачоў і самі падмосткі гэтага часу набылі надзвычай падоўжаную форму. Адпаведна ходу працэсіі, паказваўшай шляхі пакут Хрыста, патрэбна было разьмясціць: трое дзвярэй, алейную нару, сядзібу Ірада, сядзібу Пілата, месца ўкрыжавання, сьвятую труну і неба. Гледачы, верагодна, размяшчаліся па ўсёй даўжыні залы, – па баках, уздоўж доўгіх сьцен. Але ў абсталяванні падмосткаў тут не было падабенства з антычным тэатрам. Значна лепш гэтая сувязь бачна на замалёўцы Жана Фуке «Пакуты сьвятога Апалонія», зробленай з натуры ў 1460 годзе і паказваючай нам падабенства падмосткаў і амфітэатра, на якім размяшчаліся гледачы.

Яшчэ больш каштоўны, хаця і больш позьні, матэрыял дае нам Фуртэнбах, пабудаваўшы тэатр у Ульме, дзе ён занімаў пасаду гарадзкога архітэктара з 1631 года. Гэта самы стары драматычны тэатр, планы якога існуюць да гэтага часу. Фуртэнбах напісаў і надрукаваў кнігу «Mannhafter Kunstspiegel», у якой, у главе «Пра перспектыву» ён памяшчае апісанне свайго тэатра. А ў главе «Пастанова камедыі» ён падрабязна паведамляе пра маланкі, аблокі і вятры, якія патрэбна было наладзіць у тэатры.

У зале яго тэатра было сорак паднімаючыхся амфітэатрам лавак. На падмостках былі размешчаны, з абодвух бакоў, шэсць перыактаў, якія мелі магчымасць паварочвацца вакол слупоў, і дзьве плоскія дэкарацыі ззаду. У гэтым уладкаванні дэкарацый несумнеўная сувязь з «антычным» тэатрам.

Каля 1655 года Фуртэнбах стварае праект іншага тэатра для аднаго із палацаў. Яго зала была васьмікутнай. Да чатырох бакоў васьмікутніка прылягалі чатыры падмосткі-залы, у кожнай з якіх былі дэкарацыі. З двух бакоў былі ўваходы і выхады, а побач – страўні. Гэта вялікая зала магла служыць і для турніраў, і для баляў і была добра асьветлена.

Паступова, набываючыя пашырэнне ў побыце турніры, каруселі, скокі і спаборніцтвы былі ўведзены і ў тэатр, і ён быў вымушаны прыстасоўвацца да іх.

Адным із найбольш вялікіх і лепшых італьянскіх тэатраў XV ст. быў тэатр герцага Эрколе I уФерары, у яго палацы.

Із апісанняў, якія нам пакінуў Тырабоскі, мы ведаем, што ў 1486 годзе тут былі наладжаны пастановы «Менехмы» Плаўта і што пастанова гэтага спектакля каштавала звыш тысячы дукатаў – сума неверагодная для таго часу. 21 студзеня 1487 года (і ў 1491 годзе) тут былі наладжаны пастановы «Кефала» Плаўта, а 26-га таго ж месяца «Амфітрыёна».

З цалкам выразнай заўвагі Тырабоскі бачна, што пастановы ладзіліся ноччу, гэта было падобна, – кажа аўтар,– «на рай з зоркамі і сьпевамі».

Із апісання Тырабоскі, мы ведаем і пра саму пастанову, і пра абсталяванне, якое атачала тэатральнае памяшканне і, самае галоўнае, пра тое, што яно было, як і «антычныя тэатры», ненакрытым, «таму што, – сведчыць ён, – моцны дождж перапыніў пастанову.

Гэтыя пастановы выклікалі такое захапленне, што герцаг паўтараў іх тры разы і «шмат хто ездзілі пазьней у Фераpу, каб пацешыцца драмай». Сапраўды, мяркуючы па гравюры Джыуцці, малюючай тэатр у 1638 годзе (пад час наладжанага тут карнавала), ён быў пышным для таго часу.

Такімі былі першыя пастановы **Плаўта**, які такім чынам і быў толькі **аўтарам XV стагоддзя нашай эры**. І не дарэмна ж яго поўным імем было Titus

Mactius Plautus (ці Plaudus), што ў перакладзе азначае: шаноўны-бравісімы-рукапляскаючы (ад macte – брава і ад plauto, ці plaudo,– апладыраваць).

Са шматлікіх пастановаў, якія былі наладжаны ў тэатры Ферары, асобна згадваецца пра парадную пастанову, наладжаную ў лютым 1502 года, у прысутнасьці герцага Альфонса д'Істэ і герцага Эрколе з Лукрэцыяй Борджыа.

Пастановы працягваліся, перапыняючыся, пяць дзён і з іхных апісанняў можна даведацца пра надзвычай цікавыя падрабязнасьці. Для адкрыцця сьвята былі наладжаны пастановы пяці камедый Бравісімага-Рукапляскаючага (Плаўта), і з іх была паўторана пастанова «Амфітрыёна». Далей чаргаваліся балет-пантаміма («moresca») і інтэрмецы featureзнага характару.

Тэатр на гэты раз быў наладжаны на двары «Падэста», і меў 40 локцяў даўжыні і 50 шырыні.

Замена дэкарацый рабілася без цяжкасьцей на шырокіх падмостках. Занавескай служыла каштоўна вышытае і ўпрыгожанае пэндзлямі пакрывала. Невядома ці апусклася і паднімалася гэтая занавеска, хутчэй за ўсё, яна адкідвалася ў абодва бакі. Княжыя месцы знаходзіліся перад падмосткамі. Тры тысячы гледачоў размяшчаліся на трынаццаці радах амфітэатральнага месцавання. Жанчыны сядзелі пасярэдзіне, мужчыны – па баках.

Гэты самы старыйшы італьянскі тэатр, як пабудова, датуецца 1548 годам.

Вядомы, аднак жа, і больш ранія пастановы (1460-80 гадоў), але такіх падрабязнасьцей, мы не ведаем ні пра адзін із іншых тэатаў.

«Да больш ранніх, – кажа Лукомскі, – але затое і з менш значным наборам тэатральных пастаноў, належаць італьянскія тэатры, ўзводзімыя з нагоды сьвятаў у гонар розных дынастычных падзей. Із гэтых сьвятаў найбольшую вядомасць набылі: у Мантуі ў Ганзага, у Ферары ў герцага Эрколе I, у Рыме ў кардынала Рыарыо (у 1492 годзе і, яшчэ раней, на пляцы Квірынала, дзе Пампоніа Лета пабудаваў тэатр для пастановы у ім «Плаўта і Тэрэнцыя»[54] на лацінскай мове). Акрамя таго набылі вядомасць: у Мілане ў герцага Сфорца, у Венецыі, у Падуі, у Сабіянэце, у Сене, у Вічэнцы і ва Ўрбіна.

Што ж мы бачым? Першыя тэатры не з’яўляліся самі сабой, як грыбы, і не будаваліся «грамадзянамі» грунтуючыся на агульным добраахвотным пагадненні, як бывае ў казках і ў ідыліях, а ладзіліся з нагоды славалюбства заможнымі валадарачымі князямі дзякуючы існаванню лішкаў атрымліваемых імі прыбыткаў, г.азн. прымусовага абкладання падаткамі сваіх падданых, і атрымлівалася тое ж самае, што рабілі і ў Расіі імператрыца Кацярына і ўсе іншыя цары і царыцы, чаму асноўныя тэатры і мелі назву «імператарскія» і «каралеўскія».

Падмосткі тэатраў, як і пазьней, у XVI стагоддзі, былі пабудаваны із дрэва, ці было гэта ў двары палацо, г.азн. на адкрытым паветры (як, напрыклад, у Ферары), ці ўсярэдзіне палаца ў шырокіх залах (як, напрыклад, у тэатры De la Ragione у Вічэнцы)».

«У першым выпадку падмосткі з'яўляліся аўдыторыяй, меўшай літаральна ўсе формы антычных тэатраў, і, з нагоды таго, што дазваляла месца, да іх дадаліся маляўнічыя перасоўваемыя дэкарацыі, створаныя Балтазарам Перуцы ў Рыме ў 1514 годзе для пастановы «La Calandra» у папы Ільва X»,– кажа Лукомскі, – і ўсё, што я пераверыў у яго грунтуючыся на першакрыніцах, выявілася цалкам

[54] Тэрэнцый азначае проста: Тэрэнцінскі, найменне таго ж сэнсу, якім было б і Адэонскі. Падобна таму, як адэонамі зваліся месцы для музычных і артыстычных спаборніцтваў, так і Тэрэнтам (Terentus) звалася месца на Марсавым полі ў Рыме, дзе ладзіліся «стогадовыя гульні» (ludi seculares).

адпавядаючым рэчаіснасьці... Гэта азначае: да падмосткаў, літаральна паўтараючых антычныя, дадаліся ў 1514 годзе толькі маляўнічыя перасоўваемыя дэкарацыі... Але нешта дадаць магчыма толькі да папярэднічаўшага, а не да таго, што было 2000 гадоў назад і потым цалкам забылася за час прамежкавых пакаленняў. Гэта азначае «антычныя» падмосткі былі падмосткамі XV стагоддзя...

«Княжыя сямействы, – працягвае далей аўтар, – таксама набылі пад сваю ўладу пабудову тэатраў. Для сьвята ў гонар Ізабелы д'Эста, жонкі герцага Мантуанскага ў 1514 годзе, у Рыме быў наладжаны асобны тэатр, дэкарацыі для якога гатаваў Балтазар Перучы.

«Нават і залы тэатра ўладкоўваліся тады грунтуючыся на антычным планаванні, і ўсе пабудовы па вышыні і шырыні былі запоўнены больш ці менш арнаментацыяй, маючай рысы аздаблення антычных тэатраў.

«Але, на вялікі жаль, усе гэтыя тэатры былі зроблены із дрэва ці із нейкіх неустойлівых матэрыялаў, і таму – як сведчыць Вазары – яны хутка разбураліся. Толькі із апісанняў урачыстасьцей, якія адбываліся ў іх, выразна бачна, што ўсё яны былі падобнымі на антычныя.

«Толькі эпоха гуманістаў, на чале з Франчэска Пятрарка, увяла ў тэатр лацінскую размову, замест панаваўшай раней італьянскай».

Яшчэ ў 1472 годзе кардынал Франчэска Ганзага ў сваім палацы ў Мантуі пабудаваў бліскучы тэатр і наладзіў у ім пастанову драмы Паліцыяна. Дэкарацыі аднаго акта адлюстроўвалі горы і даліны, “населеныя вакханкамі і сатырамі”, заросшыя лясамі і напоўненыя ручаямі; аздабленне другога акта малявала ўзвышшы, скалы і жудасныя падзямеллі.

Падобнымі ж дэкарацыямі быў аздоблены і іншы тэатр ,,пабудаваны ў 1492 годзе кардыналам Рафаэла Рыачыа, у якім былі наладжаны пастановы двух п'ес, створаных Джэрарда дзі Чэзэна.

Серліо вобразна выказваецца пра яго:

Oh, Dio immortale, che magnificentia era quella di veder tanti arbori o frutti, tante herbe e fiori diversi. tutte coso fatte di finissima seta, di varianti colori! lo non dico de'satiri, delle nimfe, delle sirene etc. E se non ch'io sarebbe troppo prolisso, io narrerei gli habiti superbi di alconi pastori, fatti di richi drappi d'oro e di seta, foderati di finissime pelle d'animali salvatici.

(«О, несьмяротны божа, якое гэта было шыкоўнае відовішча столькіх дрэваў, столькіх пладоў, столькіх траў і розных кветак: розных рэчаў, зробленых із самага танчэйшага шоўку рознай афарбоўкі, не кажучы ўжо пра сатыраў, німфаў, сірэн і г.д. І калі б я не баяўся быць абвінавачаным ў шматслоўі, я распавёў бы пра шыкоўнае адзенне некаторых асоб, прыгатаванае із вельмі каштоўнага залатога сукна і із шоўку, аблямаванага самай тонкай пушнінай лясных звяроў».)

Перспектыўныя падмосткі ўпершыню зрабіў Балтазар Перуцы ў Рыме ў 1510 г., але некаторыя факты сведчаць на карысць таго, што першым, вынайшым законы перспектыўнага дапасавання да падмосткавых пастаноў, быў яго настаўнік Брамантэ, які яшчэ ў 1480 годзе выкарыстаў перспектыўныя дэкарацыі ў Сан-Сатыра, у Мілане. Згодна са сведчаннем Флэшыга, Брамантэ быў першым будаўнікам перспектыўных падмосткаў, адкрыццё якіх было ў 1508 годзе.

У той жа час пачалі шукаць і парэшткі ранейшых тэатраў, на якія раней ніхто не звяртаў ніякай увагі. Пры сваім падарожжы па Італіі, Далмацыі і Істрыі архітэктар Серліо вымяраў парэшткі тамтэйшых руін, замалёўваючы і рэканструюючы іх, вядома, грунтуючыся на здольнасьцях свайго ўяўлення і аб'вясьціў іх антычнымі. Усюды ён інвентарызуе такія руіны, пры гэтым часта выяўляе цалкам не пагадняючаяся з апісаннем Вітрувія разуменне помнікаў

старажытнасьці. Свае дасьледы ён выказаў у пяці кнігах «Della Architectura», із якіх другая – 1545 г. – была ўпершыню надрукавана ў Венецыі і зьмяшчае яго вучэнне пра перспектыву, а галоўнае, зьмяшчае цікавыя сведчанні пра тэатральныя пабудовы.



Мал. 119
Алімпійскі тэатр (Teatro Olimpico) у Вічэнцы (1584 г.) у Італіі (згодна з Фуртэнбахам).

«Серліевы праекты амфітэатра ў Вічэнцы ў 1540 годзе і Паладыевы праект будынка «Teatro Olimpico», зроблены для таго ж горада ў 1580 годзе, вось падставы для аднаўлення рэчаіснай гісторыі антычнага тэатра.

Усе гэтыя праекты напалову колападобных амфітэатральных месцаў для гледачоў, уся падстава шырокіх падмосткаў з манументальнай, проста апрацаванай пярэдняй плоскасьцю падмосткаў, на якіх мы бачым традыцыйныя тры дзьверы і статуі ў нішах паміж імі і, нарэшце, дзённае сьвятло, падаючае ў залу праз каланаду над тэатронам, – усё гэта характэрныя рысы крытага класічнага тэатра, які, такім чынам, атаясамляецца з тэатрам эпохі гуманізму.

Падмосткі мелі ў якасьці сваіх дэкарацый архітэктурны выгляд, які бачыўся праз тры дзверы; гэтыя тры, перспектыўна ідучыя ў далечыню вуліцы, характэрная рыса «дэкаравання старажытных». І хаця тэатр Паладыё быў закончаны Вінчэнца Скамоці, зрабіўшым заднюю паверхню з перспектыўнымі вуліцамі, але гэты новы этап перспектыўнай выявы не можа быць разглядаемы, як ускладненне куліс, ці як аддаленне ад антычнага: гэта было толькі сваё разуменне ўладкавання падмосткаў.

Першы італьянскі тэатр быў пабудаваны «цалкам згодна з Вітрувіем»[55], – апавядае Лукомскі, які падзяляе аспрэчваеюмую мной думку, што твор «De Architectura» ад імя найвялікшага архітэктара старажытнасьці з'яўляецца на самай справе старажытным. – «Ён быў, – кажа Лукомскі, – суцэльным перайманнем усяго

[55] Марк Вітрувій Паліён лічыцца сучаснікам евангельскага Хрыста, таксама дойлідам. Ён адпавядае яму і згодна з месцам, калі мы прызнаём, што біблейскі Ерусалім быў Геркуланумам ці Пампеямі, як я даводзіў у другай кнізе «Хрыста». Імя гэтага архітэктара – Марк Вітрувій Паліён, – вядома, таксама найменне. Марк азначае – памёршы, завяўшы. Паліён (pollio, pollionis, а таксама pollinctor азначае: апрацоўшчык памёршых, бальзамавальнік, хаця можна вывесьці гэтае імя і ад дзеяслова polleo – шмат магу. А слова Вітрувій даводзіцца атаясаміць з імем вынаходніка сугучнага з ім шкла (vitrum). Я не змог знайсьці іншага тлумачэння, тым больш, што і ўся яго кніга напісана сярэднявечнай лацінкай, са шматлікімі арыгінальнасьцямі тэрміналогіі і словаўтварэння.

старажытнага», але пасярэдзіне шырокага нязграбнага будынка. Яго дойлід пабудаваў у Венецыі ў 1565 годзе на сродкі знакамітага грамадства «La Galze» і другі тэатр, для асабістай пастановы ў ім «Антыгоны», трагедыі, складзенай графам Di Monte Vicentino. Вазары паведамляе нам пра тое, што Федэрыго Цукары зрабіў там дэкаратыўнае аздабленне і што там існавалі 12 вялікіх карцін, уладкаваных у фасад сьцяны партала нападобе антычных барэльефаў».

План і архітэктурныя дэталі яго не захаваліся ў першапачатковым выглядзе, але незвычайная веліч гэтай пабудовы падцвярджваецца той акалічнасьцю, што насуперак звычаю, ён не быў разбураны пасьля сьвяткавання, а быў знішчаны толькі праз некалькі гадоў пажарам, ахапіўшым частку кляштара, да якога ён прылягаў.

Вічэнцскія аўтары з захапленнем згадваюць і пра іншы тэатр, пабудаваны таксама «згодна з антычным узорам» Себастыянам Серліо, які размясьціў план і апісанне гэтага тэатра ў другой кнізе сваіх твораў. Як звычайна, ён быў пабудаваны ў двары палаца (Palazzo Pozzo) і ўяўляў сабай тую асаблівасьць, што яго падмосткі, распісаныя маляўнічымі выявамі, мелі гарызантальны памост у 12 футаў шырыні і 60 даўжыні,– асаблівасьць, якую, як выказваецца сам Серліо, ён знаходзіў вельмі зручнай і прыгожай. Аўдыторыя ўяўляла сабай паднімаючыся амфітэатр.

І вось Лукомскі сам дадае да гэтага такое дзіўнае меркаванне:

«Пасьля 450 года «да Н. Х.», г.азн. ад часу калі камень быў (быццам бы!) упершыню выкарыстаны для пабудовы тэатральнага збудавання, – прайшло звыш тысячы гадоў. І новы пачатак падобнай жа архітэктуры тэатраў із каменя паклала ў Вічэнцы ў 1580 годзе (г.азн. больш за праз 2000 гадоў), пабудова тэатра, які стаў chef d'oevre'ом творчасьці Паладыё. Аўтар гэтага тэатра запавядаў нашчадкам помнік дойлідства, узгоднены са сваім месцаванем і ўладкаваннем (наколькі гэта было магчыма) з наказамі Вітрувія» (г.азн. двайніка самага Езуса Хрыста па дойлідству).

А што ж было на працягу ўсяго гэтага прамежка часу ад Вітрувія-Хрыста да Паладыё, каля 1500 гадоў? Выяўляецца, поўная пустэча, жудасны правал працягам у пятнаццаць стагоддзяў!

«Тэатр у Вічэнцы быў пабудаваны, – працягвае аўтар, – для тамтэйшай Алімпійскай акадэміі», сродкі якай былі вельмі абмежаванымі, чаму і Паладыё ў сваёй распараджэнні меў толькі вузкую прастору вельмі непрыдатную згодна з формай, абмежаваную пабудовамі. Але, нягледзячы на гэта, геніяльны дойлід выйшаў пераможцам перад шматлікімі цяжкасьцямі і здолеў нават із перашкод знайсьці некаторую выгаду, стварыўшы небывалы па форме, зручны для гледачоў партэр[56], для якога, дзякуючы ўмовам месцавання, ён выкарыстаў замест паловы кола грэка-рымскага тэатра, практыкуючага і да гэтага часу, эліпсіс, зрэзаны па вялікай восі, што было цалкам новай формай для той эпохі.

«Частка падмосткаў, меўшая назву «la piccolla citta», была ўтворана вышэйзгаданымі выявамі бачных у перспектыве трох аддаляючыхся вулі; гэтыя вуліцы пачыналіся ад трох адтулін, якія служылі для заходу і выхаду актораў. Пабудовы, дэкаратыўна намаляваныя на гэтых вуліцах, былі не менш выдатнымі згодна з разнастайнасьцю іхных фасадаў і чысьцінёю стыля, як і рэчаіснае архітэктурнае аздабленне партала падмосткаў. Сядзібы гэтых вуліц, намаляваныя жывапіснымі сродкамі, давалі дакладную ілюзію рэчаісных пабудоваў. Падобная

[56] Я звяртаю ўвагу чытача на тое, што і слова партэр (par ierre) азначае: па зямлі, нагадваючы руіны «антычных» тэатраў.

ілюзія дасягалася з дапамогай своеасаблівага падымання вуліц, а таксама і тым, што акторы на першым плане, замест таго, каб выходзіць із выпадковых куліс, з'яўляліся на вачах у гледача выходзячымі як бы із сапраўдных палацаў і храмаў, бо выгляд пабудоваў на гэтых вуліцах быў прыведзены ў адпаведнасьць з апрацоўкай партала.

«Карынфская каланада атачала памяшканне гледачоў; у яе паміжслупавых прамежках, таксама як і партала, у прастакутных нішах былі размешчаны статуі працы Казеці. Седзячыя і ляжачыя фігуры ўпрыгожвалі франтоны ліштваў і скляпенні арак. Матэрыялам для аздаблення сьцен служыў мармур».

«Паладыё не атрымаў найвышэйшага для дойліда задавальнення пабачыць сваю працу закончанай: ён памёр у 1580 годзе, калі тэатр быў пабудаваны толькі на палову. Яго пабудова была закончана пад кіраўніцтвам яго сына ў 1584 годзе, а ў 1605 г. ён быў адкрыты бліскучай пастановай «Цара Эдыпа» Сафокла, з усёю яго псеўда-старажытнаю mise-en-scene, з удзелам хору і ў суправаджэнні старажытнай музыкі».

Гэтая акалічнасць паказвае нам сапраўдны час і сафоклавых твораў. Яго «Цар Эдып» упершыню з'явіўся на падмостках у 1605 годзе, а таму і напісаны быў не за 2000 гадоў да гэтага часу. Гэта быў час Шэкспіра, які нарадзіўся ў 1564 годзе ці яго гістарычнае пярэдадне.

Згодна са сваёй дзіўнай захаванасьцю вічэнцскі тэатр, без сумневаў, самы лепшы, а згодна з кампазіцыяй найбольш старажытны. Магчыма, іншыя тэатры, пабудаваныя ў Яўропе прыблізна ў гэты ж час, і вызначаліся большай шыкоўнасьцю ў аздабленні і арнаментацыі, але архітэктура іх была менш цікавай.

Нямецкі архітэктар Фуртэнбах падрабязна апісаў яго ў сваёй кнізе, дзе ён выказваецца між іншым: «Тэатр драўляны, мае выдатныя перспектыўныя дэкарацыі, можа ўмясьціць да 5400 гледачоў». Але гэта перабольшанне: згодна з дасьледаваннямі зробленымі Хамітчам, ён не меў магчымасьці ўмясьціць і 1000 чалавек.

У 1599-1600 гадах, другі нямецкі дойлід Шыкхард (Schickhardt) дае апісанне дзейнасьці «Алімпійскай акадэміі», заснаванай у 1555 годзе ў Вічэнцы і пабудаваўшай гэты тэатр.

З 1562 года гэтая Акадэмія месцавалася, – паведамляе ён, – у зачыненай базыліцы, вакол якай было шмат розных пабудоваў. Яна хутка набрала моцы, і яе сябры задумалі пабудаваць тэатр, даручыўшы ажыцця́ўленне гэтай задумы, як мы ўжо паведамлялі, аднаму са сваіх сябраў Андрэа Паладыё, і тэатр пачаў будовацца ў 1580 годзе, 23 сакавіка.

Сярэдняя перспектыва трох вуліц падмосткаў адлюстроўвае фантастычнае нагрувашчванне палацаў, храмаў, базілік і каланад. Але акторы не хадзілі па гэтых трох вуліцах, бо гэта мела б наступствам не пагадняючыся з маштабам, кур'ёз. Аднак, для ажыўлення, на заднім плане вуліц, дзе была рэльефная перспектыва, размяшчалі людзей, выразаных із кардону ў адпавядаючых адлегласьці ад падмосткаў памерах.

Такім быў знакаміты Teatro Olimpico.

Із крыніц таго ж часу мы ведаем таксама, што зала для гледачоў тэатра Della Sabionetta, пабудаванага Скамоці у Мантуі, была ўладкавана ў падобных жа ўмовах і згодна з тым жа планам. Яго амфітэатр заканчваўся, як і ў Вічэнцскім тэатры, адкрытай каланадай. У закладзеных прамежках паміж слупамі былі ўладкаваны ложы для дам, а кавалеры размяшчаліся ў адкрытых прамежках паміж слупамі.

Падобна Teatro Olimpico падмосткі гэтага тэатра таксама мелі шыкоўна ўпрыгожаны партал, адлюстроўваўшы, аднак, не нутро палаца, як партал Вічэнцскага тэатра, а адкрыты пляц, ад якога пачыналіся тры перспектыўна намаляваныя вуліцы. Вялікая, пасярэдзіне, складалася із шыкоўных палацаў, бакавыя былі ўтвораны хаткамі звычайных грамадзянаў.

Падобнае ўладкаванне падмосткаў, з дапамогай партала, было наогул найбольш пашыраным. Яно дазваляла не забяспечваць падмосткі нейкімі асобнымі дэкарацыямі, вызваляла ад патрэбы рабіць занавеску і, разам з тым, яно было выдатна канструявала ў сэнсе схавання машын, як верхніх, так і ніжніх, якія былі патрэбны для апусканняў, лётання, знікненняў і г.д. Такі партал быў таксама зручны, як фон, на якім не толькі ладзіліся шмат якія выявы, але і размяшчаліся цэлыя гурты, вельмі пашыраныя пры пастанове апафеозаў. Гэтая вызначанасць і адзінкавасць перспектывы і абумовіла тры вядомыя правілы п'ес «класічнага тэатра».

У Рыме акадэмік Пампоніус Летус, выдатна выканаўшы цяжкае заданне поўнага пераймання (г.азн. стварэння) антычнай камедыі, спрыяў таму, што ў палацах прэлатаў і кардыналаў, і нават у Латэране з'явіліся хатнія тэатры, упрыгожаныя з вялікім мастацкім густам і забяспечаныя дэкарацыямі, магчыма, належачыя пэндзлю лепшых мастакоў эпохі чынквечэнта, г.азн. XV стагоддзя. Пазьней гэтыя, меўшыя, напэўна, цалкам адменны характар маляўнічыя палотны зніклі не пакінуўшы следу. Мы не ведаем ніводнай цалкам захаваўшайся дэкарацыі, і толькі грунтуючыся на некалькіх малюнках (большай часткай кніжных), ды на апісаннях можам скласьці сабе меркаванне пра іхны выгляд.

Публічныя пастановы «класічнага тыпу» ў Рыме былі невядомымі да XVI стагоддзя. Толькі падчас карнавалаў там ладзіліся пастановы ў прыватных тэатрах. А на захадзе ў XVI стагоддзі падобныя пастановы наладжваюцца таксама і для шырокай публікі, вядомымі нам ўжо таварыствамі, меўшымі назву акадэмій, і набыўшых вельмі ўплывовае становішча ў сэнсе выхавання густу. Гэта азначае «антычны» тэатр выпрацаваўся ў Францыі.

Падобныя акадэміі існавалі не толькі ў Вічэнцы, мы ведаем пра такія ж і ў Венецыі. Адно із іх, як мы ўжо паведамлялі, мела назву Compagnia delta Calze і пры адкрыцці пабудаванага ёю (таксама згодна з праекта Паладыё) тэатра была наладжана з'явіўшайся тады ў друку пастанова «Антыгоны», твора графа Вічэнтына дзі Монцi. Гэты тэатр быў пышна ўпрыгожаны між іншым дванаццаццю карцінамі Федэрыга Цукары.  Акрамя пазначанага, у Венецыі існавала яшчэ два тэатры: адзін таварыства Sempiterni, а другі – Accefi. Абодва былі пабудаваны згодна з такім жа прыкладам, як і пабудаваў свой тэатр Паладыё з даданнямі Сансавіна ў вонкавым убранні.

План тэатра для абодвух быў – паўкола. Падобнымі ім (згодна з планам) з’яўляюцца тры тэатры ў Фларэнцыі – Infacati, Immobili і SorgentI – таксама могучыя быць прылічанымі да тых тэатральных будынкаў, якія былі несумнеўна антычнымі, як і тэатры Rozzi і Intronati.

Пярэдадне пераходу ад класічнага тэатра да тэатра барока са штучным асьвятленнем, вызначыўся ў Італіі росквітам дэкаратыўнага майстэрства. Шматлікія эскізы падмосткавых дэкарацый і ўбрання залаў, застаўшыяся нам у спадчыну ад гэтай эпохі, – паказваюць на вялікую фантазію задумак і раскошу выканання дэкарацый.

Асабліва значнай была доля удзелу дэкаратара ў тэатральнай справе, калі пастанова павінна была адбыцца на адкрытым паветры. Напрыклад, яшчэ ў XVII стагоддзі, і вельмі часта пазьней, пляц св. Марка ў Венецыі выкарыстоўваўся для наладжвання пастаноў картэжаў, і для наладжвання на ёй падмосткаў.

Із кнігі Мікалая Сабаціні, выдадзенай у Пезаро ў 1637 г. і з'яўляючайся самай старажытнай із адмысловых твораў у гэтай галіне мастацтва, – мы ведаем, што напачатку XVII стагоддзя мала задумваліся над выпрацаваннем іншага тыпу тэатра, чым нібы адноўлены, грунтуючыся на апісаннях, антычны. Ды інакш і не магло быць. Нягледзячы на дапамогу герцагаў і на конкурсы паэтаў і пісьменнікаў, нават найбольш вядомыя драматычныя трупы былі выпадкова арганізаваны, і іхныя сродкі былі занадта абмежаванымі для таго, каб распачынаць нейкія значныя ўласныя пабудовы. Шмат плаціць за месцы публіка не магла. А валадары шанаваўшыя тэатр, як, напрыклад, каралі Францыі, імператары Германіі, электары Баварыі, ці тым больш герцагі, ладзілі пастановы ў сваіх уласных палацавых тэатрах.

Акадэміі, даўшыя ў Італіі галоўны імпульс развіццю драмы і вызначыўшыя шляхі яе развіцця, таксама мелі сталыя ўласныя тэатры (які, напрыклад, мы ўжо бачылі ў Вічэнцы). Але і тут ладзілі пастановы, галоўным чынам, трактуючы іх як: літаратурны твор, які вывучаўся гэтым шляхам. А тэатральныя пастановы ў палацавых тэатрах ажыццяўляліся вельмі рэдка, даваліся з вялікімі перапынкамі і, вядома, маглі спрыяць росквіту тэатральнага будавання толькі ў тых выпадках, калі залу патрэбна было прыстасаваць для пастановы. Толькі ў такіх выпадках напружвалася думка і фантазія архітэктараў у пошуках выйсьця із цяжкага становішча, кампануючы ўсё патрэбныя маючы на ўвазе недахоп вызначанага ім месцаім і з выкананнем эканамічных разлікаў, вельмі абмяжоўваўшых іхны запал.

Так Ранучыо Фарнэзе, герцаг Пармскі, выбітны апякун мастацтваў, вырашыўшы пабудаваць на першым паверсе аднаго крыла свайго палаца тэатр, запрасіў для гэтай мэты Джавані Батыста Алеоці, які бліскуча справіўся з выпаўшым на яго долю цяжкім заданнем. Яго тэатр ўяўляў сабай відовішча апошніх намаганняў захаваць псеўда-антычныя формы. Пасьля яго пачынаецца значны пераварот.



Мал. 120
Тэатр герцага Фарнэзе ў Парме (згодна з Aleotti).

Будаўніцства тэатра было пачата ў 1618 годзе і ў 1619 годзе ўжо закончана, але толькі ў 1628 годзе адбылося яго ўрачыстае адкрыццё; з гэтага часу да сьмерці герцага Ранучыю тут былі наладжаны пастановы некалькіх спектакляў. Шмат пазьней, у 1690 годзе, з нагоды вяселля герцага Адаардо Фарнэзе з прынцэсай Даратэяй Нейбургскай, гэты ж тэатр, значна падноўлены, зноў бачыў у сваіх сьценах абранае грамадства, у колькасьці 4000 асоб згодна з аднымі паведамленнямі, ці нават 12000 (!), як сцвярджаюць іншыя крыніцы (мал. 120.).

Мяркуючы па гравюры Паола Фантанэзі, малюючай гэты тэатр у першапачатковым выглядзе, ён быў пабудаваны на першым паверсе прыдатнага дзукуючы сваёй падоўжанай форме крыла герцагскага палаца, які быў размешчаны на нізкім, маркотным беразе мелкай, каламутнай рэчкі. Пыльны, нудны манатоннасьцю сваіх алей, парк разросся на яе другім беразе. Палац суровага выгляду з нагоды бурага колеру простай цэглы, із якой быў пабудаваны, нічым не быў абкладзены і хутчэй нагадваў казармы і нават адштурхоўваў ад сябе, як і недабудаваны палац у Піачэнцы, ці палац у Мантуі, разбураны ў значнай сваёй частцы. Але наколькі быў непрывабным вонкавы выгляд гэтага палаца, настолькіх ж бліскучым і каштоўным было ўнутранае ўбранне яго залаў. Магчыма, таму так асабліва і ўражвае раскоша ці вытанчанасць унутранага ўбрання некаторых палацаў паўночнай Італіі, што яна змешчана ў бедную і панурую шкарлупіну.

У гэтым дачыненні выгляд тэатра Фарнэзе ў Парме быў цалкам падобны з выглядам Teatro Olimpico ў Вічэнцы, аблепленага хацінкамі, перакрытага нейкім дзіўным дахам, аб'ядноўваўшым тэатральную залу з усімі прыбудовамі да яе. Teatro Olimpico да такай ступені быў замаскаваны імі звонку, напрыклад, з плаца Музеі Чівіко, што вызначыць зараз дакладна яго месцаванне ўяўляецца не лёгкім заданнем.

Тэатр Фарнэзе паслужыў правобразам для шматлікіх іншых італьянскіх тэатраў і таму мы разгледзім больш падрабязна таксама яго ўладкаванне, тым больш, што ў планаванні і канцэпцыі падмосткаў і ў аздабленні яго асобных частак яшчэ заўважаюцца антычныя формы.

Зала ўяўляе сабай моцна падоўжаны прастакутнік з закругленнем на канцы, процілеглым падмосткам, і выконваючым ролю тэатрона. Адлегласць ад падмосткаў да задняй сьцяны залы 50 метраў, шырыня залы 35 метраў. Усярэдзіне амфітэатра знаходзіцца platea, накшталт антычнай архестры, аточаная высокай балюстрадай. Адсюль пачынаецца памяшканне для гледачоў, даволі крутое і ўяўляючае на плане не палову кола ці эліпсіса, а род парабалы, таму што яго бакі моцна выцягнуты ўздоўж сьцен залы. У амфітэатры 14 радоў, замыкаючыхся наверсе глухой двухпавярховай аркадай, абапіраючайся на калоны. Тып гэтай аркады моцна нагадвае апрацоўку ярусаў базілікі, пабудаванай Паладыё і Вічэнцэ, ці апрацоўку сьцен двара ў Мадэнскім палацы[57].

У паміжслупавыя прамежкі змешчаны геніі, нясучыя паходні. Яны надавалі, відавочна, урачысты выгляд зале, калі паходні былі запалены. Падмосткі былі ўпрыгожаны вельмі шыкоўным парталам, хаця яго адтуліна не адпавядала вялізнай велічыні залы. Без сумневаў, што як акустыка так і оптыка такога памяшкання былі надзвычай дрэннымі. Чалавечы голас у такой вялізнай зале, вядома, было немагчымым чуць добра. Немагчыма было і ўсё добра разгледзець на такой вялікай адлегласьці.

---

[57] Лукомскі, стар. 327.

І вось у тэатральным планаванні пачалася новая ступень, пераходная да сучаснай.

Узнікненне шматрангавых тэатраў з ложамі дапасуецца ўжо да заканчэння XVI стагоддзя і да пачатку XVII. Развіццё інтымнасьці ў асабістым жыцці, жаданне заставацца ў натоўпе «самім сабой», строгае дзяленне на станы абумовілі і адпаведныя змены ў частцы тэатра прызначанай для гледачоў.

Да назірання адбываючагася на падмостках дадалося яшчэ і жаданне ўзаемнага суназірання. Для гэтай мэты, асобныя ячэйкі-ложы служылі непараўнальна лепш, чым суцэльныя адкрытыя рады. Пышна ўбраны натоўп жадаў быць у тэатры, як на грамадзкім сходзе, і да гэтых патрабаванняў публікі каралеўскія тэатры павінны былі прыстасоўвацца.

Архітэктар Алеоці першым пачаў задавальняць гэтыя патрэбы. Ён паглыбіў, наколькі гэта было магчыма, падмосткі і зрабіў першыя крокі ў накірунку перамены іхнага плана, наладзіўшы кулісы, якімі ён імкнуўся дасягнуць натуралістычнай ілюзіі. Наладжванне куліс было акалічнасьцю, меўшай у гісторыі будучага развіцця тэатра велізныя наступствы. Да гэтага часу ўсе дзеянні адбываліся перад вачамі гледача, уключаючы пераапрананні і замены дзеючых асоб, прыстасаванне куліс схавалі ўсё гэта ад гледачоў.

Дзеля дасягнення большай ёмістасьці тэатра, Алеоці павялічыў глыбіню залы для гледачоў і, такім чынам, яго тэатр, дагаджаючы вышэйшаму грамадству, даваў магчымасць усім добра бачыць адзін аднаго ў вузкай зале і паступова набыў пашырэнне, вядома, не таму, што быў ідэальным для назірання адбываючагася на падмостках, а таму што выявіўся найбольш прыдатны для таго, каб быць пабачаным самому.

Вялікая глыбіня куліс рабіла патрэбным штучнае асьвятленне тэатра: дзённага сьвятла ўжо нехапала, і пастановы пачалі прызначацца на вечаровыя часы.

Усё ўладкаванне больш позьняга тэатру з'яўляецца ўдасканаленнем тэатра Алеоці і яно ж пакладзена ў грунт планавання нашай сучаснай тэатральнай залы. У 1639 годзе ў Венецыі быў пабудаваны тэатр Сан-Касіяна, другі тэатр падобнага планавання, ужо з трыма радамі ярусаў.

І хаця хутка далі пра сябе ведаць дрэнныя бакі акустыкі і оптыкі такіх тэатраў, аднак гэты тып спадабаўся натоўпу, і зала для гледачоў налічвае зараз да шасьці лож адна над другой[58].

* * *

Такой адзіна праўдзівай з’яўляецца гісторыя тэатра. І што ж мы тут бачым?

Класічны тэатр размяшчаецца ў ёй, як пераходная прыступка паміж балаганным, вулічным тэатрам сярэдніх стагоддзяў і нашым сучасным. Але як жа гэтая прыступка адскочыла ад свайго натуральнага месца і пераляцела на 2000 гадоў назад, ні больш ні менш, як у V стагоддзе да пачатку нашай эры, праз бездань пустэчу такога вялізнага прамежку часу? Якія магутнасьці адкінулі яе так далёка? Адказ тут можа быць толькі адзін: калі б гэта быў рэчаісны факт, то ён мог бы быць здзейснены толькі звышнатуральнымі магутнасьцямі, а калі гэта гістарычны міраж, то справа зводзіцца на простага пераламленне сьвятла перад нашымі вачамі, якое імгненна знікне, як толькі мы выдалім ад іх прызму.

Я зноў звяртаю тут увагу на той, здаючыся дзіўным факт, што народная гістарычная памяць надзвычай кароткая і што самыя выбітныя падзеі забываюцца

[58] К. К. Лукомскі: Старажытныя тэатры. 1913 г., стар. 331.

мясцовымі жыхарамі ўжо ў трэццім пакаленні, калі штогадова не паднаўляюцца нейкімі нагодамі.

Так, у Малогскім павеце, Яраслаўскай губерніі, із сядзібы майго бацькі «Барок», дзе я нарадзіўся і вырас, на адлегласьці некалькіх вёрст бачацца шэсць каменных цэркваў: у Мікольскім і Кузьме-Дзям'янскім на поўдзень, дзьве ў Верацеі на поўнач, адна на захад у Капані і адна на ўсход у Копрыне. Пасярод запар драўляных вясковых хат яны ўяўляюць велічнае відовішча, здалёк кідаючаяся ў вочы, а пабудова іх відавочна нядаўняя, ніяк не больш за паўтараста гадоў. Пабудаваны яны, як і ўсе вясковыя цэрквы заканчэння XVIII і пачатку XIX стагоддзяў, набожнымі пані на прыбыткі іхных чалавекаў і, вядома, абвяшчэнне пра іхную пабудову, ўся працэдура будавання і першае адкрыццё, выклікалі ў навакольным насельніцтве небывалую сенсацыю. Ды і з той пары ўсе сяляне ад малога да вялікага дзясяткі раз на год прыходзяць у іх на набажэнствы.

Але ідзіце і запытайце ў каго заўгодна, не толькі ў моладзі, а і ў старых людзей, сядзібы якіх знаходзяцца ўсяго ў некалькіх дзясятках крокаў ад храма: колькі гадоў назад пабудаваны гэты храм, пры якіх акалічнасьцях і кім? Ніхто вам нічога не адкажа: усё мінулае ўжо забылася, і ў розумах застаўся толькі сучасны выгляд гэтых цэркваў, ды штогадова паўтараемыя імёны сьвятых, у гонар якіх яны ўзведзены.

Так і ўсюды з руінамі. Мы толькі грунтуючыся на здагадках і розных сваіх суб'ектыўных меркаваннях называем адны італьянскія раскопы Геркуланумам, а другія Пампеяй, і я не здзіўлюся калі выявіцца, што мы перамянілі іхныя старажытныя найменні.

Старажылы гэтых месцаў, калі пачаліся дасьледаванні бачыўшыхся дзе-нідзе із пад зямлі сьцен, ужо даўно не памяталі якім імем называўся той ці іншы із гэтых гарадоў, хаця яны, разводзячы свае вінаграднікі, і назіралі як у зямлі пры апрацоўцы глебы знаходзіўся то той, то другі камень іхных сьцен.

Што ж дзіўнага і ў тым, што былі даўно забыты і руіны сярэднявечных цыркаў, цэркваў і тэатраў і што пры ўсеагульным імкненні археолагаў Эпохі Адраджэння надаваць сваім адкрыццям магчыма найбольш старажытны характар, яны рабілі такія ж неасьцярожныя высновы, як і містар Піквік, які захапіўся археалогіяй у рамане Дыкенса. Асаблівую неабгрунтаванасць вызначэнне ўзросту руін набыло пасьля таго як у 1497 годзе была “знойдзена” (а на справе напісана) у Монтэ Кашынскім кляштары кніга Вітрувія «Пра Архітэктуру».

Яна цалкам збіла з правільнай дарогі ўсю пазнейшую археалогію, і таму перш чым мы пяройдзем да новага храналагіравання «атычных руінаў» нам патрэбна пераканацца ў яе апакрыфічнасьці.

Спачатку адзначу, што поўнае імя яе аўтара Марк Вітрувій Паліён (як я ўжо паведамляў і раней) азначае у перакладзе: Памёршы Шклярнік Парэшткаапрацоўшчык[59]. Гэта не імя, а пасьмяротная мянушка.

Склад яго кнігі шмат у чым адмысловы і мала зразумелы, так што навейшыя дасьледчыкі прыйшлі нават да высновы, што аўтар ці дрэнна ведаў класічную лацінскую мову ці не заўсёды разумеў тое пра што паведамляў.

Калі зірнуць на гэта твор безстаронне, то спачатку ўзнікае думка, што ён ўяўляе сабой просты зборнік сярэднявечных тэхнічных ведаў, напісаных рознымі

---

[59] Marcus – нябожчык, звялы; Vitruvius – ад Vitrum – шкло, а pollio (скарочанае pollunctor) – апрацоўшчык парэшткаў, бальзамавальнік.

аўтарамі і толькі скампанаваных ананімным кампілятарам ад імя «Нябожчыка Шклярніка Парэшткаапрацоўшчыка».

Да заканчэння XV стагоддзя пра існаванне такай кнігі ніхто і не падазраваў. Ніякіх паведамленняў пра старажытную архітэктуру і тэхналогіі тады не было, ды і да гэтага часу няма, акрамя гэтага самага твора. Ён адзіная пэрліна ў гэтай вобласьці, ды яшчэ і якая! Цэлых сем вялікіх кніг з урыўкам дзявятай, напісаных, быццам бы, яшчэ напачатку І стагоддзя нашай эры, якраз пад час жыцця і дзейнасьці «найвялікшага дойліда зямлі» Езуса Хрыста, які гаварыў: «разбурыце гэты храм, і я за тры дня пабудую яго!».

І чытаючы яе, мімаволі ўзнікае думка: ды ці не браў удзел у яе напісанні і сам Хрыстос, тым больш, што некаторыя паведамленні ў ёй з'яўляюцца занадта заўчаснымі для першага стагоддзя нашай эры. Аўтар выказваецца там не пра адно дойлідства, але і пра гідраўліку, і ўжытковую механіку, і пра гнамоніку, са згадваннем вынаходнікаў сонечных гадзіннікаў і кляпсідраў, і пералічвае нават планеты.

Але ж у той час (у І стагоддзі) яшчэ не было нават і паперы, пісаць даводзілася на цяжка здабываемым папірусе ці вельмі каштоўным пергаменце, не маючы магчымасцьсці выпрацаваць для сябе лёгкі і вытанчаны стыль шматпісаннем. А тым часам на самай пачатку кнігі мы чытаем вытанчана-лісьлівае прысвячэнне нейкаму «найяснейшаму валадару», цалкам згодна з духам Эпохі Адраджэння.

«*Калі я падумаю, найяснейшы валадар*[60], *што магутнасьцю свайго розуму Вы зрабіліся ўладальнікам сьвету, што ўсе народы сьвету, бачачы Вашу непераможную адвагу, падпарадкоўваючую Вам Вашых ворагаў і пакрываючую славай тых, што знаходзяцца пад Вашай дзяржавай і аддаюць Вам агульнае ўшанаванне, і што рымскі народ і сенат спадзяюцца зацьвердзіць цішыню, якой яны карыстаюцца грунтуючыся толькі на мудрасьці Вашага кіравання, то я застаюся ў нерашучасьці, ці магу я паднесьці Вам гэты мой твор пра архітэктуру*?».

«*Але ўяўляючы сабе вялізную шырату Вашага розуму, я спадзяюся, што маё званне, забяспечаўшае мне некаторую вядомасць падчас валадарання Вашага бацькі, захавае мне і ў Вас такую ж літасць... тым больш, што згодна з заступніцствам прынцэсы, Вашай сястры, Вы зрабілі ласку загадаць выдаваць мне ранейшы пенсіён*»...

Я не працягваю гэтую выпіску, таму што і з прыведзеных мной радкоў чытач можа ўжо скласьці сабе ўяўленне пра позні стыль гэтага прысьвячэння, і дадам толькі, што згадванне ў ім пра валадара-бацьку (imperator caesar – як зваліся ў лацінскіх маніфестах усе аўстрыйскія імператары) вельмі бянтэжыла дасьледчыкаў і раней, якія дапасавалі аўтара да часоў Актавіяна-Аўгуста. Актавіян жа, згодна са сведчаннем усіх гісторыкаў, не быў царскім сынам.

Непараўнальна больш цікавым для нас з’яўляецц знойдзенае мной у дзевятай кнізе гэтага твора згадванне[61] пра час паміжзорнага абарачэння трох вонкавых планет. Чытач, знаёмы з астраноміяй, добра ведае, як цяжка было вызначыць гэты час дзякуючы існаванню промых і адваротных рухаў планет, якія цалкам затушоўваюць геліяцэнтрычнае вяртанне іх праз увесь купал неба да ранейшай зоркі, ды і пра геліяцэнтрыку не было яшчэ ніякага ўяўлення. А весьці размову пра пастаянства перыяду абарачэння планет вакол Сонца стала магчымым толькі пасьля Каперніка!

---

[60] Caesar augustus – найяснейшы кайзер.

[61] Кн. IX, гл. 4.

Нават сам Капернік, які нарадзіўся ў 1473 годзе ў Торне і памёр у 1543 годзе, у сваім несьмяротным апісанні планетнай сістэмы з геліяцэнтрычнага боку гледжання, вымушаны быў задаволіцца цэлымі лічбамі.

«*Самае высокае становішча*, – паведамляе ён, – *займае нерухомая сфера зорак, ахопліваючая ўвесь сусвет. У шэрагу рухомых планет першае месца належыць Сатурну, патрабуючаму для свайго поўнага абарачэння трыццаць гадоў. За ім ідзе Юпітар, які прабягае свай нябесны шлях за дванаццаць гадоў, потым Марс – за два гады. На чацьвёртай акружнасьці знаходзяцца Зямля і Месяц, якія цягам аднаго года вяртаюцца да кропкі свайго выпраўлення. Пятае месца займае Венера, здзяйсняючая сваё абарачэнне за дзевяць месяцаў. Меркурый займае шостую арбіту і здзяйсняе поўнае абарачэнне за восемдзесят дзён. Пасярэдзіне ўсіх пануе Сонца. У гэтым велічным збудаванні хто мог бы абраць іншае, лепшае месца для прамяністага сьвяціла, якое азарае ўсе планеты з іхнымі спадарожнікамі? Сонца не без падставы называюць сьветачам сьвету, душой і думкай сусьвету. Размяшчаючы яго ў цэнтры планет, як на царскі пасад, яму аддаюць кіраванне ўсімі нябеснымі целамі*».

Такім чынам, годна з Капернікам: Сатурн здзяйсняе поўнае абарачэнне за 30 гадоў; Марс – за 2 гады; Юпітар – за 12 гадоў.

А згодна з сучаснымі дадзенымі: Сатурн – за 29 гадоў 167 дзён; Марс – за 1год 322 дні; Юпітар – за 11 гадоў 315 дзён.

У Вітрувія ж (кн. 18 гл. 4) знаходзім лічбы геліяцэнтрычных абарачэнняў планет (таму што геацэнтрычныя зорныя абарачэнні варыяцыённыя), ужо апярэдзіўшымі Каперніка і набліжаючыміся больш да сучасных: Сатурн – за 29 гадоў 160 дзён; Марс – за 1 год 318 дзён; Юпітар – за 11 гадоў 363 (303?) дні.

Нават і без дапушчэння, што ў Юпітара 363 дні дзякуючы апісцы ці памылцы друкавання пастаўлены замест 303 дзён (г.азн. што аўтар ужо карыстаўся дзесятковай транскрыпцыяй, у якай 0 палічыў за падобную яму[62] ў рукапісах 6) мы ўсё ж бачым, што архітэктар Вітрувій ведаў працягласць паміжзорнага геліяцэнтрычнага абарачэння планет лепш за геніяльнага астранома Каперніка. Падумайце толькі: у вызначэнні часу абарачэння Сатурна ён памыліўся толькі на -0,00007 долю часу яго рэчаіснага геліяцэнтрычнага абарачэння! Для Марса недакладнасць толькі на -0,006 долі, а для Юпітара на +0,01! А калі палічыць, як мы зрабілі, што тут мела месца памылка і прыняцце ў рукапісу арабскай лічбы 0 за 6, то і для Юпітара атрымліваецца аднастайная з іншымі недакладнасць роўная толькі 0,003 долі яго рэчаіснага абарачэння. Палічыць, што гэта было за паўтары тысячы гадоў да Каперніка, які яшчэ лічыў абарачэнні вонкавых планеты поўнымі гадамі, – цалкам немагчыма! І сам жа Капернік лічыў цэлымі гадамі толькі таму, што больш дакладна вызначыць геліяцэнтрычныя зорныя абарачэнні планет зрабілася магчымым толькі пасьля яго кнігі, а да яе падобныя вылічэнні не мелі нават і сэнсу.

Іншая справа, калі «Памёршы Шкляр» жыў у той жа час, як і Капернік (1473-1543), тады ён мог карыстацца на поўдні і захадзе Яўропы падлікамі цэлага шэрага сярэднявечных геацэнтрычных назіранняў, якія яшчэ не дайшлі да бацькі навейшай астраноміі. Толькі тады яго геліяцэнтрычная сістэма і гэтая дзіўная нават для XV стагоддзя дакладнасць робіцца зразумелай.

Кніга Вітрувія хутка пасьля свайго «знаходжання» была надрукавана ў Венецыі ў 1497 годзе, калі Каперніку было толькі 24 гады ад роду; яна, як і рукапіс,

---

[62] А без гэтага такая вялікая памылка для Юпітара робіцца незразумелай, у той час як непараўнальна больш цяжка вызначаемыя Марс і Сатурн паказаны вельмі дакладна.

з якага яе друкавалі была без малюнкаў. Наступнае яе выданне, ужо з дадаткам малюнкаў рэдактара (а магчыма і самога кампілятара?) і з каментарамі апошняга выйшла ў 1511 годзе. Астатнія ж яе выданні з'явіліся ўжо пасьля сьмерці Каперніка, і пад рэдакцыямі іншых асоб. Толькі ў тым выпадку, калі прыведзеныя перыяды абарачэння планет былі атрыманы Вітрувіем незадоўга да першага венецыянскага выдання яго кнігі і можна патлумачыць, што Капернік, пры павольнасьці тагачасных стасункаў і цяжкасьці перапісвання і перасылання рукапісаў, мог яшчэ не ведаць гэтых больш дакладных лічбаў.

Гэта азначае і кнігі Шкляра «Пра Архітэктуру», як і астатнія класічныя творы, з'яўляецца апокрыфам заканчэння XV стагоддзя і простым папярэднікам ужо згаданых намі кніг Серліо, Фуртэнбаха і іншых. Аўтар павінен быў ужо ведаць і Паладыё.

А раз гэта так, то ўсе нашы веды пра стан архітэктуры не толькі пад час старажытнасьці, але нават і пад час сярэдніх стагоддзяў, адразу скасоўваюцца. Застаецца перад намі tabula rasa чалавечай архітэктуры ад старажытнасьці да XIII-XIV стагоддзяў, якую нам і патрэбна запоўніць галоўным чынам грунтуючыся на археалагічных дасьледаваннях, пагадняючымiся ў сваім датаванні з агульным ходам эвалюцыі матэрыяльнай культуры. Немагчыма зачыняць сабе шляхі да безстаронняга храналагіравання знаходзімых паўсюль у паўднёвай Яўропе парэшткаў старажытных тэатраў, храмаў і будынкаў, стэрэатыпнымі словамі: «а як жа пра такія вказваўся яшчэ Вітрувій у першым стагоддзі?» Выходзіць, што на справе ён выказваўся пра із не ў першым, а на прыканцы XV стагоддзя нашай эры, і ўся наша старажытная гісторыя з’яўляецца па-сутнасьці толькі мекаваннем тых ці іншых, часта ўжо забытых дасьледчыкаў, і яны пазней трансфармаваліся ў аксіёмы. Знайшлі, напрыклад, ужо ў XIX стагоддзі, у Месапатаміі парэштки і выказалі здагадку, што гэта біблейскі Вавілон, а зараз пра гэта пішуць ужо, як пра факт. Тое ж самае можна сказаць і пра большасць іншых старажытных руін.

Паглядзім жа зараз, што паведамляе і Вітрувій пра пабудову сучасных яму тэатраў і (можаце сабе ўявіць!) нават цэлых гарадоў, як быццам гаворка ідзе пра сучасную буйна-капіталістычную Амерыку.

«*Прызначыўшы месца* (пры планаванні горада), *дзе павінен быць народны пляц, патрэбна выбраць і другое месца, каб пабудаваць там тэатр* (на чые сродкі?) *для відовішчаў пад час сьвятаў, прызначаемых у гонар богаў. Патрэбна, каб гэтае месца не было шкодным для здароўя, і таму патрэбна яго знайсьці, як паказана ў першай кнізе, дзе гаварылася пра пабудову гарадзкіх сьцен. Гледачы, якія сядзяць доўгі час нерухома ў адным месцы са сваімі жонкамі і дзецьмі, могуць зведаць вялікую шкоду для свайго здароўя, калі паветра будзе тут сапсавана выпарэннямі, выходзячымі із балота ці із іншых нездаровых месцаў, асабліва таму, што цела, з пашыранымі ад забаваў жыламі, лёгка падпадае кожнаму ўплыву паветра. Але і гэтай засьцярогі недастаткова для папярэджвання шкоды, якую можа вырабіць заражанае паветра. Патрэбна яшчэ асьцерагацца, каб тэатр не быў размешчаны падмосткамі на поўдзень. Сонечныя прамяні, сабраўшыся ў яго сярэдзіне, вельмі награваюць спыніўшаяся там паветра, якое, будучы без руху, награваецца да такай ступені, што паліць, варыць і вынішчае сокі цела. Словам, немагчыма не быць дастаткова асьцярожным пры абранні самых здаровых месцаў для пабудовы тэатра*».

*«Калі ўзнікае неабходнасць будаваць яго на схіле гары, то не цяжка знайсьці яму ў ёй добрую падставу. А калі ўзнікае неабходнасць пабудаваць яго на нізкім і багністым месцы, то ніяк немагчыма зрабіць яму цьвёрдую і трывалую падставу без выканання разгледжаных у трэцяй кнізе правіл, дзе гаварылася пра падмуркі храмаў»*.

*«У падставе тэатра робяць прыступкі із мармуру ці із простага каменя. Пляцоўкі, выводзімыя колам ці поясам, павінны быць пабудаваны пагадняючыся з сумернасьцю, каб яны мелі вышыню ўсюды адпавядаючую шырыні. Калі адны з іх будуць вельмі высокімі, то будуць адбіваць голас актораў ўгару і не будуць дапускаць да вушэй задніх гледачоў. Ён будзе чутны імі невыразна праз седзячых на такіх высокіх пляцоўках. Вось чаму прыступкі павінны быць размешчаны так, каб працягнутая знізу да верху рыса дакраналася да кутоў іх усіх, і голас актора не меў бы ніякай перашкоды*».

«*Уваходы і выхады тэатра павінны быць шматлікімі і дастаткова шырокімі, і каб верхнія праходы не сустракаліся з больш нізкімі. Усё павінны быць прамымі, без заваротаў, мець свае асобныя выхады і не перашкаджаць адзін другому, так каб народ, выйшаўшы із тэатра, нідзе не быў сьціснуты. Патрэбна таксама асьцерагацца, каб само месца тэатра не глушыла гукі, і каб голас мог пашырацца ўсюды без цяжкасьцей. Для дасягнення такіх птрабаванняў патрэбна абіраць месца, якое нідзе не перашкаджае голасу пашырацца*» (мал. 121).

Мал. 121
План класічнага тэатра зодназ Вітрувіем.

«*Старажытныя* (!) *дойліды, даследаваўшы ўласцівасьці голасу, і лічачы, што ён паднімаецца ў вышыню, як быццам па прыступках, імкнуліся дакладна вызначыць ўзвышэнне, якое павінны мець прыступкі тэатра. Грунтуючыся на правільнай сувымяральнасьці матэматыкаў, раўнамернай і музычнай, яны імкнуліся, каб усе прамовы, вымаўляемыя акторамі падчас пастановы, былі выразна чутнымі ўсімі гледачамі. Падобна таму, як старажытныя музыканты, наладзіўшы музычную прыладу, пазначалі на ёй (на медзяных ці касьцяных пласьцінках) прамежкі дыёзаў і паловутонаў, для таго, каб гукі, утвараемыя струнамі, былі дакладнымі, – так і дойліды дякуючы веданню гармоніі вызначылі дакладныя памеры памяшканняў для добрага ўспрымання голасу ў тэатрах*».

І вось, – дадаю я ад сябе, – мы зноў знаходзім нешта нечаканае ў Вітрувія. Выяўляецца, што напачатку нашай эры музыканты ўжо пазначалі дїёзы і паўтоны на струнных музычных прыладах! А гісторыкі музыкі запэўніваюць нас, што дыёзы і бемолі пачалі ўжывацца толькі пасьля сярэдніх тагодзяў!

«*Кіруючыся вучэннем старажытных*, – працягвае Вітрувій у главе V «Пра тэатральныя пасудзіны», дзе ён выяўляе знаёмства і з рэзанатарамі, – *размяшчаюць медзяныя пасудзіны, на геаметрычна вызначаных адлегласьцях, бяручы за грунт велічыню тэатра, і надаюць ім такую сувымяральнасць, каб яны пры ўдары выдавалі сугучча адпавядачаючае кварце ці квінце, і такім чынам выраблялі ўсе іншыя акорды, нават да падвойнай актавы*».

«*Гэтыя пасудзіны павінны быць размешчаны паміж тэатральнымі крамамі ў маленькіх каморках так, каб яны не дакраналіся да сьцяны, але мелі вакол сябе пустую прастору. Яшчэ патрэбна, каб з таго краю, якім яны накіраваны да месца пастановы, яны былі падняты на паўфута на клінах. Іхныя каморкі павінны мець адтуліны насупраць ніжніх прыступак даўжынёю ў два футы, а шырынёю ў палову фута*».

«*Калі ж нехта скажа, што ў шмат якіх тэатрах, якія зараз штогадова будуюцца ў Рыме, нічога падобнага не бачна, то гэта адбываецца таму, што ўсе нашы тэатры будуюцца із дрэва са шматлікімі столямі, дзякуючы якім голас раздаецца лёгка. Музыканты і сьпевакі карыстаюцца гэтым, і калі жадаюць заспяваць вельмі моцным голасам, паварочваюцца да дзвярэй месца пастановы, каб іх голас узмацніўся адбіваннем ад іх*».

«*А паказаны іншы спосаб пабудовы тэатра із мармуру ці іншага нейкага каменя, перашкаджаючага раздавацца голасу, вядома, патрабуе адмысловых узмацняльнікаў голасу. Калі ж мяне запытаюць, дзе знаходзяцца тэатры, у якіх такія правілы выкананы, то я скажу, што хаця б і няма такіх у Рыме, але шмат ёсць у іншых гарадах Італіі і ў Грэцыі, як сведчыць пра гэта Л. Мумій, які прывёз у Рым медзяныя пасудзіны тэатра, разбуранага ім у Карынфе, і якія ён аддаў на пабудову храма Месяцу ці Фебе з іншымі сваімі здабыткамі. Шмат якія добрыя дойліды, будаваўшыя тэатры ў невялікіх мястэчках, якія не былі ў стане выдаткаваць шмат сродкаў, ужывалі замест медзяных і проста гліняныя пасудзіны, здольныя да адбіцця ад сябе галасу, і мелі ў тым даволі добры поспех*».

Так выказваецца Памёршы Шкляр і Парэшткаўладкавальнік, а вось што дадае да яго яго сучасны каментатар:

«Няма ніводнага пісьменніка, – выказваецца ў нататках да «Вітрувія» акадэмік Перо, – які патлумачыў бы сабе выразна, дзе ж было месца, у якім ставілі гэтыя пасудзіны. Л. Б. Альберці кажа, што гэтыя маленькія каморкі (scaphae – шафы перакладчыка) знаходзіліся ў праходах пад тэатрам – in infimis itionibus – і што яны мелі ад сябе трубы ў сьцяне ўгары тэатра. Аднак, тэкст гэтаму супярэчыць».

Хутчэй за ўсё, гэта проста праект сярэднявечнага будаўніка, які ніколі не ажыццявіўся.

«*Пры планаванні тэатра*, – паведамляе далей Вітрувій у главе VI «Пра пабудову тэатра», – *патрэбна ад цэнтра апісаць кола, акружнасць якога ахоплівала б усю падставу тэатра. У гэтай акружнасьці патрэбна намаляваць тры роўнабаковыя трохкутнікі на роўных адлегласьцях так, каб сваімі кутамі яны дакраналіся да акружнасьці, падобна таму як робяць астролагі пры пазначэнні дванаццаці нябесных знакаў, грунтуючыся на падабенстве паміж зоркамі і музыкай. Потым патрэбна правесьці другую акружнасць, паралельную з першай, якая будзе аддзяляць месца пастановы (proscenium) ад аркестра. А дзякуючы таму, што месца пастановы будзе ў нас больш прасторным, чым у грэкаў, таму што ўсе, хто бярэ ўдзел у пастанове, застаюцца ў нас на месцы пастановы, то аркестр пакідаецца для сядзення з сенатарам. Вышыня месца пастановы павінна быць не вышэй пяці футаў, каб седзячыя ў аркестры маглі бачыць усе дзеянні актораў*».

«*Месцы, на якіх размяшчаюцца гледачы, павінны быць у вышыню не менш аднаго фута, а прыступкі не больш за адзін фут і шэсць цаляў; шырыня ж іх павінна быць не большай за два футы з паловай, але і не менш двух*».

Я дадам да гэтага, што самае нізкае месца тэатра, зробленае паўколам, пасярэдзіне сядушак, мела назву аркестра таму, што ў грэцкіх тэатрах тут выконвалі балеты. Археамай – азначае скачу, танчу. А іншы апакрыфіст, Дыён Касій, паведамляе, што да Калігулы ў тэатрах сядзелі непасрэдна на камянях ці на дрэве, з якіх былі зроблены лавы; але із іншых месцаў Вітрувія бачна, што ў яго час пачалі класьці і падушкі на камяні.



Мал. 122
Пастаянныя падмосткі для трагічных пастановаў згодна з S. Serlio (1663 г.)

«*Размяшчэнне падмосткаў павінна быць,* – кажа ён, – *вольным, і месцавацца яны павінны такім чынам, каб пасярэдзіне іх знаходзіліся дзверы, упрыгожаныя падобна дзвярам царскіх палацаў, і каб яны мелі яшчэ, як на правым, так і на левым баку, двое іншых дзьвярэй для чужых актораў. Ззаду іх размяшчаюць дэкарацыі ці ўпрыгожванні, якія грэкі завуць перыактамі, таму, што яны ўладкаваны на трохкутніках, паварочваючыхся кругом. На кожным трохкутніку павінны знаходзіцца тры роды дэкарацый, якія служылі б пераменамі пры павяртанні іх рознымі бакамі. Гэта вельмі патрэбна пры фантастычных пастановах, як напрыклад, калі ўяўляюць богаў з іхнымі жахлівымі перунамі*».

«*Бываюць тры роды пастановаў,* – паведамляе Вітрувій у главе VIII «Пра тры роды пастановаў», паўтараючы тое, што выказваў і Себастыяна Серліо: – *трагічныя, камічныя і сатырычныя* (г.азн. пастухоўскія). *Дэкарацыі ў іх розныя. У трагічных пастановах патрэбны слупы, высокія франтоны, статуі і іншыя ўпрыгожванні, прыстойныя царскаму палацу. Камічныя дэкарацыі малююць прыватныя сядзібы з балконамі і кратамі, зробленымі згодна з узорам звычайных будынкаў* (мал. 123). *І, нарэшце, сатырычныя* (г.азн. на сучаснай мове пастухоўскія) *упрыгожваюцца гаямі, пячорамі, гарамі і ўсім тым, што малюецца ў ландшафтах на шпалерах»* (мал. 124).



Мал. 124
Пастаянныя падмосткі для пастаральных пастановаў, якія пазначаліся словам сатырычныя, перамяніўшым свой першапачатковы сэнс. Згодна з S. Serlio (1663 год).

«*Порцікі ззаду тэатраў*, – паведамляе Вітрувій у главе IX. «Пра порцікі і гулянні, будуючыяся ззаду тэатраў», – *будуюць для таго, каб народ, калі пад час пастановы неспадзявана пойдзе дождж, мог у іх захавацца пасьля выхаду із тэатра. Ды і тыя месцы, куды патрэбна выдаляцца выконваючым балеты, павінны быць даволі вялікімі, як гэта можна бачыць у порціку Пампея, у Еўмепавым у Афінах, і ў храме Вакха. Дакладна таксама патрэбна пабудаваць на левым баку ад выходу із тэатра адэон* (Odeum), *падобна таму, які пабудаваў Перыкл у Афінах з каменнымі слупамі і пакрыў яго мачтамі і рэямі з узятых у персаў караблёў. Ён быў спалены* (?) *падчас Мітрыдатавай вайны, але потым кароль Арыабарзан аднавіў яго. Можна таксама зрабіць адэон падобным на стаўку вярхоўнага вайскавога правадыра ў Сьмірне; ці нападобе портыка, знаходзячагася па баках тэатра на рысталішчы ў Тралах, ці згодна з прыкладам порцікаў у іншых гарадах, пабудаваных плаўнымі і майстэрскімі дойлідамі*».

«*Адкрытыя месцы, заключаныя ў порціках, патрэбна ўпрыгожыць зелянеючым шпалернікам, таму што шпацыры ў такіх месцах шмат спрыяюць здароўю, бо зеляніна надае выразнасць рэчам, кідаючымся ў вочы, патанчае паветра і ваганнем сваім расчыняе поры ў целе, дзякуючы чаму рассейваюцца шкодныя флюіды, знаходзячыяся каля вачэй*».

Такім чынам мы, бачым тут нават і гігіену... Але вось высвятляецца, што аўтар кнігі пра рымскую архітэктуру – на жаль! – ніколі не бываў у Рыме:

«У плане парэштказ старажытнага Рыма, – сведчыць каментатар Вітрувія акадэмік Перо, – існуе малюнак Пампеева тэатра, але тое, што засталося ад порціка, знаходзячагася ззаду тэатра, не мае ніякага падабенства на тое, што апісвае Вітрувій: няма ні гулянняў, абсажаных дрэвамі, ні шпалернікаў пасярэдзіне падвойнага порціка»...

Такім чынам, высвятляецца, што ўсё гэта фантазія апакрыфіста...

Невядома нават і тое, што аўтар называе адэонам каля тэатра. Свідас сцвярджае, што такое месца прызначалася для музычных рэпетыцый перад пастановай ці спевамі ў тэатры, выводзячы гэтую назву ад слова одэ, якое па-грэцку азначае песьня. Арыстафан прытрымліваецца цалкам іншай думкі і лічыць, што адэон служыў для чытання вершаў. Плутарх у апісанні жыцця Перыкла, сцвярджае, што адэон будаваўся для слухачоў музычных спаборніцстваў, але яго апісанне вымушае думаць, што гэта быў род тэатра, таму што Плутарх паведамляе, што ў ім знаходзіліся лавы для сядзення, і навакол – слупы.

Сучасныя гісторыкі не могуць вызначана аказаць на пытанне: як жа пісаліся старажытныя дэкарацыі; ці была ў гэтых выявах перспектыва ўмоўнай, і калі – так, то з дапамогай чаго дасягалася ілюзія аддаленасьці ландшафту?

«Вельмі верагодна, – лічыць Лукомскі, – што дэкарацыі пісаліся на драўляных шчытах». Што ж да перспектывы, то, – як запэўнівае Перо, асабліва вывучаўшы гэтую галіну старажытнага тэатральнага мастацтва, – яе там не было.

А Вітрувій сцвярджае, што яшчэ ў часы Эсхіла маляр Дабратвор (Агафарх) наладзіў перспектыўныя падмосткі і пакінуў пра іх апісанне, якім пазьней карысталіся Дэмакрыт і Анаксагор пры стварэнні свайго апісання перспектыўнай выявы будынкаў у падмосткавым малярстве. І тут зноў мы бачым відавочныя анахранізмы і чыстую фантастыку ідэалізаванага старажытнага жыцця, так характэрную для Эпохі Адраджэння.

Існавала, – пераконваюць нас, – некалькі тыпаў тэатральных машын: адны, размешчныя каля галоўных уваходаў, служылі для імітавання шуму мора, другія (размешчаныя пад тэатрам) прызначаліся для з'яўлення багаў спускаючыміся з нябёс і з'яўляючыміся на заклік паэтаў. Часам багі спускаліся зверху на падмосткі, часам толькі пераходзілі іх ад краю да краю, часам падніміліся ўгару. Адпаведна гэтаму і машыны былі ўладкаваны па-рознаму.

Мяркуючы па парэштках вялізных старажытных тэатраў, адлегласць ад падмоскаў ад гледачоў не дазваляла заднім шэрагам ні добра бачыць рысы асобы актораў, ні чуць голас паэтаў. Апошнія ўжывалі, згодна са сведчаннямі пісьменнікаў Эпохі Адраджэння, для ўзмацнення голасу маскі (хаця і зразумела, што імі голас не ўзмацніць!) і размалёўвалі свае твары, каб падкрэсліць той ці іншы патрэбны ім выгляд. Потым быццам бы былі ўведзены маскі, зробленыя з лісьця Arctum Luppa. Гэтае вынаходніцтва, аўтар якога застаўся невядомым Арыстоцелю (Паэтыка, V глава), прыпісваецца Афінеем і Свідай паэту Хайрылу, сучасніку Феспіса, а Гарацыем – Эсхілу. Гэта рабіла, вядома, «класічны тэатр» падобным на кірмашовыя балаганы XIX стагоддзя з маскіраванымі Пятрушкамі.

Такім чынам, Вітрувій апісвае тэатры амаль такімі ж, як і Серліо пад час Эпохі Адраджэння, і мы бачым, што знаходзімыя ў паўднёвай і заходняй Яўропе парэшткі тэатраў спланаваны згодна з той жа сістэмай, як яны і апісаны ў гэтага архітэктара. Паглядзім зараз, што нам паведамляюць гісторыкі і пра тэатральныя пастановы.

Мы ўжо бачылі як пад час сярэднявечча (гл. стар. 598) яны ўзніклі ў Заходняй Яўропе із Дыёнісавых урачыстасьцей і вось тое ж самае нам кажуць пра класічны тэатр.

«Пачатак тэатра ў грэкаў, – піша Лукомскі[63], – немагчыма цалкам выразна вызначыць і датаваць грунтуючыся на строга навуковай глебе. Звычайна

[63] Старажытныя тэатры, стар. 103.

прыводзяць – у якасьці магчымага першапачатковага пункту класічнай драмы – спаборніцтвы ў сьпяванні дыфірамбаў з нагоды святаў у гонар Дыёніса. Арыстоцель (зноў апокрыф Эпохі Адраджэння!) першым заняўся вывучэннем падмосткаў у сваім творы «Пра дзідаскаліі і перамогі» пад час грэцкіх дзіянісій. Як навукоўцы дасьледчыкі тэатра, вядомы яшчэ Палукс, Лукіян і Марк Тэрэнцый Варан Реатнтцкі. У Вітрувія для тэатра асаблівае значэнне мае кніга VII і ў Квінтыліяна адзінаццатая кніга.

«Але акрамя твораў Вітрувія, пра архітэктуру старажытнага тэатра не захавалася амаль нічога. Без гэтай крыніцы, – кажа Лукомскі, – нам былі б не зразумелымі ўсе тэатральныя пабудовы, дайшоўшыя да нас у выглядзе парэшткаў. Мы вызначылі б у іх месцы для гледачоў, але б не зразумелі месцазнаходжанне падмосткаў (ды і час гэтых парэшткаў, – дадам я, – мы не перанеслі б так далёка назад, як робіцца да нашага часу).

Прадметам самых старажытных падмосткавых пастановаў былі, як і зараз, прыдуманыя ці праўдзівыя здарэнні. Згодна са сваім зместам пастановы распадаліся на некалькі відаў. Яны не былі штотыднёвымі, а з’яўляліся часткай грамадзкіх сьвятаў, ладзіўшыхся ці з рэлігійнай мэтай, у гонар бога, ці з нагоды трыумфаў, шлюбаў валадарачых князёў і г.д.

Рэгулярныя ж падмосткавыя пастановы ладзіліся, – кажуць нам, – пад час трох із чатырох святаў у гонар бога Дыёніса. Але гэтыя сьвяты ў розных пластах насельніцтва набывалі розныя формы. Вясковыя жыхары пераважна аддаваліся аргіястычным забавам, тым часам як гараджане знаходзілі больш жыццярадасныя формы, адпавядаючыя іхнаму больш вытанчанаму характару.

Першыя дыёнісавы сьвяты ладзіліся ў месяцы Гамеліёне (студзень), гэта былі вялікія ці гарадзкія дыянісіі; другія былі ў месяцы Элафебалаёне (сакавік) і трэцція, малыя ці вясковыя дыянісіі ў месяцы Пасейдоне (снежань).

Існуючыя зараз парэшткі тэатра Дыёніса ў Афінах (гл. мал. стар. 560) дапасуюцца, звычайна, да эпохі Антанінаў.

«Але ў найбольш аддаленыя часы, – паведамляюць нам апокрыфы Эпохі Адраджэння – грэцкія дыянісіі месцам свайго дзеяння мелі круглыя, знаходзіўшыяся звычайна паблізу храмаў, пляцоўкі, абсыпаныя залацістым пяском. Пасярэдзіне такай пляцоўкі на ўзвышэнні размяшчаўся ахвярнік (а згодна з Ціршам – пастамент для флейтыста), і гледачы аб’ядноўваліся ў адну працэсію з дзейнічаючымі асобамі.

«Потым (як і ў Заходняй Яўропе пад час сярэдніх стагоддзяў), началі будаваць драўляныя падмосткі для больш лёгкага назірання. Свідас наладжвае трыбуны, і іхная канструкцыя пераносіцца ў Азію і Афрыку. Феспіс, першым выпускае актора і такім чынам усталёўвае тэатральнае дзейства».

Такімі з’яўляюцца ўяўленні гісторыкаў грэцкага тэатра пра яго залатое дзяцінства.

Афінскі тэатр Дыёніса, названы згодна з найменнем знаходзіўшагася па суседству храма, быў, – кажуць нам, – адным із лепшых. Пабудаваў яго Філан, архітэктар часоў валадарання Перыкла. Ён быў пачаты пад час 70 Алімпіяды («500 да Н. Х.»), будаваўся сто гадоў (!) і пад час 112 Алімпіяду быў адкрыты Лікургам. Імператар Адрыян, – кажуць нам, – адрамантаваў яго. І тэатр Дыёніса стаў прыкладам для ўсіх больш пазьніх тэатраў.

Яго падмосткі, – кажуць нам, – былі каштоўна ўпрыгожаны. Акрамя машын, тут быў тэалагіён, служыўшы для вывядзення на падмосткі богаў, якіх, як вядома,

старажытныя паэты вельмі часта клікалі сабе на дапамогу для паскарэння заканчэння драмы ці для вырашэння ўжо занадта заблытанай інтрыгі. Вонкавае аздабленне тэатра было із мармуру; фасад складаўся із трох паверхаў, уключаючы сюды і верхнюю каланаду, якая разам з прасцэніумам была адзінай крытай часткай тэатраў. На выпадак дажджу гледачы павінны былі запасьціся адпаведным адзеннем, а калі буран быў значным і пастанова перапынялася, – публіка хавалася ў знешніх порціках, прылягаўшых да фасадаў.

Так нам паведамляюць, але паглядзім, што ж знойдзена пры раскопах.

«Тэатр Бахуса (ён жа тэатр Дыёніса; мал. стар. 560), – уяўляе сабай такія жудасныя разваліны, – пісаў пра яго яшчэ сто гадоў таму назад І. Сцюарт, – што я сумняваюся, ці змагу даць яго апісанне, добра прадбачачы ўсе цяжкасьці гэтага, і помятаючы пра яшчэ большыя, якія нам даводзілася пераадольваць пад час нашых пошуках, ніколі не абяцаўшых паўнату дасьледавання.

«Дзякуючы таму што фасад падмостваў служыў часткай умацавання, і нават месцаваўся якраз каля адзінага ўваходу ва ўмацаванне, то нашым працам увесь час перашкаджаў гарнізон.

«Туркі, валодаючыя ўмацаваннем, не маглі зразумець, чаму мы жадаем памераць якраз тыя месцы, дзе, як ім здавалася, не было ніякіх бачных парэшткаў тэатра і адмаўляліся верыць, што адзінай мэтай такога жадання і нашых намаганняў было нанясенне на план пагоркаў зямлі, пахаваўшых у сабе, магчыма, парэшткі тэатра.

«Справа ў тым, што прасцэніум, лагейён, архестра і іншыя найбольш цікавыя часткі тэатра, былі пакрыты зямлёю і смеццем на значную вышыню, дзякуючы чаму тут і захаваліся больш каштоўныя парэшткі, чым тыя, якія знойдзены ў шмат якіх іншых старых тэатрах Яўропы і Азіі – як, напрыклад, ахвярнік крэсла 1-га рада і г.д.

«Цудоўны выгляд адкрываецца з яго аркі. Удалечыні, на гарызонце, заліў сінеючага мора, направа – пагоркі. Падмосткі захаваліся нядрэнна; бачны двое дзьвярэй парасцэніума і версура».

Вось і ўсё, што мы маем праўдзівага пра гэтыя парэшткі.

Усе «помнікі тэатра Бахуса», апублікаваныя навукоўцамі, не даюць нам дакладнага ўяўлення пра тое, якім быў выгляд тэатра: ці была яго архітэктура пышнай і палацавай ці яго масы нагадвалі простую дэмакратычную пабудову. Некаторыя рэканструкцыі трактуюць гэты тэатр, як храм, іншыя – як звычайная сядзіба.

І грэцкія і рымскія тэатры падзяляліся на ўласна тэатры і адэоны. Тэатры былі разлічаны на вельмі вялікую колькасць гледачоў і былі з нагоды гэтага вялікімі непакрытымі будынкамі, служыўшымі, галоўным чынам, для пастановаў драм. Іх выкарыстоўвалі, праўда, і для народных сходаў, для гульняў, для відовішчаў са звярамі, але гэта не перамяняла іхнага значэння.

«Адэоны былі крытымі меньшымі пабудовамі, прызначанымі для рэпетыцый і нехаравых пастановаў». Лічыцца, што яны былі выключна колападобнай формы.

Самы старажытны грэцкі тэатр, пра які мы маем больш-менш падрабязныя паведамленні, асабліва атрыманыя за апошні час, і быў адэонам, узведзеным, – кажуць нам, – Перыклам у 443 годзе ў Афінах для музычных конкурсаў і, асабліва, для спаборніцтваў у выкананні на флейце – галоўнай музычнай прыладзе на якой выконвалі музыку пад час панафінейскіх сьвятаў.

Але ад яго засталося толькі некалькі камянёў, размешчаных паміж тэатрам Дыёніса і «помнікам Лізікрату».

Цалкам кажучы, грэцкія тэатры ўтвараюць сабай пабудовы вельмі адмысловыя, таму што яны былі прызначаны, з аднаго боку, для спаборніцтваў у выкананні на флейце, а з другога – для гімнастычных практыкаванняў і для разнастайных сходаў.

Іхная архітэктура была адным із адгалінаванняў рэлігійнай творчасьці грэкаў. Сама ідэя тэатра да такой ступені атаясамлялася ў іх з рэлігіяй, што нярэдка магільні размяшчаліся ў вельмі блізкім суседстве з тэатрамі, як, напрыклад, у Сіракузах.

На працягу перыяда да-Эсхілавай драмы, калі яшчэ не было сапраўдных тэатраў, актор, – кажуць нам, – проста станавіўся на стол, напэўна, на ахвярнік Дыёніса, і такім чынам прамаўляў дыялог. Груба пабудаваныя падмосткі, у выглядзе памоста, часта малюемыя на некаторых паўднёва-італійскіх вазах, паказваюць на перажытак гэтага прымітыву. Толькі Эсхіл, – кажуць нам, – наладзіў больш складаныя падмосткі, дадаўшы драўлянае памяшканне для актораў і службовае памяшканне.

Літургія ў грэкаў выкарыстоўвала, як і цалкам уся антычная музыка, толькі спалучэнні із чатырох нот, тэтрахордаў, і адпаведна таму ў якім із тэтрахордаў развівалася мелодыя, адзін спявак прытрымліваўся той ноты, якай характарызаваўся ўвесь тэтрахорд.

Вось пералік найбольш вядомых грэцкіх тэатраў:

У Еўрапейскай Грэцыі: тэатр Дыёніса (Афіны); тэатр паблізу Зеі (у Пірэі, адкапаны ў 1880-1885 гадах), у Аргасе, у Сікіёне (адкапаны ў 1887 годзе), у Спарце, у Фарыкасе (маленькі, няправільнага планавання адкапаны ў 1886 годзе), у Плеўроне, у Херанеі, у Меласе, на Дэласе, у Эрэтрыі, у Нікапалі, у Магнэзіі, у Сініі і Рыніасе (абодва ў Эпіры), у Мантынеі, у Мегалаполі, у Драмісе, у Кнідзе, у Аропе (адкапаны ў 1886 годзе), на Эгіне, у Масене.

Грэцкія тэатры Малой Азіі: у Пергаме (адкапаны ў 1885 годзе), у Эдзанах, у Пергу, у Аспендзе (найлепш захаваўшыся із усіх тэатраў), у Асасе (ці Ясасе, з выдатна захаваўшымся тэатронам), у Эфесе, у Мілеце, у Ліндзе, у Стратонісе, у Патарах, у Тэлмісе (вельмі вялікага памеру), у Кісфене, у Антыфеле, у Мірах, у Лімірах, у Сідзе, у Гіераполі, у Лаадысе, у Сагаласе, у Анамурыі, у Селінунце (у Кілікіі) і ў Прыене (мал. 125).

Грэцкія тэатры ў Сірыі: у Герасе.

Грэцкія тэатры на Сіцыліі: два ў Тэарміне, па аднаму у Катаніі (мал. 126), у Сегесьце, у Тындарыдзе, у Палацала-Акраідзе (рымскія падмосткі мал. 127), у Гімеры і ў Сіракузах.



Мал. 125
Парэшткі грэцкага тэатра-цырка (царквы) у Прыене, на мысе Мікале ў паўднёвай Грэцыі (згодна з фотаздымкам).



Мал. 126
Парэшткі «класічнага» тэатра-цырку (царквы) у Катаніі каля падэшвы Этны (згодна з фотаздымкаі).



Мал. 127
Парэшткі «класічнага» тэатра-цырка (царквы) у Палацоло-Акрэідзе ў Сіцыліі (згодна з фатаздымкам).



Мал. 128
Парэшткі старажытнага «класічнага тэатра-цырка (царквы) у Аранжы (згодна з фотаздымкам).

Із адэонаў вядомы тэатры: Перыкла на ўсход ад тэатра Дыёніса, і другі, нібыта пабудаваны кападакійскім царом Арыябарзанам II і архітэктарам Філапатарам.

У Афінах існаваў і яшчэ адзін невялікі тэатр, пабудаваны быццам бы Ірадам Атыкам у гонар Регулы. Шыкоўнасьцю свайго аздаблення, – пераконваюць нас, – ён перавышаў нават тэатр Дыёніса. Усе яго драўляныя часткі былі зроблены із кедра.



Мал. 129
Парэшткі старажытнага тэатра ў Пергаме ў Малой Азіі (згодна з фотаздымкам). Усё той жа тып і тая ж эпоха, як і папярэднія здымкі.

Але найбольш тыповы для дасьледчыка нядаўна адкапаны тэатр у Эпідаўры, які лічыўся, згодна з Паўсаніем, пабудовай знакамітага Паліктэта, самай прыгожай у сьвеце. Таксама маюць каштоўнасць тэатры ў Аспендзе (у Памфіліі) і ў Пергаме, з выдатна захаваўшыміся падмосткамі, адсутнічаючыя ў шмат якіх іншых парэштках грэцкіх тэатраў і добра захаваўшыяся таксама толькі ў адным рымскім тэатры ў Аранжы (мал. 128).

Тэатр у Пергаме (мал. 129) знаходзіцца на высокай гары, спускаючайся амаль стромкімі ўступамі да шырокай раўніны. Вышынёю свайго размяшчэння (46 метраў) ён перавышае нават тэатр у Эпідаўры.

Гэта бязспрэчна лепшы із усіх у Яўропе і Азіі, не толькі дзякуючы сваёй захаванасьці, але і значнасьці.

Праўда, шэрагі яго месцаў для сядзення не з'яўляюцца творам высокага мастацтва, але, выдатна захаваўшыся ад першага да апошняга і прастаяўшы стагоддзі, яны не могуць не рабіць вялікага ўражання.

Светлы і цьвёрды камень усходаў і сядушак блішчыць на сонца як белы мармур, які да таго ж выдатна адцяняецца атачаючай яго чырвонай глебай, а шэра-зялёныя алівы Кінартыёпскага ўзгорка ажыўляюць краявід.

Раскопы ў Эпідаўрскім тэатры пачаліся ў 1881 годзе, і ён грунтоўна вывучаны Пухштэйнам[64].

Яшчэ нядаўна выгляд яго падмосткаў быў непараўнальна больш суцэльным, чым зараз, як паказвае гравюра Блюе, замаляваўшая гэты тэатр у 1829 годзе. Але

[64] Blouet: L'Expedition de Moree.

ужо за прамежак ад 1820 да 1881 гады ён зведаў вельмі значнае разбурэнне. «Значна большае разбурэннэ, чым, магчыма, раней за цэлыя стагоддзі і нават пяцісотгоддзі»... – кажа Лукомскі. Але гэта цалкам неверагодна, і таму даводзіцца дапусьціць, што і Эпідаўрскі тэатр не такі ўжо старажытны, як думаюць. Я адзначу, што і цалкам узмоцненае разбурэнне старажытных парэштказў, назіраемае ўсюды з часоў іх верагоднага апісання і замалёўкі, тлумачыцца не тым, што так шкодна ўплывалі на іх гэтыя апісанні і замалёўкі, а тым, што ім надавалі занадта вялікі час існавання раней гэтага.

Паглядзім зараз і на Сіцылійскія грэцкія тэатры.

«Удалечыні бачны плямы цёмнай зеляніны садоў, густыя зарасьлі папірусу, – піша Г. К. Лукомскі, якога мы так ужо шмат цытавалі, – і сярод духмяных лімонавых садоў і вінаграднікаў бачны Сіракузы, маленькае мястэчка на скалістым выступе Артыгіі – Сіракузы, якія так шанавалі Піндар і Гелан.

«І толькі самотная калона з блізкай адлегласьці здаецца сведкай некалі заможнага мільённага горада, у якім Цыцэрон налічваў чатыры асобныя часткі: Артыгію, Ахрадыну, Неапаль і Ціху пры гэтым яшчэ не згадаў пра Эпіполах.

«У Артыгіі размяшчаліся ўсе лепшыя храмы Геры, Артэміды, палац Гіерона, а ў Неапалі – тэатр і амфітэатр. Цыцэрон у сваіх «Верынах» падрабязна апісвае ўсе гэтыя помнікі.

«А зараз, у садзе, на набярэжнай, дзе ўзвышаецца нязграбны помнік Архімеду, гуляюць грамадзяне, забыўшыяся пра ранейшае мастацтва, вырачаныя на нецікавае жыццё ў гэтай высахшай, забытай зараз краіне. Я не бачыў ніводнага прыгожага твару сярод прамых нашчадкаў старажытных сіцылійцаў. Бляск вачэй мясцовых жанчын, апранутых у чорнае, так мала нагадвае часы Арыстыпы і вядомай сіцыліянкі Лаіс».

Так Г. К. Лукомскі параўноўвае старажытныя Сіракузы з новымі! Сумная дэградацыя! Але ці адпавядае гэта рэчаіснасьці? Ці не міраж усё тое, што ён уяўляе пра старажытныя Сіракузы?

«Для мяне, – сведчыць Мапасан, пад гіпнозам таго ж міражу, – мары пра Грэцыю ажыццявіла Сіцылія: яна паказала мне Грэцыю, і калі я думаю зараз пра гэтую такую мастацкую краіну, я бачу высокія горы з іхнымі мяккімі класічнымі лініямі, а на вяршынях гор строгія храмы, магчыма, выглядаючыя трохі цяжкавата, але бясконца велічныя, якія сустракаюцца на гэтай выспе на кожным кроку.

«Усё бачылі Пестум і захапляліся ганарлівымі парэшткамі на аголенай раўніне, удаючайся ў мора, якую з другога боку атачае кола блакітнаватых гор. Але калі храм Нептуна і лепш захаваўся і больш стыльны (як кажуць), чым храмы Сіцыліі, то апошнія размешчаны ў атачэнні такіх прыгожых, нечакана выдатных краявідаў, што немагчыма адлюстраваць уражанне, якое яны вырабляюць.

«Выязджаючы із Палерма, трапляеш у шырокі апельсінавы гай «Залатую Ракавіну». Спачатку накіроўваешся ўнутр выспы, па берагу, складзенаму із бурых гор і чырвоных скал, а потым па ўзнімаючайся ўверх дарозе, сярод вінаграднікаў, палетак і квітнеючых алоэ.

«Пасьля двух гадзін шляху вы заўважаеце горы, злучаныя палогім схілам, закругляючымся ў напрамку да вяршыні, а пасярэдзіне схілу профіль грэцкага храма, аднаго із тых магутных і шыкоўных помнікаў, якія богападобны народ будаваў сваім чалавечым багам. Гара ўзвышаецца па-за храмам і над ім, яна абдымае яго, атачае сабай і як быццам бароніць і лашчыць яго. А ён, сваімі трыццаццю шасьцю дарычнымі калонамі, цудоўна вылучаецца сярод зялёнага

Тое ж самае сваяцтва хрысьціянства і паганства мы бачым і ў вобразе бога вайны – Марса. Імя Марс, ці, больш дакладна Март, паходзіць ад біблейскага слова Мард (МРД) – мяцежны, адкуль і сірыйскі бог Мардук, пазначаўшы сабай і планету Марс. Згодна са старажытным лацінскім юліянскім календаром ён адпавядае апусканню ў полымя вечаровага зарыва сузор'я Авена ў месяцы сакавіку, у якім слупаваны і евангельскі Ратавальнік Сьвету. А згодна з грэцкай міфалогіяй Марс меў назву Арэс, ад жыдоўскага слова Арые, г.азн. Леў, адкуль і імя Арый, аднасэнсоўнае па-жыдоўску з хрысьціянскім імем Леў і з французкім Леон.

Культ Марса згодна з гэтай тэрміналогіяй паходзіць ад старажытнага глыбокага ўшанавання ільва, як прадстаўніка забіваючай магутнасьці, для залагоджвання якой ім прыносіліся у ахвяру авечкі і цялёнкі. Пазней, пры перанясенні зямных богаў на неба і зямны «бог-Леў» перайшоў у сузор'е Ільва, астралагічную сядзібу Сонца, ва ўсёпажыраючае сузор'е летняй спёкі. Астральнае ператварэнне грознага бога Нябесных Ваяроў (Саваафа-Марса-Арэса-Ільва) у рахманага і забітага за грахі людзей Авена (вясновая сядзіба Марса) (мал. 137) павінна было адбыцца ўжо пасьля слупавання Езуса, пры чым патрэбна дадаць, што ў старажытнасьці войны звычайна пачыналіся ў сакавіку, вясной, каб войска мела магчымасць карміцца на месцы дзеяння і ў той жа час сузор'е Ільва з'яўлялася на ўсходзе адразу пасьля заходу Сонца.



Мал. 139.
Гэта не сучасны закаўказскі архірэй, а – можаце сабе ўявіць! – Першасьвятар (па-грэцку таксама архірэй) асіра-вавілонскага цара Асур-Назарэй-Хабала, які жыў быццам бы яшчэ за 930 гадоў «да Нараджэння Хрыста», з такім жа крыжом на грудзях, як і сучасныя праваслаўныя архірэі (із кнігі Мальвера «Навука і Рэлігія», 1923 г.).

Адзінства паганства і хрысьціянства на ўсёй прасторы ад Італіі і Англіі да Тыбета і Індыі само кідаецца ў вочы. Вось, напрыклад, малюнак із цікавай «кнігі Мальвера «Навука і рэлігія» (мал. 138). Скажыце самі, хто гэта? Падмаскоўная прасвірня з праваслаўнай харугвай? – Не! Гэта будыйская сучасная манашка ў рэлігійнай працэсіі! А вось і іншы малюнак (мал. 139), пра які вы пры першым позірку скажаце: гэта праваслаўны іераманах! – А нам кажуць, што гэта Асур-Назарэй-Хабала (г.азн. шчаслівы Хрыстос Ахавацель), які жыў быццам бы ў Месапатаміі яшчэ за 930 гадоў да пачатку хрысьціянства! Вось і яшчэ малюнак праваслаўнага паслушніка з крыжам (мал. 140), пра якога нам кажуць, быццам гэта «фінікійская багіня Астарта» (Венера) са сваім скіпетрам. Возьмем, нарэшце, са шматлікіх іншых і яшчэ малюнак із таго ж шэрагу, пра які, кожны непапярэджаны скажа: гэта выява служыцеля хрысьціянскага ахвярніка ў яго прафесійным уборы

(мал. 141), а нам кажуць, што гэта здымак са статуэткі старажытна-франкскага бога Юпітара!



Мал. 140.
Малюнак, дарэмна лічымы за фінікійскую багіню Астарту (Венеру). (Із кнігі Мальвера: «Навука і Рэлігія».)



Мал. 141.
Старажытна-гальская статуэтка бога ці сьвятога з крыжамі на адзенні, із ліку захоўваемых у Луўрскім, Ліёнскім, Біёнскім, Сэн-Жэрменскім і ў некаторых іншых французкіх музеях, і дарэмна лічымая дахрысьціянскай.

Калі ж палічыць такія сведчанні (а ўсе яны, калі дакапаешся да першакрыніцы, зводзяцца да простых здагадак), то давялось бы прызнаць, што пад адным і тым жа адзеннем хаваецца шмат разнастайных прафесій.

Але вось вам, і наадварот, цэлы шэраг выпадкаў, у якіх даводзіцца дапусьціць, што нават і пад розным адзеннем хаваецца тая ж самая прафесія і той жа рытуал. Паглядзіце толькі на малюнкі 142 і 143, малюючыя ягіпецкіх сьвятых, якія лічацца дахрысьціянскімі. І згодна з фігурай і з характарам малюнка яны вельмі не падобныя на праваслаўных. Але што ў іх у руках? Вы бачыце самі – крыж з гафтачкай зверху для нашэння на шнурку, як і хрысьціянскія нагрудныя, але толькі зроблены не вельмі вытанчана. Такім прыстасаваннем характарызуюцца амаль усе старажытныя крыжы.



Мал. 142.
Планета Венера ў сузор'і Скарпіёна з кіем у аднай руцэ і з ручным крыжам у іншай, лічымая за багіню Pselk, даўшая найменне гораду Псельк (зараз Дака ў Нубіі). Із наваколля ягіпецкага горада Вавілона паблізу Мемфіса, (Guigniaut: «Religions de l'Antiquite», 1841, г., pl. 179).



Мал. 143.
Боская Маці Ізіда корміць грудзямі сына, які нясе свой крыж у руцэ (із Гнедзіча). Крыжы маляваліся заўсёды з вушкам для нашэння ў руцэ ці на грудзях.

Але чаму ж крыж стаў знакам хрысьціянства, калі ніякі Хрыстос ніколі не быў укрыжаваны на крыжы, а слупаваны, як значыцца ва ўсіх грэцкіх тэкстах евангелляў?[74] Адказ на гэта просты і відавочны. Слуп ператварыўся ў крыж, таму што слова Хрыстос пазначалася ў старажытнасьці крыжападобнай літарай Х, такай жа, як і руская. Вось, напрыклад (мал. 144), выявы із рымскіх катакомбаў. Там літара Х для выразнасьці пераплецена вяззю нават з літарай Р, каб атрымалася Хр., а ў іншых выпадках гэтая ж літара Х пераплецена з І, каб атрымалася Езус Хрыстос, як гэта бачна на першых двух выявах малюнка 144. Ёсць і гамíраваныя крыжы, кончыкі якіх загнуты ў выглядзе грэцкай літары гама (Г), хаця б і ў іншы бок. Яны ж сустракаюцца і на іншых розных рэчах, на зашпільках, спражках, шпільках і гліняных пасудзінах гальштадзкай эпохі ў паўднёва-заходняй Яўропе і

[74] Хрыстос, кн. І.

нават у Гісарлыку ў Малой Азіі на аднай статуэтцы, малюючай, як пераконваюць нас, багіню Маю (Мар'ю, мал. 145), і нават у Тыбеце (мал. 146).




Мал. 144.
Розныя анаграмы Езуса Хрыста ў катакомбах.



Мал. 145.
Статуэтка, знойдзеная ў Гісарлыку ў Малой Азіі і пазначаючая Майю (г.азн. Марыю), як будучую маці Хрыста.



Мал. 146
Частка медзянай статуэткі Буды (у Рускім этнаграфічнай музеі і ў музеі Гімэ ў Францыі) з кленапастаўленым крыжам на грудзях (званым «свастыка»).

Дзякуючы ўсталяваўшамуся пачынаючы ад Эпохі Адраджэння наданню пра дахрысьціянскую старажытнасьць ягіпецкіх, малаазіяцкіх і грэка-лацінскіх археалагічных знаходак, гэтыя сярэднявечныя выявы збівалі дасьледчыкаў з

правільнага шляху: аб’яднаць відавочна аднастайнае і вымушала, насуперак відавочнасьці, бачыць у іх нейкае дахрысьціянскае глыбокае ўшанаванне пачатковай літары імя Хрыста і дапасаваць яшчэ да гэтай здагадкі проста за валасы прыцягнутае полымяшанаванне. «Гамiраваны крыж, ці, як яго звалі, свастыка (svastica), – выказвалі яны здагадку, – была старажытнай прыладай для здабывання полымя крыжападобным шараваннем галінкі аб галінку». Але ў такім выпадку, чаму ж у іх загінанні нападобе літары Г? Ды і, акрамя таго, падобным спосабам наўрад ці здабудзеш полымя. У дзікуноў полымя і да гэтага часу здабываецца цалкам іншым шляхам: хуткім вярчэннем круглай палачкі, устаўленай адным канцом у паглыбленне дошкі, а вярчэнне робіцца цецівай лука, абручанай вакол яе сярэдзіны і рухаемага то назад то наперад, так што ніякага гамiраванага крыжа і ў гэтым выпадку не атрымліваецца. Дакладна гэтак жа і сугучнасць словаў ігніс (лацінскае – полымя) і ягня (агнец) сама па сабе не магла паслужыць падставай узнікнення новай рэлігіі: такіх сугучнасцяў у кожнай мове без канца.

І вось мы тут і археалагічным шляхам прыходзім да патрэбы аб'яднаць еўрапейскае і азіяцка-афрыканскае паганства з хрысьціянствам тых жа рэгіёнаў, шляхам перанясення ўсіх гэтых помнікаў старажытнасьці ў сярэднія стагоддзі, і павінны лічыць усе гэтыя культы толькі адгалінаваннямі хрысьціянства.

Наогул жа патрэбна сказаць, што перанясенне сядзіб багаў з зямлі на неба павінна было адбыцца не раней III ці IV стагоддзя, калі сістэма Пталямея была ўжо прызнана тэолагамі. Да таго ж часу і Сонца, і Месяц, і зоркі толькі праходзілі па шкляным нябесным каўпаку над плоскай Зямлёй, а начаваць заўсёды вярталіся на зямлю. Толькі Пталямей (ад біблейскага ПТЛ-ЭМ-ІЕ – спаборнічаўшы з богам), які жыў, згодна з гістарычным паданнем, на прыканцы II стагоддзя нашай эры, адлучыў неба ад Зямлі і даў магчымасць з'явіцца ідэі пра насельнікаў неба.

І гэтае паданне, пра «спаборнічаўшага з богам», можа быць праўдзівым, хаця б Альмагест і быў апакрыфам.

Дакладна так жа і грэцкая Палада была перанесена ў элінскі пантэон із Бібліі, як гэта няцяжка давесьці. Для таго ж каб даведацца адкуль прыйшоў той ці іншы бог і якім быў яго першапачатковы выгляд, мы павінны даведацца на якай мове яго імя мае адпавядаючае яму значэнне. Ніводнае чалавечае ці божае імя, із усіх, нам вядомых, не было нададзена ў выглядзе выпадковага набору гукаў, не маючых сэнсу. Якай маці прыйдзе ў галаву назваць сваю дачку, напрыклад, “катапака” ці нейкім іншым не маючым сэнсу словам? Тое ж самае было і ў старажытнасьці, калі нават усе чужыія імёны перакладаліся на сваю мову згодна з іхным сэнсам, як гэта часам робяць і зараз, называючы, напрыклад, француза Леона – Ільвом, ці перакладаючы імёны амерыканскіх індзейцаў у паляўнічых раманах згодна з іхным сэнсам: Арол Снежных Гор ці Кплівая Птушка і г.д.

Так і ў дадзеным выпадку. Імя Палада не мае ніякага сэнсу ні на-грэцкай, ні па-італійскай мовах. Але мы маем яго ў біблейскай мове, дзе Палада (ПЛДЕ) азначае – «полымя». Яе культ паходзіць, відавочна, ад палымяшанавання, што адпавядае таму, што яе сьвяту святкавалася падчас летняга сонцастаяння. Афіна Палада – азначае Афінская Багіня Полымя, і, напэўна, на яе ахвярніку таксама падтрымлівалася незгасаючае полымя, як і на ахвярніку Весты, імя якай (ВШТ) па-біблейску азначае «сарамлівая», чаму яе полымя і падтрымвалі асобныя дзяўчыны-манашкі.

На-лаціне Палада мела назву Мінерва, зноў словам запазычаным із чужой мовы. Вельмі магчыма, што яно паходзіць ад біблейскага выказвання МНЕ-РОВ, якое азначае: адзінка незлічонасьці як і багіня мудрасьці.

Імя Мяркурыя, бога гандлю, таксама паходзіць ад біблейскага кораня Маркел (МРКЛ), якое азначае «торжышча», а яго грэцкае імя Гермес падобна з біблейскім Хермеш (ХРМШ) – «серп для жніва», адпаведна яго асабліваму заступніцтву за хлебных гандляроў.

Імя багіні ўрадлівасьці зямлі Цэрэра паходзіць ад біблейскага Царар (ЦРР) – «пучок», у прыватнасьці – «сноп» і г.д.

Я не буду дaследаваць першапачатковае значэнне ўсіх найменняў грэка-лацінскіх богаў, бо і без таго іх цесная сувязь ці нават адзінства са старажытнасьвецкімі багамі Бібліі занадта відавочна. Гэта быў адзін і той жа пантэон, дзе ўшаноўвалі адны і тыя ж прадметы прыроды і яе магутнасьці ці нават знакамітых людзей пад рознымі на розных мовах імёнамі.

Асаблівую цікавасць тут для нас маюць розныя фігуры «старажытнасьці», паказваючыя апакаліптычнага Авена, астральнага знака Хрыста, нясомага «Добрым пастырам», які мае назву то Арыстэй, то Апалон Номіус, то Гермес Крыяформ, то Антыной, нярэдка лічыўшыміся нават дахрысьціянскімі, тады як, пасьля вызначэння мной часу напісання Апакаліпсіса ў 395 годзе, немагчыма прыпісаць ім старажытнасць раней V стагоддзя нашай эры.

На малюнку 147 я змяшчаю некаторыя із іх із кнігі Guigniaut: «Religions de l'Antiquite», надрукаванац ў 1841 годзе. Вось іхнае апісанне адтуль з захаваннем нумарацыі арыгінала.




Мал. 147
«Добры Пастыр» у розных сярэднявечных выявах.

*№ 908. Добры пастыр (Антыной) з кіркой у аднай руцэ і пладовай галінай у другой; статуя ў Луўрскім музеі.*

*№ 909. Добры пастыр (Арыстэй) нясучы Авена на сваіх плячах, як Hermes Criophore, і яго суправаджаюць сабакі і авечкі; Луўрскі музей.*

*№ 910. Добры пастыр з авечкай на плячах і кіем у другой руцэ і Восень, у выглядзе дзяўчыны, нясе за ім плады* (Guigniaut: «Religions de l'Antiquite»).

*№ 911. Ён жа нясе замест Авечкі Казьляня* (як Вознік у астралогіі, хрысьціянская выява ў катакомбах св. Марсэліна і Пятра ў Рыме).

*№ 912. Добры пастыр з флейтай у руцэ* (выява ў катакомбах св. Калікста ў Рыме).

*№ 914. Ён жа з Авечкай на плячах сярод сямі іншых авечак і пад сям'ю зоркамі над галавой. Налева ад зорак Сонца ў залатой кароне, направа Месяц пад вялюмам. Голуб сядзіць на дараносіцы, другі пад Месяцам. Пасярэдзіне налева кіт, а направа выкінуты на бераг Ёна* (відавочна апакаліптычны сюжэт на хрысьціянскай Лямпе, у Bartoli: «Lucern Sepulcr.», part III, tab. 29).

*№ 915. Добры Пастыр з сямю авечкамі, адна із якіх на яго плячах* (хрысьціянская выява ў някропалі Кірэнэйкі («Pachovoyage de la Cyrenaique», pl. 51).

*№ 916. Сардзінскі ідальчык, адвображваючы Добрага Пастыра* (Арэстэя), *ён жа Гермес Крыяфор. Бронза музея Кальяры* (Cagliari), *апісаная графам Дэ-ла-Мармора ў яго «Voyage en Sardaigne».*

*№ 916а. Другі такі ж ідальчык у Луўрскім музеі, таксама, напэўна, із Сардыніі.*

*№ 917. Добры пастыр, каля галавы якога апакаліптычныя знакі Альфа і Амега* (А і Ω). *Італьянскі свінцовы медаль* (із Ficoronis: «Piombi antichi», tab.XXIII, 3)

*№ 947. Евангеліст Ян у цэркве Saint Etienne у Балонні, дзе таксама намаляваны Лука з галавой Цяляці і Мацьвей з галавай Ільва.*

Параўнаем зараз і рытуалы іхных сьвяткаванняў, і агульны стыль, гэтых трох тэалогіі: біблейскай, грэцкай і рымскай.

Пры перакладах Бібліі на еўрапейскія мовы ўсюды зроблены тэндэнцыйныя змены. Возьмеце хаця б выказванне першай часткі кнігі Быцця: «І сказаў бог (АЛЕІМ): створым чалавека згодна з нашай выявай і падобным на нас». Тут слова «бог» перакладзена – як я ўжо і казаў падрабязна раней – тэндэнцыйна адзіным лікам, хаця заканчэнне выказвання і пакінута ў множным на “мы”, што цалкам не адпавядае біблейскай мове, не ведаючай звароту «на вы». А калі вы, чытач, хоць трохі ведаеце жыдоўскую мову, то вам не можа быць невядомым таксама і тое, што ІМ з’яўляецца заканчэннем множнага ліку ў жыдоўскай мове, і што слова АЛЕІМ – азначае «багі», а не бог, які пішацца АЛ, хаця сучасныя рабіны і вымаўляюць яго Эл. Гэта азначае усё гэтае выказванне патрэбна перакладаць так: «І сказалі багі: створым чалавека згодна з нашай выявай і падобным на нас» (1, 24). І амаль усюды, дзе на еўрапейскіх мовах у старым запавеце стаіць слова бог, патрэбна было перакладаць багі. А ў тых выпадках, дзе ў жыдоўскай мове дзеяслоў пры АЛЕІМ пастаўлены ў адзінкавым ліку, патрэбна лічыць гэта за тэндэнцыйную пераробку вельмі позняга рэдактара, не адважыўшагася замяніць толькі звыклы імянны зварот сваіх, малітваў: АЛЕІМ! («багі»).

Такім чынам пачатак Бібліі павінен рэстаўрацыйна перакладацца так:

«*Напачатку стварылі багі неба і зямлю, але зямля была бязводная і пустая, і дыханне богаў* (без цела) *насілася над паверхняй вады. Але багі сказалі: «ды будзе сьвятло!» і сьвятло з'явілася. Багі пабачылі, што сьвятло добрае. Яны адлучылі яго ад цемры і назвалі яго днём, а цемру назвалі ноччу*» і г.д.

Мы бачым, што ўсюды ў Бібліі спачатку было шматбожжа, але із гэтай шматлікасьці пачынаючы з другой жа главы пачынае вылучацца, як галоўная боскасць, нехта **ІЕВЕ**, ужо і на імя тоесны з лацінскім Iovis (Юпітар), з грэцкім Зеўс, ад Ζάω (зао) – «жыву», г.азн. **жывы**, і нават з італійскім займеннікам **Io**, адпавядаючаму рускаму **Я**. І я ўжо раней выказваўся не раз, што для таго, каб адразу зразумець іх адзінства, патрэбна перастаць блытацца ў гэтых розных назвах аднаго і таго ж бога і замяняць у перакладах усе варыяцыі яго першапачатковага імя адным толькі яго галоўным старажытным атрыбутам – Грамабай як я і зрабіў у сваім дасьледаванні.

У выніку такай рэстаўрацыі першапачатковага значэння Ёвы, Іёвіса і Зеўса выразна выяўляецца адзінства біблейскай тэалогіі з элінскай і лацінскай, дзе таксама прыносяць ахвяры Егове-Бацьку пад назвай Ёва-Бацька, скарочана Іе-Патар, ці Юпітар.

Дакладна так жа з’яўляецца адзіным і рытуал ахвяраванняў біблейскай і класічнай старажытнасьці: біблейскаму Егове ўвесь час прыносяць у ахвяру то барана, то авечку, то нейкую ежу: «*Прынёс Каін ахвяру Грамабою* (Егове-Юпітару) *із пладоў зямлі, а Авель прынёс са сваіх першародных авечак і іхнага тлушчу*» (Быццё 4, 3). А ў Ціта Лівія чытаем: «*З нагоды прызначэння дэцэмвіраў вызначана: паднесьці Грамабою* (таму ж Егове-Юпітару) *залатую грымотную стралу ў пяцьдзясят фунтаў вагой*» (кн. 22, I).

Дакладна так жа шмат разоў згадваецца пра паднясенні яму пладоў зямлі і першародных авечак і іхнага тлушчу, пры чым апошні перайшоў у масла каталіцкіх і праваслаўных лампад і спальваецца, як і ў старажытнасьці, з дапамогай апускаемага ў іх кната. Усё, чым адрозніваецца сучаснае набажэнства, гэта тым, што пры пераходзе да грашовай гаспадаркі замест авечак, цялят, мукі і пладоў на ўтрыманне храмаў пачалі ахвяраваць выключна іхны кошт грашамі ў кубкі і на сподкі. Тут не было ніякай царкоўнай пастановы пра скасаванне натуральных ахвяраванняў. Замена натуры грашамі адбылася да часу Эпохі Адраджэння ў Яўропе сама сабой, з нагоды яе зручнасьці як для ахвяравальнікаў, так і для сьвятарства. Перажыткамі натуральнай даніны засталіся да гэтага часу у храмах толькі «ахвяры ўсеспалення», у выглядзе лампад і свечак, дзе сала замянілася даражэйшым і больш прыемным для богаў маслам і пчаліным воскам. Уся гэтая замена адбылася, напэўна, толькі напярэдадні навейшага часу, калі грошы ўвайшлі ва ўсеагульны ўжытак у Яўропе.

Як трансфармаваўся аўтар Апакаліпсіса, ўпершыню атаясаміўшы Хрыста з сузор'ем Авена, мы бачым на прыкладзеных малюнках (мал. 147), а сьляды сярэднявечнага хрысьціянства на іерогліфах ягіпецкіх храмаў, якія дарэмна дапасуюцца да дахрысьціянскага часу, мы бачым у шматлікіх малюнках працэсій з крыжамі ў руках, на падобе прыкладзеных на малюнку 148. Таксама і кельтычныя знаходкі, якія лічацца дахрысьціянскімі, выяўляюць відавочныя сляды сярэднявечнага хрысьціянства (мал. 149).



Мал. 148

Хрысьціянскія крыжы на малюнках ягіпецкіх храмаў, якія да гэтага часу лічацца дахрысьціянскімі. Барэльеф вялікага Дендэрскага храма. З Guigniaut: «Religions de l'Antiquite», 1841г.», 1.1. 153.

На левым баку са сваімі тыповымі кіямі тры божыя фігуры, трымаючыя ў правых руках ручныя крыжы. Трэцяя фігура злева лічыцца за Ізіду. На галаве ў яе шар паміж

двума рагамі, падобнымі на каровіныя, а на шары пасад. За ёю Азірыс, у звычайным каўпаку, а за ім Юпітар, з планетным дыскам на галаве і двума пёрамі.

На правым боку наперадзе стаіць вярхоўны першасьвятар у двухпавярховай тыяры, за ім цар і за царом царыца, падносячыя багам дарункі. Із двух маленькіх фігурак пярэдняя дае ім крыж, а задняя нешта падобнае на шарык у серпападобным Месяцы.



Мал. 149

«Кельтычны» помнік мастацтва, знойдзены пад харамі сабора Парыжскай богамаці (Notre dame de Paris) у 1771 годзе і знаходзячыся зараз у музеі ў Клюні. Зверху бачны напалову сьцёрты, але выразна разлічымы надпіс Esus (г.азн. Езус; згодна з сучаснай французкай транскрыпцыяй – Iesus), і аднак жа ён прызнаны археолагамі за паганскага бога лясоў у галаў, які быццам бы меў такое ж імя! Вось да чаго можа давесьці імкненне шукаць дахрысьціянскіх хрыстоў! («Гісторыя Рэлігіі» Шантэні дэ ля Сасій.)

Зараз параўнаем склад сьвятарства і адміністрацыю храмаў у месіянцаў, хрысьціянаў і класічных паганцаў. Першапачаткова кожны храм быў, вядома, аўтаномным. Храмы будаваліся ў такіх месцах, дзе адбываліся незвычайныя з'явы прыроды: паблізу вулканаў, вадаспадаў, гаючых крыніц, у таямнічых падземных

гротах і г.д. Яны ўзнікалі самі сабай ці з нагоды прыватнай ініцыятывы набожных асоб, ці дзякуючы вынаходлівасьці практычных прадпрымальнікаў. Аднак, утварыўшыся стан жрацоў хутка пачаў замыкацца і адлучацца ад іншых, робячыся больш інтэлігентным, чым астатняе насельніцтва, з нагоды сваёй заможнасьці і адпавядаючага яму вызвалення ад неабходнасьці фізічнай, вайсковай ці адміністрацыйнай працы. Назапашваючы свае веды ад пакалення да пакалення, яно перастала дапускаць далейшую вольную ініцыятыву ў практыцы набажэнстваў. Кожны, жадаючы богаслужыць, пачаў падпадаць пад адменнае правіла пасьвячэння пасьля пераходу праз экзамены па акультных і іншых асобных сьвятарскіх, абавязковых навуках. Толькі з гэтага моманту жрацы і пачалі звацца «сьвятарамі», г.азн. пасьвечанымі, атрымалі званні «sacedros» на-лаціне, «назарэй» па-жыдоўску, «хрыстос» па-грэку, «лама» па-тыбецку і г.д.

Усё гэта выклікала патрэбу для сьвятарства арганізавацца ў асобную карпарацыю ў кожнай адасобленай культурна-геаграфічнай вобласьці. Такія вобласьці пазней пачалі аб’ядноўвацца ў сусьветную лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкую складаную імперыю, пабудаваную збольшага па сістэме феадалізму, збольшага па сістэме ўдзелаў, з правам асобных частак нават ваяваць адна з другой, не выходзячы ад гэтага са складу імперыя і губляючы вярхоўнага заступніцтва яе валадара і агульнаімперскіх устаноў. Такое дзяржаўнае аб'яднанне розных абласьцей спрыяла і іхнаму разумоваму аб'яднанню, якое выяўлялася ў сусветных саборах, першым з якіх лічыцца «Нікейскі», г.азн. Пераможны. Кіруючым дзеячом гэтага аб'яднання быў александрыйскі першасьвятар (г.азн. па-грэцку «хрыстос») Арый, само імя якога паказвае на яго жыдоўскае паходжанне. Арый па-біблейску азначае «Леў» (АРЫЕ), а таму не будзе нічога дзіўнага, калі ў нейкіх грэка-лацінскіх дакументах мы сустрэнем яго ж пад імем біскупа Ільва. Сярэднявечная хрысьціянская традыцыя дапасуе пачатак яго дзейнасьці да 318 г. і прыпісвае яго багаслоўскаму вучэнню такія дэталі, якія маглі выпрацавацца, відаць, толькі пазьней таго часу. Лічачы асноўным дакументам заканчэння IV стагоддзя Апакаліпсіс, выходзіць, што ён выкрываў мірлікійскага біскупа Мікалая Цудадзея і яго прыхільнікаў мікалаітаў, ці вялікіх распутнікаў, у стварэнні дзіваў шарлатанскімі спосабамі. Гэта нашае адзінае праўдападобнае паведамленне пра дзейнасць першага Нікейскага сабора, які паклаў пачатак федэрацыйна-аб'яднанаму сьвятарству Сусветнай Імперыі Кастуся. Хрысьціянскія ж крыніцы, існуючыя толькі ў рукапісах Эпохі Адраджэння, сцвярджаюць, быццам Арый вучыў, што бог-бацька (ён жа Юпітар) нарадзіў бога-сына ад сьвятога духу, так што бог сын з'яўляецца ўжо не прадвечным.

Не ўдаючыся ў абмеркаванне нагод узнікнення падобных анахранізмаў, бо навука пра бога-сына, у асобе евангельскага Езуса, магла ўзнікнуць толькі на прыканцы IV ст., мы тут параўнаем толькі каталіцкае і так званае паганскае рымска-элінскае сьвятарства.

Адпаведна папе (г.азн. бацьку) апошніх стагоддзяў (pontifex romanus) мы маем у класічнай гісторыі вялікага першасьвятара (pontifex maximus), пры чым сярэднявечныя аўтары сцвярджаюць, што гэты вялікі першасьвятар спачатку быў кіраўніком калегіі із 4, потым із 8 і, нарэшце, із 15 асобных першасьвятароў, ці кардыналаў (ад слова cardinalis – «адборны»). А зараз калегія кардыналаў пры папе складаецца із 6 кардыналаў-біскупаў, старэйшы із якіх мае назву дэкан, г.азн. дзясятнік, 50 кардыналаў-сьвятароў і 14 кардыналаў-дыяканаў. Толькі ў 1059 г. папы пачалі выбірацца выключна із кардыналаў, а да гэтага года іхнае абранне

было вольным, і званне pontifex maximus меў імператар, які таксама меў званне і першага із сенатараў (primus senatore). У класічнай царкоўнай гісторыі гэтыя «адборныя біскупы» (кардыналы) мелі назву сьвятыя дэцэмвіры (decemviri sacrorum, ці decemviri sacris faciundis) і іхная калегія «пры Сулле» складалася, як і пад час сярэднявечча, із 15 сябраў, меўшых назву квіндэцэмвіры, і служыўшая для аб'яднання святога пісьма і набажэнскіх спраў.

А калі мы параўнаем праваслаўнае набажэнства з біблейскім, то аналогія будзе яшчэ больш дзіўнай.

Возьмем хаця б такое апісанне:

«*Якім велічным ён быў,* – паведамляе адзін старажытны дакумент, – *пры сваім выходжанні із-за заслоны храма. Ён быў як ранішняя зорка сярод аблокаў, як месяц пад час поўні, як ... полымя ў кадзіле з ладанам, як каваная царкоўная залатая чара, упрыгожаная каштоўнымі камянямі*»... «*Калі ён браў* (із рук служак ахвярніка) *сваё шыкоўнае адзенне і апранаўся ва ўсё сваё велічнае хараство, то, паднімаючыся да сьвятога ахвярніка, ён асьвятляў сваім бляскам усё атачаючае сьвяцілішча. Калі ён браў ахвярныя долі із рук сьвятароў, стоячы каля свечак ахвярніка, вакол яго быў вянок брацііі, як галіны кедра на Белай Гары. Перад заканчэннем службы каля ахвярніка, каб завершыць прынашэнне Ўсявышняму Усётрымаючаму, ён распасьціраў сваю руку да ахвярнай чаркі і ліў у яе вінаградную кроў*» ... «*І ўвесь народ валіўся па калені, тварам да зямлі, і кланяўся спадару свайму, богу-усемагутнаму, а спевакі ўсхвалялі яго сваімі галасамі. У прасторным храме чуліся салодкія спевы, і народ маліўся перад літасьцівым, пакуль здзяйснялася ўслаўленне. Такое заканчэнне мела служба.*

«*А ён, выйшаўшы із ахвярніка, паднімаў свае рукі да ўсяго схода, каб даць яму дабраславенне*»...

Што гэта чытач? Архіярэйская служба ў нашым храме? – Не! Гэта апісанне жыдоўскага набажэнства ў кнізе «Мудрасьць Езуса, сына Сірахава», у главе 50, верш 16-22.

А наколькі класічныя багі перапляталіся з хрысьціянскімі, чытач можа бачыць із наступных старонак Мальвера,[75] якія я суправаджаю толькі некаторымі сваімі дадаткамі.

«Пад час шмат якіх сярэднявечных сьвятаў, – сведчыць ён, – хрысьціянства было перамяшана з паганскай міфалогіяй. Геркулес быў у братэрскім хаўрусе са сьвятым Хрыстаносцам (Хрыстафорам); сьвяты Міхал зліваўся з Белерафонтам; уражваючым жахлівую Хімеру на крылатым кані Пегас (мал. 150). Рай параўноўваўся з Алімпам.

«У вінаробчых краінах Бахус, празваны пад час сярэднявечча «вялікім кавылякай», дзякуючы таму што ён вымушаў вернікаў хадзіць не цьвёрда, быў прадметам культу, падтрыманне якога было абавязкам асобнага абата-вінароба. Гэты абат, абіраемы карпарацыяй, павінен быў назіраць за тым, каб статуя бога стаяла на вяршыне вінаграднага прэса. Той, хто не станавіўся на калені перад «вялікім кавылякай», зведваў пакаранне. Гэтае сьвята віна было атаясамленнем грэцкіх перадстаянняў (антэстэрый)[76] і лацінскіх брумалій, г.азн. святкавання зімовага развароту Сонца[77] каля 25 снежня, як і Нараджэнне Хрыста». Ды і само імя Бахус аднагучна са славянскім словам бог (вымаўляецца як бох, а заканчэнне - ус з'яўляецца суфіксам лацінскага мужчынскага роду).

---

[75] А. Мальвер: «Навука і Рэлігія», пераклад Л. і Е. Крукоўскіх» 1925 г.

[76] Antestare – маючае адбыцца, сведчыць.

[77] Bruma – зімовае сонцастаянне.



Мал. 150
Змаганне класічнага Белерафонта, г.азн. нашага Рыгора Пераможцы, з хімерай.

«Каб знішчыць гэты культ, царква замяніла Бахуса сьвятым Пераможцай (Вінцэнтам), працягваючы святкаваць дзень Бахуса, як Нараджэнне Хрыста.

«У Эксе аж да XVI ст. працэсіі ў гонар «цела госпадава супрааджаліся сьвітай, у якай пераважалі міфалагічныя асобы. Плутон і Прэзерпіна былі аточаны натоўпам фаўнаў і дрыяд; Пан і Сірына суправаджалі Бахуса, які сядзеў на бочцы; Марс і Мінерва, Апалон і Дыяна ішлі за царыцай Саўскай; Венера ішла за калясніцай геніяў смеху, забаваў і задавальненняў.

«У XVII ст. вера ў Цэрэру яшчэ жыла сярод насельнікаў Парыжа. Адна із тубылак так выказвалася пра духаў: «Хіба не багіня Цэрэра, намаляваная на Кармеліцкай царкве, патрабуе сваю долю з пасеваў і зямель, спустошаных нядаўна?». Дакладна так жа і ў праваслаўнай царкве існаваў цудадзейны абраз «багародзіцы спарыцельніцы збожжа».

«Народныя вераванні і традыцыі настолькі устойлівыя, – заканчвае Мальвер гэтае месца, – што да гэтага часу на гербе горада Нанта існуе паганская малітва: «Favet Neptunus eunti» (Нептун ды абароніць марака).

Паганскія багі, ператвораныя ў нячысьцікаў, складаюць толькі меншасць Алімпа, а астатнія і зараз дапушчаны ў нябесны прыстанак у якасьці сьвятых, часам нават без змены імя.

«Гэты спосаб ператварэння мае шмат прыкладаў, – сведчыць аўтар.– Грэцкія багі Гермес, Афрадыта, Афіна, Апалон, Артэміда, Дэметра, Гадэс, Персефона існавалі і ў рымскім пантэоне пад іншымі найменнямі: Дыяна, Цэрэра, Празэрпіна, Мяркурый, Венера, Мінерва і інш. Найменні ўсходніх богаў таксама з'яўляюцца перайначваннем рымскіх. Найменне «сьвятыя», нададзенае старажытным багам, таксама паходзіць із паганскага культу. Старажытныя насялілі неба героямі і імператарамі, абагаўлёнымі пасьля сьмерці, як і ў апошні час некаторыя манархічна наладжаныя навукоўцы спрабавалі ўключыць у лік сузор'яў «дуб Карла I», «шчыт Панятоўскага» і назвалі некаторыя астэроіды (напрыклад, Вікторыю) каралеўскімі імёнамі. Гэтыя другарадныя багі, параўноўваемыя з зоркамі, поруч з Сонцам, былі прадметам асобнага культу, пад назвай divi (боскія) ці sancti (сьвятыя). Адзін грэцкі надпіс у Сідоне змяшчае ў сабе пасьвячэнне «сьвятому богу». Аднак, гэтыя дадаткі далучыліся да хрысьціянскага культу дастаткова позна. Толькі ў 880 г. папа Адрыян абвясьціў іх першую кананізацыю, якая была толькі афіцыйным зацверджаннем існаваўшага звычаю. Сярэднявечная лаціна працягвала

нават называць хрысьціянскіх сьвятых іхным старажытны паганскім найменнем divi, для пазначэння астралізацыі іх пачалі маляваць з галавой, аточанай планетным ці сонечным дыскам, так званым «вянцом», атрыбутам паганскіх divi, якога не было да таго часу на выявах апосталаў і пакутнікаў. Так у царкве Казьмы і Даміяна ў Рыме на выявах VI ст. гэтага атрыбута яшчэ няма. На адной сярэднявечнай мазаіцы святога Клімента ў Рыме яны таксама намаляваны яшчэ ў прымітыўным выглядзе». Пазначым, што пахавальныя вянкі, адпавядаючыя той жа ідэі, аднолькава ўжываліся і ў іерагліфічным Ягіпце, і ў Заходняй Яўропе пад час сярэдніх стагоддзяў. Адзін асобнік такай жа формы, як і сучасныя вянкі, знаходзіцца ў ягіпецкім музеі ў Луўры.

Пад час адпавядаючай нашаму студзеню пары года грэкі ладзілі сьвята ў гонар Гермеса (Мяркурыя ) і Нікана (Сонца), і гэтыя сьвятыя засталіся ў каталіцкім календары пад час тых жа самых дзён і пад тымі ж назвамі сьвятога Гермеса і сьвятога Ніканора.

Бахуса ўшаноўвалі ў лютым пад найменнем Сотэр (ратавальнік) а Апалона – пад імем Эфебіёс (Εφοίβιος), і гэтыя сьвяты захаваліся ў каталікоў пад назвай дзён сьвятога Сотэра і святога Эфеба.

У красавіку і кастрычніку ладзілася сьвята Дыёніса (грэцкае найменне Бахуса), за якім ішоў дзень сьвята ў гонар Дэметры і абодва гэтыя сьвяты захаваліся пад тымі ж найменнямі святога Дыянісія (8 красавіка) і сьвятога Дзімітрыя (9 красавіка) перарobленага ў мужчыну із Дэметры (боскай маці).

4 красавіка святкуецца дзень сьвятога Ісідора («Дарунак Ізіды»), а на наступны дзень, 5 красавіка, сьвята сьвятога Егезіпа («Кіруючы коньмі») і ў гэты ж дзень рымляне ўшаноўвалі Апалона, кіруючага нябеснымі коньмі.

6 траўня, сьвята Цэрэры Флавіі (русай Цэрэры) ператварылася ў дзень сьвятога Флавія; 19 траўня сьвята Дыяны-Пудзікі («Боскай сарамлівай») ператварылася ў сьвята сьвятога Пудзента, а 24 траўня сьвята Palladium, у гонар Мінервы, стала днём сьвятой Паладыі.

У жніўні ладзіліся, кажуць нам, класічныя сатурналіі, і гэтае паганскае сьвята засталося 22 жніўня пад назвай дня святога Сатурніна. Дакладна так жа апалінарыйскія гульні далі нагоду з'яўлення сьвятой Апалінарыі, а сьвята Афрадыты (Венеры) раздваілася на дзень святога Афрадызія і сьвятой Афрадызіі. Дзень апускання сузор'я Панны (15 жніўня, у полымя вечаровага зарыва) ператварыўся ў дзень прачыстай багародзіцы.

У дзень збору вінаграду спраўляецца сьвята Бахуса пад лёгка разгадваемым імем сьвятога Бака (7 кастрычніка). У гэты дзень заклікалі Бахуса пад імем Элеўтэрыя (Вызваляльніка), і кастрычніцкія сьвяты богаўражанага Дыёніса мелі назву русьцікі (вясковыя), бо яны звычайна ладзіліся на ўлонні прыроды. Таму і каталіцкай царквой у кастрычніку другі раз сьвяткуецца дзень сьвятога Дыянісія, за якім ідуць сьвяты святой Рустыкі і сьвятога Элеўтэрыя. 9 снежня, сьвята ў гонар гаргон – багінь пекла, увасабляючых найбольш цёмную пару года, быў заменены сьвятам сьвятай Гаргоніі.

Пасьля заручын Бахуса з бруяй лёгкага ветрыку, ладзілася сьвята німфы Аўра Платыда (што азначае: лёгкая бруя паветра), ператварыўшаяся ў сьвятую Аўру і сьвятую Платыду.

Другое сьвята, прысьвечанае Бахусу, ладзілася ў снежні. Яно мела назву Дыявісіі, і каляндар таксама не забыўся пра яго. У ім 15 снежня згадваецца сьвятая Дыянісія.

Такім чынам, мы бачым, – дадам я ад сябе, – што паганскія багі выяўляюцца толькі іншымі найменнямі хрысьціянскіх сьвятых. Але само сабай зразумела, што тэалогія не застыла і потым на месцы, а развівалася далей, далучаючы да культа ўсё новых і новых, сьвятых, часам дзіўнымі шляхамі.

«Вядома, – кажа той жа Мальвер, – як стварылася легенда пра сьвятую Вераніку. Паданне паведамляе, што, калі евангельскі Хрыстос нёс крыж, ён сустрэў жанчыну якая выцерла пот з яго твару і на хустцы засталася выява асобы Езуса[78]. Ва ўспамін пра гэтую легенду галава евангельскага Хрыста, пачала малявацца на палатне, падтрымліваемым анёламі ці жанчынай. Знізу было напісана: vera iconica, што азначае: «праўдзівая выява». (Ён вядомы ў праваслаўі пад найменнем «нерукатворны»). А сярэднявечныя манахі, не разумеючы слоў «vera iconica», злучылі іх разам, палічылі за жаночае імя і пад гэтым парасонам склалі гісторыю сьвятай Веранікі».

Дзякуючы такой жа памылцы з'явіліся дзьве «сьвятыя Ксенарыды», із якіх адна, згодна з мартыролагам кардынала XVI стагоддзя, Бароніуса, была закатавана ў Антыёхіі. А справа была ў наступным. Кардынал Бароніус прачытаў у адной прамове Яна Залатавуснага (дзе гворка ішла пра Атыёхію), грэцкае слова ксенорыс азначаючае «парная запрэжка»[79]. Палічыўшы гэтае слова за ўласнае імя, ён склаў патроху біяграфію двух сьвятых Ксенарыд, із якіх быццам бы пра адну згадвае Ян Залатавуст у чацьвёртай размове пра Лазара, а пра другую, малодшую, якая вызначалася шляхетнасьцю і бляскам сваіх учынкаў, згадвае сьвяты Еранім у восьмым лісьце да Дэметрыя. Адмысловая була, папы Рыгора XIII прызначыла сьвяткаванне дня сьвятых Ксенарыд на 24 студзеня (14 студзеня 1584 г.). Але пазьней адзін адукаваны элініст даказаў, што ў пазначных тэкстах гаворка ідзе не пра двух сьвятых дзяўчын, а пра пару коней. Кардынал Баронівус, выкрыты такім чынам, знішчыў выданне свайго мартыралога. Але некалькі асобнікаў кнігі захавалася ў бібліятэках Бруге і Шамберы, і пад датай 24 студзеня ў іх змешчана падрабязная біяграфія пары сьвятых коней – антыяхійскіх пакутніц.

Можна было б прывесьці шмат падобных прыкладаў. Так словы “эмітэрэ” (emitere – з'яўляцца) і “хелідон” (ластаўка), якімі манахі пазначалі на палях календароў прылёт ластавак вясной, зрабіліся імёнамі святога Эмітэрыя і сьвятой Хелідоніі.

Зорка Рыгель – Marina aster – у сузор'і Арыёна дала паходжанне дзвюм сьвятым – Марыну і Астэру, якія святкуюцца 3 сакавіка, таму што пад час веснавога раўнадзенства, у сакавіку месяцы, ёй прыпісваўся вялікі ўплыў на мараплаўства, і яна атрымала на сярэднявечнай лацінскай мове найменне marina aster, г.азн. «марская, ці мараходная зорка». Ды і ў праваслаўным календары мы іх знаходзім нават двойчы: пад 6 ліпеня і 7 жніўня юліянскага стылю, а на справе гэта проста – навігацыйны перыяд.

Не меншую цікавасць уяўляе паходжанне сьвятай Фёклы. У старажытных календарах 25 верасня пазначалася жыдоўскай назвай сузор'я Шаляў – Тэкел, ці Фекел, – бо ў гэты дзень назіралася апусканне сузор'я Шаляў у полымя вечаровага зарыва (падчас раўнадзенства пры Сонцы ў Панне). А тэолагі, не разумеўшыя значэнне гэтага слова, зрабілі із яго сьвятую Фёклу.

---

[78] Гэтая хустка адначасова знаходзілася ў трох месцах у Рыме, у Турыне і Jean'е (Гішпанія). Каб неяк патлумачыць такое дзіва, было абвешчана, што, складзеная ўтрая, ён тройчы даў адбітак сьвятога аблічча, чаму і існуюць тры асобнікі, і гэта быў знак, што бог – у трох абліччах.

[79] Συνωριςці ξυνωρις – пара коней.

У праваслаўным календары пад 19 верасня чытаем: «Св. пакутніцы Мінадора, Мітрадора і Німфадора», а гэтыя легендарныя імёны пры перакладзе з грэцкай мовы азначаюць: дарункі бога месяца (Мен – месяц), дарункі бога Сонца (Мітра – бог Сонца) і дарункі німфаў.

Царкоўная формула «rogare et donare» (прасіць і даваць) ператварылася ў сьвятых Рагацыяна і Данацыяна, а царкоўнае выказванне «florem et lucem» – колер і сьвятло – у сьвятую Флору і сьвятую Люцыю.

Паходжанне богамаці з сямю мячамі не менш цікавае. Багіня Дыяна малявалася ў Грэцыі з калчанам за спінай, із якога тырчалі стрэлы, і пад час сярэднявечча яна атаясамлялася з паннай Марыяй. Стрэлы, якія былі відаць ззаду Дыяны і, здавалася, праціналі яе грудзі, былі палічаны за мячы, бо ў адным евангельскім тэксце паведамляецца пра Марыю: «і табе самай зброя пройдзе душу» (Лука, II, 35). Стрэлаў у калчане Дыяны было сем і з іх зрабілі сем галоўных засмучэнняў панны Марыі. Калі гэтая легенда ўзнікла і зацвердзілася, панна Марыя пачала малявацца з адкрытымі грудзямі, перад якімі было размешчана сэрца, працятае сям'ю мячамі. Пазьней у яе гонар было ўсталяваны і сьвята. Пад яе заступніцтвам знаходзіліся храмы, ёй былі прысвечаны асобныя кніга, малітвы, абразы, наплечнікі і ружанцы. Але набожная фантазія не задаволілася і гэтым; у процівагу сямі засмучэнням панны Марыі – ранейшай Дыяны з калчанам – было ўсталявана і сем яе радасьцей. Далей узніклі сем радасьцей і засмучэнняў сьвятога Ёсіфа, дзякуючы якім было прызначана сем нядзель у яго гонар і вяроўкі сьвятога Ёсіфа з сямю вузламі.

Таксама шматлікія памнажэнні і пераўтварэнні аднаго і таго ж знака былі з'явай, характэрнай для старажытнага пантэона. Паганскія багі, грунтучыся на дабрадзействах і дзівах, якія яны здзейснілі ў той ці іншай мясцовасьці, атрымлівалі розныя імёны: бог Дэльфаў, бог Дэласа, бог Ціра, хаця гэтыя назвы і мелі дачыненне да аднаго і таго ж бога. Дакладна гэтак жа і панна Марыя набыла, у залежнасьці ад мясцовасьці і акалічнасьцей, розныя імёны: у каталіцтве сьвятая панна Шартрская, сьвятая панна Лурдская, сьвятая панна Ла-Салецкая, сьвятая панна спачування, сьвятая панна палёў, сьвятая панна суцяшэння, сьвятая панна перамогі, сьвятая панна шчаслівага адружання, сьвятая панна ўхвалы і нават сьвятая панна фабрык, а ў праваслаўі вядомы багародзіцы: Казанская, Смаленская, Ціхвінская, Іверская, усіх смуткуючых радасьці, суцеш мае засмучэнні і іншае і іншае.

Вось некаторыя параўнанні яе імёнаў згодна з Мальверам (табл. LXXVI і LXXVII).

ТАБЛІЦА LXXVI.

Марыя і Ізіда (згодна з Мальверам).

(Марыя па-жыдоўску М-РІМ (מ־רים), г.азн. Рымская; Ізіда па-жыдоўску יסודה (ІСОДЭ) – Асноўная)

| Эпітэты Марыі ў каталікоў | Эпітэты Ізіды ў паганцаў |
|---|---|
| Regina coeli – царыца нябесная. | Царыца нябесная |
| Virgo immaculata – цнатлівая панна. | Цнатлівая панна |
| Virgo dei genitriX – маці боская. | Маці боская. |
| Mater castissima – прэцнатлівейшая маці. | Прэцнатлівейшая. |
| Turris eburnea – вежа найсьвятлейшая. | Вежай вянчаная. |
| Consolatrix afflictorum – суцяшальніка смуткуючых. | Суцяшальніка смуткуючых. |

| | |
|---|---|
| Virgo paritura – зачаўшая панна. | Зачаўшая панна (у друідаў). |

ТАБЛІЦА LXXVII.

Марыя і іншыя паганскія багіні (згодна Мальверам).

| | |
|---|---|
| Maria-Stella matutina – Марыя-ранішняя зорака. | Венера – Ранішняя зорака. |
| Марыя па-жыдоўску (М-РЫМ) – Рымская. | Афіна (Ἀθηνάια) па-грэцку – Афінская. |
| Maria – regina angelorum (Марыя – царыца анёлаў). | Юнона (Ад ЙУНЕ – галубіца) царыца Алімпа. |
| Марыя – ключ царства нябеснага (ікас 8). | Багіня Опс с ключом неба. |
| Maria – mater admirabilis (Марыя – дзіўная маці). | Цэрэра – усеагульная маці. |

Народнае ўяўленне тым жа спосабам, як і царква, стварыла з дапамогай простых сугуччаў цэлы шэраг сьвятых, дапамаючых у штодзённым жыцці. Так у французаў Сьвяты Жэну (genou – калена) дапамагае ад хвароб у калене; сьвяты Маркул (mal de cou – боль у шыі) – вылечвае хваробы шыі; сьвяты Мэн (main – рука) – пазбаўляе ад ламоты ў руках. Гэтыя фантастычныя сьвятыя, заснаваныя на гульні слоў, маюць яшчэ і зараз прыхільнікаў у розных мясцовасьцях.

Паганскі год, – працягвае той жа Мальвер, – пачынаецца ў сакавіку, і на працягу першага тыдня гэтага месяца было ў звычаі віншаваць з новым годам наступным нязменным выказваннем: perpetuam felicitatem! (вечнага шчасьця!). Гэтыя словы былі персаніфікаваны не толькі ў календары (дзе мы знаходзім дзень сьвятых Перпетуі і Феліцітаты 7 сакавіка), але і ў шматлікіх парэштках, колькасць якіх зрабілася, нарэшце, такой вялікай, што, калі б (згодна са славамі Колен-дэ-Плансі) сабраць усе іхныя парэшткі, то выявілася б, што ў сьвятой Феліцітаты было не менш чым чатыры, а ў сьвятай Перпетуі не менш чым пяць тулаваў.

Дакладна так жа Эліяс (Сонца) ператварыўся ў сьвятога Іллю, і храмы Геліяса, якія пераважна будаваліся на вяршынях гор, атаясаміліся з капліцамі сьвятога Іллі, а Ілля, як я ўжо даводзіў у ранейшых кнігах «Хрыста», быў толькі аперцэпцыйным адгалінаваннем евангельскага Езуса.

Прыбалтыйскія славяне ўшаноўвалі бога Свантавіта, які з’яўляецца двайніком сьвятога Віта.

Абат Гельманд піша ў сваёй хроніцы (I, 6).



Мал. 151.
Святы Хрыстафор, пакутнік. Цудадзейны абраз, збіраўшы да апошніх гадоў вялізную колькасць малельнікаў. Знаходзіца зараз у Кастрамскім краязнаўчым музеі.

«Гэтага сьвятога Віта, ушаноўваемага намі ў якасьці пакутніка і слугі Хрыста, жыхары Ругена ўшаноўвалі ў якасьці бога. Яны прысьвяцілі яму храм, і з усіх славянскіх правінцый туды прыходзіць народ за парадай аракула і для штогадовага ахвяравання».

Нават сабаку пасьвяцілі ў сьвятога Гінефора (Guinefort), ушанаўваемага з XIII стагоддзя ў горадзе Вільнёў-дэ-Домб (у дэпартаменце Эн). Гэты сьвяты пры жыцці быў, – кажуць нам, – гончым сабакам, якога яго гаспадар незаслужана забіў ударам мяча. І вось праз некаторы час замак яго згарэў, а сяляне пабачылі ў гэтай падзеі адплату звыш і пачалі выказваць божыя ўшанаванні беднаму сабаку Гінефору. Маці прыносілі да яго магілы хворых дзяцей, і там адбываліся цудоўныя ацаленні. Дарэмна манах Эцьен Бурбонскі спрабаваў выкараніць забабон, загадаўшы выкапаць парэшткі сабакі і спаліць іх на вогнішчы, – народная вера не пахіснулася. Сьвяты пакутнік Гінефор да гэтага часу ўшаноўваецца ў Вільнёў-дэ-Дамб, як заступнік царкоўнага прыходу і лекар хворых дзяцей. Яго культ пашырыўся нават да Брэтані, дзе яму прысвечана асобнае сьвяцілішча ў Ламбалі. Да яго звяртаюцца, калі мала надзеі на акрыянне, са словамі: «Святы Гінефор: жыццё ці сьмерць!».

У праваслаўнай царкве таксама існуе сьвяты, які малюецца з сабачай галавой. На мал. 151 паказана выява сьвятога пакутніка Хрыстафора на абразе, які зараз знаходзіцца ў Кастрамскім краязнаўчым музеі. Існавала павер'е, што зірнуўшы на гэты абраз, не памрэ ў той дзень раптоўнай сьмерцю. Таму ён звычайна ставіўся перад уваходам у храм. Сьляды такай выявы можна бачыць і на фрэсках пры ўваходзе ў Іпацьеўскі Траецкі сабор у Кастраме. Наяўнасць сабачай галавы, замест чалавечай, на яго плячах цалкам зразумела: згода з паданнем «Святцаў» Святы Хрыстафор паходзіў із народа з сабачымі галовамі[80].

Адсюль мы бачым, што паганства і хрысьціянства так цесна зрасьліся адзін з адным нават і пад час Эпохі Адраджэння, што адлучыць іх адзін ад аднаго няма ніякай магчымасьці. Вось чаму я і лічу ўвесь «класічны пантэон» толькі калекцыяй больш позніх апокрыфаў, простым міражом сярэднявечнага хрысьціянства. Аж да

[80] «Кастрамская Даўніна», вып. VI, стар. 80-82.

заканчэньня III ст. нашай эры існавала, напэўна, нават і на ўзбярэжжах Міжземнага мора, як і ўсюды, толькі простае шаманства, як у сучасніх дзікуноў, а сьвятарская царква пачалася толькі з Арыя.

# Глава II.

## Хрыстос і Мітра.

Усходнія багі-ратавальнікі – гэта родныя браты Езуса Хрыста. Дж. Робертсан.

Я ўжо паведамляў, што навейшыя плыні рэлігійнай думкі, асабліва выразна выявіўшыяся ў творах Робертсана, Дрэўса, ў Брандаса, даводзяць, што Езуса Хрыста не існавала на зямлі і што ўсе хрысьціянскія паданні пра яго ўяўляюць сабой такі ж міф, як і легенды пра Юпітара Грамабоя. Гэта азначае, яны і без маіх астранамічных вылічэнняў скасавалі ўсю нашу старажытна-гістарычную храналогію, усталяваную Скалігерам з яго супрацоўнікамі і іхнымі пазнейшымі пасьлядоўнікамі. Калі Езуса Хрыста ніколі не было, то як жа можна сцвярджаць, што такая-та падзея была ў тым ці іншым годзе пасьля «нараджэння Хрыста» і нават да яго?

Пакуль гэты факт прызнаваўся, і спрэчкі ішлі толькі пра некалькі гадоў розніцы ў вызначэнні моманту сярод еўрапейскіх, азіяцкіх і афрыканскіх хрысьціянаў, такая розніца, вядома, не мела сур'ёзнага значэння. Але вось нам даводзяць зараз, што «нараджэння» ніколі не было, і разам з гэтым паўстае, вядома, пытанне: а ад чаго ж мы вядзём злічэнне? Што ж такое было пад час першага года юліянскага злічэння? Чаму ўсе хрысьціяне, якія жылі пасьля «ўкраінскага манаха Дыёніса Малога», памёршага, кажуць нам, у Рыме, у 556 годзе ад гэтага не існаваўшага «Нараджэння Хрыстова», абвясьцілі такое «нараджэнне» існаваўшым за 556 гадоў да сьмерці свайго ўкраінскага субрата? – Якія былі ў іх падствы для гэтага? Ды і ці існаваў у рэчаіснасьці гэты ўкраінец, вызначыўшы нейкім таямнічым спосабам у VI ст. нашай эры, што «Нараджэнне Хрыстова» было за 556 гадоў да яго сьмерці, ці ён такі ж міф, як і Хрыстос? Але тады хто ж, калі і грунтуючыся на якіх падставах усталяваў год нараджэння Хрыста?

Тая акалічнасць, што ягіпецкія хрысьціяне лічаць пачаткам свайго летазлічэння не першы, а 284 год нашай эры, называючы гэтае злічэнне эрай Богазакліканага, наводзіць на думку, што першапачатковым пачаткам хрысьціянскага злічэння і быў менавіта гэты год, як год першага памазанца боскага, г.азн. Хрыста па-грэцку. А Дзыянісій Малы толькі перанёс яго на 284 гады назад грунтуючыся на нейкіх дыпламатычных ці астралагічных падставах.

Але ў гэтым выпадку амаль усе падзеі старажытнага сьвету, датаваныя I, II і III стагоддзямі ад «Нараджэння Хрыста», павінны быць адпаведна перанесены ў IV, V і VI стагоддзі, хаця б яны і былі вызначаны грунтуючыся на перыядах валадарання імператараў, таксама памылкова дапасаваных да першых трох стагоддзяў нашай эры. Так гэта і выходзіць з боку гледжання маёй храналогіі.

У першай кнізе «Хрыста» я ўжо вызначыў чыста астранамічным спосабам, што ўсе імператары «Другой Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі», пачынаючы ад Суллы, які меў тытул Restitutor Urbis, атаясамліваюцца з валадарамі трэццяй Рымскай імперыі, пачынаючы з Аўрэліяна, які меў тытул Restitutor Orbis (гл. табл. XXII першага тома), да Каракалы, храналагічна налягаючага на

Тэадорыха Вялікага (493-526 гг.), пасьля сьмерці якога і прыехаў у Рым з Украіны Дыёніс Малы, які вызначыў час «Нараджэння Хрыста» за 556 гадоў да сваёй уласнай сьмерці.

Адсюль з'яўляюцца зразумелымі і мае наступныя высновы.

Джон Робертсан і іншыя пераконваюць нас, што адначасова з хрысьціянствам існаваў амаль цалкам такі ж культ бога Мітры, імя якога, мне здаецца, паходзіць ад жыдоўскага напісання МТР, азначаючага абводнены[81], г.азн. ахрышчаны вадой (згодна з рымскім рытуалам). Адсюль жа, напэўна, бярэ пачатак і назва духоўнай кароны – мітра (mitra па-італійску і μιτρα па-грэцку), і слова мітрапаліт, таму што некаторае адрозненне ў грэцкай і лацінскай арфаграфіі нічога не даводзіць: у некаторых вандруючых найменнях яно нашмат больш значнае.

У часы Адрыяна, г.азн. згодна з нашымі атаясамленнямі Ганорыя (395-423), калі гаворка ідзе не пра папу Адрыяна, пабудовы гэтаму «Ахрышчанаму вадой» былі, – сцвярджае археолаг Райт[82], – раскіданы па ўсёй Брытаніі, Паўднёвай Францыі, Гішпаніі, Германіі, Далмацыі, Дакіі і Паўночнай Афрыцы. Ва ўсіх гарадах і ўмацаваннях, размешчаных у Італіі і па берагах Рэйна і Дуная, існавалі мітрыумы (г.азн. хрысьцільні вадой). «Mitraism, – паведамляе Джон Робертсан у сваёй кнізе «Pagan Christs», г.азн.. «Паганскія хрысты», – was in point of range the most nearly universal religion of the Western World in the early centuries of the Christian era[83] (мітраізм быў амаль усеагульнай рэлігіяй Заходняй Яўропы пад час першых стагоддзяў хрысьціянскай эры). У Англіі быў знойдзены штучны грот са скульптурнымі выявамі служэння Мітры і з надпісам «богу, лепшаму і найвялікшаму, непераможнаму Мітры, богу стагоддзяў», ды і ў Кічэстэры быў з такім жа надпісам: «богу-Сонцу, непераможнаму Мітры, богу стагоддзяў». Іншыя падобныя ж знойдзены ў Кумберлэндзе, паблізу Оксфарда, паблізу Лондана, паблізу Ёрка, паблізу Манчэстара і г.д. У Рыме і ў яго наваколлі быў цэлы шэраг такіх жа гротаў; яны існавалі і ў Ягіпце і, напэўна, у Заходняй Азіі. Толькі ў Грэцыі іх было мала пад гэтым імем[84].

Каб даць чытачу выразнае ўяўленне пра выгляд Мітры, я размяшчаю чатыры выявы із кнігі Гіп'о[85] «Рэлігіі старажытнасьці», паслужыўшыя падставай для ўсіх далейшых дасьледаванняў пасьля Дюпюі. А для таго, каб адразу ж паказаць астралагічны характар гэтых выяваў, я даю паралельна з імі і звычайны малюнак Арыёна-Быказмагальніка, якім ён малюецца на еўрапейскіх мапах неба (мал. 155).

Цікава, што і Мітра на некаторых барэльефах забівае цяля дубінай замест мяча, як на астранамічных мапах Дзюрэра. Прыкладам можа служыць барэльеф, знойдзены каля Зальцбурга[86].

[81] מתר (МТР) – абвадненне, хрышчэнне вадой (згодна з рымскім рытуалам), абліванне.

[82] Wright: «The celt, the roman and the saxon», 4th edition, pp. 327-353.

[83] Robertson: aPagan christso, 1911 г., стар. 281.

[84] Там жа, стар. 282.

[85] J. Guigniaut: «Religions de l'Antiquite». Paris. 1841.

[86] «Wiener Jabrbuch», X, стар. 256.




Мал. 152.
Сузор'е Арыёна-Быказмагальніка (па-жыдоўску АРЫЯН – арыянін), як першакрыніца выяваў Мітры. Налева – Двайняты са стралой метэарытаў-гемінід, і за імі клюшні Рака.

Я не буду тут разбіраць здагадак ранейшых гісторыкаў пра тое, быццам бы такія аперцэпцыі сузор'я Арыёна разнесены па ўсёй Заходняй Яўропе няйнакш, як «із Персіі», таму што падобная здагадка ўяўляецца мне неверагоднай у самой сваёй падставе. Я, наадварот, буду даводзіць, што і ў саму Персію Мітра быў занесены із Яўропы пад час сярэднявечча, а яго жыдоўскае імя я тлумачу тым, што яно было дадзена яму арабскімі асаднікамі, якія некалі з'яўляліся ў Паўднёвай Італіі, Сіцыліі і Гішпаніі пануючым станам насельніцтва. Тут мы назіраем тое, што ў матэматыцы мае назву заданнем з двума рашэннямі, і памылкай ранейшых храналагістаў з'яўляеца якраз тое, што яны выпусьцілі із-пад увагі адно із іх: гэта ўсё адно, як калі б нейкі матэматык, якаму прапанавалі раскласьці, напрыклад, лічбу шэсць на два множнікі, напісаў бы 6 = 2*3, забыўшыся, што, акрамя таго, 6 = (-3)*(-2).

Я пакажу перадусім характарыстычныя рысы, грунтуючыся на якіх пазнаюцца выявы Мітры.




Мал. 153.
Барэльеф, знойдзены ў падземным гроце Капітолія ў Рыме, маючым назву і барэльеф вілы Баргезэ (Montfancon: «Antiquites expliques»,. I, pl. CCXVII. 1). Ён паказвае, што мітраізм і арыянства – адно і тое ж. Мітраносец (Mithras) прыносіць у ахвяру ўсеспалення сузор'е Целяці. Зверху імчацца ў калясніцах Месяц, перад якім вястун нясе апушчаную паходню ночы, і Сонца, апярэджваемае вестуном з прыўзнятай паходняй дня. Перад прыносімым у ахвяру Цялём стаяць з паходнямі вечаровая зараніца і ранішні світанак. Кроў Цяляці ліжа Сабака-Сірыус, знізу сузор'е Гідры, із-за якой выглядвае Рак. Далей – сузор'е Крумкача. Сам Мітраносец уяўляецца Арыёнам (па-біблейску АРЫАН, г.азн. арыянін). Гэта тыповы выгляд неба адразу пасьля заходу Сонца пад час летняе сонцастаяння. Дрэвы ўгары сімвалізуюць Млечны Шлях.

Вось пры ўваходзе ў пячору, адлюстроўваючую сусьвет, якім ён ўяўляўся згодна з Бібліяй, намаляваны Мітра з раздзімаемым плашчом на плячах і ў «фрыгійскім» каўпаку, нападаючым на Цяля (мал. 153). Левай рукай ён схапіў яго за пысу, а правай утыкае ў яго нож. Вялікі сабака нападае ці на яго, ці на Цяля. Гідра-змяя назірае за змаганнем, Скарпіён схапіў Цяля за яечкі, у знак таго, што, калі Сонца пераходзіць у гэтае сузор'е, губляецца яго апладняючая здольнасць і вяне з надыходам зімы зямная расліннасць. Зверху малюнка звычайныя сімвалічныя выявы Сонца і Месяца, а па абодвух баках: вястун з апушчанай паходняй – знак вечаровага зарыва і вястун з прыўзнятай паходняй – знак світанку. А адзін барэльеф больш шыкоўны, чым іншыя, паказвае тут, акрамя Сонца і Месяца, таксама і планеты[87]. На некаторую сувязь гэтага бога з вулканічнымі з'явамі Італіі паказвае тое, што ён лічыўся сынам Сьвятой гары і сімвалізаваўся бруяй полымя, вырваўшагася са скалы і ахапіўшага грудзі зямлі[88].

Лічачы, што Мітра не Арыён-Быказмагальнік, а Сонца, праходзячае пад час раўнадзенства праз сузор'е Цяляці, Дюпюі[89] прыйшоў да высновы, што ўзнікненне

[87] J. Guigniaut: «Religions de l'Antiquite», vol I, p. 355.
[88] Там жа.
[89] Dupuis: «Origine de touts les cultes».

гэтага культу павінна дапасавацца да 4000 гаду да пачатку нашай эры, а з нашага боку гледжання, пасьля высновы, што веснавое раўнадзенства вызначалася ў часы старажытнасьці не грунтуючыся на нябачным нікому праходжанні Цяляці каля Сонца, а яго геліатычным заходжанні, г.азн. бачным усімі яго апусканні ў полымя вечаровага зарыва, час узнікнення мітраізму даводзіцца аднесьці ўжо да першых стагоддзяў хрысьціянскай эры ці нават да пачатку сярэднявечча, таму што зад Цяляці пад Авена даходзіць да сузор'я Рыб.

На карысць гэтага ж сведчыць і існаванне аж да апошняга часу бою быкоў у Гішпаніі, дзе тарэадор пад час сярэднявечча, без сумневаў, сімвалізаваў Мітру, і ўся працэдура мела містычны рэлігійны сэнс.

У пагадненні з гэтым з'яўляецца і дзіўнае падабенства культу Мітры-Арыёна з культам Хрыста. Але каб забяспечыць сябе ад абвінавачняў у тэндэнцыйнасьці і даць рускаму чытачу лёгкую магчымасць праверыць мяне грунтуючыся на іншых аўтарах, я знарок зраблю гэта карыстаюся творам аднаго із нашых прыхільнікаў яго прышэсьця ў Яўрапу із Персіі, прафесара Н. А. Куна[90], хаця сам і лічу, што, наадварот, Мітра быў адным із двайнікоў Хрыста, прыйшоўшым із Яўропы ў Персію.

«Мітра, – выказваецца Кун, – як і Хрыстос, лічыўся пасярэднікам паміж богам і людзьмі. Хрыстос, сын боскі, выконвае волю свайго бацькі, выправіўшага яго, таксама як і Мітра, сын бацькі богаў Аўры-Мазды, выконвае яго волю. І Мітра і Хрыстос вядуць змаганне са злом, абодва яны праціўнікі якой бы то ні было няпраўды на зямлі. Як Мітра змагаецца з Арыманам і яго дэманамі, так і Хрыстос змагаецца з Сатаной і яго служкамі, якія, падобна Арыману і яго дэманам, будуць канчаткова пераможаны толькі пад час апошняга дня існавання сьвету. Як Мітра, здзейсніўшы свае подзвігі на зямлі, узносіцца на неба да свайго бацькі, каб прыйсьці на зямлю ў апошнія дзень, так і Хрыстос, здзейсніўшы на зямлі волю свайго бацькі і адпакутаваўшы, узносіцца да бога-бацькі на неба, каб прыйсьці на зямлю ў апошні дзень. Як Мітра-бог, даючы сьвятло і атаясамляемы з Сонцам, набыў назву «непераможны бог-Сонца Мітра», богам, даючым жыццё, так і Хрыстос набыў назву сьветадаўца, «сьвятло ўсяго сьвету». «У сувязі з гэтым цікава адзначыць, – працягвае ён, – што ў V стагоддзі і хрысьціяне, асабліва належаўшыя да найбольш нізкіх станаў, станавіліся на калены, працягвалі рукі да ўзыхозячага Сонца і маліліся яму, заклікаючы: «пане, памілуй!».

«Шмат агульнага, – працягвае далей аўтар, – і ў рытуале хрысьціянства і культу Мітры. Пакажам хаця б на два звычаі. У кульце Мітры існаваў асобны звычай абмывання, якім чысьцілі зноў прысвечанага ад брыдоты грахоў, і гэты звычай моцна нагадвае ахрышчэнне, якое таксама чысціць ад грахоў[91]. А сьвятая трапеза культу Мітры мае поўнае падабенства з хрысьціянскім сакрамэнтам прычашчэння. Яго ўдзельнік спажываў хлеб і віно, змяшанае з вадой, і гэтым містычна злучаўся з богам Мітрай, гэтак жа як і да гэтага часу спажывае хлеб і віно хрысьціянін і гэтым «далучаецца да Хрыста». Як сьвятая трапеза мітраістаў ладзілася як ўспамін пра апошні баль Мітры і яго памагатых, так і сакрамэнт прычашчэння хрысьціянаў ладзіцца як ўспамін пра таемную вячэру Хрыста і яго вучняў».

---

[90] Н. А. Кун: «Папярэднікі хрысьціянства». 1922.

[91] Вось чаму я і вывожу слова Мітра ад жыдоўскага מתר (МТР – абвадненне, хрышчэнне), лічачы што прапаведнікі мітраізму былі хрысьціянскімі сьвятарамі, арабска-жыдоўскай мовы. Н. М.

«Можна пазначыць і яшчэ цэлы шэраг падобных рыс паміж культам Мітры і хрысьціянствам. Як і хрысьціянства, культ Мітры патрабуе справядлівага жыцця ад пасьвечаных у яго містэрыі. Ім ставіцца ў абавязак, як самая важная дабрачыннасць, самае строгае выкананне дадзенага слова, яны павінны перш за ўсё пазбягаць хлусні, устрымлівацца ў жыцці, і гэта вяло нават, як і ў хрысьціян, да аскетызму. Мы ведаем, што сярод мітраістаў існавалі строгія нявіннікі (г.азн. манахі). Усе пасьвечаныя ў містэрыі Мітры лічылі сябе братамі, і паміж імі было пашырана звяртанне адзін да аднаго «шануемы брат», як і хрысьціяне былі «братамі ў Хрысьце». Адзначым яшчэ тое, што, як хрысьціяне, так і матраісты, лічылі святочным днём нядзелю, і як, хрысьціяне святкавалі, пачынаючы з IV ст., «Нараджэнне Хрыста» 25 снежня, так і прыхільнікі Мітры святкавалі 25 снежня нараджэнне свайго «Непераможнага».

«Калі б мы лепш ведалі вучэнне культу Мітры, – заканчвае Н. А. Кун, – калі б нам былі падрабязна вядомы ўсе звычаі, здзяйсняемыя падчас набажэнстваў і прысьвячэнняў у містэрыі, то мы, вядома, былі б у стане пазначыць і яшчэ больш рысаў падабенства паміж дзьвума рэлігіямі. Што іхнае падабенства на самай справе распасьціралася вельмі далёка, на гэта паказвае і тое, што апалагеты хрысьціянства самі адзначалі гэта і тлумачылі тым, што «сатана загадаў мітраістам пераймаць звычаі хрысьціянства».

А вось што паведамляе Робертсан[92] пра далейшую гісторыю мітраізму.

«Нягледзячы на ўсе доказы пашырэння гэтага культу ў Яўропе пад час першых стагоддзяў хрысьціянства, пазней на прасторах хрысьціянскага сьвету пачынаецца перыяд абсалютнага прабелу якіх бы то ні было згадванняў пра яго, так што мітраізм здаецца забытым. Адзін із яго сучасных дасьледчыкаў, М. Лаярд, лічыць, што з часоў «Бацькаў царквы» ўпершыню ў еўрапейскай літаратуры пра Мітру згадвае П’етра Рычо (Petrus Crinitus), нараджіўшыся каля 1465 г., вучань Палатыяна, і ніякіх іншых згадак не сустракаецца аж да сярэдзіны XVI ст.».

«Такім вялікім было – працягвае ён – невуцтва большасьці навукоўцаў таго часу, што ніводзін із трох вядомых тады помнікаў мітраізму ў Яўропе не прыпісваецца Мітры ні знакамітым знатаком старажытнасьці таго часу Росі, ні яго вучнем Фламініусам Вакка (знакамітым навукоўцам скульптарам, «аднавіўшым у XVI стагоддзі старажытныя статуі ў іх першапачатковым выглядзе (!)»). Нам усім вядома так часта згадваемая статуя Мітры, забіваючага быка, выдатны ўзор якой знаходзіцца ў Брытанскім музеі. А Росі сцвярджаў, што адзін із гэтых помнікаў маляваў Юпітара ў вобразе быка, нёсшага Яўрапу. Стагоддзем пазьней, Лейбніц сцвярджаў, што Армузд і Арыман – Добры і Злы пачатак у пярсідзкай рэлігіі, – былі проста абагаўлёнымі героямі, а яшчэ позней гісторык Масгейм, чалавек не пазбыты ведаў, з усёй дбайнасьцю даводзіў, што Мітра быў у свай час, як і Німрод, проста знакамітым паляўнічым. Навукоўцы XVIII ст. больш старанна вывучалі гэтае пытанне, але нават і ў нашы дні, калі ўсе асобныя ўказанні і помнікі Мітры дасканала сабраны і вывучаны, шмат хто прызнае, што вельмі мала ведаюць пра рэлігію мітраізму».

Уяўленне, што Мітра прыйшоў не із Яўропы ў Азію, а наадварот, грунтуецца на тым, што мы асабліва шмат слядоў яго культу знаходзім ў Ведах, у якіх боскасць Мітры з'яўляецца адной із найгалоўнейшых фігур. Але так як ён тут падмяняецца і іншымі багамі, то магчыма, што гэтае імя было толькі адным із эпітэтаў і што сьвятары і іхныя царуючыя апекуны павінны былі самі прынімаць

[92] John M. Robertson: «Pagan Christs. Studies in comparative Hierology», 1911, p. 282.

рашэнне, якім імем у дадзеным выпадку называць свайго найбольш папулярнага бога, калі ўся эвалюцыя ўяўленняў пра яго была моўнай. Ва ўсякім разе Мітры не пашчасьціла ў арыйскай Персіі, а ў Індыі яго імя адсунута на задні план, замяніўшыся іншымі эпітэтамі. У Рыг-Ведах яно часта ўжываецца разам з Варунай і Агні, а ў Атарва-Ведах Мітра характэрызуецца так выразна, што немагчыма сумнявацца ў яго сонечнай сімволіцы. Кажучы пра боскасць, што ўвасабляе ў сабе цалкам ідэю сьвятла, Атарва-Веда паведамляе: «Вечарам ён станавіцца Варуна-Агні, раніцай станавіцца Мітрай» – выказванне, відавочна паказваючы на бога-Сонца. «Мітра больш чым зямля і неба: ён захоўвае ўсіх богаў, – выказваецца пра яго Рыгведа» (III, 59. 7-8).

Але што ж із гэтага выходзіць? Толькі тое, што Веды таксама не бясконца старажытныя, а сярэднявечныя кнігі, і што мітраізм быў аднай із хрысьціянскіх сектаў, такай жа, як монафізіцства, юдэйства і арыянства; на карысць гэтага ж сведчыць і зацятасць змагання з ім іншых тагачасных хрысьціянскіх сектаў, якія тым больш ненавідзелі адна адну, чым бліжэйшымі былі іхныя погляды. Ды і Зэнда-веста, як будзе паказана ў VII кнізе, сярэднявечны твор.

«Можна думаць, – працягвае Н. А. Кун, – што тое жарснае, зацятае змаганне, якое вялося паміж хрысьціянствам і рэлігіяй Мітры, тлумачыцца менавіта рысамі падабенства гэтых двух рэлігій, якія так прыцягвалі да сябе вернікаў».

А што змаганне паміж імі вялося жарсна, на гэта паказвае цэлы шэраг фактаў. Напрыклад, у Александрыі ў 361 г. ад «Нараджэння Хрыста» загінуў, – кажуць нам апокрыфы эпохі Адраджэння – пакутлівай сьмерцю патрыярх Рыгор, які вырашыў пабудаваць хрысьціянскую царкву на парэштках сьвяцільні Мітры. У 337 г. ад «Нараджэння Хрыста», – кажуць нам яны ж, – прэфект Гракх, каб даказаць, што ён стаў дбайным хрысьціянінам, разбурыў дашчэнту свяцільню Мітры, пабіў і знішчыў усе знаходзіўшыяся там выявы богаў.

Але нягледзячы на ўсе пераследы рымская арыстакратыя заставалася яму вернай. Яна шчодра падтрымлівае мітрыумы, пасьля таго як імператар Грацыян (памёршы ў 387 г.) забраў у гэтых рэлігійных таварыстваў усе іхныя капіталы. Адзін вяльможа вельмі ганарыўся тым, што пабудаваў па Фламініевай дарозе каштоўны мітрыум і падараваў яму вялікія грашовыя сродкі...

Аднак, грунтуючыся на якой жа эры вядзецца тут злічэнне пазначаемае «ад Нараджэння Хрыста», якога, як нам кажуць зараз ніколі не было? Калі гэтае злічэнне грунтуецца на эры Дыяклетыяна, то атрымліваецца, што ўсе падзеі павінны дапасавацца ўжо да VII стагоддзя нашай эры і толькі апакрыфічна дапасаваныя да розных валадаранняў пераемнікаў Дыяклетыяна.

Пагадняюцца з гэтым маім пытаннем і апошнія словы Н. А. Куна пра тое, што пад уплывам мітраізму і іншых сярэднявечных культаў «стварылася своесаблівае абстракнае багаслоўе, вучыўшае пра багоў, як пра касмічныя магутнасьці, уплыў якіх прасякае ўвесь сусьвет, разглядаемы як суцэльны арганізм, душа якога з'яўляецца вечным богам. Гэты бог у адным кульце атаясамляецца з богам лёсу, у другім – з бясконцым часам, у трэццім – з нябесным богам-валадаром. Узнікла вучэнне пра нейкую манархію бога, валадарачага як на небе, так і на зямлі. Усе культы імкнуцца прывесьці шматбожжа да вучэння пра адзінага бога. Максім із Медаўры піша: «Існуе толькі адзіны і найвышэйшы бог, які не мае ні пачатку, ні заканчэння. Мы заклікаем яго магутнасьці разлітыя ва ўсім сусьвеце пад рознымі імёнамі, бо мы не ведаем яго сапраўднага імя. Пасылаючы нашы сьціплыя маленні да яго розных праяваў, мы выказваем намер паважаць толькі яго

аднаго. Ушаноўваючы падпарадкаваных яму богаў, людзі ўшаноўваюць толькі на тысячы ладоў гэтага бацьку багаў і людзей, і такім чынам багі, пры іхнай шматлікасьці, застаюцца аднасутнымі». І дбайны абаронца паганства Цэльз выказваецца, што існуе толькі адзін бог, якога патрэбна ўшаноўваць, і што нават, паважаючы шматлікіх богаў, людзі ўшаноўваюць адзінага бога, бо гэтыя багі толькі яго прадстаўнікі і служкі, пасярэднікі паміж ім і людзьмі. Паганства III і IV стст. пасьля «Н. Х.» (г.азн. згодна з нашай храналогіяй VI-VII стст. нашай эры) перадусім патрабуе ад вернікаў маральнага жыцця, патрабуе, каб чалавек быў чыстым ад грахоў. Жрэц робіцца пераважна настаўнікам маралі, настаўнікам набожнасьці, ачышчаючым душу выратаванага ад брыдот граху, пагаджаючым яго з сумленнем. Юльян нават меў намер ператварыць усе храмы ў школы маральнасьці, і не яго віна ў тым, што ў яго не атрымалася прывесьці гэта ў выкананне. Шчасьлівы Аўгустын паведамляе, як усё тое, што ў старажытнасьці распавядалася пра жыццё багаў, пачало разумецца мудрымі людзьмі цалкам інакш, і ў храмах пачалі давацца новыя тлумачэнні з мэтай надаць рэлігіі маральны сэнс. Фірмік Матэры патрабуе ад астролага, які мае справу з божымі сьвяціламі, каб ён быў чыстым ад грахоў, таму што «жрэц багаў павінен стаяць убаку ад прынад амаральных асалод».

Такім чынам, паміж паганскім багаслоўем і багаслоўем хрысьціянскім існавала такая блізкасць, што пераход ад аднаго да другога рабіўся амаль незаўважальным.

«Жыццё ўсяго грамадства ў III і IV стст. пасьля «Н. Х.» (г.азн. VI-VII стст. нашай эры), – працягвае аўтар, – прасякнута новымі ідэямі. Імі прасякнута і філасофія. Яна ўжо і раней імкнулася даць больш глыбокае і маральнае тлумачэнне навуцы пра шматлікасць богаў. Яшчэ стоікі не чураліся ідэі адзінага бога і выказваліся пра яго, як пра стваражочую магутнасць, нагоду і сэнс усяго сьветабуду. Плутарх (да 120 г. пасьля «Н. Х.», г.азн. згодна з нашай храналогіяй каля 370 г. нашай эры) у сваім, трактаце «пра Ізіду і Азірыса» піша: «не існуе розных багоў у розных народаў, не існуе багоў варвараў і багоў грэкаў, багоў паўночных і багоў паўднёвых. Але як Сонца і Месяц даюць сьвятло ўсім людзям, як неба, зямля і мора адны для ўсіх людзей, нягледзячы на шматлікасць разнастайных найменняў, якімі іх пазначаюць, так адзіным з’яўляецца і Розум, валадарачы над усім сьветам, адзіны Провід, што кіруе сьветам. Перамяняюцца толькі імёны і звычаі культаў»[93].

Безстаронні чытач бачыць сам, што ўсё гэта так блізка да сярэднявечнай ідэалогіі і так эвалюцыйна выцякае із папярэдняй гісторыі хрысьціянства, што пераносіць культ Ахрышчанага вадой (Мітры па-жыдоўску) у глыбокую старажытнасьць і перасяляць яго радзіму із Гішпаніі, дзе працэдура быказмагання існуе нават і зараз, у Азію, азначае толькі разарваць непарыўную, натуральна ўзнікшую тканіну на два лапікі і адкінуць іх далёка адзін ад аднаго.

«Ніводная рэлігія, – кажа Кюмон[94], збліжаючы мітраізм з першапачатковым хрысьціянствам, – не давала людзям, падзяляўшым яе погляды, столькі нагод для малітвы і падставаў для рэлігійнага разважання, як рэлігія Мітры. Калі прысьвечаны ішоў вечарам у сьвятую пячору, схаваную ў адасобленым месцы ў лесе, то што ні крок новыя ўражанні выклікалі ў ім містычны настрой. Зоркі, якія свяціліся на небе, вецер, які шамацеў лісцем, крыніца ці ручай, цурчачы спяшаўшыся ў даліну, нарэшце, зямля, на якую ён ступаў нагамі, усё было

[93] Там жа, стар. 159.
[94] Cumont: «Textes et Monuments figures relatifs aux mysteres de Mithra».

чароўным у яго вачах; уся атачаючая яго прырода, выклікала ў ім сьвятое трапятанне перад бясконцымі магутнасьцямі, дзейнічаючымі у сусьвеце».

Але падобны ж настрай душы мы бачым і ў Апакаліпсісе Яна, прыналежнасць якога заканчэнню IV ст. я ўжо давёў. І таму няма нічога дзіўнага, што пры Сэптымію Сяверу, якога я, грунтуючыся на такіх жа астранамічных меркаваннях, як і пры вызначэнні часу Апакаліпсіса, атаясаміў з Адаакрам (476-493 гг.), у Заходняй Яўропе было больш мітрыянцаў, чым артадаксальных хрысьціянаў, хаця яны, не належачы да дзяржаўнай царквы, і не мелі магчымасьці будаваць вялізных храмаў. «Суполкі асоб, прысвячаючых сябе служэнню Мітры, – зноў выказваецца Н. А. Кун, – не маглі быць велікімі. На гэта паказваюць тыя невялікія памеры, якія мелі мітрэумы. Яны наўрад ці маглі ўмясьціць разам з іхнымі сенцамі больш чым 100-120 чалавек.

«Таму, калі суполка разрасталася, а гэта адбывалася ўвесь час, то яна падзялялася на дзьве самастойныя суполкі, і будаваўся новы мітрэум. У Рыме такіх матрэумаў было шмат. Кожная суполка, акрамя падзелу вернікаў на прыступкі пасьвячэння, мела і асобную арганізацыю са службовымі асобамі, якія выбіраліся ўсімі яе сябрамі. На чале суполкі стаяла рада із дзесяці асоб са старшынёй, і, акрамя таго, куратар, які ведаў маёмасьцю і грашамі суполкі, а дэфензар, з'яўляўся прадстаўніком суполкі, калі ёй даводзілася мець справы з судом ці дзяржаўнымі службовымі асобамі. У кожнай суполцы існаваў свой патрон із ліку паважаемых і ўплывовых грамадзян, які падтрымліваў яе і ў выпадку патрэбы выказваў ёй заступніцтва. У кожнай суполцы вёўся спіс усіх яе сябраў, у які яны былі занесены згодна са ступенню іх пасьвячэння.

«Усе звычаі культу Мітры і строгая арганізацыя, якая існавала ў суполках, павінны былі рабіць моцнае ўражанне на народныя масы... Абмыванне вадой пры ўступленні ў суполку веруючых, якое чысьціла ад грахоў, напаўняла ўсю істоту надзеяй на будучае лепшае жыццё пасьля сьмерці. Усё ў кульце Мітры давала маральнае задавальненне, усё рабіла чалавека больш упэўненым у сабе і ў сваіх здольнасьцях. У суполцы Мітры апошні раб адчуваў сябе не толькі роўным нейкаму важнаму прыдворнаму імператара, ён мог апынуцца нават вышэй яго згодна са ступенню пасьвячэння».

Але само сабай зразумела, што падобная суполка магла быць толькі манаскай, таму што пры сямейнага жыцці з жонкамі і дзецьмі, такая роўнасць цалкам немагчыма. Набажэнствы ў гэтых кляштарах здзяйсняліся тры разы на дзень, раніцай, апоўдні і пасьля заходу Сонца. У асобным паглыбленні штучнага гроту, нагадваючага ахвярнік нашых храмаў, стаяла выява «Хрышчанага вадой», у выглядзе прыгожага юнака забіваючага Цяля (мал. 154), г.азн. скасоўваючага старажытны пачатак года ад гэтага сузор'я, якое і да гэтага часу малюецца на астралагічных мапах з адсечаным задам, на месцы якога стаіць апакаліптычны Авен. Навокал стаялі розныя багі, а перад выявай Мітры гарэла нязгасаючае полымя на ахвярніку. Уздоўж сьцен пячоры на каменных лавах у паўцемры стаялі на каленах молячыяся.




Мал.154.
Верхняя выява (133), лічымая за напалову-мітраістычны, напалову-себасцьянскі барэльеф, знойдзена ў Лодэнбурзе на Нікары паміж Манінгеймам і Гейдэльбергам (Acta Academ. Theodoro-Palatin. t. I, tab. II). Ніжняе: Сьвітанак прыносячы ў ахвяру сузор'е Цяляці. Барэльеф Брытанскага музея (Guigniaut: «Religions de l'Antiqite», v. IV, № 134. Абодва малюнкі уяўляюць далейшую эвалюцыю мітраізма-арыянства. На верхнім (фігура 133) Цяля ўжо забівае адзін із Двайнят, а другі (ці другая) толькі трымае за хвост. За ім бачыцца сузор'е Ільва, а сам Арыён-Арыянін намаляваны ў выглядзе сьвятара, які вылівае чырвонае віно на ахвярнік, паблізу якога стаяць Сабака-Сірыус і сузор'і Гідры і Голуба.

Сьвятары ў доўгіх адзеннях здзяйснялі набажэнства і прыносілі пад спевы гімнаў ахвяры сьвятым-багам, і кроў ахвяр лілася, як і ў біблейскім рытуале, у асобныя паглыбленні. Усё набажэнства павінна было рабіць уражанне чагосьці

таямнічага, незразумелага, і гэтае ўражанне ўзмацнялася яшчэ спевам гімнаў і музыкай. Самым урачыстым момантам быў той, калі, адкрыўшы ахвярнік, вернікам паказвалі там выяву бога Мітры, схаваную да гэтага за фіранкай».

Асабліва ўрачыста святкаваўся дзень нараджэння «непер:можнага» (Dies Natalis Invicti) 25 снежня юліянскага злічэння, а таксама яго велікоднае сьвята вясной і дзень каля восеньскага раўнадзенства, калі прыпадае (26 верасня) сьвята Яна Багаслова, – ды і кожны 16 дзень кожнага месяца быў прысьвечаны яму. Гэта вельмі нагадвае юдэйствуючых хрысьціянаў, пра якіх згадваецца ў апостала Паўла.

«У містэрыях Мітры мелі асобнае значэнне сьвятыя трапезы, якія ладзіліся як успамін пра той баль, які ён наладзіў перад тым, як пасьля сваіх зямных здзяйсненняў падняцца на неба. Гэтыя трапезы, як лічылі прысьвечаныя, давалі ім здольнасьці весьці змаганне з дэманамі зла. Толькі той, хто браў у іх удзел, мог спадзявацца на неўміручасць, таму што ён падчас трапезы містычна яднаўся з богам Мітрай. Тады спажывалі асьвечаны хлеб і ваду, змяшаную з вінам».

Відавочна, што гэта была адна із хрысьціянскіх сектаў.

Само сабай зразумела, што супернічаўшыя з мітраізмам іншыя хрысьціянскія секты, не саромеліся карыкатурна маляваць яго. Так у адным апокрыфе, прыпісваемым Шчасьліваму Аўгустыну, кпліва паведамляецца, што пры здзяйсненні звычаяў культу Мітры некаторыя ўдзельнікі яго набажэнстваў «махаюць штучнымі крыламі, пераймаючы крумкачам, іншыя рыкаюць, нібы ільвы, і мы бачым, – заканчвае аўтар, – як лічачыя сябе мудрымі, самым ганебным чынамператвараюцца ў дурняў».

Магчыма, што грунтуючыся на падобных жа меркаваннях і сем прыступак пасьвячэння ў самае высокае званне мітраізму, нагадваючыя масонскія, у хрысьціян мелі назву пасьвячэннем у вароны, ва ўтоеныя, у ваяроў, у ільвоў, у персаў, у бегуны Сонца і ў айцоў, – хаця падобны сімвалізм і сапраўды мог існаваць у рэчаіснасьці. Адзначым, акрамя таго, што набажэнствы гэтага культу нават і ў Ягіпце здзяйсняліся, як і ва ўсходніх хрысьціянаў, на грэцкай мове.

Астранамічныя ўяўленні ў мітраізме маюць ужо выразна заўважаемы характар Пталямеевай сістэмы.

«Жрацы Мітры, – сведчыць Н. А. Кун, – вучылі пра тое, што душы людзей жывуць на восьмым небе, – там, дзе зззяюць нерухомыя зоркі. З восьмага неба душы спускаюцца на зямлю, каб жыць у целе чалавека. А пасьля сьмерці душы зноў паднімаюцца на восьмае неба, калі яны засталіся чыстымі і справядлівымі. Лецячы на яго, яны праходзяць праз сем сфер, із якіх кожная знаходзіцца пад уладай адной із сямі планет. Із адной сферы ў бругую вядуць вароты, ахоўваемыя анёлам. Душа павінна ведаць сьвятыя выслоўі, каб вымаўляць іх перад кожнымі варотамі, таму што толькі тады яе прапусціць вартавы.

«Ведаць гэтыя выслоўі маглі, вядома, толькі пасьвечаныя ў містэрыі Мітры. На кожнай сферы душа пакідае нейкую са сваіх чалавечых уласцівасьцей, набытую ёю тады, калі яна апускалася на зямлю. На сферы Месяца яна пакідае свае жыццёвыя здольнасьці і патрэбу ў ежы, на сферы Мяркурыя – смагу да нажывы, на сферы Венеры – кахальныя намеры, на сферы Сонца – здольнасць спазнаваць, на сферы Марса – ваяўнічасць, на сферы Юпітара – імкненне да ўшанаванняў і ўлады, і, нарэшце, на сферы Сатурна – схільнасць да ляноты. Ачысьціўшыся ад усяго зямнога, душа паднімаецца на восьмае неба, дзе і жыве ў вечным сьвятле сярод богаў і карыстаецца вечнай асалодай. У той момант, калі яна пакідае цела чалавека, ім авалодваюць дэманы зла, і яно пачынае гнісьці, а за душу, перш чым яна

паляціць, адбываецца бязлітаснае змаганне паміж сьветлымі анёламі-захавальнікамі і дэманамі зла. Яна павінна, перад узыходжаннем на восьмае неба, з'явіцца на суд, на якім старшынствуе Мітра. Калі добрыя справы пераважаюць на шалях, то душа, выявіўшаяся справядлівай, узносіцца на восьмае неба; калі ж пераважаюць злыя справы, то, яна трапляе пад уладу злых дэманаў і іхнага валадара, князя цемры Арымана[95]. Яе чэрці нясуць у падземнае царства, і там несправядлівая душа зведвае тысячы пакут».

Такім чынам, мы бачым, што ў кульце Мітры была вельмі выразна выяўлена вучэнне пра ўзнагароду і пакаранне пасьля сьмерці. Бог Мітра, вядома, браў галоўную ролю ў лёсах душы пасьля сьмерці. Ён не толькі старшынстваваў на судзе, але і суправаджаў душы падчас іх цяжкага і небяспечнага шляху праз планетныя сферы на восьмае неба, баронячы іх і дапамагаючы ім. Нарэшце, ён жа прынімаў яе і ў царства вечнай асалоды, як прынімае бацька, сваіх дзяцей.

«У рэлігіі Мітры, як і ў хрысьціянстве, існавала вучэнне не толькі пра неўміручасць душы, але і пра ажыванне цела чалавека пад час апошняга суднага дня, які наступіць пры заканчэнні сьвету. Цяжкія выпрабаванні нашле Леў-Адшчапенец (Арыман) на сусьвет перад яго заканчэннем, і гэтыя бедствы будуць папярэджваць людзей пра заканчэнне ўсяго зямнога.

«Пад час апошняга дня зноў прыйдзе на на зямлю Мітра-Хрыстос. Ён ажывіць усіх людзей. Падняўшыся із магіл, сабяруцца яны разам, і адлучыць ён справядлівых ад несправядлівых, добрых ад злых. Ён прынясе ў ахвяру звышнатуральнага Цялёнка, які з'явіцца на зямлі адпаведна волі бога-бацькі, стваральніка ўсяго існага, гэтак жа, як з'явіўся напачатку сьвету Целёнак, з якім потым бог вёў змаганне. Забіўшы Цялёнка, Мітра перамяшае яго тлушч са сьвяты віном у святай Чарцы і дась піць із яе гэты цудоўны напай праведнікам, а ён дасць ім неўміручасць. Праведнікі ўслаўяць бога-бацьку і будуць маліць яго, каб ён знішчыў зло. Ён пачуе іхныя маленні, пашле з неба полымя, якое ахопіць усю зямлю, і ў гэтым сусьветным вогнішчы загінуць усе злыя, а з імі і валадар царства зла са сваімі дэманамі. Уся зямля будзе вычышчана нябесным полымем, і наступіць на ёй вечнае, шчасьлівае жыццё, якім будуць цешыцца толькі правяднікі».

Я знарок выпісваю ўсё гэта із Н. А. Куна для таго, каб мяне не западозрылі ў тэндэнцыйнасьці, калі я буду рабіць выпісы із першакрыніц, якія цяжка праверыць чытачу. А між іншым, у першакрыніцах падабенства Мітры з Хрыстом вымалёўваецца яшчэ больш. Так у Плутарха[96] і Юльяна[97] яго называюць непасрэдна пасярэднікам паміж богам і людзьмі, як і хрысьціяне евангельскага Хрыста; яго завуць таксама Ратавальнікам, Збаўцай, вечна юным сынам усявышняга, ахоўваючым чалавечы род ад духа зла.

Усё гэта бяспрэчна паказвае, што мітраізм з’яўляўся адной із хрысьціянскіх сектаў сярэднявечча і што гэтая секта ўзнікла не ў Азіі, а сярод месіянцаў Заходняй Яўропы, і нам застаецца толькі паглядзець, якія змены яна зведала ў Азіі.

Перадусім, згодна з усходнімі паданнямі Мітра быў народжаны Скалой. Гэтая скала стаяла на беразе ракі ў цені сьвятога дрэва. З гэтай Скалы выйшаў юны бог у фрыгійскай шапачцы, з нажом у аднай руцэ і падпаленай паходняй, асьвятляўшай цемру, у другой. Яго нараджэнне, як і нараджэнне Хрыста, бачылі толькі пастухі, якія пасьвілі статкі ў гарах. Юны бог нарэзаў сваім нажом із

---

[95] Па-жыдоўску АРЫ-МОН – леў-адрачэнец, па-зендзкі аграманьёс – «злачынец».
[96] Плутарх: «Ізіда і Азірыс», з. 46.
[97] Julian: «In regem solem», сс. 9, 10, 21.

фігавага дрэва лістоў і зрабіў сабе з іх адзенне, каб абараніцца ад моцнага ветру. Ён нарэзаў з яго ж фігаў, і яны былі яго першай ежай.

У гэтым міфе, аднак, ёсць і супярэчнасць, характэрная для першабытнай міфатворчасьці. Справа ў тым, што Мітра, згодна з вучэннем яго сьвятароў, нарадзіўся, як і Хрыстос, напачатку ўсіх стагоддзяў, у тыя часы, калі яшчэ не было на зямлі чалавека і, не гледзячы на гэта, яго нараджэнне са скалы бачылі нейкія пастухі...

Адразу ж пасьля свайго нараджэння ён, як і Месяц пры сонечным зацьменні, пачынае змаганне з богам-Сонцам. Ён перамагае яго, і заключае з ім непарыўны хаўрус сяброўства, працягнуўшы яму правую руку і надзеўшы на яго той прамяністы вянок (сонечную варону), у якім бог-Сонца здзяйсняе ў сваёй калясніцы штодзённы шлях па небу.

Галоўным здзяйсненнем Мітры было яго змаганне з першай жывой істотай, з'явіўшайся на зямлі, а менавіта з Цялём, створаным самім богам-бацькам. Гэтае Цяля Мітра нагнаў на сенажаці на вышыні. Ён схапіў яго за рогі і ўскочыў яму на сьпіну. Раз'юшаны бык наўскач панёсся па вышынях (астралагічна: па вышынях неба), імкнучыся скінуць Мітру, але юны бог цвёрда сядзеў на яго сьпіне.

Часам быку атрымоўвалася яго падкінуць, але Мітра моцнай рукай трымаўся за рогі, і бык толькі валок яго за сабай па зямлі. Нарэшце, знясілеўшы, ён спыніўся. Мітра схапіў яго за заднія ногі і, узваліўшы сабе на сьпіну, панёс у пячору, сваё жыллё. Цяжкім быў шлях Мітры, шмат перашкод давялося пераадолець яму, перш чым дайшоў ён да пячоры. Але Цяляці пашчасьціла выскачыць з яе і зноў збегчы на сенажаць. Тады на дапамогу Мітры прыйшоў бог-Сонца. Ён выправіў да яго Крумкача, які перадаў богу наказ Стваральніка сусьветаў забіць Цяля. Мітра быў вельмі засмучаны гэтым наказам, але непаслухаць не мог. Са сваім верным памагатым Сабакай (мал. стар. 699 (мал. 152,153)), якія знайшоў Целя, Мітра доўга пераследаваў яго і, нарэшце, загнаў у пячору. У ёй ён нагнаў Цяля, схапіў левай рукай за галаву, пагрузіў пальцы ў яго ноздры, а правай рукай усадзіў яму глыбока ў шыю нож. Само сабай зразумела, што гэты міф хутчэй усяго мог быць навеяны няпоўным сонечным зацьменнем у сузор'і Цяляці, калі Месяц ператварыў сонца ў нож.

«Валадар злых дэманаў Леў-Адрачэнец выправіў створаных ім нячыстых жывёл, Змяю і Скарпіёна (Сузор'і Гідры і Скарпіёна (мал. 152), каб яны апаганілі гэтую ахвяру Мітры, але баг Месяц сабраў семя Цяляці і ачысьціў яго. З гэтага семені ўтварыліся ўсе карысныя жывёлы. Душа Цяляці, ахоўваемая Сабакай Мітры, паднялася на неба і ператварылася там у бога, абаронцу статкаў[98]. Здзейснілася найвялікшае дзіва. Са спіннога мозгу Цяляці выраслі хлебныя травы, з яго крыві – вінаградныя лозы. Яны далі саспелыя гронкі, із якіх людзі пачалі рыхтаваць сьвяты напай для містэрый, а із мяса выраслі гаючыя травы.

«Але перамогай над цудоўным Цялём і прынясеннем яго ў ахвяру не закончыліся здзяйсненні Мітры на зямлі. Да часу іхнага змагання з'явіліся на зямлі першыя людзі, і, вядома, Леў-Адступнік пачаў прыкладаць намаганні, каб загубіць іх. Ён наслаў на зямлю такую моцную засуху, што ўсё пачало гінуць. Церпячы жудасныя пакуты ад смагі, людзі ў роспачы паклікалі Мітру па дапамогу. Ён з'явіўся да іх і, нацягнуўшы свай тугі лук, пусціў стралу ў скалу, і з таго месца, куды яна стукнула, забіла крыніца жывой вады. Так Мітра выратаваў людзей,

[98] Богам Дрвашта, сугучна з жыдоўскім דור־בשתי (ДУР-В-ШТІ) кола ў канве, экліптыка.

гінуўшых ад смагі. Пасьля засухі Атступнік наслаў на зямлю патоп, і толькі адзін чалавек выратаваўся ад патопу ў каўчэгу і аднавіў чалавечы род. Нарэшце, Арыман насылае на зямлю ўсёпажыраючае полымя. Уся зямля была ахоплена ім, але багі выратавалі людзей ад сусьветнага пажару, пры чым Мітра браў у гэтай справе галоўную ролю. Толькі пасьля гэтага ўсе пачалі жыць спакойна, і Леў-Адступіік не адважваўся больш насылаць на іх сусьветныя бедствы.

Закончыліся тады і зямныя здзяйсненні бога Мітры.

«Ён наладзіў баль, на якім былі ўсе дапамагаўшыя яму на чале з богам-Сонцам, пасьля чаго ён узнёсся на неба на калясніцы Сонца. Але і на гэтым шляху яму пагражала адна небяспека: калі ён пераносіўся праз акіян, той паспрабаваў праглынуць яго сваімі хвалямі. Але Мітра выратаваўся і ад яго і, узнёсшыся на неба, застаўся там пастаянным абаронцай людзей ад злых дэманаў і іхнага валадара Ільва-Адступніка. Але бароніць ён толькі тых людзей, якія жывуць пабожным жыццём і дбайна ўшаноўваюць яго».

Чытач бачыць сам, што арыгінальным тут, пасьля Бібліі і Евангелляў, з’яўляецца толькі змаганне з Цялём, паказваючае, што гэтае апавяданне было складзена ў той час, калі першынство ў Задыяку ўжо перайшло ад Цяляці да Авена, г.азн. кропка роўнадзенства ўжо лічылася ў Рыбах, і Авен згараў вясной у полымі вечаровага зарыва, замест Цяляці, як было напачатку нашай эры. Але і гэта ўзята із Бібліі, як і патоп, і касмічны пажар (водгалас вывяржэнняў Вязувія), а ўсшэсьце на неба апісана прама як у Евангеллях: гэта перадъевангельскае хрысьціянства, не раней VII стагоддзя нашай эры.

У такім выглядзе Мітра патрапіў і ў вучэнне Заратустры, за якім з нашага боку гледжання даводзіцца прызнаць тое ж сярэднявечнае завяршэнне, што, дарэчы, не асабліва супярэчыць і сучаснай храналогіі. Так, на думку Джэмса Дармстэтэра некаторыя прота навуковыя аддзелы «Каментара закону» Заратустры напісаны не раней сярэдзіны III ст. нашай эры як перайманне грэцкіх і санскрыцкіх навуковым трактатаў[99].

Хаця Заратустра і лічыўся, аж да заканчэння XIX стагоддзі жыўшым у часы знікнення Багазмагальніцкага (ізраільскага па-жыдоўску) царства, але пасьля таго як мы даказалі ў першай і другай кнігах «Хрыста», што богазмагальніцкае царства было не на малюсенькім лапіку зямлі ў напаловудзікай Палестыне, а ахоплівала ўсю вялікую Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкую імперыю, і што апісанае ў Бібліі яго знікненне дапасуецца да IV стагоддзя нашай уласнай эры, – і сам Заратустра пачынае храналагічна налягаць на аўтара Апакаліпсіса Яна Залатавуста, а яго Месія – Мітра на Вялікага Цара праваслаўных Чэцці-Мінеяў.

Дык у чым жа ў нас адрозненне з сучаснай гістарычнай храналогіяй?

Толькі ў адной дробязі: артадаксальныя гісторыкі сцвярджаюць: «Рэлігія Заратустры, які жыў у VIII ст. да нашай эры, панавала ў Персіі да яе заваявання Аляксандрам Македонскім у 333 г. да «Нараджэння Хрыста». Потым яна знікла там на 600 гадоў і аднавілася (г.азн., кажучы больш дакладна, ажыла із памёршых, шасьцісотгадовая ад труны) пры Сасанідах у IV ст. нашай эры, і існавала там да VII ст., калі была выцеснена магаметанствам[100]. А я сцвярджаю замест гэтага: «Ніякага Заратустры не існавала да IV ст, нашай эры, гэта апакрыфікаваны заканадавец. А тое, што артадаксальныя гісторыкі завуць аднаўленнем «маздэізму» ў Персіі пасьля

---

[99] Прадмова да ангельскага перакладу Зендавесты, 2-е выд., стар. 46.

[100] Гл., напрыклад, Spiegel: «Altertumskunde» і інш.

яго 600-летняга сну, было на самай справе яго ўзнікненнем на апакаліптычнай глебе, і прыйшло ў Персію із Яўропы праз Ягіпет і Грэцыю.

У ім заснавальнік хрысьціянскай літургіі Васіль Вялікі не ўведзены яшчэ нават і ў сьвіту бога сьвятла (Агуры-Мазды ці Армузда)[101], а толькі ў лік другарадных богаў, чым і даказваецца яго позняе вылучэнне, калі асноўная частка Зэнда-весты, адпавядаючая арыянству, ужо склалася. І гэтая ж яго другараднасць у старажытнапярсідзкай тэалогіі паказвае, што не ён быў вынесены із яе на захад у Яўропу, ператварыўшыся па дарозе ў вялікага бога, а сам прыйшоў з захаду і быў уключаны ва ўжо склаўшуюся Зендавесту, напісаную на мове, блізкай да новай афганскай, пры чым яе імя азначае: «тлумачэнне закона».

Я тут знарок амаль увесь час выказваўся літральна словамі сваіх першакрыніц, у падставе якіх у сваю чаргу ляжыць выдатная кніга Робертсана «Pagan Christs». Мая ж мэта складаецца не ў тым, каб паведаміць рускаму чытачу нейкія новыя, яшчэ невядомыя дэталі разглядаемага мной рэлігійнага культу, а ў тым, каб даць ужо вядомым фактам новае асьвятленне і новую храналогію і лакалізацыю, даўшы магчымасць лёгка і хутка праверыць маё выкладанне, супаставіўшы яго з высновамі прадстаўнікоў ранейшых паглядаў. З гэтага боку гледжання мне было проста неабходна ва ўсёй апісальнай частцы магчыма больш дакладна перадаць чужыя тэксты. А жадаючых дэталёва азнаёміцца з літаратурай гэтага пытання, я адсылаю да выдатнай кнігі Джона Робертсана, у ангельскім арыгінале якой паказаны ў нататках і ўсе старажытныя асноўныя першакрыніцы. На рускай жа мове рэкамендую кніжку Н. А. Куна «Папярэднікі хрысьціянства». Усё разыходжанне яго са мной складаецца толькі ў тым, што, згодна з маёй думкай, гэта былі не папярэднікі, а адгалінаванні хрысьціянства, і не пад час глыбокай старажытнасьці, а пад час сярэднявечча. Выкладанне ж фактаў у нас амаль аднолькавае, як чытач сам бачыць пры параўнанні.

Падобна таму, як у праваслаўным псеўда-адзінабожжы бог, стваральнік сусьвету, і яго Хрыстос і анёлы не заўсёды пераможна змагаюцца са сваім супернікам Сатаной і яго хітрымі нячысьцікамі, чарцямі і чарцянятамі, увесь час забіраючымі у іх то тую, то другую чалавечую душу, так і ў жыцці пярсідзкага маздэізму бог Стваральнік Дабра, Аўра-Мазда, вядзе не спыняючаяся ні на адзінае імгненне змаганне з Ангра-Майнью (Арыманам) і ўсімі падуладнымі яму дэманамі, з дапамогай падпарадкаваных яму добрых бажкоў і, перадусім, з дапамогай бога Мітры. Два багі, адзін дабра, а дугі – зла існуюць незалежна адзін ад аднаго згодна з вучэннем маздэізму, больш пасьлядоўнага гэтым разам, чым хрысьціянства, абвяшчаючага бога зла – Сатану – стварэннем бога дабра. Яны абодва да гэтага часу бяруць удзел у жыцці сусьвету. Бог сьвятла Агура-Мазда стварае жыццё, чыніць добрыя справы, вернасць, справядлівасць і наладжвае рай на небе, а Сатана Ангра-Майньа сее сьмерць, зло, хлусню і наладжвае пекла ў глыбіні зямлі. Незлічоная колькасць злых дэманаў атачаюць сатану, гэта – чэрці, друджы. Усюды яны імкнуцца нашкодзіць чалавеку, навучыць яго злу, давесьці да граха, насылаюць хваробы і голад. Сатана стварыў бясплодную зямлю і балоты, змеяў, скарпіёнаў і атрутных казурак. Ён жа стварыў зіму з яе холадам. Сатана і яго чэрці радуюцца, калі ў іх атрымліваецца наслаць сьмерць справядліваму, і толькі смуткуюць, калі памірае чалавек, робячы зло, займаючыся разбоем і вядзе заганнае

[101] Miss E. Plunket у сваёй цікавай кнізе «Ancients Calendars et counstellations» (1903 г.) лічыць, што Агура-Мазда персаў тоесны з Асара-Мазасам месапатамцаў і азначае «бог Асур», г.азн. бог-правадыр, валадар богаў.

жыццё, хаця пасьля сьмерці ён і сам робіцца чымсьці накшталт чорта, жахлівым прывідам. Абавязак анёлаў, служак бога-бацькі, весьці змаганне з дэманамі. Сапраўдны маздэіст павінен клапаціцца пра тое, каб, не робячы зла самаму, утрымваць ад злых спраў і іншых.

Такімі з’яўляліся асноўныя рысы пярсідзкай тэалогіі перад тым, як яе замяніла магаметанства на прыканцы VIII стагоддзя нашай эры. І дарэмна нам кажуць, што яна адрозніваецца ад хрысьціянства дуалізмам: у хрысьціянстве такі ж дуалізм, калі вы крытычна паставіцеся да яго вучэння пра рай і пекла. Пярсідзкая тэалогія з’яўляецца такой блізкай да сярэднявечнага каталіцызму і да візантыйскага хрысьціянства, што нездарма ўсе яе дасьледчыкі, якія прытрымліваліся думкі, што яна існавала ў Персіі яшчэ за 600 гадоў да пачатку нашай эры, прыйшлі да высновы, што еўрапейцы толькі запазычылі яе, ды і то з даволі вялікім спазненнем: амаль на тысячу гадоў. Але я ужо пазначаў, што гэтае пытанне мае і другое рашэнне, падобна шмат якім матэматычным заданням. Патрэбна нам толькі адкінуць сляпую веру ў бязгрэшнасць сярэднявечных манахаў-гісторыкаў і замяніць у іхнай храналогіі вельмі старажытных падзей, знак плюс на мінус, – як кажуць у матэматыцы, – як адразу ж атрымаецца іншае, нашмат больш стройнае і асэнсаванае рашэнне, ўжо не супярэчачае, як ранейшае, асноўным эвалюцыйным законам, і прыняцце яго робіцца абавязковым для кожнага гісторыка, які не жадае так жа рашуча і беззваротна разысьціся з усімі астатнімі навукамі, як разышлася з імі, на гора сабе, пачынаючы ад заканчэння XVIII ст. артадаксальная хрысьціянская тэалогія.

Я нагадаю яшчэ раз, што ўсё апавяданне пра змаганне Мітры з Цялём мае чыста астральны характар. Паглядзіце на Мітру на старажытнай мапе зорнага неба. Тут ёсць і Целя, якое ён забівае, і Сабака, які яму дапамагае. А Змяю і Скарпіёна, якіх выправіў Сатана, каб апаганіць гэтае закланне, што азначае перанос веснавога раўнадзенства на тыя дні, калі ў полымі вечаровага зарыва згарае не Цяля, а Авен, мы бачым далей, на захадзе неба. Усё гэта так нагадвае ідэі псалма 22 (21), які я ўжо разабраў у першай кнізе «Хрыста» ў главе «Паэма сузор'я Арыёна», што не можа быць сумневаў ў адзінстве ідэалогіі.

Такім чынам, Мітра ў Заходняй Яўропе і на Ўсходзе сімвалізаваўся (як і спачатку Месія) сузор'ем Арыёна і толькі потым замяніўся Змеятрымальнікам. Але якой жа із хрысьціянскіх сектаў належала гэта сімвалізацыя? Адзначыўшы, што слова Арыён па-жыдоўску пішацца Арыан (אריאן), мы лёгка прыходзім да высновы, што гэты культ развіўся із арыянства і што знаходзімыя тут і там у Заходняй Яўропе рэшткі гэтага культу з'яўляюцца рэшткамі панаваўшага тут некалі арыянства.

У пагадненні з гэтым у грэцкіх пісьменнікаў Агура-Мазда атаясамляецца з Зеўсам-Грамабоем а Мітра з Сонцам, але гэты эпітэт можа быць проста арнатыўным накшталт таго, як у назве «Уладзімір-Чырвонае-Сонейка». У Месапатаміі Агура-Мазда мае назву Господзь (Бэл), а Мітра таксама Сонца (Шамаш), чым яшчэ больш выяўляецца адзінства рэлігій Захаду і Ўсходу ў IV-VI стагоддзях нашай эры.

Але Мітра, якога ў Рыме звалі непераможным, не быў адзіным богам, перанесеным лацінскімі заваёўнікамі IV-V стст. з Захаду на Ўсход. Разам з ім перасяліліся і іншыя багі, якіх ушаноўвалі ў Паўднёвай Яўропе, хаця гэта, як часта бывае ва ўсіх старажытных культах, і не цалкам пагаднялася паміж сабой. Так на чале богаў, атачаючых «Ахрышчанага вадой», прыбыў у Азію і бог часу Сатурн,

яшчэ не пераўтвораны ў Сатану і меўшы назву па-грэцку Кронас – валадар чатырох стыхій, із якіх створаны сусьвет. Згодна з гэтай варыяцыяй ўжо ён, а не Агура-Мазда, вырабіў сам із сябе ўсіх богаў і аб'ядноўвае ў сабе іхную магутнасць. Гэты бог усё стварае і ўсё разбурае. Малявалі яго ў выглядзе гіганта з ільвінай галавай і крыламі. Цела яго было абвіта змяёй, у руках ён трымаў скіпетр і ключы ад нябеснай брамы, і на яго тулаве звычайна маляваліся знакі Задыяка.

Гэты бог, як вучылі жрацы Мітры, вырабіў спачатку бога Агура-Мазду і багіню Спента-Армаіці, жонку Агура-Мазды. Спента-Армаіці і Агура-Мазда нараджаюць бязмежны Акіян, які роўны па магутнасьці са сваім бацькам. І вось бог «Век» перадаў сваю ўладу Агура-Маздзе, і ён пачаў панаваць над багамі і людзьмі. Цэлы шэраг богаў паходзіць ад яго і яго жонкі: бог металаў і бог бітваў; бог земляробства і конегадоўлі, бог Гаома, увасабляючы сьвяты напой і тую расьліну, із якой ён вырабляўся (яго атаясамлялі з Бахусам); Анаіта – багіня ўрадлівасьці і вады і ў той жа час войны; Ванаінці – багіня перамогі; Аша – багіня дасканалага гераізму і г.д. Усе гэтыя багі і багіні жывуць на зіхацячым купале неба і ўтвараюць атачэнне пануючага там Агуры-Мазды і Спента-Армаіці, а глыбока пад зямлёй знаходзіцца царства Сатаны Арымана, атаясамляемага з Плутонам. Ён таксама народжаны богам «Векам» і кіруе ў царстве цемры і зла са сваёй жонкай Гекатай, аточаныя створанымі імі злымі пачварамі і дэманамі.

Арыман і дэманы зла і цемры паўсталі супраць бога дабра і сьвятла, але былі пераможаны Агура-Маздай і прагнаны ў царства цемры. Але ўсё ж яны носяцца і зараз па зямлі, чыняць незлічоныя непрыемнасьці людзям і вучаць іх злу, а багі сьвятла вядуць з імі вечнае змаганне.

Яскрава выяўляецца ў сусвеце ствараючая магутнасць бога полымя – Атар. Ён сьвеціць у зорках, бліскае ў маланках, ён дае жыццё. Дзякуючы яго дзейнасьці расьце ўсё на зямлі, ён жа хаваецца і ў нетрах зямлі. Планеты часта малююцца на рэлігійных помніках містэрый бога Мітры, большай часткай у выглядзе богаў, якім прысвечана кожная планета. І ўсе яны грэцкія: Гермес, Афрадыта, Марс, Зеўс, Крон, Селена, Геліёс.

Акрамя планет, маздыянцы ўшаноўвалі і сузор'і. Кожнаму са знакаў Задыяка прызначалася асобнае сьвята пад час таго месяца, да якога той ці іншы меў дачыненне. Відаць, і самі выявы крумкача, скарпіёна, ільва і сабакі, якія ўвесь час маляваліся ў згуртаванні Мітры забіваючага быка, знодзяцца у цеснай сувязі з сузор'ямі.

У гэты ж час у Персію прыйшла і магія, папоўніўшаяся варажбой на снабачаннях і трупах жывёл, з'явіліся кудмені і загаворы, і я вельмі схільны лічыць, што ўсе акультныя навукі перайшлі на ўсход менавіта з захаду пад час сярэднявечча, а не наадварот, як і ўся біблейская тэалогія, лічымая ўсходняй.

Адносна некаторых біблейскіх прароцтваў, напрыклад, Амоса, не цяжка астранамічна даказаць, што яно малюе нам поўнае сонечнае зацьменне, бачанае ў Рыме 19 ліпеня 418 г. Паходжанне кніг Быццё, Сыход, Лявіт і Лічбы із Італіі даказваецца апісваемымі там вулканічнымі з'явамі, якія маглі мць месца толькі на Вязувіі. Рака Хабур, на берагах якай напісана, згодна з уласнымі славамі аўтара, прароцтва Пераможа бог (Іезекі-Іл), больш падобна на гішпанскую Эбра, чым на месапатамскі прыток Еўфрата і г.д. А калі мы прыйшлі да высновы, што ўсё гэта было напісана напачатку сярэдніх стагоддзяў, то выпускаць із-пад увагі маўрытанскую культуру таго часу ў Гішпаніі цалкам немагчыма. Разам з тым даводзіцца нанова рашыць і ўсё арабскае пытанне. Дзе напісаны, напрыклад,

знакамітыя казкі «Тысяча і адна ноч?» – Ці не ў Кардоўскім халіфаце ў Гішпаніі? Ці не перанесена іхнае стварэнне так далёка на ўсход кіруючыся простай модай перасяляць усё фантастычнае і цудоўнае ў «Краіну ўзыходнага Сонца»? Хіба яшчэ і зараз не існуюць у Яўропе людзі, якія, не знаходзячы казачных усёведаючых чараўнікоў у сябе на радзіме, мараць, што такія існуюць са спрадвечных часоў у далёкай Індыі, схаваўшыся да патрэбнага часу на недаступных для звычайнга чалавека вяршынях Гімалайскіх гор?

Ці не грунтуючыся на гэтай спрадвечнай патрэбе насяляць невядомыя краіны разнастайнымі дзівамі пераносілася із Яўропы на далёкі Ўсход і ўся казачна-літаратурная і навуковая творчасць, як толькі забываліся ў трэцім ці чацьвёртым пакаленні сапраўдныя аўтары? Уся ж рукапісная літаратура пад час дадрукарскай эпохі згодна з самой сваёй сутнасьцю была ананімнай. Нікому нават і ў галаву не прыходзіла, напісаўшы для сябе нейкую нататку, хаця б і навуковую, зараз жа пазначыць на ёй сваё імя, адрас і год, калі гэта было зроблена. Пазначэнне аўтара стала патрэбным і дарэчным толькі на друкаваных кнігах, спецыяльна прызначаных для продажу незнаёмым людзям. І яно пачало ўжывацца толькі з часу вынаходніцтва Гутэнберга.

А да яго ўсё было ананімным і таму пазней лёгка апакрыфікавалася каму толькі было пажадана, і чым далей у глыб стагоддзяў і ў больш аддаленае месца, тым ахвотней.

Пра гэта нельга забывацца сучаснаму гісторыку, дасьледуючаму дадрукарскі перыяд чалавечай гісторыі.

# Глава III.

## Бог Серафім (Серапіс) і багіня Цьвярдыня Сусьвету.

Нам кажуць, што еўрапейскі бог Серапіс (Σεραπις) быў тым жа самым богам, што і ягіпецкі Азірыс-Апіс і што еўрапейская трыяда – Серапіс, Ізіда і Гарпакрат, цалкам адпавядае ягіпецкай трыядзе: Асірыс, Ізіда і Гор.

Я нічога не пярэчу супраць гэтай аналогіі, а толькі маю жаданне паказаць, што іх глыбокае ўшанаванне прыйшло не із Ягіпта ў Яўропу, як думалі да гэтага часу[102], а, наадварот, із Яўропы ў Ягіпет, як іншамоўнае адгалінаванне таго ж хрысьціянства, бліснуўшага яркім сьвятлом пад полымем грандыёзных вывяржэнняў Вязувія. «Адзіны бог жывы гэта Серапіс» – казалі яго прыхільнікі, і ён жа быў месапатамскім богам Сарапсі, г.азн. цар беднаты, які згадваецца ў Плутарха і ў Апіяна[103], хаця ён і з'яўляецца там як мясцовая аперцэпцыя бога Эа[104].

Для сучаснага еўрапейскага чытача, у альфабэце якога існуюць літары п і ф, імя Серапіс дастаткова выразна адрозніваецца ад Серафіма. Але вазьміце старажытна-жыдоўскі, яшчэ не пункціраваны альфабэт, у якім абодва гукі зліты ў адным і тым жа напісанні? (падобна таму, як у нашым альфабэце пад пазначэннем Г зліліся нямецкае g і нямецкае h), і вы пабачыце, што гэта раней было адно і тое ж імя, тым больш, што і канчатак -іс у Сераписа і -ім у Серафіма з’яўляюцца толькі нацыянальнымі пазначэннямі назоўных склонаў: першае для адзінага ліку (у

[102] Lafaye: «Histoire du culte des divinites d'Alexandrie hors de l'Egypt», II. 1883.
[103] Plutarch: «Alexaodr», 76, і Appian: «Anabasis», VII.
[104] Lemann у «Zeitschrift fur Assiorologie», 12.

грэкаў), а другое – для множнага (у жыдоў). Корань абадвух слоў Серапф – азначае у сваёй падставе «полымядыхаючы ўцёс»[105]. «Я паўстану на цябе пагібельная гара, руйнуючая ўсю зямлю», – выказваецца бог Грамабой у прароцтве Ерамія (51,25).– «Я скіну з уцёса тваю вяршыню і зраблю ўцёс полымядыхаючым» (СРФЕ).

Мы бачым тут, што еўрапейскае слова Сераф нават і ў царкоўных перакладах Бібліі, перакладаецца: «полымядыхаючы». А гэтае месца можа мець дачыненне толькі да Вязувія, таму што толькі ў яго аднаго із усіх жыдоўскіх вулканаў узляцела на паветра, а потым скацілася са схілу, уся вяршыня, пасьля чаго ён і зрабіўся полымядыхаючай гарой. І ў хрысьціянскіх паданнях не дарэмна гэтае «полымя» мае назву (г.азн. серафім) шасьці крылага. Падобнага яму па вышыні не было ні ў Этны, ні ў Стромбалі, адзіных вулканаў у Міжземнаморскім этнічным басейне. Але гэтае ж самае паказвае, што Серапіс і Серафім не перанесліся із Ягіпта ў Паўднёвую Яўрапу, а наадварот прыйшлі ў Ягіпет із Італіі і прытым ужо пад час хрысьціянскага перыяду, бо першае вывяржэнне Вязувія было ў 79 годзе хрысьціянскай эры, ад якога б часу мы яе ні пачыналі: згодна з Дыянісіем Малым, як да гэтага часу, ці ад часу «Васіля Вялікага», заснавальніка хрысьціянскай літургіі, як у мяне. Чаму ж тут дзівіцца пасьля гэтага таму, што набажэнства такаму Серафіму, як запэўніваюць нас усе дасьледчыкі, здзяйснялася нават і ў самым Ягіпце на грэцкай мове, ды і яго выява мела там чыста еўрапейскі характар? Нягледзячы на сваю назву «полымядыхаючы ўцёс» ён маляваўся ў выглядзе магутнага чалавекам накшталт Зеўса-Грамабоя, з густымі хвалістымі валасамі, з густой кучаравай барадой, аблямоўваючай яго твар, і лічыўся богам Сонца, апекуном раслiннасьці і валадаром царства памёршых, з якім у Ягіпце атаясамліваўся і Азірыс.

«Яму будавалі храмы, – сведчыць Н. А. Кун (кніжкай якога я зноў карыстаюся, як агульнадаступнай для чытача жадаючага праверыць мяне грунтуючыся на выказваннях прадстаўнікоў процілеглых паглядаў), – па ўсёй Рымскай імперыі ад крайняга захаду Гішпаніі і да берагоў Чорнага мора, ад меж Шатландыі і да пустыні Сахары».

Апакрыфуючы ўсіх класічных багаў за тысячу гадоў да свайго часу, сярэднявечныя аўтары грэцкіх і лацінскіх класічных твораў паведамляюць нам, што ужо у IV ст. да «Дыянісіева Нараджэння Хрыста» (г.азн. згодна з нашай храналогіяй яшчэ ў I ст. нашай эры) каля падножжа афінскага Акропаля быў заснаваны храм гэтаму «Полымядыхаючаму Ўцёсу». Іншыя храмы існавалі ў Беотыі, па выспе Дэлас, у Сьмірне, у Галікарнасе, і нават на поўдні Расіі знойдзена залатое кола з бюстам Серапіса. А «праз стагоддзе» (дакладней усяго: «за стагоддзе») яго культ існаваў у Сіцыліі каля падэшвы Этны і ў паўднёвай Італіі. Яго храмы былі ў Пуцяолах, у Пампеі і потым у Рыме, дзе яго культ зведаў моцныя праследы, так што рымскі сенат некалькі разоў выдаваў загад, быццам бы, разбураць храмы яго жонкі Цьвярдыні сусьвету (Ізіды-Зямлі[106], іерогліфам якай служыла нябесная цялушка – сузор'е Целяці ў жаночай варыяцыі, нясучая паміж рагамі сонечны дыск. Яна была маці «Бога гары» – Горуса[107], помсніка за забітага чалавека Цьвярдыні сусьвету – Акаванага Вязня (Азірыса)[108].

---

[105] Пішу ўцёс замест гара, каб даць імя мужчынскага роду.

[106] יסד (ІСД) –грунт, пачатак.

[107] Ад הר (ХР) – гара.

[108] אסיר (АСІР) – вязень у кайданах.

А згодна са словамі іншых, больш верагодных нашых першакрыніц, гэты культ моцна пашырыўся таксама па ўсёй Францыі, Гішпаніі, Германіі, Аўстрыі і нават па Паўночнай Афрыцы.

«Таму нічога дзіўнага ў тым, – кажа Н. А. Кун (стар.90), – што Калігула будуе на Марсавым полі шыкоўны храм Ізідзе, які трохі позней Даміцыян ўпрыгожыў з яшчэ больш незвычайнай пышнасьцю».

З таго часу культ «Цьвярдыні сьвету» і «Полымядыхаючага бога» пачынае карыстацца асобным заступніцтвам імператараў. Даміцыян для ўпрыгожвання храма Ізіды загадвае прывезьці з берагоў Нілу высечаных з граніту сфінксаў, статуі апісаў і абеліскі; Адрыян на сваёй каласальнай віле каля Тыбра загадвае пабудаваць копію Александрыйскага Канопа і ладзіць там шыкоўныя сьвяты перад статуяй Сераліса-Серафіма, а Комад нават голіць сабе галаву, таму што гэта было патрэбна, каб браць удзел у працэсіі ў гонар Цьвярдыні сьвету – Ізіды. У 215 годзе, – працягвае аўтар,– Каракала будуе ёй на Квірынале храм, які сваёй раскошай пераўзышоў храм пабудаваны Калігулай. Напачатку «III ст. пасьля Н. Х.» «Ізіда» і «Серапіс» могуць быць названы самымі ўшаноўваемымі багамі Рымскай імперыі і толькі паступова саступаюць першасць богу Мітры. Яшчэ «ў 344 г. пасьля Н. Х.» ладзіліся, кажуць нам, – сьвяты , гульні і ўрачыстыя працэсіі ў Рыме ў гонар Ізіды.

Культ Ізіды і Серафіма – згодна з тым жа аўтарам – прынёс у рэлігію Рыма шмат такіх рыс, якія не былі ўласцівымі для рымскага паганства. Ранейшая рэлігія Рыма цалкам не ведала штодзённых набажэнстваў. Да кожнага бога звярталіся толькі ў тым выпадку, калі патрэбна была яго дапамога, ці патрэбна было задобрыць яго, калі ён быў чым-небудзь угневаны на кагосьці, а таксама, калі была патрэба падзякаваць яго за выказаную дапамогу, і акрамя таго – у вызначаныя дні года, прызначаныя для сьвятаў у яго гонар. У храмах жа Ізіды набажэнствы бывалі штодня і здзяйсняліся, цалкам як у сярэднявечных кляштарах, двойчы на дзень, раніцай – пры ўзыходзе Сонцы і пасьля паўдня, калі Сонца пачынала схіляцца да захаду.

У адрозненні ад іншых гэты культ патрабаваў, як і хрысьціянскі, незвычайнай дакладнасьці ў вымаўленні сьвятых тэкстаў і выкананні ўсяго рытуалу, таму што толькі ў такім выпадку мелі магчымасць выканнацца яго малітвы і ахвяраванні. Будзь зроблена хаця б самая малая памылка ці недакладнасць, і богу не будуць пажаданы ахвяры, і не пачуе ён малітвы, звернутай да яго. Калі ж усё выканана правільна, то ён абавязкова павінен пачуць малячага і даць верніку тое, пра што ён просіць. Увесь рытуал меў магічную магутнасць, і малітвы амаль нічым не адрозніваліся ад загавораў. Такі характар культу безумоўна павінен быў прыцягваць да яго народныя масы, бо спрошчанае разуменне малітваў значна больш дапасуе людзям мала адукаваным, чым абстрактае ўяўленне пра містычнае зліццё з боскасьцю падчас малітвы. Прыцягвала народныя масы і тая ўрачыстасць і раскоша, з якой здзяйсняліся набажэнствы гэтаму богу.

Рана раніцай перад самым узыходам Сонца ладзілася цырымонія адчынення храма, замкнёнага на працягу ўсёй ночы. Першасьвятар, адмыкнуўшы браму, заходзіў у храм і ішоў да замкнёнага і нават запячатанага сьвяцілішча. Ён адсоўваў белую заслону, за якай стаяла статуя багіні-маці. Ён запальваў сьвятое полымя і выконваў абмыванне сьвятой вадой, прынесенай з найбліжэйшай ракі ці нейкай крыніцы, пры гэтым выконваючы розныя звычаі. На працягу ўсёй раніцы і

некаторы час пасьля паўдня храмы Ізіды заставаліся адчыненымі для ўсіх вернікаў, а бліжэй да вечара ў іх ладзілася другое набажэнства згодна з такімі ж складанымі правіламі, як і ранішняе, і здзяйснялася замыканне храма.

Такая складанасць рытуалу і тое, што ўсё набажэнства мела містычны характар, дзе кожнае слова, кожны жэст мелі асобнае сімвалічнае значэнне і асаблівую, амаль магічную магутнасць, рабіла патрэбным існаванне пры кожным храме цэлага штата сьвятароў. Толькі ж яны маглі ведаць, як заклікаць Ізіду, як вымавіць яе імя і з якай інтанацыяй чытаць малітвы і сьпяваць сьвятыя гімны. Такі характар культу патрабаваў, каб сьвятары цалкам прысьвяцілі сябе яму. Яны галілі галаву, насілі толькі белае ільняное адзенне, бо ваўнянае апаганьвала іх. Яны павінны былі штодня здзяйсняць разнастайныя абмыванні, пасціцца, устрымлівацца ад ужывання ў ежу розных прадуктаў і г.д.

Асабліва складаныя ачышчальныя звычаі здзяйсняліся перад сьвятамі ў гонар Ізіды.

Гэтых сьвяткаванняў было два: адно спраўлялася вясной, другое – восенню. Вось як апісвае адно з іх Н. Л. Кун у сваіх «Папярэдніках хрысьціянства».

«Веснавое сьвята суправаджалася ўрачыстым шэсьцем да берага мора і ладзілася з найвялікшай пышнасьцю. У Апулея мы маем апісанне гэтай працэсіі. 5 сакавіка, у той дзень, калі пасьля зімовага перапынку, які працягваўся ад лістапада да сакавіка, зноў пачыналася мараплаўства, выступала із храмаў Цьвярдыні сьвету (заступніцы між іншым і мараплаўства) працэсія да мора. Наперадзе, грунтуючыся на сведчанні Апулея, ішоў даволі дзіўны для рэлігійнай працэсіі згодна з сучаснымі разуменнямі гурт маскаваных. Яны ў карыкатурным выглядзе малявалі некаторых герояў грэцкай міфалогіі. Далей ішлі, намаляваныя таксама ў карыкатурным выглядзе – жаўнер, філосаф, гладыятар, паляўнічыя і іншыя маскі. За маскамі ішлі жанчыны, апранутыя ў белае, доўгае адзенне. Адны з іх разлівалі пахучыя вадкасьці па ўсяму шляху, другія абсыпалі гэты шлях кветкамі, трэццця несьлі сьвятыя рэчы і розныя ўпрыгожванні багіні Ізіды. За жанчынамі рухаўся цэлы натоўп служак Ізіды, нёсшых ліхтары і паходні. За паходненосцамі ішлі сьвятары з рознымі сьвятымі выявамі і музычнымі прыладамі, ўжываемымі пры набажэнствах. Далей ішлі музыканты, якія выконвалі музыку на флейтах і жалейках, а за імі хор юнакоў – гімнодаў, абраных із самых шляхетных радоў. За імі цягнуліся жанчыны і мужчыны, якія былі ганараваны пасьвячэннем у таемны культ. Ва ўсіх мужчын былі цалкам аголеныя галовы, а ў жанчын – распушчаныя і напарфумаваныя валасы, пакрытыя белымі пакрываламі. Усе яны былі апрануты ў такое ж белае ільняное адзенне, як і сьвятары. Той сьвятар, які быў наперадзе, нёс залатую сьвяцільню, зробленую ў выглядзе лодкі. За ім ішоў другі з двума невялікімі ахвярнікамі ў руках – знакам таго, што Ізіда заўсёды клапоціцца і дапамагае тым, хто ўшаноўвае яе. Потым адзін сьвятар нёс галіну перамогі і жазло сьвету, нагадваючы кадуцэй Гермеса. Далей ішоў другі, галава якога была накрыта каровіным скурай, а трэцці сьвятар трымаў яе пярэднія ногі на сваіх плячах, так што карова ішла як бы на задніх нагах. На самым заканчэнні працэсіі ішоў яшчэ сьвятар, які нёс на грудзях залатую ўрну, на ручцы якой, падобнай на выгнуўшуюся змяю былі выразаны сьвятыя пісьмёны.

«Павольна рухалася гэтая працэсія да мора. На загадзя прызначаных месцах каля асобных ахвярнікоў яна спынялася, і вернікам паказвалі розныя сьвятыя прадметы, якім яны кланяліся.

«Нарэшце, даходзілі да мора. Там усе сьвятыя прадметы размяшчаліся ў строгім парадку, і вярхоўны сьвятар падыходзіў да каштоўна размалёванага згодна са старажытна-ягіпецкім стылем карабля. Яго карма была пазалочана і мела форму залатога гусака. Мачтай служыла круглая, гладка адпаліраваная хвоя. На караблі быў пастаўлены вялікі белы ветразь, на якім быў надпіс: «прысьвячэнне Ізідзе, апякунцы мараплаўства». Галоўны сьвятар здзяйсняў ачышчэнне карабля, для чаго карыстаўся паходняй і яйкам, і абкурваў карабель серай. Прамаўляючы малітвы, ён прысвячаў «Цьвярдыні сьвету» карабель і тыя дарункі, якімі ён быў напоўнены. Пасьля гэтага карабель штурхалі з берага ў мора.

«Вецер паднімаў ветразь, карабель паступова аддаляўся ад берага, а ўсе сабраўшыяся сачылі за тым, як ён усё далей і далей плыў у адкрытае мора ў знікаў з вачэй вернікаў у блакітнай прасторы.

«Звычаі на марскім беразе былі закончаны. Уся працэсія, строга выконваючы тое ж упарадкаванне, у якім рухалася да мора, вярталася, згодна з Апулеем, назад у храм. Сьвятар грамацей (граматэўс) збіраў усіх божніцаносцаў і, аточаны імі, чытаў з узвышэння ўрачыстую малітву, у якой ён маліў Ізіду паслаць яе літасьці імператару, яго двару, рымскаму сенату і ўсім службовым асобам рымскай імперыі, стану вершнікаў, рымскаму войску і ўсім рымскім грамадзянам (а гэта так нагадвае эктэнію, чытаемую ў хрысьціянскіх храмах). Цырымонія заканчвался тым, што чытаўшы малітву за імператара, сенат і г.д., прамаўляў асобную формулу, якой ён адпускаў усіх сабраўшыхся. Гэта было нешта падобнае на «з мірам ізыдзем», якое да гэтага часу прамаўляецца ў хрысьціянскіх цэрквах. Прысутнічаўшыя ў храме адзін за адным падыходзілі да выявы багіні і, пацалаваўшы ногі статуі, клалі перад ёй кветкі і галіны толькі-што распусьціўшайся масьліны.

«Падобнае сьвята не магло не вырабляць моцнага ўражання на малаадукаваныя народныя масы. Уся раскоша працэсіі, таямнічыя знакі багіні, якія несьлі сьвятары, усе здзяйсняемыя звычаі, урачыстае сьпяванне гімнаў, музыка, нарэшце, сам выгляд сьвятароў і пасьвечаных у таямніцы ў іхным доўгім белым адзенні з паголенымі галовамі, – усё гэта здавалася вельмі прывабным гарадзкому насельніцтву, такому схільнаму да разнастайных відовішчаў.

«Але яшчэ больш павінна было прыцягваць народ тое сьвята, якое здзяйснялася ў гонар багіні восенню, на самым заканчэнні кастрычніка і пад час першых дзён лістапада. Гэта было сьвята, спраўляўшаяся ў памяць таго, як багіня шукала свой «Полымядыхаючы Ўцёс», разадраны Сатанай (Сэтам[109]). Паказвалі, як яна, ахопленая несуцешным горам, знаходзіць яго цела, пасечанае на кавалкі лютым Сатаной і раскіданае па ўсяму Міц-Рыму. Гучна наракаюць разам з засмучанай «Цьвярдыняй сьвету» ўсе сабраўшыяся ў храм і аплакваюць загінуўшага. Але вось знойдзена яго цела, яно па частках сабрана багіняй. Анубіс і Тот злучылі яго і ажывілі. Ён зноў жывы. Засмучэнне вернікаў і жрацоў перамяняецца на весялосць і нястрыманую радасць. Гэтай весялосьці і прысьвечаны тры першыя дні лістапада. Першае лістапада прысвячалася «із сябе народжанаму», другое лістапада мела назву «тройчы дзевяць», трэццяе лістапада мела такую ж назву, як і трэцці дзень сьвята ў гонар Вялікай маці богаў і Атыса. На вернікаў працэдура знаходжання Ізідай цела Азірыса павінна была вырабяць, дзякуючы раптоўнай замене смутку на радасць, цалкам такое ж уражанне, якое вырабляла такая ж замена ў культах Адоніса і Атыса.

[109] Сэт ад שתן (СТН) – Сатана.

«Яшчэ мацней вабілі да гэтага культу тыя таемныя звычаі, да якіх мелі доступ толькі абраныя. Каб быць у іх пасьвечаным, патрэбна было прайсьці асобныя выпрабаванні і тры ступені пасьвячэння. Той, хто дасягаў трэццяй ступені, мог неадкладна ўступаць і кола сьвятароў Цьвярдыні сьвету (Ізіды). Можна меркаваць, што здзяйсняўся цэлы шэраг сімвалічных звычаяў, напрыклад, нешта падобнае на ахрышчэнне пасьвячаемага. «Мы ведаем, – кажа Кун, – што ўсе ўдзельнікі таемстваў апраналіся ў адзенні, затканыя выявамі фантастычных жывёл; ведаем, што падчас таемстваў ужываліся кнігі, напісаныя іерогліфамі. Але ўсе гэтыя паведамленні вельмі ўрыўкавыя і невыразныя. Так у адным месцы ў Апулея паведамляецца пра таемствы Ізіды: я дасягнуў межаў сьмерці і, пераступіўшы праз парог Празерпіны, вярнуўся назад, пасьля таго як мяне правялі праз усе першапачаткі. Сярод ночы я бачыў Сонца, сьвяціўшае белым сьветам; я набліжаўся да багоў падземных і да багоў нябесных і блізка ўшаноўваў іх.

«Грунтуючыся на гэтым сведчанні Апулея, – кажа Н. А. Кун, – можна выказаць здагадку, што падчас таемстваў Ізіды ладзілася нешта накшталт пастановы, паказваўшай падземнае царства памёршых. Але гэта ўсё ж толькі здагадка. З упэўненасьцю ж мы можам сказаць, што тыя выпрабаванні, якія праходзілі жадаючыя быць пасьвечанымі ў таемствы, былі складанымі і вельмі строгімі. Пасьвячаемы павінен быў пасьціцца, устрымліваючыся ад ужывання ў ежу мяса, не піць віна, часта не ўжываць нават хлеб; ён павінен быў захоўваць духоўную чысьціню і весьці весьці маральнае жыццё. Калі яму і не прызначалася ў абавязак строгая цнатлівасць, то, ва ўсякім разе, патрабавалася ад яго ўстрыманне ад стацевых стасункаў, прынамсі, пад час вызначаных дзён.

«Усе гэтыя таемствы мелі адну мэту – дасягнуць асалоды ў замагільным жыцці. Памёршы, пры пахаванні якога выкананы ўсе пахавальныя звычаі, сам прыпадабняецца ажыўшаму богу. Як памёр і зноў ажыў «Акаваны Вязень» (Азірыс), так і ён, памёршы, ажыве і будзе жыць вечна, і прытым не ў выглядзе такога бляклага ценю, якім жывуць згодна з уяўленнямі паганцаў душы памёршых у падземным царстве без жаданняў і радасьцей, а поўным, шчасьлівым жыццём. Тут усё было проста. Памёршы будзе жыць пры поўным валоданні як душой, так і целам, будзе служыць багам, ушаноўваць іх і назіраць іх. Зваблівала і тое, што дакладна паказвалася, якім павінна быць зямное жыццё адданага служкі багіні. Праўда, мараль культу была не вельмі высокай, калі рабіць высновы грунтуючыся на некаторых класіках, якія атаясамлялі Ізіду з Венерай. Яе храмы – згодна з іхным сведчаннем – часта служылі месцам спатканняў закаханых, і сьвятары не вельмі звярталі ўвагу на амурныя прыгоды рымскіх матрон, яе прыхільніц. Тыберый – кажуць нам, – загадаў нават разбурыць храм Ізіды і кінуць яе выяву ў Тыбр менавіта таму, што сталі вядомымі амурыя інтрыгі, галоўнымі ўдзельнікамі якіх былі жрацы. Заможны рыцар (equis) Дэцый Мунд беспасьпяхова пераследаваў сваім каханнем шляхетную рымскую матрону Паўліну, дбайную прыхільніцу Ізіды. Ён падкупіў жрацоў, а яны надалі Паўліне, што сам Анубіс прызначае ёй спатканне ноччу ў храме. Паўліна паверыла і з'явілася ў храм, а Анубісам быў сам Дэцый Мунд у адзенні бога і ў масцы шакала. Калі ўся гэтая выхадка, – кажуць нам, – дайшла да Тыберыя, ён прагнаў Дэцыя Мунда, а жрацоў Ізіды «загадаў укрыжаваць».

Ювенал таксама смяецца над сьвяцілішчам Ізіды. Яе храмы – сведчыць ён, – вельмі ахвотна наведвалі шляхетныя маладыя рымляне, шукаўшыя выпадку пачаць цікавую амурную інтрыжку. А грунтуючыся на іншых нашых першакрыніцах

навука пра маральнасць у кульце Ізіды і Серапіса было вельмі глыбокай. Патрабавалася не толькі выкананне чыста вонкавай чысціні і разнастайных звычаяў, а ўсё больш і больш чысьціні духоўнай. Ізіда лічылася не толькі багіняй урадлівасьці, валадаркай царства памёршых і заступніцай мараплаўства, яна зрабілася багіняй Зямлі і Месяца, заступніцай жанчын падчас родаў, ахавальніцай нованароджанага. Ізіда апладняе ўсю прыроду сваім каханнем. Яе атаясамляюць з багінямі Дэметрай, Афрадытай, Герай і з багіняй лёсу. Плутарх называе Ізіду мінулым, сапраўдным і будучыняй, а Апулей выказваецца пра яе, як пра маці ўсяго ў прыродзе, як пра валадарку ўсіх стыхій, якая народжана напачатку ўсіх стагоддзяў. Ізіда гэта багіня з незлічонымі імёнамі, выявы яе таксама незлічоныя і яе дзейнасць ніколі не спыняецца. Таксама і Серапіс: ён не толькі злучае функцыі, належачыя Зеўсу, Гадэсу і Геліясу, не толькі бог, пасылаючы людзям здароўе (чаму яго асабліва часта малявалі на кудменях) і не толькі заступаецца за навукі, а робіцца ўніверсальным богам, пра якога выказваліся: «адзіны бог – Серапіс (ἑις Ζεύς Σάραπις)

І вось ён трансфармаваўся зараз у цэлы хор хрысьціянскіх серафімаў, дзень і ноч славячых стваральніка сусьвету...

А як трансфармавалася хрысьціянская тройца «адзіная ў трох тварах і непадзельная», дайшоўшы да Індыі, чытач можа бачыць із прыкладзеных малюнкаў (мал. 155 і 156).



Мал. 155.

Малюнак бога адзінага ў трох тварах у кнізе E. More «Hindu Panteon», tab. 82. Выява старажытнай гранітнай статуі ў India House навочна паказваючая, у што аперцэпцыйна ператварылася праваслаўная тройца, перайшоўшы пад час сярэдневечча ў Індыю ў выглядзе трымурці (таксама тройцы, сугучна з трымордзі). Наперадзе бог-бацька (Брама, г.азн. Слова), з бакоў бог-сын (Вішну) і бог-святы-дух (Сіва).



Мал. 156.
Далейшае развіццё праваслаўнай тройцы ў Індыі, замест трох асоб выраслі ўжо чатыры на ўсе чатыры бакі сьвету. Адзін із лятучых перад ёю чатырохрукіх херувімаў трымае перад ёй крыж, другі паказвае масонскі чэрап. Усе лунаюць на лотасе, вырасшы із яйкападобнай зямлі, плаваючай сярод бясконцай вады (N. Muller: «Glauben, Wissen und Kunst der alten Hindus», T. I, tab. I).

# Глава IV.

## «Залаты Асёл» Апулея, патрапіўшы ў шэраг папярэднікаў Хрыста.

Мы бачылі толькі што надзвычай яскравае апісанне «класічных» сьвятаў у гонар Ізіды і Серапіса, зробленае адным із вельмі таленавітых сучасных, прафесараў гісторыі, і я знарок папярэджваў некалькі разоў, што перапісваю із яго ўрыўкі амаль літаральна.

Ці не праўда, як усё гэта было пераканаўча? Здаецца, што тут няма ніякай патрэбы звяртацца да першакрыніц для праверкі паведамленняў аўтара. Але зробім выключэнне і прачытаем апісанне ўрачыстасьці ў гонар бога-Серафіма ў знакамітага лацінскага пісьменніка Апулея, із якога яно запазычана, не для таго, каб крытыкаваць Н. А. Куна (усе сучасныя гісторыкі так робяць!), а для таго каб крытыкаваць яго першакрыніцу.

Перадусім, мы тут натыкаемся, як і ўвесь час бывае ў старажытнай гісторыі, на дзіва.

«У 125 годзе пасьля нараджэння Хрыстова, – кажуць нам, – нарадзіліся два чалавекі на імя – Сьвятлан. Першы Сьвятлан меў назву на-лаціне Люцый (ад lux –

сьвятло), друі звaўся па-грэцку Лукіян[110], што азначае тое ж самае, таму што грэкі, не ўмеючы вымаўляць “ц”, вымаўляюць замест яго “к”, робячы із Цэзара – Кесара, із Цэнтаўра – Кентаўра, із Цыцэрона – Кікерона» і г.д.

Лацінскі Люцый-Лукіян зваўся Апулійскім (Апулеем), згодна з найменнем паўднёва-італійскай паўвыспы Апуліі, а другі зваўся Самсацкім, быццам бы, згодна з найменнем горада Самсата на рацэ Еўфрат у Сірыі. А самым дзіўным тут зяўляецца тое, што абодва яны, нягледзячы на такую далёкую адлегласць адзін ад аднаго, напісалі, адзін па-грэцку, а другі на-лаціне (і абодва вельмі добра распрацаваным складам Эпохі Адраджэння) той жа самы выдатны, фантастычны і даволі непрыстойны раман «Залаты асеў», які і да гэтага часу ўключаецца ў поўны збор іхных твораў. Гэта першы раман у чалавечай літаратуры...

Вось коратка яго змест.

Нарадзіўшыся ў Афінах і даведаўшыся, што ў Фесаліі асабліва шмат займаюцца чорнай магіяй, аўтар выпраўляецца туды, каб пазнаёміцца з ёю, і прыйшоў з рознымі прыгодамі і з цікавымі апавяданнямі выпадковых спадарожнікаў у горад Гіпату, да заможнага сваяка Мілана (а ў грэцкім тэксце – Гіпарха). Там прыслужніца Фаціса (а ў грэцкім тэксце Палестра) амаль ці не пад час першай жа ночы «навучыла яго цялесным усцехам», паведамляемых з непрыстойнымі падрабязнасьцямі, нітрохі не горш, чым апісваў падобныя рэчы па-французку Рабле напачатку XVI стагоддзя. Даведашыся, што Ўсялюбка (Памфіла па-грэцку), жонка яго гаспадара Мілана (ён жа Гіпарх), увесь час лётае ад чалавека начамі ў выглядзе савы (а ў грэцкім тэксце – крумкача) да свайго каханага, ён падгледзеў гэта ў шчылінку яе спальні з дапамогай Фацісы (яна ж Палестра), і пажадаў сам гэта зрабіць, для чаго патрэбна было толькі намазаць сябе маззю, якая была ў гаспадыні. Але памылкова ён узяў не тую пасудзіну і таму замест птушкі раптам ператварыўся ў асла.

Фаціса (яна ж Палестра) ахнула ад перапалоху, пабачыўшы гэта, але суцешыла яго тым, што для адваротнага пераўтварэння ў чалавека яму патрэбна толькі з'есці некалькі свежых руж, якія яна здабудзе яму заўтра, а тым часам ён павінен пераначаваць на двары для жывёлы.




Мал. 157.

Укрыжаванне Асла. Карыкатура на хрысьціянскія ўяўленні пра бога, знойдзеная на сьцяне палаца на Палацінскім узгорку і захоўваемая ў Кірхнераўскім музеі ў Рыме (дапасуецца да

[110] Я ўжо не кажу пра Лукія Патраскага, таксама апісаўшага прыгоды таго ж самага асла ў той жа час.

III стагоддзя нашай эры. Але, хутчэй усяго, пазьней IV). Знізу надпіс: Алексамен ушаноўвае свайго бога.

Вось з гэтага моманту і пачаліся дзіўныя прыгоды і выпрабаванні аўтара апавядання. Перш чым наступіла раніца, на сядзібу Мілана зрабілі напад (ён жа Гіпарх у Лукіяна) рабаўнікі і, разрабаваўшы сядзібу, узвалілі здабычу на спіну пераўтворанага аўтара і пагналі яго ў свой прытон у горах, дзе ён слухае іхныя рабаўніцкія і непрыстойныя апавяданні, перадаваемыя цалкам.

Праз некалькі дзён яны зноў выправіліся за здабычай і прывезлі з сабай прыгожую дзяўчыну, дачку заможных грамадзян, каб атрымаць за яе выкуп. Старая, іхная гаспадыня, суцяшае яе вядомай казкай пра Псіхею і Амура, якому Псіхея абліла сьцягно лампадавым маслам, калі пажадала паглядзець на свайго каханага, які прылятаў да яе толькі начамі і забараняў ёй сябе бачыць. Старая распавядае пра бедствы і пакуты, якія давялося потым зведаць Псіхеі за цікаўнасць, і як бог Грамабой, нарэшце, зьлітаваўся над ёю і, вярнуўшы яе Амуру, далучыў яе да шэрагу несьмяротных. Але гэтая казка, натхніўшая Кальдэрона (1600-1681 гг.) на сьвятую містэрыю, Карнэля і Мальера – на лірычную драму, Лафантэна і Багдановіча – на жартоўную казку, Лапрада – на філасофскую паэму, Рафаэля – на цудоўную карціну, і Канову – на адну із лепшых яго скульптур, маецца толькі ў лацінскім тэксце, а ў грэцкім, які ў восем разоў карацейшы, яе няма.

Потым адбываецца цудоўнае збяганне паланянкі красуні на Люцыі-Асле, але яго пакуты гэтым не заканчваюцца. Іх злавілі. Ён возіць потым дровы, круціць млын, слухае шэраг іншых непрыстойных і смешных апавяданняў пра жанчын; яго купляе лягчэнец – служка сірыйскай ці палестынскай багіні, і Люцый-Асёл робіцца сведкам ненатуральных заганаў гэтага культу. Ён пазбаўляецца, нарэшце, ад свайго гаспадара, паступае да пірожнікаў і крадзе ў іх ласункі. Яго выкрываюць, навучаюць скакаць на задніх нагах і розным іншым фокусам, якія ён і вырабляе на пацеху натоўпу ў Карынфе.

За гэта ў яго закахалася там адна ўдава і ўступае з ім у таемнае шлюбнае сужыццё. Падгледзеўшы гэта, слугі яго гаспадара гучна рагочуць і кажуць адзін аднаму:

*– Прывядзём яго ў дзень усенароднай пастановы ў тэатр з якой-небудзь асуджанай жанчынай, хай ён і на ёй пакажа сваё мастацтва*».

Яго гаспадар таксама ў захапленні ад такой ідэі.

«*І вось, у Карынфскім тэатры*, – распавядае Люцый-Лукіян, пераўтвораны ў асла, – *быў уладкаваны вялікі ложак, упрыгожаны індыйскай чарапахай і аздоблены золатам. Нас палажылі на ім побач на самай яго сярэдзіне, а гледачы гучна крычалі, і ўсе рукі пляскалі ў май гонар. Перад намі паставілі стол, упрыгожаны ўсім, што бывае на раскошных балях. Да нас былі прыстаўлены прыгожыя рабы-падчашыя і падавалі нам віно ў залатых пасудзінах. Мой наглядчык, стоячы ззаду, загадваў мне есьці, а мне і сорамна было ляжаць у тэатры, і боязна, як бы не выскачыў на арэну са скляпеня мядзведзь ці леў. Але вось праходзіць нехта каля нас з кветкамі, і сярод іх я бачу свежасарваныя ружы. Я ўскокваю з ложка, кідаюся да іх і ем. Гледачы яшчэ дзівяцца маім паводзінам, а з мене ўжо спадае ранейшы звярыны выгляд, і замест асла перад усімі з'яўяецца голы Лукій*»[111].

Аўтар яскрава апісвае незвычайнае здзіўленне гледачоў пры выглядзе такога пераўтварэння, белетрыстычна распавядаючы, як яго пазналі знаёмыя і з

---

[111] Лукіян: «Луцый і асёл». За дзве старонкі да заканчэнны.

урачыстасьцю завезлі на радзіму ў Патры ў Грэцыю, і як ранейшая ўдава, сужыўшая з ім, калі ён быў аслом, з агідай адвярнулася ад яго, калі ён набыў выгляд выдатнага маладога чалавека.

Такое заканчэнне мае грэцкае апавяданне Люцыя-Лукіяна Самсацкага, а яго двайнік Люцый-Лук'ян Апулійскі, распавёўшы літаральна ўсё гэта на-лаціне, пярамяжаючы са сваімі фантастычнымі дадаткамі, накшталт апавядання старой пра Амура і Псіхею, павялічыўшыя памер кніжкі роўна ў восем разоў (звыш 300 старонак), перамяняе гэтае заканчэнне. Замест таго, каб з'есьці тут жа ружы, асёл Лукіяна ўскоквае ў роспачы з ложка і збягае ў выпадкова адчыненыя дзьверы далёка ад горада, на пусты бераг мора, дзе знямогшы падае на зямлю, і апавяданне мае такое заканчнне:

«*Ужо змрочная заслона ночы распасьцёрлася над усімі паднябеснымі істотамі, як раптам нейкі жах абудзіў мяне ад прыемнага сну. Я пабачыў Месяц (Луну), зіхацячы поўным сьвятлом і выходзячы з марскіх хваль. Я ведаў паўсюдную магутнасць гэтай вялікай багіні: яна – кажуць нам – завецца Ізідай, Гекатай, Празэрпінай, Цэрэрай і іншымі імёнамі, сімвалізуючы амаль усіх багінь, дакладна гэтак жа, як і Азірыс, Серапіс ці Мітра азначаюць Юпітара, Апалона, Бахуса і іншых богаў. Я ведаў, што ўсе рэчы зямнога кола кіруюцца яе провідам, што не толькі жывыя, але нават і неадушаўлёныя прадметы адчуваюць магутнасць і станоўчае ўздзеянне яе прамянёў, што ўсе целы, знаходзячыяся і ў глыбіні мора, і на зямлі, і ў нябёсах, павялічваюцца ці памяншаюцца згодна з прырашчэннем ці памяншэннем гэтай планеты, і ў мяне з'явілася жаданне выказаць сваю малітву велічнай багіні. Я ўнутрана адчуваў, што злы лёс, насыціўшыся маімі бедствамі, падае мне, хаця і позна, прыемную надзею на завяршэнне маіх няшчасьцяў. Падняўшыся з месца, спяшаюся да мора, каб, абмыўшыся яго вадой, ачысціцца ад усёй брыдоты. Я сем разоў апусьціў галаву ў хвалі згодна з наказам наймудрэйшага Піфагора, навучыўшага нас, што лічба сем больш за ўсё дапасуе да прадметаў веры і богашанавання. Поўны радасьці і надзеі і разліваючы ручаі слёз, я звярнуўся з маленнем да ўсёмагутнай багіні.*

– «*Вялікая царыца нябёсаў! Хто б ты ні была – ці пладаносная Цэрэра, дабрадзейная маці вясковага насельніцтва, якая жыве зараз на выдатных палях Элеўзінскіх; ці ты нябесная Венера, спарадзіўшая ад пачатку стагоддзяў сьвятое каханне і злучыўшая непарыўнымі сувязямі дзьве статі разам; ты, памнажаючая чалавечы род бесперапынным вядзьмарствам і багавейна ўшанаўваемая зараз і ў Пароскім храме! Ці сястра ты прамяністага Сонца, спарадзіўшая на сьвет такую шматлікасць народаў, дапамагаючая жанчынам у пакутах нараджэння і ўшаноўваемая зараз шыкоўнымі ахвярамі ў пышным Эфескім храме! Ці грозная ты Празерпіна, пагражаючая сваім трылікім выглядам* (Месяц, маляваўся з галавой коня, аленя і сабакі), *трымаючая скаванымі ў зямных нетрах начныя здані і цені! О, ты, другая зіхацячая сьвяцільня сусьвету, разліваючая пажыўныя сокі ў сэрцы ўсіх дрэў і расьлін і розна змяняючая сваё дзявочае серабрыстае ззянне па меры набліжэння і выдалення твайго ад Сонца! Вялікая багіня! Якім бы ты ні называлася імем, якімі б цябе ні ўшаноўвалі ахвярамі і звычаямі, і якім бы ні было тваё сапраўднае аблічча, дакраніся да мяне тваёй дабрадзейнай правіцай! Забяры мяне із бездані маіх няшчасьцяў, выратуй ад майго губячага падзення, забяры ад мяне брыдкае аблічча чатырохногай скаціны, вярні мне ранейшы выгляд Луцыя і вярні да маіх родных, сяброў і апекуноў! І калі нейкі грозны бог, некалі ўгневаны мной, забароніць майму руплівому маленню дасягнуць да твайго рахманага слыху і не пажадае спыніць сваю неўтаймоўваемую лютасць, – то зрабі ласку, багіня, знішчы маё сьмяротнае існаванне, калі ўжо мне немагчыма спадзявацца на лепшае ў вартай жалю долі гэтага сьвету*!».

«*Маё пакорлівае маленне суправаджалася струменямі слёз і цяжкімі стогнамі*.

«*І вось другі глыбокі сон ахапіў мае стомленыя чалесы і я зваліўся на тым жа месцы. Ледзь я заплюшчыў вочы, як мне ўжо здалося, што із самай глыбіні мора падымае сваю галаву такая багіня, да якой павінны ставіцца з глыбокай пашанай усе астатнія багі і нават самі нябёсы. Выходячы паступова із хваль блакітнага мора, яна з'явілася перад маім збянтэжаным позіркам.*

«*Я паспрабую апісаць яе цудоўнае аблічча, наколькі гэта магчыма зрабіць вуснам сьмяротнага і вельмі абмежаванай здольнасьці чалавечага красамоўства. Яе кучаравыя, густыя і доўгія валасы разляталіся згодна з воляй зефіра і спадалі на сьцёгны і боскую шыю. Над яе галавой, каранаванай кветкамі, блішчэла плоскае кола, нападобе люстэрка, ці, лепш сказаць, колападобнае ззянне. Грунтуючыся на гэтай прыкмеце я здагадаўся, што яна і ёсць сама Луна* (Месяц). *Направа і налева ад яе былі бачнымі дзьве ўзнімаючыяся змеі і саспелыя каласы. Яе адзенне было выткана із самай тонкай ільняной тканіны, колер якой часам здаваўся бліскучым і срэбным, часам жаўтлявым – нападобе шафрану, часам чырвонаватым, – падобна ружы. Верхняе ж адзенне было такім чорным, што паменшыла вастрыню майго позірку. Яно засланяла багіню з абодвух бакоў і падобна накідцы было працягнута із-пад правага паха на левае плячо і спускалася ўніз шматлікімі складкамі. Па краях яно была абшыта вельмі тонкімі махрамі, раздзімаючымiся ад самага лёгкага руху, і пакрыта зоркамі. Вакол гэтага пышнага адзення быў відаць суцэльны ланцуг із розных пладоў і веснавых кветак. У правай руцэ яна трымала медзяную пасудзіну, із якой звешваліся тры металічныя кійкі, якія званілі пры саым малым руху яе рукі. У яе левай руцэ была залатая пасудзіна, зробленая ў выглядзе невялікай лодкі з ручкай, наверсе якой бачыўся змей, ўздымаючы галаву на сваёй ганарыстай шыі. На яе срэбных нагах былі сандалі із лісьця пальмы. У такім пышным, і выклікаючым поўны глыбокай пашаны жах, выглядзе з'явілася перада мной велічная царыца ночы, аблітая лепшымі водарамі шчасьлівай Аравіі і ганаравала мяне сваёй боскай размовай.*

– «*Гаротны Люцый!* – вымавіла яна. – *Твае ўздыханні, слёзы і маленні дайші да майго слыху і выклікалі ў ва мне пачуццё спагады. Ведай, што я Прырода – маці ўсіх істот, валадарка ўсіх стыхій, крыніца і пачатак усіх стагоддзяў, царыца пякельных ценяў, першая із незлічонай колькасьці жыхароў неба, адзінае люстэрка ўсіх богаў і багінь. Я накіроўваю з дапамогай ўзмаха сваёй рукі, куды пажадаю, прамяністыя нябесныя аблокі, маёй волі падпарадкоўваюцца шумлівыя хвалі марской бездані і неўтаймоўваемы бураны трапечуцца ад маіх слоў. Пад маёй уладай цішыня жахлівага пекла, я боскасць адзіная ва ўсім сьвеце, але ў розных выглядах і пад рознымі найменнямі. Самы старажытны із усіх народаў – фрыгійцы завуць мяне боскай маці, афіняне – Мінервай, кіпрыяне – Пафаскай Венерай; майстэрскія стралкі, крыцяне – Дыянай; размаўляючыя на трох мовах сіцылійцы завуць мяне Празерпінай, елеўзінцы – Цэрэрай. Адны клічуць мяне Юнонай, другія – Белонай, трэцція – Гекатай, чацьвёртыя – Немязідай, а эфіёпы, заўсёды першымі бачучыя прамяні ўзыходзячага Сонца, арыйцы і ягіпцяне, самыя старажытныя мудрацы ўсяго сьвету, завуць мяне маім сапраўдным імем – Ізідай, і толькі яны адны правільна ладзяць мае набажэнствы. Перастань жа, Люцый, разліваць струмені слёз! Прагані змрочны смутак, таму што я злітавалася над табой. Ужо хутка, вельмі хутка заззяе выратавальны дзень, прызначаны маім промыслам для спынення тваіх няшчасьцяў. Уважліва ж слухай мае сёняшнія павучанні. Дзень, які народзіцца ад змроку гэтай ночы, прысьвечаны мне пачынаючы ад самых першых гадзін. Заўтра мае сьвятары павінны прынесьці мне ў ахвяру пачаткі мараплаўства, прысвячаючы мне новы карабель, яшчэ не ведаўшы марскіх хваль для таго, каб не лютавалі бураны і непагадзі, пануючыя падчас халоднай зімы, і каб блакітныя хвалі, задаволіўшы сваю лютасць і разліваючы на паверхні мораў млявы і прыемны спакой, дазвалялі хуткім караблям несьціся ў далёкія краіны. Чакай гэтага ўрачыстага сьвята з глыбокай павагай і спакойнай душой. Вялікі першасьвятар, выконваючы маю волю, будзе трымаць у сваёй правай руцэ ружовы вянок, прыкладзены да сістра, калі пойдзе па вуліцах горада з пышнасьцю, адпавядаючй маёй годнасьці. Ідзі асьцярожна за шматлікім*

*натоўпам і, спадзеючыся на маю спагаду, паспрабуй праціснуцца праз натоўп да гэтага першасьвятара і, як быццам жадаючы пацалаваць яго правую руку, з'еж трымаемыя ім у сваёй руцэ ружы. Тады неадкладна знікне тваё гнюснае і непрыемнае ўвасабленне, і ты зноў зробішся Люцыям. Не думай, што ты не зможаш выканаць мае наказы. У гэты самы час, знаходзячыся з табой, я апавяшчу і першасьвятара з дапамогай прароцкага снабачання пра ўсё, што яму патрэбна рабіць для цябе. Увесь народ, нягледзячы на цеснату, адчуе маё жаданне і дасць табе вольны шлях. Сярод гэтага пышнага сьвята, радасных воклічаў і ўрачыстых пляскканняў, ніхто не пагрэбуе тваім пагарджаным і пачварным абліччам і ніхто не палічыць за жахлівае прадвесьце нейкага няшчасьця раптоўную перамену твайго выгляду Толькі вечна памятай і трымай у галаве, што ўсю застаўшуюся частку твайго жыцця да апошняга дыхання ты павінен прысьвяціць той багіні, якая вярнула табе чалавечы выгляд. Ты будзеш жыць шчасьліва пад маім заступніцтвам і абаронай, і ніколі не завяне кветка тваёй славы. Здзейсніўшы сваё вандраванне ў юдолі гэтага сьвету, ты сыдзеш у аід, але і ў падземнай паўсферы не пакіне цябе шчасьце. Ты будзеш жыць у вясёлых Ялісейскіх далінах і нават там не перастанеш ушаноўваць мяне, зіхацячую пасярод змрочнага Эрэба і валадарачую у палацах Плутона*».

«*Паведаміўшы мне сваю волю, велічная багіня схавалася ў сабе самой, і ў тую ж хвіліну я прачнуўся і падхапіўся, пакрыты халодным потам, поўны жаху, здзіўлення ў радасьці ад такога непасрэднага з'яўлення перада мнай дабрадзейнай багіні. Я другі раз абмыўся ў блакітных хвалях мора і сотні разоў паўтарыў з пачатку да канца ўсе яе боскія запаветы. Прайшло некалькі часу, і ўжо калясніца Сонца, рассыпаючы па ўсяму шляху палымяныя іскры і выліваючы жыццядайныя прамяні, гоніць начную цемру із палёў эфіру. У адно імгненне ўсе пляцы горада былі запоўнены незлічоным натоўпам народу, збіраўшагася дзеля сьвятой урачыстасьці. Мне здавалася, што ўсё жывое было напоўнена весялосьцю. Здавалася, што дабрадзейнае Сонца ад пачатку стагоддзяў ніколі не блішчэла так пышна са сваёй вышыні. Ніколі яго праменістыя валасы не раздзімалася на вагаючымся эфіры ў лепшым ззянні. Сьпяваючыя згуртаванні птушак плавалі на паветраных хвалях, не махаючы сваімі крыламі і, адораныя прыемнымі галасамі, радуючыяся пажаданаму вяртанню смяючайся вясны, напаўнялі паветра салодкімі галасамі, аддаючы ўсё разам хвалу валадарачай вінаватай усіх часоў, маці ўсіх сьвяціл і валадарцы ўсіх сусьветаў. Але што я кажу? Нават дрэвы, і пладаносячыя і непладючыя, ганарачыяся адным сваім халаднаватым ценем, адушавіліся жыццядайнай цеплынёй паўдзённага ветру і салодка шумелі, прымаючы гуляючы зефір у гушчыню сваіх галін і лісьця. Мора ўжо не хвалявалася ад бурнага віхуру, шумлівыя хвалі не абцяжарвалі берагі сваім напорам, але рахмана пераліваючыся, мачылі іх спакойнымі бруямі. Зіхацячае скляпенне няба не было пакрыта нават самай маленькай хмаркай.*

*«Вось пышны сход пачынае сваё ўрачыстае шэсьце. Кожны ў гэтым людным натоўпе быў апрануты па рознаму, згодна са сваім жаданнем, уяўляючы сабай розных асоб. Адзін з ваярскім поясам увасабляў жаўнера, другі, апрануты ў кароткую сукенку з мячом на боку і з рагацінай у руцэ, увасабляў паляўнічага. Трэцці ўвасадляў жанчыну, надзеўшы на ногі вышытыя золатам чаравікі, апрануўшы зверху шаўковае адзенне, навесіўшы ўсе шыкоўныя ўпрыгожванні, уласцівыя для чароўнай паловы, і зачасаўшы валасы на самым вярху галавы. Чацьвёрты здаваўся нядаўна пакінуўшым арэну, дзе змагальнікі на шпагах паказваюць сваё майстэрства і адвагу, у руках у яго былі шчыт, дзіда і меч. Перад пятым, апранутым у парфіру, несьлі пучкі дубцоў і вострую сякеру, як быццам перад знакамітым сенатарам. Былі і такія, якія па-майстэрску перайначвалі філосафа, надзеўшы шырокую апанчу, і ідучы ў тупадзюбых чаравіках, з доўгай палкай у руках, начапіўшы на сябе казьліныя бароды. Адзін, як рыбак, нясе ў руках вуду, другі, як птушкалоў, розныя прыстасаванні для лову і сеткі. Я пабачыў рахманую, прыручаную мядзьведзіцу, апранутую ў сукенку шляхетнай удавы, якую несьлі на крэсьле. Я пабачыў малпу ў шапцы із кветак і ў фрыгійскай сукенцы шафранавага колеру, трымаючую ў*

*руках залатую пасудзіну і ўвасабляючую Ганімеда. За ёю адважна выступаў, ідучы за старым чалавекам, стары асёл. Аднаго ты мог бы палічыць за неведаючага жаху Белерафонта, а другога за хуткага Пегаса, хаця як той так і другі давялі б цябе да сьмеху*.

«*Сярод гэтага шматлікага і вясёлага натоўпу, апранутага разнастайна, мудрагеліста і пацешна, асобна ідуць спадарожнікі і спадарожніцы багіні-апякункі. Там ішло шмат жанчын у белым адзенні з радаснымі тварамі і рознымі рэчамі ў руках. На іхных галовах былі прыгожыя вянкі, сплеценыя із веснавых кветак, і такія ж кветкі яны раскідалі па шляху, па якому павінна была ісьці сьвятая працэсія багіні. Адны мелі за плячамі блішчачыя люстэркі, праз якія багіні было бачна ўсіх ідучых за ёю. У некаторых былі грабяні са слановай косткі, і яны імкнуліся паказаць рознымі рухамі рук і пальцаў, як быццам бы расчэсваюць і ўпрыгожваюць срэбныя валасы дабрадзейнай царыцы. Трэццiя лілі бальзам і розныя водары перад яе нагамі.*

*«Акрамя таго, незлічоная колькасць мужчын і жанчын наперабай імкнуліся ўласкавіць валадарачую багіню планет, несучы ў руках паходні, сьвяцільні, васкавыя сьвечкі і разнастайныя іншыя вогнішчы розных, па-майстэрску зробленых колераў. Нарэшце, хор співаючых гучнымі і стройнымі галасамі і салодкімі гукамі разнастайных жалеек напаўняў паветра лагоднымі гукамі і прыводзіў у захапленне ўсіх прысутных. За хорам ішлі самыя выдатныя юнакі ў белых адзеннях, адпавядаючых гэтай урачыстасьці. Яны співалі з прыпевамі ўхвальную песьню, складзеную адным знакамітым паэтам, натхнёным музамі. У ёй тлумачыліся нагоды такай пышнай сьвятой урачыстасьці, і былі апеты ўсе даброты вялікай царыцы неба. З імі ішлі музыканты, прысьвечаныя богу Серапісу. Яны па-майстэрску гралі на выгнутых флейтах ухвальны гімн, які звычайна выконваюць у храме гэтага бога.*

*«Шматлікія ахоўнікі парадку і грамадзянскія наглядчыкі заклікалі народ расступіцца на абодва бакі і не перашкаджаць вольнаму шэсьцю статуі гэтай багіні, якая трымалася поўнымі глыбокай пашаны рукамі. За імі ішлі нова-пасьвечаныя, нядаўна пакліканыя да вывучэння вялікіх і дзіўных таемстваў. Іх была вялізная колькасць абодвух стацей і featured рознага ўзросту, і ўсе яны былі апрануты ў адзенне із тонкага палатна, белае як чыстае срэбра ці сьнег. Із іх жанчыны мелі на сваіх доўгіх валасах тонкія і празрыстыя пакрывалы і пабрызканыя парфумамі, а ў мужчын галовы былі цалкам паголены, і іхнае цемя блішчэла ў сонечных прамянях. І ўсе гэтыя нова-прызнаныя прыхільнікі багіні білі ў медзяныя, срэбныя і залатыя сістры.*

«*За імі ішлі галоўныя сьвятары і першасьвятары, апранутыя ў белае адзенне самага тонкага ільну, спадаўшае амаль да самай зямлі. Яны несьлі выявы і атрыбуты багаў у сваіх поўных глыбокай пашаны руках. Першы із іх трымаў сьвятую лампаду, не такую, якая ўжываецца пры нашых вечаровых баляваннях, а зробленую ў выглядзе лодкі із золата. Другі нёс аберуч маленькія ахвярнікі, маючыя назву памагатых, як загадаў іх называць дабрадзейны і дапамагаючы ўсім провід вялікай багіні. Трэцці нёс жазло Мяркурыя і пальмавую галіну з залатым лісьцем. Чацьвёрты на шляху паказваў усім знак Праўды, у выглядзе левай рукі з выцягнутымі пальцамі, таму – што яна, не будучы такой спрытнай і здольнай да розных хітрыкаў, мае магчымасць лепш намаляваць чыстасардэчную праўду, чым правая рука. Гэты ж сьвятар трымаў у сваёй руцэ залатую пасудзіну, зробленую ў выглядзе жаночага сасца, з якога лілося чыстае малако. Пяты нёс вялізны залаты латок, напоўнены маленькімі залатымі галінамі, а шосты – шклянку.*

*«Непасрэдна за імі ішлі самі багі, літасьціва дазволіўшыя нясьці сябе на руках сьмяротным. Адзін – Анубіс – паднімаў уверх сваю жахлівую сабачую галаву, другі – пасланец нябёс і пекла – трымаў свай твар прама. Адна яго палова была чорнай, а другая – пазалочанай. У левай руцэ ён трымаў жазло, а ў правай – зялёную пальму. За ім ішла багіня Ізіда, у выглядзе ручной каровы, стаяўшай на адных, задніх нагах, сімвалізуючы пладзючую маці ўсіх стварэнняў. Яе пярэднія ногі былі, на плячах аднаго жраца.*

*«Адзін із удзельнікаў працэсіі багавейна нёс ў руках торбу, у якай былі ўсе рэчы, патрэбныя для таемства набажэнства. Наступны нёс за сваёй шчасьлівай пазухай велічную выяву найвышэйшай боскасьці. Гэтая выява не ўяўляла сваім выглядам ні чалавека, ні птушку, ні рыбу, ні звера, і ніякай іншай жывёлы і такім сваім адрозненнем ад выяваў іншых багоў паказвала веліч і сьвятасць найвышэйшага божышча лепш, чым самыя красамоўныя чалавечыя вусны могуць апісаць. Гэтым яна паказвала, што таемствы набажэнства Ізідзе павінны захоўвацца ў вечнай таямніцы і маўчанні. Адным словам, гэта была невялікая пасудзіна, зробленая вельмі па-майстэрску. На яго круглым дне былі напісаны са знешняга боку дзіўныя ягіпецкія іерогліфы. Яе невысокае горла працягвалася ў адзін бок у выглядзе трубачкі, а з другога боку была вельмі вялікая ручка, якую атачаў сваімі коламі аспід, уздымаючы ўгару сваю лускаватую і выгнутую шыю.*

«*І вось чакаемая хвіліна наблізілася. Ужо першасьвятар, наказаны мне вялікай багіняй, з'явіўся і трымаў у руцэ маю волю і выратаванне. У яго правай руцэ быў сістр дабрадзейнай багіні і вянок із прыгожых руж, які сапраўды быў для мяне самым каштоўным із вянкоў.*

«*Вядомы дапамогай усемагутнай вялікай багіні, перамог я варожы лёс, з мужнасьцю прайшоўшы праз усе няшчасьці і выпрабаванні. Хаця я і адчуваў неапісваемую радасць, але не кінуўся паспешна ў народны натоўп, асьцерагаючыся, каб хуткае і незвычайнае з'яўленне такога быдла, якім я тады выглядаў, не прушыла і не патрывожыла стройны парадак урачыстага шэсьця. Я пайшоў ціхім і пакорлівым крокам пасярод натоўпу, які, будучы ужо наданым багіняй, расступаўся ў абодва бакі, дазваляючы мне вольны шлях. Я непрыкметна наблізіўся да першасьвятара, які ледзь мяне заўважыўшы, згадаўшы пра божы наказ павядомлены яму пад час снабачання і, зразумеўшы, што ўсё адбываецца згодна з прадказаннем багіні, спыніўся і выцягнуў сваю руку, сам падносячы да маіх вуснаў ружовы вянок, які я прыняў із яго рукі з поўным глыбокай пашаны жахам і з трапятаннем сэрца і з'еў з вялікай прагнасьцю.*

«*І вось я бачу выкананне абяцанняў царыцы. Пагарджаны быдлячы выгляд, у вобразе якога я знаходзіўся да гэтага часу, пачаў хутка знікаць. Цьвёрдая агідная поўсць звальваецца з майго цела, і мая скура робіцца далікатнай і мяккай. Вялізны страўнік памяншаецца, капыты на маіх нагах падзяляюцца і ўтвараюць пальцы. Мае рукі перастаюць быць пярэднімі нагамі і набываюць здольнасць да выканання чалавечых справаў; мая доўгая шыя робіцца кароткай. Мая галава набывае круглы выгляд. Доўгія вушы памяншаюцца, жахлівыя зубы робяцца падобнымі на чалавечыя, а доўгі вялізны хвост, які так моцна мяне засмучаў, знік цалкам.*

«*Увесь народ здзівіўся. Набожныя гледачы, назіраючы такое дзіўнае пераўтварэнне, здзейсніўшаяся на працягу адной хвіліны нападобе неверагодных дзіваў, якія мы назіраем падчас начных снобачанняў, з жахам назіраў такі відавочны доказ неабмежаванай магутнасьці багіні. Падняўшы свае рукі да неба, усе яны гучнымі галасамі аддаюць ёй хвалу і сведчаць пра такое вялікае і дзіўнае яе дабрадзейства. А што да мяне, то ахоплены жахам і здзіўленнем, і неапісваемай радасьцю, я стаяў нема, падобна мармуровай статуі і, хаця набыў магчымасць выказвацца чалавечай мовай, але не быў у стане рашчыніць свае вусны. Я не ведаў з чаго пачаць, і якімі годнымі здарэння ўхваламі, якім красамоўствам выказаць маю падзяку вялікай багіні, зрабіўшай ласку выказаць мне такія шматлікія і шчодрыя літасьці.*

«*Вялікі першасьвятар, папярэдне апавешчаны багіняй пра ўсе жахлівыя бедствы, якія я зведаў ад пачатку майго ператварэння ў асліную асобу, сам не менш дзівіўся здзейсніўшамуся цуду. Ён адразу падаў знак, каб прынесьлі льняное адзенне для прыкрыцця маёй галізны, таму што, ператварыўшыся назад у Люцыя, я пабачыў сябе цалкам голым і толькі далонямі меў магчымасць прыкрыць сваё цела. Адзін са сьвятароў неадкладна зняў з сябе вопратку і прыкрыў мяне ёю, а першасьвятар, зірнуўшы на мяне рахманым і радасным позіркам, сказаў мне: – «Шаноўны Люцый! Ты перамог столькі пошасьцяў, ты пераадолеў грозныя хвалі, зрынутыя на цябе зласьлівым дыханнем*

*фартуны і выратаваўшыся ад яе лютых і атручаных стрэл, дасягнуў нарэшце, мірнага і спакойнага прыстанішча. Твой знакаміты род, твае ўласныя заслугі, твой розум, асьветлены сьвятлом мудрасьці, не паслужылі табе на карысць і не прынесьлі ніякіх добрых вынікаў. Ты аддаўся ганебным кахальным забавам, зваблены жарсьцямі кіпячай юнацкасьці і атрымаў годную адплату за сваю неасьцярожную і няшчасьлівую цікаўнасць. Але гэтая ж сляпая фартуна, кінуўшая цябе ў незлічоныя бедствы, прывяла цябе і да дабрабыту звыш твайго спадзявання пасьля зласлівай помсты. Дык хай жа яна пакіне цябе і шукае сабе іншыя ахвяры, над якімі зможа задаволіць сваю неўтаймоўную лютасць. Яе стрэлы ўжо няшкодныя для тых людзей, якіх наша вялікая багіня ганаравала прыняць пад сваё заступніцтва. Аддаючы цябе ў рукі нялюдзкіх разбойнікаў, абцяжарыўшы кайданамі рабства, непраходнымі шляхамі і бянтэжачы твой дух штодзённай баязьню лютай сьмерці, які поспех набыла гэтая зласлівая і лютая фартуна? Вось ты зараз пад шатамі іншай, ужо станоўчай фартуны, якая асьвятляе сваім бляскам усіх іншых багоў. Супакойся ж, Люцый, і параўнайся сьветлай весялосьцю з беллю твайго адзення! Радасна далучайся да ўрачыстага шэсьця ў гонар багіні, выявіўшай да цябе такую вялікую шчодрасць і такую прыхільнасць! Ды пабачаць бязбожныя дзівоснае дзіва, здзейсненае над табой дзякуючы яе магутнасьці! Ды ўгледзяць і спазнаюць бязбожныя сваю памылку! Вось, Люцый выратаваны із бездані ўсіх няшчасьцяў, вось ён спачывае пад шчытом дабрадзейнай Ізіды і святкуе над грозным напорам бязлітаснага лёсу! Але для таго каб ты меў магчымасць яшчэ больш цешыцца прыемнейшай цішынёй і знаходзіцца пад абаронай сьвятла і бяспекі, далучыся да сьвятога ваярства гэтай багіні. Стокроць узрадуешся ты абранню такога шчасьлівага жэрабя. Не марудзь жа, і ў гэтае самае імгненне прысьвяці сябе добрахвотна вялікім таемствам нашага набажэнства, таму што, як толькі ты выявішся пад сьцягам гэтай вялікай багіні, адразу адчуеш яшчэ больш прыемны салодкі плён сваёй волі*».

І Люцый прысьвяціў сябе ёй, пры гэтым праходзячы шэраг чыста масонскіх выпрабаванняў, пабачыў між іншым і тое, пра што мы чыталі ў папярэднічаўшай частцы пры апісанні таемстваў Ізіды адным із сучасных таленавітых навукоўцаў, выкладаючага гісторыю «папярэднікаў хрысьціянства».

Спынімся жа тут, чытач.

У гэтай частцы я меў намер паказаць той працэс, якім адбывалася стварэнне усіх старажытных гісторый.

Ніхто не ўпікне шаноўнага прафесара Н. А. Куна, ці яго папярэдніка Робертсана і іншых, у нядобрасумленнасьці. Не! Яны ўсе глыбока сумленныя, і скажу прама: крыштальна чыстыя душой. Але вось у гэтым і заключана іхная бяда пры дасьледаванні той піраміды падробак і плётак, із якіх складаюцца ўсе іхныя першакрыніцы.

Вось вы, чытач, самі чыталі ў папярэднічаўшай главе мае выпісы із «Папярэднікаў хрысьціянства» Н. А. Куна і з Робертсана, і як усё здавалася сур'ёзным, гістарычна пераканаўчым! Здавалася відавочным, што пытанне пра рытуал пры сьвяткаваннях у гонар Ізіды вырашана канчаткова і навекі, уся пасьлядоўнасць працэсіі веснавога сьвята адноўлена да дэталяў.

А зараз я вам прывёў у выглядзе дакладнага перакладу із лацінкі і тое месца Люцыя Апулійскага, із якога аўтары запазычылі ўсе свае седчанні, і што ж? Уражанне сур'ёзнасьці і гістарычнасьці, – я ўпэўнены, – знікла і ў вашых вачах.

Само апавяданне лацінскага тэксту «Залатога асла» пра гэтыя ўрачыстасьці выявілася дададзеным да кароценькага грэцкага тэксту, подач з апавяданнем пра Амура і Псіхею, якая абліла лампадавым маслам сьцягно свайго каханага, і побач з неверагоднымі прыгодамі разбойнікаў і каханкаў, пра якія ў мяне тут не было ні месца, ні жадання пашырацца. Урачыстая працэсія «Залатога асла», апісваемая

«Папярэднікам хрысьціянства», адбываецца згодна з яго ж сведчаннем у Грэцыі, у Карынфе, а тым часам яе-та якраз і няма ў грэцкім манускрыпце Лукіяна, а толькі ў яго лацінскім дапоўненым перакладзе!

Але ж гэта тое ж самае, што аднаўляць грэцкую міфалогію грунтуючыся на «Снабачанні пад час летняй ночы» Шэкспіра! І ў яго ж адзін із актораў набывае дзякуючы чараўніцтву асьліную галаву.

Шэкспір нарадзіўся, кажуць нам, у 1564 і памёр у 1615 г., зрабіўшыся знакамітым ужо ў 1589 г., а першыя выданні Апулея і Лукіяна былі надрукаваны ўжо нашмат пазьней сьмерці Шэкспіра.

Колькі ж ператварэнняў у аслоў раптам з'явілася перад вачамі здзіўленай публікі ў XVI і XVII стагоддзях! І хто ў каго запазычаў сюжэт? І няўжо ўсе яны былі «папярэднікамі хрысьціянства, а не яго ўскоснымі нашчадкамі?

І калі, чытаючы творы Сафокла пасьля чытання фантастычных драм Шэкспіра, безстаронні і незаахвочаны дасьледчык літаратуры гатовы ўсклікнуць: гэта ж адна і тая ж школа, – дык і тут яму давядзецца з упэўненасьцю сказаць: кніга пра «Залатога асла» з’яўляецца творам друкарскага перыяду літаратуры, гэта тая ж школа, што і Бакачыо (1317-1375) з яго Дэкамеронам, хаця б аўтар і пісаў на тагачаснай лацінскай міжнароднай мове, а не па-італійску. І нам было б больш правільна і больш дакладна называць аўтара «Залатога асла» Лючыо д'Апуліо, а не Люцыем Апулеем.

А із гэтага вынікае, што і ўсе астатнія нашы веды пра «папярэднікаў хрысьціянства» і пра паганскія культы старажытнасьці запазычаны не са старажытных першакрыніц, а із апокрыфаў Эпохі Адраджэння...

Сумна, але гэта так.



Мал. 158
Змаганне Геркулеса з Цялём (малюнак на вазе).

# Эпілог

# Феадальная мазаіка латынізаваных дзяржаў на грэцкім і сірыйскім усходзе перад Эпохай Адраджэння, як ключ да разгадкі яе „класічных“ руін і „класічнай“ літаратуры

«Грамадства не мае магчымасьці пераскокваць праз натуральныя фазы свайго развіцця ці скасоўваць іх дэкрэтамі».

Карл Маркс.



Рыс, 159

План Афінскага Акрополя.

1 – Храм Панны (Партэнон). 2 – храм жарсьцяў госпадавых (Эрэхтайён). 3 – сенцы (Папілеі). 4 – храм Афінскай Пераможнай (Афіны Нікэ). 5 – Статуя Афінскай Заступніцы ў бойцы (Праохас). В – Храм Афінскай Паліяды (багародзіцы-ўстрасальніцы): a – ніжняя брама замку паміж дзвума вежамі, b і c – асобныя храмавыя двары. d – пастамент нейкай статуі, e – іянічная кругая пабудова, f – Тэатр Дыёніса-Хрыста, g – тэатр «Ірада Атыка» (г.азн. атычнага героя, h – парэшткі ганку. З боку гледжання новай храналогіі ўсё гэта – пабудовы афінскага феадальнага рыцарскага герцагства.



# Глава I.

## Узнікненне раманскіх княстваў, графстваў і рэспублік на ўсходзе міжземнага мора ў XII стагоддзі нашай эры.



Мал. 160
Адломак «класічнай» статуі, знойдзены Ландаліна ў садзе Банавіі паблізу Сіракуз.

«Прафесар Крёмберкер (Crumercher) у сваёй «Гісторыі Візантыйскай Літаратуры» распавядае, што калі ён паведаміў сваім знаёмым пра намер прысьвяціць сябе гэтаму пытанню, адзін із яго класічных сяброў урачыста заявіў, што не можа быць нічога цікавага пад час такога перыяду, калі грэкі, замест таго, каб ужываць свой прыназоўнік ***апó*** (ἀπό) у родным склоне, ужывалі яго ў вінавальным. Мне здаецца, што і зараз шмат хто думае так жа як і гэты артадаксальны граматык, і што яшчэ шмат хто ні на трохі не сумняваецца ў тым, быццам бы «з часоў рымскай заваёвы Грэцыі ў «146г. да Нараджэння Хрыста» і аж да абвяшчэння ею незалежнасьці ў 1821 г., яна валодала шчасьцем не мець сваёй гісторыі на працягу дваццаці стагоддзяў».

Такімі словамі пачынае Вільям Мілер сваю вельмі цікаваю кнігу: «Латыняне

на Ўсходзе: гісторыя Франкскай Грэцыі ад 1204 да 1566 гадоў»[112].

І такімі ж словамі ў мяне ўзнікае жаданне пачаць гэтую частку сваёй працы. Кніга Вільяма Мілера яшчэ не перакладзена, і я баюся, што шмат хто із маіх чытачоў нават і не чулі пра яе і пра тыя венецыянскія, неапалітанскія, барцэлонскія і палермскія архівы, раскапаныя толькі на прыканцы XIX стагоддзя, грунтуючыся на якіх яна напісана.

«Гэтыя архівы, – паведамляе аўтар далей, – даюць нам толькі шкілет той рамантычнай драмы, тэатрам якай была Грэцыя на працягу 250 гадоў (ад чацьвёртага крыжовага паходу ў 1204 г. і да заваёвы яе туркамі ў 1441-1460 гг.), і ў якой галоўныя ролі выконвалі: і маляўнічы натоўп бургундзкай шляхты, і германскія рыцары, і вайсковыя авантурысты Каталоніі і Навары, і фларэнтыйскія заможныя людзі, і неапалітанскія прыдворныя, і венецыянскія і генуэзскія камерцыйныя прынцы, і, нарэшце, прынцэсы і высокапастаўленыя дамы із самых старажытных французкіх родаў».

«Патрэбна ўдыхнуць жыццё ў гэтыя сухія косткі, – заканчае ён свае ўводзіны, – пакрыць іх целам і заліць кроў у яго жылы, каб яскрава ўявіць сабе тое, што тады адбывалася ў Грэцыі, падзеленай на хаўрусныя, то манархічныя, то рэспубліканскія дзяржавы», сярод якіх – дададзім мы ад сябе – асабліва вылучаліся: герцагства Ахайскае, Афінская сіньёрыя, Эпірская сіньёрыя, Эўбейскі трыархат, герцагства Архіпелаг, Фесалійскае каралеўства, Фларэнтыйская сіньёрыя, Македонскае каралеўства. А ў Малой Азіі існавалі еўрапеізаваныя Трапезундзкая і Нікейская манархіі, а паўднёвей і раней іх, Ерусалімскае каралеўства, герцагствы і графствы: Антыяхійскае, Эдэскае, Трыпалійскае і г.д., у якіх валадарачым і кіруючым станам былі асаднікі еўрапейцы. Згадаем, напрыклад, што венецыянцы панавалі на Крыце аж да паловы XVII ст., а умацаванні Руна і Спіналонга належалі ім там да 1718 г.

«Насельніцтва еўрапейскай Грэцыі, – паведамляе М, Пакроўскі[113], – уяўляла із сябе пад час гэтага перыяду сумесь, толькі зверху афарбаваную грэцкім элементам. У навуковай літаратуры была нават спрэчка: кім былі продкі сучасняга грэцкага насельніцтва: старажытныя эліны ці славяне?».

Так! Няма нічога больш цьмянага чым нашы уяўленні пра жыццё «Блізкага Ўсходу» ў перыяд крыжовых паходаў і перыяд наступіўшы за імі, г.азн. паміж XII і XVI стагоддзямі нашай эры.

Артадаксальныя гісторыкі пераконваюць нас, што быццам бы гэтыя паходы былі распачаты каталікамі Заходняй Яўропы выключна дзеля «вызвалення труны госпада» ў палестынскім Эль-Кудсе, лічымым за Ерусалім і адабраным у хрысьціянаў халіфам Амарам у 637 г. Але чаму ж у такім разе хрысьціяне не рабілі ніякіх спроб вызваліць яго на працягу чатырох соцень з гакам гадоў? Чаму не спрабавалі гэта зрабіць ні Карл Молат (688-741 гг.), ні Карл Вялікі (742-814 гг.)?

З нашага боку гледжання такое непаразуменне, вядома, знікае. Евангельскае хрысьціянства, адміністрацыйна выправіўшае Хрыста із Італіі ў Палестыну і наладзіўшае яму падробленую труну ў Эль-Кудсе, атрымаўшаму з таго часу не належаўшае яму найменне Ерусалім, згодна з нашай тэорыяй узнікла толькі якраз напярэдадні крыжовых паходаў. Я ўжо даводзіў у першым томе «Хрыста», што Евангелле Марка напісана толькі каля 725 г. нашай эры Маркам Афінскім,

---

[112] William Miller: «The Latins in the Levant. A history of frankish Greece in 1204-1566». London, 1908.

[113] М. Пакроўскі: «Чацьвёрты крыжовы паход і Лацінская імперыя» («Кніга для чытання па гісторыі сярэдніх вякоў» пад рэд. П. Вінаградава, 1988 г., стар. 177-178).

Евангелле Яна – Янам Дамаскім каля 777 г., Евангелле Лукі Лукой Эладзкім каля 946 г, і Евангелле Мацвея, напэўна, Фёдарам Студытам каля 826 года.

Кананічная і апакрыфічная евангельская літаратура з гэтага боку гледжання набыла пашырэнне толькі пад час IX-X стагоддзях, а таму робяцца зразумелымі і своечасовымі фанатычныя заклікі рымскага папы Урбана II на Клермонскім саборы ў 1095 г. спяшацца ў Палестыну вызваляць труну свайго бога ад улады «прававерных», не прызнаючых яго за праўдзівага сына боскага. Але тут жа ўзнікае і новае непаразуменне: чаму ж у гэтай набожнай справе ім не дапамагала ні візантыйскае сьвятарства і візантыйскія імператары? Чаму ў 1204 г., пры так званым чацьвёртым крыжовым паходзе крыжацкія рыцары Захаду, замест таго, каб спяшацца ў Палестыну, цалкам асядаюць у грэцкіх краінах Балканскай паўвыспы і ў бліжэйшых грэцкіх частках Малой Азіі і Архіпелага, засноўваючы тут феадальныя дзяржавы, трымаўшыяся ў некаторых месцах больш двух, трох і больш стагоддзяў?

Рэзюмуючы канспектыўна пачатак гэтага перыяду мы можам сказаць грунтуючыся на нашых звычайных першакрыніцах толькі наступнае:

Пад уплывам заклікаў папы Урбана II і Пятра Пустэльніка пайшлі вызваляць «труну госпада» у траўні 1096 г. толькі бедны рыцар Вальтар Галяк, – Walter von Habenichts нямецкіх гісторыкаў, і Gautier sans Avoir французкіх, – сабраўшы вакол сябе ў Германіі бязладны натоўп прыхільнікаў, але загінуўшы ў бойцы пад Нікеяй за Канстантынопалем разам з усім сваім войскам. Пазней, праз паўгода пасьля яго адыходу із Германіі, у жніўні 1096 г., выправіліся тым жа шляхам ужо не галяк, а герцаг Ніжняй Латарынгіі Готфрыд Бульёнскі са сваім братам Балдуінам і з добра ўладкаваным войскам. Каля Канстантынопаля яны сустракаюцца з такімі ж войскамі ідучых у Палестыну феадалаў: графа Гуга Вернандуа, сына французкага караля; Баэмунда Тарэнцкага, сына нармандзкага караля, і акрамя іх: Раймунда Тулузскага, Роберта Нармандзкага і Танкрэда, будучага караля Антыёхіі, апетага паэтам Тарквaтам Тасо ў яго знакамітай паэме «Вызвалены Ерусалім».

Іхнае злучанае войска пры пераправе ў Азію павялічылася, – кажуць нам, – да 400 000 чалавек, што склала б згодна з тым часам усё мужчынскае насельніцтва цэлай краіны.

За два гады яны захапілі Нікею (1097 г.), Антыёхію, Эдэсу (1098) і, нарэшце, 15 ліпеня 1099 года і сам палестынскі Эль-Кудс, які лічыўся імі за Ерусалім. Там было адразу ж заснавана крыжацкае Ерусалімскае феадальнае каралеўства, першым каралём якога быў абраны Балдуін (1100 г.), гэты Траян крыжовых паходаў.

А ў азіяцкіх Трыпалі, Эдэсе і Антыёхіі былі заснаваны лацінскія княствы, таксама на феадальных падставах, з прывілеяваным валадарачым станам із еўрапейскіх рыцараў і з прыгонным тубыльным насельніцтвам. Мы ведаем, што гэтыя рыцарскія паны трымаліся там, нягледзячы на тое, што набылі, вядома, і мясцовыя сем'і, каля трох пакаленняў не губляючы сувязі з далёкай радзімай. Каралеўства Ерусалімскае захоўвала сувязі на працягу 87 гадоў да 1187 г., княства Акрскае 92 гады, а Трыпалітанскае і Антыяхійскае нават больш паўтары сотні гадоў, да 1268 г., калі нашчадкі лацінскіх рыцараў страцілі, нарэшце, якую б то ні было сувязь са сваімі краінамі і, паступова забыўшыся сваю мову і культуру, натуральна зліліся з мясцовым насельніцтвам і падпарадкаваліся азіятам. І першым гэта зрабіла каралеўства Эль-Кудзкае (г.азн. Ерусалімскае), як самае глухое згодна са сваім геаграфічным месцаваннем. Мыльная бурбалка сярэднявечных тэолагаў,

яно першым за ўсіх і лопнула пры першай жа спробе раздуць яго да становішча рэчаіснай дзяржавы.

Але перш чым пераможцы звяліся і здзічэлі ў сваёй глухмені, яны мелі і час, і жаданне, і сродкі для пабудовы там на заходнееўрапейскія і на свае мясцовыя сродкі вялікіх будынкаў, і яны іх, вядома, і пабудавалі.

Такім быў непазбежны лёс рыцарскіх дзяржаваў у Сірыі з рацыяналістычнага боку гледжання, але такога боку гледжання не было яшчэ ў тыя часы, і таму ўрок не паслужыў для навучання.

Як толькі звёўшаяся «Ерусалімскае каралеўства» здалося султану Саладзіну ў 1187 г., папа Інакенцій III, пачаў заклікаць да новага крыжовага паходу, і новая вялікая хваля крыжацкіх заваёўнікаў накіравалася на Ўсход, але была ўжо больш разважлівай. Рыцары, замест таго, каб ісьці ў Палестыну і зведаць там новае перараджэнне, кінуліся разам з дапамагаўшымі ім венецыянцамі і генуэзцамі на блізкія ім па культуры і мове грэцкія краіны Балканскай паўвыспы і берагавыя часткі Малой Азіі з Архіпелагам[114]. У крыжацкім войску ў ліпені 1203 г. налічвалася 4500 рыцараў і да 20 000 пяхотнікаў і стралкоў. Тут былі самыя заможныя бароны Францыі, а яны ішлі ахвотна, таму што на ўладанні рыцара пайшоўшага ў крыжовы паход, ніхто не мог напасьці пад пагрозай адлучэння ад царквы і агульнай пагарды. Іхныя маёнткі заставаліся пад кіраваннем іхных жонак, і гэта моцна спрыяла ўсталяванню раўнапраўя жанчын.

Візантыйскія імператары, натуральна, супраціўляліся, але былі выціснуты ў Нікею, на другі бераг Басфора, дзе і ўтварылі Нікейскую імперыю. А «франкі», узяўшы Канстантынопаль у 1204 г., абвясьцілі на абшарах падпарадкаваных ім мясцовасьцей Лацінскую Феадальную імперыю, хутка ператварыўшуюся ў простую мазаіку феадальных крыжацкіх дзяржаваў, якую я яшчэ буду абмяркоўваць і якая, дзякуючы пастаяннаму прыходу новых людзей із Яўропы праіснавала больш шасьці пакаленняў, пакуль і тут рыцары, паступова, адружваючыся на грачанках, не нарадзілі спачатку напалову грэцкіх, а потым і чыста грэцкіх нашчадкаў, ужо забыўшых мову сваіх далёкіх радзім і засвоіўшых мясцовыя норавы і звычаі.

Але і тут, перш чым гэта здарылася, яны мелі на працягу соцень гадоў і роднасныя сувязі з еўрапейскім культурным Захадам, і сродкі, і жаданне, і магчымасць далучыць сваю новую радзіму да сваёй культуры, і мелі магчымасць шмат што зрабіць і асабліва пабудаваць, да чаго заўсёды былі надзвычай схільнымі каралі і феадалы. І як заўсёды бывала з буйнымі магнатамі, на якіх нападала манія будавання велічных, будынкаў, яны, нарэшце, згалелі, канкуруючы адзін з адным. «Пад час апошняга перыяду свайго існавання, – паведамляюць нам гісторыкі гэтага часу, – лацінскія імператары ў грэцкіх краінах жылі, галоўным чынам, дзякуючы субсідыям, дасылаемым з радзімы» і вымушаны былі закласьці ўсё, што маглі, нават «цярновы вянок самога Хрыста», дбайна захоўваемы да гэтага часу ў Канстантынопалі!

Пра гэты натуральны і непазбежны бок іхнай дзейнасьці ўсе грэцкія летапісцы цалкам, і як быццам нават наўмысна, маўчаць. Чытаючы іх набываеш такое ўражанне, нібы глядзіш на малюнак нейкага із сучасных мастакоўсімвалістаў, на якай пад назвай «Ідучы чалавек» намаляваны адны яго ногі.

---

[114] Я не бяру да ўвагі так званыя другі і трэцці прамежкавыя крыжовыя паходы, не меўшыя ніякага гістарычнага значэння.

Праўда, што нават і еўрапейскім гісторыкам аж да самага XX ст. быў уласьцівы той жа недахоп. Бачыш, напрыклад, “Сусветную гісторыю” (Weltgeschichte) Фрыдрыха Шлосера ў 19 тамах і думаеш, што тут апісана гісторыя ўсяго сьвету, а на справе выяўляецца, што ў ёй выкладзены, і прытым у вышэйшай ступені перспектыўна, амаль выключна дынастычныя падзеі, і мімаволі пачынаеш уяўляць сабе, быццам бы пад час ранейшых стагоддзяў жылі толькі цары, вайсковыя правадыры і міністры, ды калі-нікалі яшчэ бунтары і дэмагогі, і ўсё чалавецтва нічым не займалася, акрамя войн дзеля пашырэння ўладанняў сваіх валадароў, ці інтрыгавала на карысць таго ці іншага са сваіх кіраўнікоў.

На самай справе ж і тут нам малююцца толькі адны ногі чалавецтва, а пра яго галаву, вочы, вушы, і пра дзейнасць яго мазкоў, лёгкіх, страўніка і рук згадваецца так рэдка і між іншым, што атрымліваецца ўражанне, быццам бы іх цалкам і не было тады ў людзей.

Такая аднабаковасць ранейшых гісторыкаў і летапісцаў асабліва характэрная для разглядаемага тут мной зараз выпадку.

Усе мы ведаем пра «крыжовыя паходы», і нам мімаволі ўяўляецца, што рыцары ў гэты час толькі «хадзілі», але ніколі не «сядзелі»... А ў рэчаіснасьці было цалкам наадварот. Крыжовыя паходы і ўзаемныя сутыкненні рыцараў былі толькі эпізодамі ў гісторыі тагачаснай крыжацкай феадальнай мазаікі, узнікшай дзякуючы ім у Сірыі і Грэцыі. Гэтыя паходы цалкам губляліся ў агульным гаспадарчым і інтэлектуальным жыцці тамтэйшых каралеўстваў, герцагстваў і графстваў. Яны нават і былі магчымымі толькі пры той умове, калі гаспадарчае жыццё асноўнай часткі насельніцтва ішло цалкам нармальна.

У сталіцах шум, грукочуць красамоўцы,
Кіпяць славесныя войны, а там, у глыбіні Расіі –
Там стагадовая цішыня. Толькі вецер не дае спакою
Вяршыням прыдарожных вербаў, і выгінаюцца дугою,
Цалуючыся з маці-зямлёй, каласы бясконцых ніваў... –

Так пісаў Някрасаў у 1857 г., характарызуючы кантраст паміж сучаснымі яму гарадзкім і вясковым жыццём, і толькі мімаходзь згадаў у сваім вершы, што гэтая цішыня была не мёртвай, а поўнай ствараючай працы, толькі дзякуючы якой красамоўцы ў сталіцах і мелі магчымасць аддавацца сваім спрэчкам. Так было і ўсюды.

Яшчэ з X стагоддзя ў Візантыі за вайсковую службу давалася камандзірам зямля, якую апрацоўвалі насяляўшыя яе сяляне, і прыбыткі з гэтых земляў служылі платай за вайсковую службу. Калі з'явіліся «франкі», яны прызналі такіх паноў за феадальнае дваранства, сярод якога былі ўладальнікі вялізных маёнткаў, нічым не адрозніваўшыяся ад заходне-еўрапейскіх баронаў. Такім быў, напрыклад, Леў Згур на Пелапанэсе, які ў 1202 г. нават абвясьціў вайну візантыйскаму імператару Аляксею III і забраў у яго два гарады: Аргас і Карынф.

Тое ж было і на абшарах ўзнікшых тады крыжацкіх дзяржаваў Грэцыі і Сірыі, і заданнем сур'ёзнага гісторыка з’яўляецца тут тое, каб апісаць мірную і таму незаўважаемую летапісцамі стваральніцкую дзейнасць гэтага выдатнага перыяду, калі культуры Захаду і Ўсходу часова аб’ядналіся на Ўсходзе. Але зрабіць гэта можна толькі пры той умове, калі мы будзем цвёрда памятаць, што ў паведамленнях грэцкіх летапісцаў пра крыжовыя «паходы», як і на згаданых мной карцінах сімвалістаў, апісаны адны ногі ідучых у паходы рыцараў, але цалкам ігнаруецца тое, што ў іх былі ў той жа час і галовы і рукі.

Кніга Вільяма Мілера «Латыняне на Ўсходзе, гісторыя Франкскай Грэцыі» злёгку прыўзняла гэтае покрыва, але ўсё яшчэ цалкам не абляпіла жывым целам архіўныя шкілеты Венецыі, Неапалю, Барцэлоны і Палерма, і мы не пабачым у іх сапраўднага дыхання жыцця, пакуль не паклічам на дапамогу так званую класічную літаратуру і класічныя руіны Грэцыі.

* * *

Прыступаючы да выкладання ўзнікнення Лацінскай Феадальнай Федэрацыі XIV стагоддзя на грэцкім Усходзе, гісторыкі маюць звычай перадусім жаліцца на разрабаванне Канстантынопаля ў 1204 г. Аднак жа і сярод іх ужо з'явіліся ў апошні час тыя, якія прытрымліваюцца іншай думкі.

Грунтуючыся на горкіх жальбах летапісца Мікіты[115] з нагоды другога ўзяцця Канстантынопаля крыжакамі, – выказваецца Ланглуа ў сваёй «Гісторыі сярэдніх стагоддзяў», – давялося б лічыць, што царскі горад быў тады тэатрам ні з чым непараўнальных жорсткасьцяў, і што ў 1204 г. ён быў сведкам таго, як пад ударамі невуцкіх варвараў з крыжамі гінулі знаходзіўшыяся ў ім узорныя творы антычнага мастацтва разам з самымі каштоўнымі і найбольш шануемымі рэчамі, асьвечанымі ўспамінамі старажытнага хрысьціянства. Але, на шчасьце, адносна гэтых фактаў немагчыма браць на веру ні паведамленні Мікіты, аплакваючага разбурэнне помнікаў, існуючых там і да гэтага часу, ні сведчанні Мікалая Атрантскага, скардзячагася на знікненне рэліквій пакут Хрыста, якія на самай справе толькі праз трыццаць гадоў пакінулі Канстантынопальскі палац Букалеон, каб быць перанесенымі ў капліцу «св. Труны».

Немагчыма, вядома, аспрэчваць, што следам за апошнім штурмам Візантыі латынянамі ў горадзе адбыліся забойствы і рабаванні, але тут патрэбна адрозніваць два перыяду: першы, – кароткі і гвалтоўны, працягам ад 14 да 16 красавіка 1204 г., калі на працягу трох дзён сапраўды здзяйсняліся прафанацыі, на якія так справядліва скардзіліся грэкі папе ў сваёй, дайшоўшай да нас, цікавай запісцы. Варта, пастаўленая ў імператарскіх палацах правадырамі войска, ледзь магла абараніць праваслаўныя капліцы ад драпежніцтва каталіцкіх жаўнераў. А знакаміты храм Святой Сафіі, з нагоды сваіх рэлігійных скарбаў і вялізнай славы, якую яны набылі, сапраўды, зведаў свавольствы. Да зневажання цэркваў далучыліся здзекаванні і «над імператарскімі магільнямі, у якіх Мікіта не баіцца абвінаваціць лацінскага патрыярха Тамаша Маразіні, хаця і цалкам дарэмна, таму што візантыйскі імператар Аляксей III сямю гадамі раней ужо паклапаціўся забраць адтуль усе каштоўнасьці».

Усе гэтыя старыя падзеі былі толькі, як мы бачым, пазней звалены на заваёўнікаў, і нам зараз важна ведаць толькі адно: наколькі рэчаіснымі і наколькі прыдуманымі былі тыя багацці, якіх на працягу трох дзён анархіі пазбавілі грэкаў прыйшоўшыя да іх каталікі? Выяўляецца, што ўсё яны былі проста прыдуманымі багаццямі, і пераможцы рабавалі больш свайго ж бога, чым людзей. Вось, што паведамляюць самі нашы першакрыніцы:

«Перш чым латыняне, – паведамляе набожны Ернуль, – узялі Канстантынопаль, іхным сьцягам была выява пана Бога, а як толькі яны апынуліся ўсярэдзіне горада, яны кінулі гэту выяву на зямлю і пачалі дзейнічаць пад сьцягам дз'ябла. Перадусім яны кінуліся на сьвятую царкву і абрабавалі абацствы». «Ракі

---

[115] Мікіта Ханіят, родам із Хона (які лічыцца старажытнымі Коласамі) ў Фрыгіі. Ён занімаў розныя пасады пры Канстантынопальскім двары і ў 1204 г. выдаліўся ў Нікею, дзе памёр у 1216 г. Яму прыпісваецца 21 кніга «Летапісаў».

сьвятых, із якіх шмат якія былі із эмаліраванай медзі і, такім чынам, не мелі ніякай каштоўнасьці для рабаўнікоў, былі пабіты, а камеі і каштоўныя камяні, з'яўляўшыяся іхнымі ўпрыгожваннямі, адрываліся, і парэшткі выкідваліся. Падобную ж долю зведала незлічоная колькасць шыкоўных металічных вокладак, накрываўшых набажэнскія кнігі, а абразы сьвятых тапталіся нагамі ці выкідаліся ў мора. Але пасьля заканчэння некалькіх дзён, латыняне, нарэшце, засароміліся сваіх непрыстойных учынкаў і застрашыліся божага гневу. Сабралася рада правадыроў, і былі прыняты строгія захады для таго, каб спыніць якую б то ні было распушчанасць. Біскупы войска пагражалі царкоўным адлучэннем усім тым, хто выявіцца вінаватым у новых блюзнерствах, а таксама і тым, хто не верне скрадзеную раней здабычу ў месцы, прызначаныя для таго.

Праз некалькі дзён 16 траўня адбылося абранне каралём і каранаванне Балдуіна і анархія саступіла месца правільнай уладзе. Асобныя атрады войска былі размешчаны ў розных частках горада, і знешні парадак замяніў выпадкі гвалту першых дзён.

Такім чынам, – паўторым мы, – каталікі-заваёўнікі абрабавалі толькі бога, а не людзей, і таму багацці, якіх яны пазбавілі грэцкае насельніцтва, былі чыста ўмоўнымі.

«Немагчыма не паведаміць, – сведчыць Ланглуа, – пра некаторыя падрабязнасьці адносна характару сьвятых прадметаў, якія асабліва імкнуліся набыць латыняне. Яны могуць быць падзелены на дзьве часткі: на рэліквіі і на царкоўныя ўпрыгожванні; але як у дачыненні да адных, так і другіх крыжакі, відаць, не дзейнічалі наўздагад.

«Із рэліквій, найбольш моцна абуджаўшых жаданне іх набыць, былі адломкі дрэва крыжа госпада, стаўшага з даўняй пары прадметам асаблівага ўшанавання ў Францыі. Канстантынопаль меў чым задаволіць іх у гэтым дачыненні. Не кажучы ўжо пра само сумленнае (??) дрэва (τιμία ξύλα), была вялікая колькасць і кудменяў, маючых назву encolpia, таму што яны прызначаліся для нашэння на шыі. Ужыванне іх у Візантыі заможнай часткай насельніцтва было вельмі пашыранай справай яшчэ падчас Яна Залатавуста, і ўсе яны ўтрымлівалі зараз больш ці менш буйны кавалачак «сумленнага дрэва». Палацы княскіх радоў і кляштары змяшчалі ў сабе крыжы вялікіх памераў, а цэрквы мелі ў ахвярніках «светланосныя вянкі».

Пры вяртанні крыжакоў, еўрапейскія храмы атрымалі вялікую колькасць гэтых сьвятыняў із рук тых, хто іх прынёс, ці ж тых, хто атрымаў іх на захоўванне, хаця большасць з іх і былі відавочна падрбленымі. Амаль усе гэтыя рэліквіі лічыліся належачымі св. Кастусю, св. Алене ці, ва ўсякім разе, Мануілу Камнену.

«Пасьля кавалачкаў «сумленнага крыжа» латыняне з вялікай стараннасьцю шукалі рэліквіі, меўшыя дачыненне да дзяцінства і да пакут Ратавальніка, да «Найсьвячэйшай панны», да апосталаў, Яна Папярэдніка, да першапакутніка Стэфана, да св. Лаўрына, да Рыгора і да Мікалая Цудатворца. Саборы Шалона-на-Марне каля Лангра, атрымалі кожны па тры пасылкі з парэшткам св. Стэфана і св. Мамы, іхных заступнікаў. Гарнье дэ-Трэнэль, паслаў такія ж рэліквіі ў Труа з Жанам Ланглуа, сваім капеланам, і ад яго ж арцыбіскуп Санскі атрымаў галаву св. Віктара. Нівелон дэ-Шэрызі, біскуп Суасонскі, «абагаціў» Суасон парэшткамі. Герцаг аўстрыйскі атрымаў частку «сумленнага дрэва». А ў 1239 г. Людовік Сьвяты купіў самую вялікую каштоўнасць: «сапраўдны цярновы вянок Хрыста». Потым, у 1241 г., у Яўрапу прыехала нават сама дзіда, якой Хрысту працялі бок, і

губка, на якай яму паднеслі воцат. І ўсе гэтыя безсаромныя падробкі ў Заходняй Яўропе прынімаліся з найвялікшым глыбокім ушанаваннем.

«Із рэліквій, прывезеных із Канстантынопаля пасьля 1204 г. і захоўваючыхся яшчэ і зараз на Захадзе, мы назавём – працягвае Ланглуа – сумленны (??) крыж Алены, квадрыгу і каштоўныя камяні Palodiaro у Венецыі, знакамітыя рэліквіі Букалеона, знаходзячыяся ў Sainte chapelle у Парыжы; кавалкі пергаменту, на якіх былі запісаны 10 запаветаў, знаходзячыяся зараз і ў Ліёне, і ў саборы Св. Пятра ў Лілі, і ў саборы Notre Dame у Куртрэ, і ў Фарэффе; сьвятыя цуглі ў Карпентра; каўчэжцы Паракліта (св. духа) у Аміене; залаты крыж св. Стэфана ў Труа, палец Яна Ахрышчэльніка ў Валансьене; насаускі пераможны крыж (у Лімбургу), падарунак Генрыха Ульмана Штэйбенскай царкве, і ўсе іншыя сьвятыні, апісаныя Rohaut de Fleury у яго «Memoire sur les instruments de la passion»[116].

Так! Сапраўды вельмі вялікімі былі «каштоўнасьці», якія перaслалі каталікі із Канстантынопаля ў Заходнюю Яўрапу. Як жа пасьля гэтага было не залямантаваць усяму ўсходняму сьвятарству:

– «Ратуйце! Рабуюць!»

Так пачаліся «Французкая Грэцыя» і «Французкая Сірыя», як іх называюць. І мы на прыкладзе пачатку бачым, што пры выкладанні іхнай гісторыі немагчыма чакаць праўды ад грэцкіх праваслаўных летапісцаў. Усё добрае, што там зрабілі «рыцары», было сьвядома замоўчана і адкінута, і нават самі парэштікі іхных пабудоваў былі дапасаваны да глыбокай старажытнасьці за выключэннем некаторых, накшталт, напрыклад, лацінскага ўмацавання маючага назву «Рыцарскі Крак», у Сірыі, якое я апішу далей грунтуючыся на тым жа Ланглуа, на яго «Гісторыі сярэдніх стагоддзяў». А тут я толькі выкажу некалькі слоў пра тое, які, згодна з найноўшымі дасьледаваннямі, мела уплыў гэтая знакамітая на прыканцы сярэдніх стагоддзяў, крыжацкая федэрацыйная імперыя на культуру Заходняй Яўропы.

Лацінскія феадальныя дзяржавы на грэка-сірыйскім Усходзе, – як пагоднена сцвярджаюць найноўноўшыя заходне-еўрапейскія гісторыкі, – спрыялі перанясенню на Захад не толькі вышэйзгаданых вельмі ўмоўных багаццяў, як губка, з дапамогай якой быццам бы паілі воцатам Хрыста на крыжы, як дзіда, якой яму працялі бок, із якога пацяклі кроў і вада; як сьвятыя цуглі асла, на якім ён прыехаў у Ерусалім, і як палец ахрысьціўшага яго Яна Купалы. Пад уплывам франкскіх дзяржаваў было перанесена з Усходу на Захад нямала і сапраўдных каштоўнасьцей, і перадусім натуральных стварэнняў, акліматызацыя якіх у нашых краінах моцна перамяніла стан іхнай матэрыяльнай культуры.

Заходнія еўрапейцы дзякуючы ім пазнаёміліся з казачнымі тады жывёламі пазаеўрапейскіх краін. Людовік IX, напрыклад, атрымаў ад імя «ягіпецкіх» мамелюкоў слана, якога ён потым падараваў ангельскаму каралю, а прывезеныя адтуль жа жырафы абуджалі ўсеагульнае здзіўленне. Але гэта былі рэдкасьці, больш прыдатныя для таго, каб спараджаць фантастычныя ўяўленні пра Далёкі Ўсход і выклікаць пошукі не існаваўшых там вялікіх навуковых ведаў, чым перамяніць матэрыяльныя ўмовы жыцця. Цалкам іншае значэнне мае прыстасаванне да еўрапейскага земляробства значнай колькасьці ўсходніх расьлін, дапсуемага да гэтага часу. Кунжут і ражковае дрэва, радзіма якіх – Сірыя, захавалі і да нашых дзён свае тамтэйшыя найменні. Лацінская феадальная мазаіка на Ўсходзе пашырыла культуру шафрану ў заходне-еўрапейскіх краінах. Апрацоўка цукровага

[116] Riant: «Les depouilles religieuses enlevees a Constantinople au XIII siecle», 1875.

трыснягу была наладжана дзякуючы з’яўленню яго квітнеючых плантацый у сірыйскіх графствах. Маіс з'явіўся ў Італіі толькі пасьля ўзнікнення Канстантынопальскага феадальнага каралеўства. Культура рысу набыла вялікае пашырэнне ў Францыі таксама толькі пасьля ўзнікнення гэтых заморскіх лацінскіх дзяржаваў. Захаваўшыяся і да гэтага часу на заходне-еўрапейскіх мовах назвы лімона і фісташак дастаткова седчаць, адкуль яны прыйшлі. Абрыкос, які пад час сярэдневечча часта называўся дамаскай слівай (damas), кажуць, быў прывезены ў Яўрапу ў той жа час графам Анжуйскім. Дробная цыбуля, добра вядомая нашым гаспадыням, з'явілася тады ж із Аскалона (scalogno па-італійску, echalotte па-фраіцузскі і Aschlauch па-нямецку). Кавун, да нашых дзён з’яўляючыся вельмі важным элементам у харчаванні насельніцтва паўднёва-заходняй Яўропы, акліматызаваўся тут таксама з часоў «рыцарскіх дзяржаў на Ўсходзе». Італьянцы даюць яму візантыйскую назву: anguria, а французы – арабскую: pasteque. Але феадальная мазаіка латынізаваных дзяржаваў на Ўсходзе пашырыла па Яўропе не толькі адны малавядомыя ў ёй стварэнні прыроды: яна прынесла ў яе таксама шмат новых рамёстваў і мануфактурных вырабаў. Назва бавоўны (coton) паходзіць ад сірыйскага слова al koton. Папяровыя тканіны (паркалі) із кірмашоў тагачасных сірыйскіх графстваў пашырыліся і на еўрапейскія кірмашы, таксама як і кісея (найменне якай «mousselin» паходзіць ад горада Масула), і цырата, французкае найменне якой «bourgans» з’яўляецца пераіначаным найменнем Бухара. Слова балдахін («baldaquin») спачатку азначала каштоўную матэрыю, прывозімую із Балдаха (Багдада). Пад камкай («damas») мелася на ўвазе каштоўная тканіна розных колераў, вырабляўшаяся адмылова ў Дамаску. Шаўкаводні і шоўкапрадзільні Сірыі пашырылі ў Яўропе з часоў той жа рыцарскай імперыі шоўк, да таго часу амаль недаступны еўрапейцам, і зрабілі яго звычайнай тканінай для апranання дам з дадаваннем да яе атласу і аксаміту. Із Франка-Грэцкіх герцагстваў і графстваў XIII стагоддзя перайшлі ў Францыю назвы шмат якіх афарбаваных тканін, накшталт «diapre» ад грэцкага діаейрыён, ці «dibaphus» ад грэцкага дыбафос і г.д.

Усходнімі дыванамі франка-сірыйскіх каралеўстваў пачалі пакрываць падлогу і абцягваць сьцены ў Парыжы. Іх пачалі вырабляць і ў Яўропе грунтуючыся на запазычаных узорах, старанна пераймаючы колеры і малюнкі львоў, грыфаў, і іншых казачных жывёл. Тое ж было з выдатнымі вышываннямі із залатых нітак і жэмчугу, якімі ўпрыгожвалі напасадныя занавескі. Ужо сьвяты Бернар паўставаў супраць звычая вышываць разнастайнымі жудаснымі жывёламі мастацкія вырабы, прызначаемыя для набажэнстваў. Але з якім нікчэмным поспехам! – Пра гэта сведчаць сярэднявечныя покрывы для ахвярнікаў, дайшоўшыя і да нас. Арыгінальны ўсходні стыль выраблення дываноў і вышыванняў узнік у Яўропе таксама пачынаючы з XIII стагоддзя. Доказам таму служыць назва сарацыны (sarracinois), даваемая вырабнікам дываноў у часы Піліпа-Аўгуста.

Феадальная мазаіка крыжацкіх дзяржаў на грэка-сірыйскім Усходзе зрабіла моцны ўплыў на моду і на адзенне ў Заходняй Яўропе не толькі таму, што краўцы пачынаючы з таго часу мелі ў сваім распараджэнні новыя матэрыі, як камлот із вярблюжынай поўсьці (ад camelus – вярблюд), прыйшоўшы із Трыпалітанскага графства, але і таму, што яны пераймалі зручнае і шыкоўнае адзенне Ўсходу: каптаны і бурносы.

«Joppe» нямецкіх стралкоў і падлоўчых, паходжанне якой спрабавалі патлумачыць рэшткамі старажытнага баварскага адзення, паходзіць ад сірыйскага слова «djobba» праз пасярэдніцтва італьянскага «guiuppa» (французкага jupe і рускага «юбка»). Усходнія строі «французкай Грэцыі» і «французкай Сірыі» знайшлі сабе гарачых прыхільніц у вобразе шляхетных дам Заходняй Яўропы, як гэта і натуральна. Доўгія, лёгкія і гнуткія, з вісячымі рукавамі, яны зрабілі фурор у іхным асяроддзі, а для прыбірання сваіх валасоў дамы адразу ж засвоілі разнастайныя майстэрскія спосабы, ўжываўшыяся на Ўсходзе. Пад час гэтай эпохі ў іхным асяроддзі ўзнік звычай фарбавацца шафранам; тады ж, як кажуць, із Венецыянскай Грэцыі (г.азн. із тагачаснага грэцкага ўзбярэжжа і выспаў) прыйшлі ў Яўрапу і шкляныя люстэркі, замяніўшыя пласьцінкі із паліраванага металу, якімі карысталіся раней. Зручныя туфлі («babouche») прыйшлі із Персіі, іхнай радзімы, да франкаў праз пасярэдніцтва герцагстваў і каралеўстваў той жа самай крыжацкай федэрацыі.

Французы запазычылі ад мясцовых жыхароў і прывезлі ў Яўрапу шмат звычаяў, маючых дачыненне да гігіены. Галенне ў XII ст. лічылася характэрнай рысай заходне-еўрапейцаў, тады як усходні чалавек бачыў у ім ганьбаванне і рабіў з яго пакаранне для баязліўцаў. Нават у мініяцюрах XIII ст. мусульманаў можна пазнаць па выдатных барадах, а хрысьціянаў – па гладкіх тварах. Але вось, і гэтая мода пачала пашырацца сярод сірыйскіх рыцараў-феадалаў. Нашэнне барады спачатку паціху пашырылася паміж імі, а потым і ў Яўропе. Мыццё ў паравой лазні, спачатку пачаўшае ўжывацца ў асяроддзі «азіяцкіх франкаў», з нагоды патрабаванняў мясцовага клімату, перайшло і ў Яўрапу дякуючы перайманню прыкладу герояў, якімі крыжацкія рыцары ўсім здаваліся на сваёй радзіме.

Заходнім рыцарам, набыўшым ленныя ўладанні ў Азіі, давялося шмат што ўдасканаліць і па частцы вайсковага рыштунку. Яны засвоілі лагерныя намёты, і чарацяныя дроцікі, упрыгожаныя значкамі; засвоілі дзідавыя наканечнікі, насечаныя золатам ці срэбрам, лёгкі ручны шчыт, меўшы наймене «targe» (ад сірыйскага «taraka»), верхні напаловукафтан, падбіты ватай, паштовых галубоў, арбалет. Яшчэ ў 1097 г. рыцары не ведалі арбалетаў і беглі перад туркамі, якія былі імі ўзброены, а другі Латэранскі сабор (1139 г.) ужо пагражае адлучэннем ад царквы тым хрысьціянам, якія ўжываюць гэтую зброю супраць хрысьціянаў жа. Франкскія інжынеры, жывучы на Ўсходзе, навучыліся таксама вельмі шмат чаму па частцы балістыкі, піратэхнікі і фартыфікацыі.

Знакамітае ўзнікненне інстытуту геральдычных гярбоў бярэ свой пачатак адтуль жа. Калі і раней у рыцараў ужо мелася звычка маляваць упрыгожванні на сваіх шчытах, то яны не перадаваліся ад пакалення ў пакаленне, як рабілася пазней. Сістэма спадчынных гярбоў нарадзілася таксама на Ўсходзе, таму што нават і колеры ў геральдыцы носяць арабскія найменні: azur – блакітны, gueule – чырвоны (ад гюль – ружа), sinople – зялёны. На мове геральдыкі залатыя манеты мелі назву bezants, г.азн. візантыйкі; геральдычны крыж – гэта крыж візантыйскі, і геральдычныя жывёлы – усе жывёлы Ўсходу.

Нават ружанцы былі паўсюдна запазычаны заходнімі хрысьціянамі ад царкоўных служак той жа самай крыжацкай Федэрацыі, дзе яны яшчэ раней з’явіліся ва ўсеагульным ужывнні ў набожных людзей. Ды і звычай насіць на грудзях крыжыкі на ланцужках паходзіць, напэўна, адтуль жа.

Так, – пярэчаць нам, – быў уплыў пакораных народаў Усходу на народы заваёўнікаў, уплыў падпарадкаваных станаў на падпарадкаваўшых, менш

культурных на больш культурных, слабых на моцнейшых. Азіяты і балканцы далі заходнім еўрапейцам цэлы шэраг гаспадарчых расьлін, раскошнае адзенне і дываны, нават усю геральдыку... Ну, а, наадварот: што ж даў тады Ўсходу магутны, пануючы, больш культурны і заможны Захад? – Нам кажуць:

– Нічога!

Але ж, гэта a priori неверагодна, нават немагчыма!

І ўсё маё гэтае дасьледаванне прыводзіць толькі да аднаго: да аспрэчання таго, што і без таго неверагодна. Яно даводзіць нам, што валадарыўшы ў гэты час Захад не заставаўся ў даўгу перад Усходам. Ён даў яму ў той час велічныя пабудовы, усе гэтыя акропалі, прапілеі, цыркі, пантэоны, храмы бога-бацькі ці жывога-бога (Зеўса па-грэцку, ад зоо – жыву), храмы прачыстай панны (партэноны), парэшткі якіх мы памылкова дапасуем да глыбокай старажытнасьці і прыпісваем не каталіцызму XIII ст., якім ён выявіўся пад час гэтага перыяду на Ўсходзе, а паганству. Захад даў Усходу Фідыя і іншых разьбяроў, выдатныя статуі якіх мы дапасуем за пачатку нашай эры, хаця велі добра бачна, што нават і пад час першых яе стагоддзяў, у раскопах Геркуланума і Пампеі няма нічога падобнага. І ён жа, Захад, даў Усходу і яго класічных пісьменнікаў, і працягваў іх даваць нават і пасьля таго, як там знікла феадальная мазаіка латынізаваных краін пад злучанымі намаганнямі візантыйскага і мусульманскага сьвятарства.

Паглядзім жа, як гэта было.

# Глава II.

## Заведамыя руіны крыжацкай Францыі на ўсходзе.

Франкскія княствы Сірыі, – паведамляюць нам гісторыкі, – падзеленыя на лены, хутка напоўніліся да паловы XII стагоддзя замкамі, цэрквамі і кляштарамі. Іхныя рэлігійныя помнікі, згодна з меркаваннем Рэя, належаць да раманскай архітэктурнай школы, але са значнымі зменамі пад візантыйскім уплывам, прытым яны шмат у чым набылі якраз тое адценне, якое мы прызвычаіліся прыпісваць антычнай старажытнасьці». Тое ж паўтарылася і з умацаванымі замкамі, із якіх некаторыя (напрыклад, Марат, Крак, Тартоза), былі вельмі вялікіх памераў, таму што сваёй велічынёй яны ўдвая перавышаюць памеры самых шырокіх Французкіх замкаў накшталт Coucy ці Pierrefonds. Будаваўшыя іх архітэктары, відаць, узялі за ўзор умацаванні, пабудаваныя ў XI і XII стст. каля заходніх межаў Францыі, у басейнах Луары і Сены; але яны запазычалі ад візантыйцаў падвойную агароджу, вартаўнічыя вежы із каменя і велічэзныя каменныя адхоны, якія патройваюць таўшчыню сьцен каля падставы, а таксама і некаторыя абарончыя ўмацаванні, прызначаныя замяніць французкі «данжон» – вежу.

«Вялікая частка замкаў іянітаў у Сірыі належала менавіта да гэтага франка-візантыйскага тыпу. У тампліераў існаваў свой тып пабудоваў, больш падобны на сарацынскі. У тэўтонскіх рыцараў таксама была свая архітэктура: іх галоўнае ўмацаванне Манфор ці Штаркенберг не што іншае як замак із берагоў Рэйна, перанесены на глебу Сірыі».

Так выказваецца Рэй ў сваім дасьледаванні «Пра вайсковую архітэктуру ў Сірыі і на Кіпры падчас крыжовых паходаў»[117].

[117] G. Rey: «Etudes sur les monuments de l'architecture militaire en Syrie et dans l'ile de Chypre».

А ці існуе хаця б у адным із летапісаў, – запытаю я, – апісанне пабудовы гэтых збудаванняў? Чытач не знойдзе гэтага нідзе; існуюць толькі падрабязнасьці іхнага заваявання, ды і то не заўсёды.

Возьмем у якасьці прыкладу, хаця б «Крак рыцараў» (мал. 161), таму што ён і зараз яшчэ знаходзіцца амаль у такім жа стане, у якім яго пакінулі рыцары сьвятога Яна ў красавіку 1271 г. Не хапае толькі некалькіх зубцоў на сьценах, ды некаторыя скляпенні абваліліся, цэлае ж захавала велічны выгляд, даючы вандраўніку вельмі высокае разуменне пра матэрыяльныя сродкі ордэна ўзвёўшага гэты будынак.



Мал. 161

Рыцарскае ўмацаванне Калаат-Эль-Госп, «Крак рыцараў» летапісцаў (згодна з Ланглуа).



На аднай із вяршынь, пануючых над цясьнінай, якой даліна Аронта спалучаецца з басейнам Міжземнага мора, – паведамляе Рэй, – узвышаецца Калаат-Эль-Гасі. Такой з’яўляецца сучасная назва ўмацавання, якое мы сустракаем у летапісцаў крыжовых паходаў пад найменнем Крак, ці Крак рыцараў[118].

Быўшы першараднай вайсковай пазіцыяй, дамінуючай над дэфіле, праз якое праходзяць шляхі із Гомса і Гамаха ў Трыпалі і Тартозу, гэтае ўмацаванне магло таксама служыць выдатнай аперацыйнай базай для войска, дзейнічаючага супраць уладанняў султанаў Гамаха. У той жа час Крак, – разам з замкамі: Аккар, Архас, Сарк, Арэйме, Ямур, Тартоза, Маркаб і з вежамі і другараднымі вартавальнямі, злучаўшых гэтыя розныя ўмацаванні, – складаў абарончую лінію, прызначаную

[118] У Сірыі некалькі ўмацаваняў маюць найменне Крак, ці Карак: гэта – Крак рыцараў, Крак-дэ-Манрэаль і Крак ці Petra Deserti. Гэтае найменне маюць і некалькі паселішчаў, пабудаваных на пагорках.

бараніць ранейшае Трыпалійскае графства ад уварванняў мусульман, якія засталіся гаспадарамі найбольш вялікай часткі ўсходняй Сірыі.

Із вышыні сьцен позірк ахоплівае на ўсходзе возера і частку плыні Аронты. За імі распасьціраюцца ўдалечыні бязмежныя раўніны пальмірскай пустыні. На поўнач узвышаюцца горы Ансарые, а на захад, за Суботняй далінай (зараз Нахар-Эз-Сабт) віднеюцца заможныя і радзючыя даліны, і яшчэ далей, на гарызонце, зіхацяць хвалі Міжземнага мора. На поўдні абодва ланцугі Лівана і Антылівана пазначаюць свае буйныя вяршыні, пакрытыя снегам. Бліжэй да ўсходу, каля падножжа замка, зялёным дываном разсцілаецца раўніна Букейе-Эль-Госн, Бакея летапісцаў.

Розныя аўтары, як хрысьціянскія, так і арабскія, пісаўшыя гісторыю крыжовых паходаў, часта згадваюць пра гэты замак; першыя завуць яго Крак, а другія – Гасп-Эль-Акрад, ад арабскага слова «акрад» (курд).

Граф Сэн-Жыль, завалодаўшы Тартозаю, распачаў у 1102 г. аблогу знаходзіўшагася тут курдзкага замка, але пакінуў яе, і мы не ведаем, калі французы захапілі гэтую пазіцыю. Толькі адно месца ў Ібн-Ферата наводзіць на думку, што гэта здарылася каля 1125 г. з таго часу Крак быў, здаецца, простым ленам, імя якога насілі яго ўладальнікі да 1145 г., калі Раймунд, граф трыпалійскі, саступіў яго ерусалімскім янітам.

Чым быў замак у тую эпоху? Гэта – пытанне, на якое немагчыма адказаць. Мы ведаем толькі, што яму давялося зведаць шмат разбурэнняў ад некалькіх землятрусаў, асабліва ў 1157, 1169 і 1202 гг., і патрэбна ічыць, што з нагоды апошняга землятрусу Калаат Эль-Гасі давялося амаль цалкам перабудаваць і прывесьці ў той выгляд, у якім мы знаходзім яго зараз, так што гэтае ўмацаванне дапасуецца не раней як да XII стагоддзя.

Пасьля саступкі янітам, кіраванне Кракам было даручана кастэлянам іхнага ордэна, і нам паведамляюць, што яго сталы гарнізон пры іх складаўся із 2000 чалавек.

Узгорак, на якім узвышаецца Крак Рыцараў, мае вышыню амаль 300 метраў над узроўнем даліны, адлучаючай яго ад суседніх гор. Умацаванне мае дзьве сьцяны, аддзеленыя адна ад другой шырокім ровам, збольшага напоўненым вадой. Другая сьцяна, утвараючы рэдут, пануе над першай і над усімі яе ўмацаваннямі; яна змяшчае ў сабе службы замка: вялікую залу, капліцу, асобныя памяшканні, каморы і г.д. Доўгая накрытая галярэя са скляпеннямі, зручная для абароны, з'яўляецца адзіным уваходам ва ўмацаванне. На ўсіх месцах, дзе адхоны не ўяўляюць вялікай перашкоды для нападаючых, размешчаны грозныя валы і вежы.

Першую лінію, на поўначы і на захадзе, утвараюць курціны[119], злучаючыя паміж сабай закругленыя вежкі з галярэяй і з вартаўнічымі ўзвышэннямі; гэтыя ўзвышэнні замацаваны на кансолях, утвараючых на большай частцы акружнасьці ўмацавальнай сьцяны сапраўднае цэментаванне із камянёў. Верхняя частка будынка ўяўляе вялікае падабенства з першымі парапетамі, забяспечанымі вартаўнічымі ўзвышэннямі і з'явіўшыміся ў Францыі пад час валадарання Піліпа Адважнага. Яны захаваліся, напрыклад, і на сьценах Aigues-Monts, і ў замку Mondbard у Бургундыі.

Над гэтым першым шэрагам умацаванняў працягваецца банкет, аблямаваны зубчатым парапетам з амбразурамі ў цэнтры кожнага мерлона. Тут мы сустракаемся са звычаем, якога паўсюдна прытрымліваліся ў Яўропе пры

[119] Курціна – частка ўмацавальнай сьцяны, размешчаная паміж двума бастыёнамі

вайсковых пабудовах у XII і XIII стагоддзях: вежкі пануюць над курцінай, і ўсходы із некалькіх прыступак вядуць ад дазорных сьцежак на платформы.

Кожная вежа утрымлівае ў сабе залу, у якую сьвятло пранікае праз амбразуры, а ў курцінах ідуць праз правільныя прамежкі вялікія нішы са скляпеннямі, маючымі востры кут на вяршыні. У глыбіні іх уладкаваны памяшканні для арбалетаў з круцячыміся ручкамі і іншых падобных вайсковых прылад.

У Францыі пачынаючы ад першай паловы XIII стагоддзя гэтыя ўмацаванні, мала ўзвышаўшыяся над узроўнем глебы, ужо больш не ўжываліся, таму што мелі той недахоп, што пазначалі для нападаючых найбольш слабыя месцы сьцяны. І ў Краку Рыцараў іх знаходзяць толькі на тых баках умацавання, якія завяршаюць сабой крутыя схілы, і, такім чынам, былі абаронены ад уздзеяння машын, тым часам як на поўдні сьцены масіўныя па ўсёй сваёй даўжыні.

Вежка, якая знаходзіцца ў паўночна-заходнім куце першай агароджы, забяспечана акругленай пабудовай каля 4 метраў вышыні. Хутчэй усяго, гэта была падстава ветрака, калі рабіць высновы грунтуючыся на сучаснай арабскай назве – вежа млына, таксама як і на крагштэйнах, на якія абапіраліся слупы і клямары, падтрымліваўшыя гэтую, напэўна, драўляную пабудову.

Уваход у замак зроблены праз срэльчатую браму, наверсе якой віднеецца паміж двума ільвамі сапсаваны надпіс, высечаны згодна з загадам султана Малек-эд-Дагер-Бібарса пасьля аблогі ў 1271 г., перадаўшай Крак пад яго ўладу. Вось гэты надпіс:

> *У імя Бога міласьцівага і літасьцівага! Аднавіць гэты благаслаўлёны замак было загадана пад час валадарання нашага гаспадара султана, магутнага цара, пераможнага, справядлівага абаронцы веры, ваяра, падтрымліваемага богам, заваёўніка, апякаемага перамогай, падстававага каменя міру і рэлігіі, бацькі перамогі, Бібарса, таварыша эміра прававерных, і гэта было ў сераду...*

Скляпеністы ўваход, утвараючы нахіляючуюся галярэю, дастаткова пакатую для таго каб быць даступнай вершнікам, пачынаецца ад вестыбюля, які займае падставу выступа і вядзе ў абедзьве агароджы. Гэтая галярэя ўяўляе сабой сістэму перашкод, нагрувашчаных з дробязнай стараннасьцю, – вельмі цікавы ўзор усходне-франкскага вайсковага майстэрства ў Сірыі ў XIII стагоддзі.

Наведвальнік, пераступіўшы парог, бывае здзіўлены веліччу, якую ўяўляе сабой пустое нутро ўмацавання.

Направа размяшчаецца крыты вестыбюль, спалучаючыся з капліцай.

З другога боку двара і амаль насупраць капліцы – вялікая зала – вытанчаная пабудова, відаць, сярэдзіны XIII стагоддзя. Па ўсёй яе даўжыні працягваецца галярэя, у форме кляштарскіх пераходаў, утвораная шасьцю малымі пралётамі; чатыры із іх замыкаюцца аркадамі выдатнага стылю. Ліштвы двух маленькіх дзьвярэй, праз якія гэтая галярэя спалучаецца з вялікай залай, упрыгожаны каштоўным разьбярным вырабам, спускаючымся на дзьве калонкі, а на падтрымліваючых іх слупах із суцэльнага каменя бачны парэшткі гербавых шчытоў.

Што да ўласна залы, то яна складаецца із трох вялікіх пралётаў і яго памеры пасярэдзіне пабудовы каля 25 метраў даўжыні і 7 метраў шырыні. Падвойныя аркі і стрэлкі скляпення абапіраюцца на кансолі, упрыгожаныя лісьцем і фантастычнымі фігурамі. Здаецца, што і яшчэ адзін паверх, зараз разбураны, дапаўняў гэты будынак і быў заменены потым арабскімі сядзібамі, пабудаванымі на скляпеннях. Вялікае вакно, над якім заўважаюцца круглыя акенцы – на поўначы, такое ж на

поўдні, і два вакны, выходзячыя на ўсходні бок пабудовы, асьвятлялі ўнутраную частку гэтай пабудовы.

На адный із бакоў каптрфорса выразана прыгожымі літарамі двухрадкоўе:

Sin tibi copia, sit sapieutia formaque detur
Inquinat omnia sola superbia, si conitetr[120].

Цікава, што гэта напісана не толькі вельмі правільным дактылем, але нават і з рыфмай.

Потым умацаванне Крак, дзякуючы якому яніты больш за стагоддзе панавалі над султанатам Гемах, патрапіла ў рукі ягіпецкага султана ў 1271 г. Вось паведамленне пра яго заваёву, у тым выглядзе, як яно знаходзіцца ў Ібн-Ферата:

«*Султан прыбыў да Гасан-эль-Акрад; 20-га дня былі захоплены прадмесьці замка, і прыбыў туды ж са сваім войскам султан Гамаха Мелік-эль-Мансур. Султан выправіўся верхам да яго насустрач, злез з каня і пайшоў пад яго сьцягамі. Эмір-Саіф-Эддзін, валадар Сагіюна, і Неджэм-Эддзін, правадыр ізмаільцян, таксама далучыліся да яго. Пад час апошніх дзён рэджэба былі наладжаны машыны. 7-га шаабана было захоплена прыступам перадавое ўмацаванне. Для султана наладзілі пляцоўку, адкуль ён кідаў стрэлы. Ён раздаваў ваярам грошы і ганаровае адзенне. 17-га шаабана была праламана адна із веж; мусульмане пайшлі на прыступ, прайшлі ў замак і захапілі яго. Частка французаў адступіла на вяршыню замка, а іншыя французы і хрысьціяне былі прыведзены да султана, які адпусьціў іх на волю праз павагу да свайго сына. Ва ўмацаванне перанесьлі машыны і наладзілі іх супраць узгорка. У той жа час султан напісаў падроблены ліст ад імя франкскага камендanta ў Трыпалі, з прапановай тым, хто быў у замку, здаць яго.*

*Тады яны здаліся на капітуляцыю, было захавана жыццё гарнізону пры ўмове вяртання ў Яўрапу*»[121].

Такім з’яляецца ўладкаванне і такой гісторыя адной із рыцарскіх пабудоваў у Заходняй Азіі. Прыведзены малюнак дастаткова паказвае нам агульную канструкцыю лацінскіх умацаваняў на сірыйскім узбярэжжы ў XIII ст. Ён, акрамя таго, паказвае нам на якія вялізныя пабудовы былі матэрыяльна і тэхнічна здольны заходне-еўрапейскія феадалы нават у такіх аддаленых месцах, але ён, вядома, не дае нам ніякага ўяўлення пра іхныя рэлігійныя і грамадзкія пабудовы. Архітэктура гэтых апошніх заўсёды была іншай (мал. 162 і 163). І калі замак «Крак» нагадвае нам сваімі бастыёнамі Петрапаўлаўскае ўмацаванне на берагах Нявы, то мы павінны чакаць, што і рэлігійныя пабудовы «латынянаў» будуць нагадваць нам, з аднаго боку, Ісакаўскі і Казанскі саборы з іхнымі каланадамі, а з другога – звычайныя цэрквы, цалкам без калон, але таксама разнастайныя: то са шпічамі, як Петрапаўлаўскі сабор, то з цыбуляпадобнымі головамі, як Александра-Неўская Лаўра і інш. Разнастайнасць стылю і матэрыяльнай структуры храмаў і грамадзкіх будынкаў у грэцкіх і сірыйскіх краінах не можа супярэчыць адной і той жа эпосе іхнай пабудовы, як не супярэчыць гэтаму і разнастайнасць такіх жа пабудоваў у былой сталіцы рускіх імператараў.

[120] Хай будзе ў цябе багацце, мудрасць і хай будзе дадзена табе хараство: усё знішчае адна ганарыстасць, калі яна суправаджае гэтыя якасьці.

[121] C. Rey: «Etude sur les monuments de l'architecture militaire des Croises en Syrie et dans l'ile de Chypre». 1871.



Мал. 162
Парэшткі храма паміж Дамаскам і ракой Еўфрат.



Мал. 163
Унутраны выгляд часткі парэшткаў таго ж храма, як і на мал. 162, у аазісе паміж Дамаскам і Еўфратам у Сірыі (згодна з фотаздымкам).

Парэшткі велічнага храма еўрапейскага стылю каля беднай вёсачкі ў аазісе ў Сірыі на караванным шляху на палове адлегласьці паміж горадам Дамаскам і ракой Еўфрат (240 кіламетраў ад першага і 140 ад другой). Дзіўная пабудова еўрапейскага стылю, якая

лічыцца за храм Сонца ў легендарнай Пальміры, «сталіцы легендарнай царыцы Зенобіі, меўшай намер скарыць Рым».

Такія будынкі маглі быць пабудаваны пасярод некультурнай згодна з прыродай мясцовасьці толькі магутнымі валадарамі заможнай і вялізнай еўрапейскай краіны пад час перыяду развіцця ў ёй грашовай гаспадаркі ў металічнай валюце, што даходзіла да гэтых месцаў, і не раней крыжовых паходаў, калі ў асяроддзі фантазіруючых каралёў і каралеў Заходняй Яўропы, фанатызаваных каталіцкім сьвятарствам і не ведаўшых куды дзець назапашанае золата і срэбра, з'явілася манія ездзіць у аддаленыя месцы і будаваць шыкоўныя храмы і кляштары ўсёбачачаму богу менавіта ў аддаленых пустынях, на здзіўленне няверуючым дзікунам і дзеля праслаўлення свайго імя да краёў сьвету. Яны і не падазравалі ў сваёй наіўнасьці, што як толькі іхныя дзеці перастануць пасылаць туды сродкі на ўтрыманне штата служак, так яны і абезлюдўеюць і будуць разрабаваны.

Да заснавання ў Сірыі Готфрыдам Бульёнскім Ерусалімскага крыжацкага каралеўства (ад 1099 да 1187), як згодна з тэхнічнымі, так і з дзяржаўна-эканамічнымі меркаваннямі тут не магло быць пабудавана нічога падобнага. Толькі парэшткі ўмацавання (каля гэтых будынкаў іянічнага тыпу) могуць належаць ранейшаму часу.

Для нас тут важна толькі адно: заходне-еўрапейскія феадалы, перасяліўшыся пад падставай «вызвалення труны госпада» ў Сірыю, а потым і бліжэй у Грэцыю і набыўшы сем’і і ленныя ўладанні, сапраўды мелі сродкі і магчымасць стварыць тыя велічныя пабудовы, якія мы там знаходзім. Тасканскія архітэктары прынесьлі туды тасканскі архітэктурны стыль, а із яго, пад уплывам мясцовых умоваў, іншыя заходне-еўрапейцы, запрошаныя да двароў мясцовых феадалаў, стварылі і складанейшыя структуры з дарычнымі, іянічнымі і карынфскімі калонамі. Тэўтонскія канструктары прынесьлі стыль берагоў Рэйна, а французкія – стыль поўначы і поўдня Францыі, ці спрабавалі пабудаваць грунтуючыся на стварэннях свайго ўяўлення тое, што, як ім здавалася, было ў Грэцыі да пачатку нашай эры.

А да пачатку нашай эры тут нікаму і не снілася нічога падобнага...

# Глава III.

## Храналогія грэцкага ўсходу да турэцкага валадарання.

У папярэднічаўшым выкладанні я ўжо паказаў, што цырк, царква і тэатр аж да Эпохі Адраджэння яшчэ не дыферэнцыяваліся адно ад другога. Як перажытак гэтага мы назіраем і зараз тое што ўсе царкоўныя сьвяты суправаджаюцца народнымі забавамі і відовішчамі, хаця б ўжо і не ў тым жа самым будынку. Ды і ушаноўваюць зараз не ўсіх сярэднявечных багоў. Некаторыя із іх аб'ядналіся ў выглядзе «тройцы аднасутнай і непадзельнай», а іншыя аперцэпцыйна распаліся на цэлую сістэму анёлаў, дэманаў, херувімаў, серафімаў і напаловубагоў, маючых назву сьвятыя.



Мал. 164
У што ператварыўся біблейскі бог – Савааф у аперцэпцыі мастакоў пярэдадня эпохі гуманізму пад імем бога Марса (абодва найменні азначаюць: бог ваяроў). Мал. на вазе.



Мал. 165
Грэцкая Багародзіца (Дэметра), прыпісваемая паганскай старажытнасьці; але ў рэчаіснасьці грэцкая каталіцкая Мадонна рыцарскага перыяду.

Так грэцкі Хронас – бог Часу, пажыраючы сваіх дзяцей, у заходне-еўрапейцаў набыў назву Сатурн, у жыхароў Ягіпта і Сірыі – Шайтан-Сатана і ў астролагаў атаясаміўся з найбольш павольна рухаючайся планетай. Біблейска-хрысьціянскі Іеве (згодна з грэцкім вымаўленнем Ягова), з'яўляўшыся тым жа самым богам, як і Ёвіс-Патар, скарочана Юпітар (г.азн. Ягова-Бацька), спачатку лічыўся ў якасьці сына Хронаса-Часу і ўвасобіўся ў астролагаў у самай раўнамерна-яркай планеце, але пазнеў набыў нейкім чынам атрыбуты належачыя спачатку Сонцу, г.азн. громавывяржэнне, і ў сваю чаргу ператварыўся, скасаваўшы царства Сатурна, у бацьку ўсіх іншых богаў і людзей. Заходне-еўрапейскі Марс быў спачатку тоесны з біблейска-хрысьціянскім богам Саваафам, само імя якога ў перакладзе азначае: бог ваяроў, і толькі хітрасць тэолагаў Эпохі Адраджэння падзяліла гэтага бога, сімвалізаваўшагася спачатку тою ж самай чырванаватай планетай (мал. 164). Грэцкі бог Эліяс тоесны з біблейскім богам Эль, да якога, згодна з евангельскім паданнем, заклікаў Езус на слупе: «Элі, Элі! Лама савахтані», г.азн.: «Божа, божа! Навошта ты пакінуў мяне!» Гэта, відавочна, той жа бог як і ізмаэліцкі Ала, і адсюль жа бярэ пачатак і громавывяргаючы прарок Ілля. Багіня Дыяна (г.азн. Боская) спачатку атаясамлялася з Боскай Маці, Дэметрай па-грэцку (мал. 165), і ўвасаблялася ў Месяцы. Люцыфер (Светаносны, як раней звалі планету Венеру, г.азн. Ушаноўвамую), атаясамляўся з арханёлам Міхалам (г.азн. Богападобным), а Меркурый – вястун богаў – з арханёлам Гаўрыілам, паведаміўшаму Панне пра нараджэннэ ад яе боскага сына і г.д.



Якой была каталіцкая Мадона ў аперцэпцыі ваяўнічага грэцкага мастака часоў крыжовых паходаў. Лічыцца класікамі за паганскую Афінскую Панну (Афіну Партэнас). Знойдзена ў 1880 г.

Мал. 166

Само сабай зразумела, што ўся гэтая генеалогія богаў не ўяўляе сабай зараз нечага стройнага, сістэматызаванага, таму што яна развівалася самабытна ў розных мясцовасьцях, і памножыўшыяся, як інфузорыі, з дапамогай дзялення багі пазней пачалі ўтвараць адзін з другім мудрагелістыя спалучэнні, аж да эпохі друкавальнага стану, ўпершыню сфарміраваўшай у розных краінах аднастайныя ўяўленні пра іх.

Такі пагляд на паходжанне сучасных богаў, анёлаў і дэманаў і шматлікіх напаловубагоў, вядомых пад найменнем “сьвятыя”, вядома, моцна адрозніваецца ад вучэння сучаснай артадаксальнай тэалогіі, пераносячай пачатак сучаснага хрысьціянства да першага стагоддзя нашай эры, а «класічнае паганства» яшчэ далей. Таму мне і давялося ў цэлых трох папярэднічаўшых тамах абгрунтоўваць справядлівасць сваіх поглядаў разнастайнымі прыродазнаўча-навуковымі падыходамі да пытання. Але я цалкам разумею, што мала даказаць немагчымасць узнікнення класічнай літаратуры і класічных руін (а таксама і старажытных хрысьціянскіх вялікіх кніг) раней сярэдніх стагоддзяў, патрэбна паказаць, акрамя таго, калі ж гэта ўсё менавіта магло адбыцца?

І тут зноў мне даводзіцца аспрэчваць глыбока ўкаранеўшаяся ўяўленне пра сярэднія сагоддзі, як пра эпоху закаснеласьці, застою і нават зніжэння паўднёва-еўрапейскай культуры. У наступным томе я дам грунтоўныя нарысы культурнай гісторыі Рыма і Афінаў пад час сярэдніх стагоддзяў і Эпохі Адраджэння, а тут я магу, з нагоды недахопу месца на прыкладзе самага схематычнага абрысу паказаць, што найвышэйшае развіццё культурнага жыцця на грэцкім Усходзе існавала ніяк не пад час старажытнасьці, а на працягу XI-XIV стагоддзях нашай эры, калі найбольш адукаваныя станы лацінскага Захаду і грэцкага Ўсходу аб’ядналіся на парэштках Візантыйскай імперыі.

З нагоды немагчымасьці даць поўны нарыс грэцкай гісторыі ў гэтай кнізе з новага боку гледжання, я дадаю тут толькі яе храналагічны канспект пераліку валадароў, грунтуючыся на якіх усе старажытныя дакументы пазачаюць адбываючыяся падзеі, і абмяжуюся толькі, кароткімі характарыстыкамі эпох. Грунтуючыся на гэтай схеме я буду больш грунтоўна распрацоўваць гэтае пытанне ў наступны томе свайго дасьледавання.

* * *

ПЕРШЫ ПЕРЫЯД.

Візантыя ад з'яўлення Апакаліпсіса ў 393 годзе да заснавання лацінскай феадальнай мазаікі на Блізкім Усходзе ў 1204 годзе.

A.

Храналагічныя вехі

Гісторыя даевангельскага апакаліптычнага хрысьціянства з верагоднымі, статуямі ў хрысьціянскіх храмах і з ушанаваннем Сонца, Месяца, планет і сузор'яў Задыяка, як падначаленых багоў ці анёлаў (напаловупаганскае хрысьціянства).

Эпоха пабудовы пірамід у Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі на берагах Ніла.

Аркадзь, сын імператара Хвядоса I, 395-408г. Хвядос II, яго сын, 408-450. Пульхерыя, яго сяэтра, 450-453. Маркіян, родам фракіец, яе члавек, 450-457. Леў I Вялікі, 457-474. Зянон, яго зяць, родам із Ісаўрыі Малаазійскай, 474-491 (яго супернікі: сын Леў II – 474, шурын Ільва I Васіліск, г.азн. царок), 474-476. Грэк Лявонцій, 485-488. Анастас I, зяць Ільва I, 491-518.

B.

Храналагічныя вехі

Стагоддзе Юстынаў (Албанскай гегемоніі) і ўзнікненне грамадзянскага права (corpus juris civilis), напэўна, роднаснае з біблейскім Другазаконнем.

Эпоха пабудовы храмаў на візантыйскіх тады берагах Нілу ў дэндэрскім і карнакскім стылі. Іерагліфічнае малярства ў Ягіпце і пачатак клінапісу ў Месапатаміі[122].

Юстын I, 518-527. Юстыніян I, яго пляменнік, 527-565. Юстын II, яго пляменік, 565-578. Пры іх паўночная Італія, забраная ў германцаў (ост-готаў), была далучана да Візантыі пад найменнем Равенскі экзархат, гэтак жа як і Паўднёвая Гішпанія, забраная ў вандэйцаў (вандалаў), пад найменнем Карфаген[123]. Тыверый I, 578-582. Маўрыкій, яго зяць, 582-602. Фака, 602-610.

C.

Храналагічныя вехі.

Ўзнікнення і развіццё адзінабожжа (мусульманства і месіянства). Далучэнне да іх Гішпаніі, Ягіпта, Сірыі.

Гераклій I, 610-641. Гераклій II (Кастусь III), 641. Геракліён, яго брат, 641-642. Кастусь IV, сын Геракля II, 642-668. Кастусь IV Паганат (г.азн. паганец), яго сын, 668-685. Юстыніян II, яго сын, 685-711 (яго супернікі: Лявонцій, 695-698, і Тыверый III 798-705). Філіпік-Вардан, 711-713. Анастас II, 713-716. Феадосій III, 716-717.

D.

Храналагічныя вехі

[122] Усё мае астранамічныя вылічэнні клінапісаў і іерогліфаў далі сярэднія стагоддзі, як будзе паказана ў VI томе.

[123] Грунтуючыся на геаграфічных і стратэгічных меркаваннях я лічу немагчымым размяшчаць вандальскі (г.азн. вандэйскі Карфаген) не ў гішпанскай Картахене, а ў Тунісе, як гэта робяць да гэтага часу.

Змаганне супраць статуй і чалавечых выяваў у храмах (візантыйскае іканаборства, напэўна, пад уплывам мусульманства і месіянства, узнікшых і сфармаваўшыхся ў сувязі адзін з адным не раней VII стагоддзя нашай эры). Пачатак евангельскага хрысьціянства.

Леў III, малаазіец, 717-741. Кастусь V Капранім (г.азн. Гаўнюк), яго сын, 741-775, пры якім іканаборчы сабор прыняў рашэнне знішчыць статуі і, відаць, знішчыць малярства ў храмах згодна з узорам едзінабожнікаў мусульманаў і месіянцаў. Леў IV, яго сын, 775-780. Кастусь VI, яго сын, 780-797, склікаўшы сусьветны сабор у Нікеі. Ірына, яго маці, 797-802, пры якой часова адноўлена храмавае малярства і скульптуры. Нічыпар I, 802-811. Стаўратны (г.азн. Слупны, Крыжовы, ці не пры ім уведзена глыбокае ўшанаванне крыжа?), сын Нічыпара, 811-812. Міхал I, яго шурын, 812-813. Леў V, 813-830. Міхал II, 820-829. Феафіл, 829-842.

E.

Храналагічныя вехі

Канчатковае аднаўленне малярства у візантыйскіх храмах. Разрыў з мусульманствам і месіянствам і з'яўленне Македонскай дынастыі (867-1056 гг.).

Верагодны час пабудовы ў Канстантынопалі храма Мудрасьці (Сафіі); згодна з законамі натуральнай (а не звыш-натуральнай, як у сучасных тэолагаў) эвалюцыі архітэктуры, гэты храм наўрад ці мог быць пабудаваны раней, чым пры Кастусю Парфірародным (912-959), ці нават пры Кастусю Манамаху (1042-1054) і толькі дзякуючы падабенству імёнаў дапасаваны да напаловулегендарнага Кастуся Вялікага дакладна так жа, як і шматлікія італьянскія пабудовы прыпісваемыя Адрыяну, хутчэй усяго пабудаваны пры папе Адрыяне, таксама цару-цароў.

Фядора, удава Феафіла, і яе брат Варда, кіраваўшыя за непаўналетняга Міхала III, 849-867. Васіль I, родам македанянін, 867-868, (яго супернік: сын Кастусь VII. 868-878). Леў VI Філосаф, яго сын, 886-912. Кастусь VIII Парфірародны, сын Ільва VI, 912-959 (яго суваладары: цесць Раман I Лекапен, 919-948; і швагры: Хрыстафор, 919-931, Кастусь, 923-945, і Стэфан, 945-959). Раман II, яго сын, 959-963. Нічыпар II Фака, 963-969. Ян I Цымісхій, 969-976. Васіль III, сын Рамана II, 976-1025. Кастусь IX, яго брат, 1025-1028. Раман III, яго зяць, 1028-1034. Міхал IV, другі чалавек Зоі, удавы Рамана III, 1034-1041. Міхал V, яго пляменнік, 1041-1042. Кастусь XI Манамах, трэцці чалавек Зоі, 1042-1054.

F.

Храналагічныя вехі

Аддзяленне візантыйскай царквы ад лацінскай непагадняючыся з яе статуямі (1054 г.). Заканчэнне Македонскай дынастыі. Дынастыя Камнінаў (1057-1204 гг.).

Фядора II, сястра Зоі, 1054-1056. Міхал VI, 1056-1057. Ісак I Камнін, 1057-1059. Кастусь X, яго сын, 1059-1067. Кастусь XI і Андронік I, яго сыны, 1067. Міхал VII, 1067-1078 (яго суваладар: бацька Раман IV Дыяген, 1068-1071). Нічыпар III, 1078-1081. Аляксей I, пляменнік Ісака I, 1081-1118. Ян I, яго сын, 1118-1143. Эмануіл I, яго сын, 1143-1180. Аляксей II, яго сын, 1180-1183. Андронік II, пляменнік Яна, 1183-1185. Ісак II, Анёл, праўнук па бабцы Аляксея I, 1185 (выгнаны 1195, вярнуўся 1203, памёр 1204; яго супернікі: Аляксей III, 1191; брат Аляксей IV, 1195-1203 і сын Аляксей V, 1203-1204). Аляксей VI Дзюка і Мікалай Канаб, 1204.

Гэта былі апошнія візантыйскія імператары.

ДРУГІ ПЕРЫЯД.

Лацінская феадальная мазаіка на грэцкім Усходзе ў XIII-XV стагоддзях нашай эры да магаметанскага заваявання.

У 1204 назаўсёды знікла Візантыйская імперыя, бо ўся Балканская паўвыспа і частка Малой Азіі былі заваяваны каталікамі Заходняй Яўропы падчас чацьвёртага крыжовага паходу, які быў накіраваны не супраць мусульманаў, «валодаўшых псеўда труной госпада», а супраць праваслаўных візантыйцаў, як выяўляецца пры безстароннім вывучэнні справы. Гэта было змаганне Ўсходу і Захаду за рэлігійную гегемонію, накшталт Фукідывага, і мусульмане толькі пазней выкарысталі разлад, каб вымавіць сваё рашучае слова. Згодна з дамовай, заключанай у сакавіку 1204 года паміж венецыянскім дожам Энрыка Ландале, графам Балдуінам Фландрскім, маркізам Баніфацыям Манферацкім і іншымі правадырамі каталікоў-крыжакоў, было дэкрэтавана, што із уладанняў былой Візантыйскай імперыі ўтвараецца з гэтага часу і навечна Феадальная дзяржава федэратыўнага тыпу, набыўшая няправільную назву Лацінская імперыя.




Мал. 168
Грэцыя, Архіпелаг і грэцкае ўзбярэжжа Малай Азіі.

Абіраемы дваранствам і феадаламі згодна з тым жа ўзорам, як пазней у польскай Рэчы Паспалітай, пажыццёвы прэзідэнт-імператар атрымаў чацьвёртую частку зямель імперыі і частку Канстантынопаля, а астатнія тры чвэрці былі падзелены напалову паміж венецыянцамі і феадальнымі баронамі-крыжакамі. Абранне «лацінскага (каталіцкага) патрыярха» павінна было здзейніцца сьвятарствам таго згуртавання крыжакоў, із якога не будзе абраны імператар, каб захавалася незалежнасць абодвух.

На гэтых падставах 9 траўня 1204 года граф Балдуін Фландрскі быў абраны лацінскім імператарам, а каталік Тамаш Маразіні із Венецыі – лацінскім патрыярхам згодна з выбарам венецыянскага сьвятарства. Ён і памазаў у перайшоўшым да яго храме Св. Мудрасьці (Сафійскім саборы) графа Балдуіна на пасаду імператара Усходняй Феадальнай лацінскай імперыі і каранаваў яго згодна са звычаем візантыйскай царквы, ажыццявіўшы такім чынам адмысловую ўнію абедзвюх палавінак раскалоўшайся царквы.

Граф Балдуін, акрамя часткі Канстантынопаля, атрымаў частку Фракіі і выспы: Лесбас, Хіяс, Самас, Кос і Самафракію, і гэта частка захавала назву Раманея. Маркіз Баніфацый Манферацкі атрымаў Салунскую вобласць з Македоніяй і Фесаліяй з тытулам караля. Венецыянскія правадыры крыжакоў атрымалі частку Канстантынопаля і з ёю частку Фракіі ад Адрыянапаля да берагоў Прапандыты, а таксама і тую частку Іянійскага і Адрыятычнага ўзбярэжжа, якая распасьціраецца ад Этоліі да Дураца. Да іх жа адышлі Крыт, Эўбея, Іянічныя выспы, вялікая частка Кікладзкіх і некаторыя са Спорадзкіх выспаў.

Астатнія правадыры крыжакоў атрымалі розныя гарады і вобласьці, як у Еўрапейскай частцы гэтай феадальнай дзяржавы, так і ў Малой Азіі, як васалы лацінскага імператара ці як васалы караля Салунскага, які ў сваю чаргу лічыўся васалам лацінскага імператара. Землі праваслаўных кляштароў былі канфіскаваны і аддадзены ў леннае карыстанне заходнім рыцарам, а свецкія грэцкія землеўладальнікі, прызнаўшыя лацінскага імператара, былі абвешчаны яго леннікамі з захаваннем ранейшых валоданняў.

Патрыёты праваслаўя збеглі ў Малую Азію, дзе і заснавалі Нікейскую імперыю пад кіраўніцтвам патрыярха Міхала Аўтарыяпа (1206 г.), які ўрачыста каранаваў Хведара Ласкарыса імператарскай каронай.

Вось храналогія гэтага цікавага перыяду гісторыі Блізкага Ўсходу:

A.

Храналагічныя вехі

Грэка-лацінскай псеўда-імперыі Балдуіна з Канстантынопалем як рэзідэнцыяй.

Яе імператарамі былі:

Граф Балдуін, першы імператар (ад 1204 да 1206 гады).

Генрых (ад 1206 да 1216 года).

Пятро Куртэнэ (ад 1214 да 1220 года).

Піліп (ад 1220 да 1228 года).

Роберт (ад 1228 да 1261 года).

Балдуін II да 1261 года.

Пры ім Канстантынопаль быў захоплены нікейскім імператарам, і гэтая частка лацінскай імперыі зноў набыла назву Візантыя, хаця б і не заходзячы далёка за межы Канстантынопальскай акругі ў Яўропе.

V.

Храналагічныя вехі

Нікейскай псеўда-імперыі ў Малой Азіі і(да) перанясенні яе сталіцы назад у Канстантынопаль.

Фёдар I Ласкарыс Нікейскі, зяць Аляксея IV, ад 1204 да 1222 года.

Ян III Дука, Нікейскі, яго зяць, ад 1222 да 1255 года.

Фёдар II, яго сын, ад 1255 да 1259 года.

Ян IV, яго сын, 1259, выгнаны ў 1260.

Гэта быў апошні із нікейскіх імператараў: 15 жніўня 1261 года яго наступнік Міхал Палеолаг захапіў назад Канстантынопаль і пераехаў туды. Атрымаўся як бы пасьляпадзельны апендыкс наступных сямі псеўда-візантыйскіх імператараў:

Міхал VIII Палеалаг ад 1261 да 1282 года.

Андронік II, яго сын, ад 1282 да 1323 года.

Андронік III, яго ўнук, ад 1328 да 1341 года.

Ян V, яго сын, ад 1341 да 1391 года (яго супернікі: Ян VI Кантакузін, 1341-1355, і яго сын Мацвей, 1355-1358).

Эмануіл II, яго сын, ад 1391 да 1426 года (яго супернік: пляменнік Ян VII, 1399-1402).

Ян VI, яго сын, ад 1425 да 1448 года.

Кастусь XII, яго брат, 1449-1453,

апошні Канстантынопальскі імператар. Пры ім Канстантынопаль захапілі мусульмане, і гэты пасьляпадзельны апендыкс ранейшай Вялікай Візантыі быў скасаваны. А адначасна з гэтым і пасьля пераходу ў Канстантынопалі улады да мусульманаў яшчэ працягвалі шчасліва існаваць і нават квітнець на Балканскай паўвыспаве і на Грэцкім архіпелазе латынізаваныя рыцарскія феадальныя дзяржавы, для гісторыі якіх я тут таксама даю толькі храналагічныя вехі.

C.

Храналагічныя вехі

Гісторыі княства Ахейскага, ахопліваўшага больш чым дзьвесьце гадоў амаль увесь Пелапанэс (ад 1205 да 1452 гг.).

Яго князямі былі:

Вільгельм Шампліт (Guillaum Champlite) з 1205 года.

Жафруа I Вілегардуэн (Geoffroy de Villehardouin) з 1210 года.

Жафруа II, Вілегардуэн з 1218 года.

Вільгельм Вілегардуэн з 1246 года.

Карл I Анжуйскі (Charles I d'Anjou) з 1278 года.

Карл II Анжуйскі з 1285 года.

Ізабэла Вілегардуэн (Isabella de Villehardouin) з 1289 года.

Піліп I Таронцкі (Philipp I de Taranto) з 1307 года.

Матыльда Гэно (Matilda de Hainault) з 1313 года.

Ян Гравінскі (Jean de Gravina) з 1318 года.

Кацярына Валуа (Catherine de Valois) з 1333 года.

Роберт дэ Таранта (Robert de Taranto) з 1346 года.

Марыя Бурбонсная (Marie de Bourbon) з 1364 года.

Піліп II Таронцкі з 1370 года.

Яна Неапалітанская (Jeanne de Naples) з 1374 года.

Атон Браўншвейгскі з 1376 года.

Пасьля гэтага ў Ахаі панавалі рыцары ордэна Св. Яна, ад 1377 да 1381 года, і, потым, зноў:

Жак дэ Бо (Jaques de Baux) з 1381 года.

Магіо дэ Кокерэль, вікарый (Mahio de Coquerel), з 1383 года.

Бардо дэ Сэн-Суперан (Bordo de S. Superan) з 1386 года.

Марыя Закарыа (Maria Zaccaria) з 1402 года.

Цэнтурыён Закарыа з 1404 па 1432 год.

* * *

Такім чынам, Ахейскае феадальнае княства, ахопліваўшае амаль увесь Пелапанэс, існавала пад культурным еўрапейскім уплывам і пратэктаратам Заходняй Яўропы ў якасьці аўтаномнага на працягу 227 гадоў, і яго валадары мелі дастаткова часу для пабудовы на свае мясцовыя прыбыткі і на сваю еўрапейскую рэнту паўсотні «класічных» будынкаў, размешчаных зараз у Ахаі ў разбураным

выглядзе, якія з новага боку гледжання патрэбна дапасаваць не да дахрысьціянскай старажытнасьці, а да мясцовых лацінскіх пабудоваў XIII-XIV стагоддзяў нашай эры, разбураных, дзякуючы каталіцкім статуям, праваслаўнымі пасьля ліквідацыі каталіцызму ў Марэі ў 1432 годзе нашай эры.

«Ахейскі князь, – сведчыць Вільям Мілер[124], – не быў самаўладцай, а толькі першым сярод роўных, воля якога была абмежавана феадальным кодэксам, ці, лепш сказаць, жывым увасабленнем гэтага кодэкса – ганарлівым і магутным баронствам. І яшчэ больш паслабляла яго ўладу адсутнасць «салічнага закону» не дазваляўшага перадачу спадчыны жанчынам, існаваўшым толькі ў Наксоскім герцагстве пры дынастыі Крыспа. Дзякуючы гэтаму шмат якія із самых значных графстваў і баронстваў, і нават княстваў часта пераходзілі пад уладу маладых жанчын.



Мал. 169
Архаічны рэльеф, знойдзены паблізу мястэчка Спартэ ў Марэі. Напэўна, дарункі, падносімыя селянкамі іхным герцагіням.

[124] William Miller: «The Latins in the Levant», стар. 55.



Мал. 170
Выгляд гары, лічымай за атычны Парнас (з Ахейскага берага).

Мала было выпадкаў у гісторыі, калі б жанчыны набывалі ў кіраванні такую вялікую ролю, як тут. Аднойчы, калі амаль усе бароны Ахаі загінулі на полі бітвы ці патрапілі ў палон, лёс княства быў вырашаны галасаваннем амаль адных іхных жонак і дачок, і гэты жаночы ўплыў, спрыяючы тут моцнаму развіццю рыцарскага рамантызму, мала спрыяў прэстыжу вярхоўнай улады».

Ніжэйшы пласт вясковага насельніцтва складаўся амаль выключна із прыгонных грэкаў, хаця большасць із былых грэцкіх землеўласнікаў і гараджан захавалі свае правы нароўні з латынянамі. Аналагічнае адбывалася і ў іншых частках гэтай дзяржаўнай мазаікі: стварылася атмасфера, вельмі спрыяльная для літаратурнай творчасьці і будавання падобных таму, што мы і назіраем на прыкладзе грэцкіх класічных пісьменнікаў і парэштках пабудоваў.

D.

Храналагічныя вехі

Гісторыі герцагства Афінскага, квітнеўшага больш чым дзьвесьці пяцьдзесят гадоў (1205-1460 гг.).

1. Герцагі афінскія пры французкім пратэктараце:

Атон дэ ля Рош, Вялікі Валадар (Otton de la Roche, Megaskyr), з 1205 года.
Гюі I (Gui I), Вялікі Валадар, з 1225, і герцаг з 1260 года.
Жан I (Jean I) з 1263 года.
Вільгельм з 1280 года.
Гюі II з 1287 года.
Вальтэр дэ Брыен (Walter de Brienne) з 1309.

* * *

Рэзідэнцыяй гэтых французкіх герцагаў былі Эстывы. Нашы класічныя першакрыніцы паведамляюць, быццам бы гэты горад пад найменнем Фівы быў заснаваны яшчэ ў спрадвечныя часы героем Кадмам, чалавекам Гармоніі, дачкі бога Марса і багіні Венеры, што ён дамогся гегемоніі над Грэцыяй яшчэ ў IV стагоддзі «да Нараджэння Хрыста» і потым хутка быў разбураны Аляксандрам Македонскім, які «пакінуў ад Фіваў толькі сядзібу паэта Піндара».

І вось, праз дзве тысячы гадоў нябыту, мы бачым тут, – пераконваюць нас, – аднаўленне Фіваў із памёршых. У іх ужо няма сядзібы паэта Піндара пры

стагадовым валадаранні тут наступнікаў Атона дэ ля Рош, але «ніколі, ні раней, ні пазней, – паведамляе нам Вільям Мілер у сваёй выдатнай працы, – старажытны сямібрамны горад не бачыў такога бліскучага натоўпу, які прымушаў гучаць песьнямі і баляваннямі пакрытыя фрэскамі сьцены замка Сэнт Амара; ніколі, ні раней, ні пазней, фіялетавая карона Афінаў не завяршала такой рамантычнай выявы, як у той час, калі кавалькады абвешаных зброяй рыцараў і шыкаўных бургундзкіх дам выпраўляліся слухаць імшу ў кляштар сьвятай Панны». «Квітнелі прамысловасьць, гандаль і мануфактура, і пышнасць эсціўскага двара ўражвала замежнікаў, нават звыкшыхся з пышнасьцю і параднасьцю нашмат больш шырокіх дзяржаваў»[125].

Але вось, праз 106 гадоў, у 1311 годзе французкі ўрад замяніўся тут гішпанскім і (як з сумам выказваецца Вільям Мілер, стар. 234) «Атыка і Беотыя – гэтая «Новая Францыя» – знікае, і толькі некалькі манет ды арак ад маста, з выпадковым рэдкім надпісам, засталіся ад бліскучага бургундзкага перыяду».

Але ці можа быць, чытач, нешта падобнае ў рэчаіснасці? Якіб вайсковы правадыр загадаў бы параўнаць з зямлёй цэлы горад і якія жаўнеры выканалі б такі загад цяжка працуючы гадамі каб выканаць справу не маючую ніякага сэнсу, толькі дзеля таго, каб нічога не магло застацца ад падобнага квітнеючага стагоддзя ў Атыцы і Беотыі? Такія недарэчнасьці, як апавяданні пра разбураныя дашчэнту гарады, можна прыдумаць толькі ў не маючым выйсьця становішчы, калі чалавек бачыць, што прыйшоў да абсурду дзякуючы адсутнасьці ў прыродзе таго прадмета, пра які ён распавядае свае пышныя байкі. Так і тут. З нагоды адсутнасьці якіх бы то ні было слядоў ад «Грэцкай Францыі» XIII-XIV стагоддзяў патрэбна ці адкінуць само яе існаванне, ці дапасаваць ўсе «класічныя» пабудовы да яе часу, а часткава і да двух наступных перыядаў, калі тут панавалі спачатку гішпанцы, а потым фларэнтыйцы. Вось храналагічныя спісы іхных валадароў.

2. Герцагі афінскія пры паўтары стогадовым гішпанскім пратэктараце (1311-1460 г.г.).

Ражэ Дэлор (Roger Deslaur), шэф каталіцкай гандлёвай кампаніі, з 1311 года.
Манфрэд з 1312 года.
Вільгельм з 1317 года.
Ян Рандацкі з 1338 года.
Фрыдэрык Рандацкі з 1348 года.
Фрыдэрык III Сіцылійскі з 1355 года.
Пэдра IV Арагонскі з 1377 года.
Ян I Арагонскі з 1387 года.

3. Герцагі афінскія пры фларэнтыйскім пратэктараце, які працягваўся тры чвэрці стагоддзя:

Нерыо I Ачайолі (Nerio Acciajuoli) з 1383 па 1394 год.
(Венецыянскае ўмяшанне і часовы захоп Афінаў, 1394-1402 гг.)
Антоніа I з 1402 года.
Нерыо II з 1435 года.
Антоніа II з 1439 года.

[125] William Miller: «The Latins in the Levant», стар. 232.

Нерыо II, другасна, з 1441 года.
Франчэска з 1451 года.
Франка з 1455 па 1460 год.

* * *

Такім чынам, і Атыка і Беотыя то ў выглядзе Афінскага герцагства, то як рэспубліка, існавалі пад культурным заходне-еўрапейскім каталіцкім уплывам і кіраваннем на працягу 255 гадоў, пакуль іх не падпарадкавалі сабе туркі.

«Падчас Антонія (1440г.), – паведамляе Вільям Мілер[126], – нарадзіўся ў Афінах апошні грэцкі гісторык, Леанікас Халкакондзілас, нова-грэцкі Герадот (аж роўна праз дзьве тысячы гадоў пасьля стара-грэцкага, калі верыць звычайнай храналогіі!), паведаміўшы гісторыю новага «пярсідзкага ўварвання», і яго брат Дзімітрый, так шырока пашырыўшы грэцкую навуку ў Італіі. Італьянскія двары ў Афінах і ў Яніне (у герцагстве Эпірскім) былі прыстанішчам навукі, бо адзін малады італьянец піша із Арэца (г.азн. нават із Тасканы!) у Афіны да Нерыо прашэнне пахадайнічаць для яго пра катэдру права, логікі, прыродазнаўства, маральнай філасофіі ці медыцыны, пры адным з гэтых двароў»[127].

А пра «класічныя» норавы і правы таго часу мы можам зрабіць выснову грунтуючыся на тым, што леўкадзкая герцагіня Франчэска вялікадушна падаравала аднойчы свайму маладому кузэну Нерыо спадабаўшуюся яму маладую нявольніцу ў поўную валадаранне[128].



Мал. 171
Афінскія прапілеі ў іх сучасным выглядзе.

[126] William Miller: «The Latins in the Levant», стар. 403.
[127] Montfaucon: «Palaeographia Graeca», pp. 76,79,94; Buchon: «Nouvelles recherches», II, i, 276 (W. Miller, 403).
[128] Тамсама, 104.



Мал. 172
Французкі рыцар XIII стагоддзя ў адлюстраванні Эпохі Адраджэння.



Мал. 173
Французкая дама XII стагоддзя ў адлюстраванні Эпохі Адраджэння.



Мал. 174
Французкая дама XVI стагоддзя ў тагачаснай выяве.







Мал. 175
Галоўкі французкіх герцагінь у латынізаваных грэцкіх герцагствах XIII-XIV стагоддзяў нашай эры, якія класікамі лічацца за выявы дахрысьціянскіх грачанак (із «Эллады» Вагнера). Першая галоўка вытанчана павязана хусткай, у другой у сабраныя шпількамі валасы ўплецена металічная дуга, трэццяя – з завітымі валасамі пад дыядэмай, знакам княскай годнасьці.

Е.
Храналагічныя вехі
гісторыі герцагства Неапатраскага, у якое пачынаючы ад 1271 года ператварылася заснаванае ў 1204 годзе каралеўства Салоніцкае (1271-1318гг.).

Яго герцагамі былі:

Ян I Анёл з 1271 года.

Кастусь з 1295 года.

Ян II ад 1303 да 1318 года.

У 1318 годзе гэтае герцагства далучылася да Афінскага.

F.

Храналагічныя вехі гісторыі Эпірскага дэспатата, існаваўшага дзьвесце гадоў (ад 1204 да 1408 года).

Яго валадарамі былі:

Міхал I Анёл з 1204 года.

Тэадор з 1214 года.

Мануіл з 1230 года.

Міхал II з 1236 года.

Нічыпар I з 1271 года.

Тамаш з 1296 года.

Мікалай Арсіні з 1318 года.

Ян II Арсіні з 1323 года.

Нічыпар II з 1335 да 1358 гады (з 1336 пад візантыйскай і з 1349 да 1356 года пад сербскай уладай).

Сямён Ураш з 1358 года.

Тамаш Прэлюбовіч з 1367 года.

Марыя Ангеліна з 1385 года.

Ісаў Буондэльмонці (Esau Buondelmonti) з 1386 па 1403 год.

Пры ім Эпірскі дэспатат быў захоплены албанцамі (1408-1418 гг.) і потым далучаны да Кефалонскага графства.

* * *

Із яго валадароў можна пазначыць Яна II, які спрыяў грэцкай літаратуры. Пры ім Кастусь Германіакас (Hermoniacos), – паведамляюць нам, – выклаў Гамера ў васьміскладовым вершы, якім і з'яўляецца гекзаметр, калі яго кожны радок падзяліць цэзурай на дзьве паловы. Свайго валадара ён называе «героем і навукоўцам», а яго жонку Ганну Палеалог «пераўзыходзячай усіх жанчын, якія толькі існавалі, згодна з прыгажосьцю, розумам і паходжаннем». Месца падзей паэмы «Адысея», выспа Ітака, знаходзіцца паблізу, і таму з'яўляецца думка, ці не ён скампанаваў[129] разрозненыя паданні пра Адысея ў гэтую складную паэму?

C.

Храналагічныя вехі

Гісторыі Кефалонскага Палацінскага графства, існаваўшага амаль шэсць стагоддзяў (ад 1194 да 1797 года).

Яго першымі валадарамі былі:

Матэа Арсіні з 1194 года.

Рычард каля 1264 года.

Ян I з 1303 года.

Мікалай з 1317 года.

Ян II з 1323 года.

[129] Пра гэта сведчаць шмат хто: Nikephoros Gregoras, I, 283, 536, 544; Cantacuzen I, 13; Raynoldus,V, 95; Miklosich und Muller, I. 171; V, 77-84, 86; Thomas: Diplomatiarium, 146,161, 168-170; Archive Veneto XX, 93; Leltres secretes de Jean, XXII, i, 670. (W. Miller, p. 250). І вось непазбежна ўзнікае пытанне: калі б Германіакас зрабіў простую перафразоўку ўсім ужо даўно вядомай Адысеі, то чаму гэтай падзеі надаецца такая вялікая ўвага?

У злучэнні з анжэрскай дынастыяй Ахейскага герцагства ад 1324 да 1357 года яго герцагамі былі:

Леанарда I Тока з 1357 года.

Карла I і яго жонка, герцагіня Франчэска, з 1377 года.

Карла II з 1429 года.

Леанарда III ад 1448 да 1479 года.

Антоніа ад 1481 да 1483 года.

А потам пад непасрэдным кіраваннем Венецыі ад 1500 да 1797 гады,

* * *

Такім чынам, Эпірскі дэспатат спачатку самастойна з 1204, а потым у злучэнні з Кефалонскімі палацінскімі графствамі праіснаваў пад культурным заходне-еўрапейскім уплывам і кіраваннем 279 гадоў, перш чым быў падпарадкаваны турэцкай уладзе. Да гэтага перыяду патрэбна дадаць і ўсе яго «класічныя» пабудавовы. А сама выспа Кефалонія была пад венецыянскім кіраваннем на працягу больш паловы тысячагоддзя (593 гады), амаль да самага XIX стагоддзя.

А якім жа было там жыццё ў XIV стагоддзі, можна бачыць із наступнага апісання.

«Герцагіня Франчэска, жонка Карла I, мела пад час яго валадарання кіруючую ролю. Яна спрыяла грэцкай літаратуры і ганарліва падпісвалася кінаварным візантыйскім чарнілам па-грэцку: «грэцкая імператрыца». «У сваім замку Санта Маўра, няправільнай гексаганальнай пабудове, захаваўшайся да гэтага часу, – сведчыць Вільям Мілер[130], – і ў яе палацы, у замку св. Рыгора ў Кефалоніі (які пазней выкарыстоўваўся ў якасьці баракаў падчас брытанскай акупацыі, а зараз – закінутае месца), яна старшынствавала сярод шэрагу выдатных дам. Стары Фруасар паведамляе, з якой шыкоўнай гасьціннасьцю тут былі прыняты граф Неверскі і іншыя французкія рыцары, вяртаўшыяся із турэцкага палону. Ён апісвае Кефалонію як краіну, кіруемую жанчынамі, якія не грэбавалі, аднак, гатаваць сабе такія самыя тонкія шаўковыя ўбранні, што не было ім падобных». «Феі і німфы, – заканчвае ён сваё апавяданне, – насялялі старое царства Адысея (мал. 175)».

Зноў выява, надзвычай прыдатная для фону класічнай грэцкай літаратуры. Згадайце мае цытаты із камедыі Арыстафана «Скасавальніца Войска»...

## Н.
## Храналагічныя вехі
## Гісторыі герцагствы Архіпелаг, існаваўшага амаль тры стагоддзі пад венецыянскім уплывам ці кіраваннем (ад 1207 да 1579 года).

Яго герцагі:

Марка Сануда (Marco I Sanudo) з 1207 года.

Анджэло (Angelo) каля 1227 гада.

Марка II з 1262 года.

Гільельмо (Guglielmo) з 1303 года.

Нікола (Niccolo I) з 1323 года.

Джыавані I з 1341 года.

Герцагіня Фіарэнца (Fiorenza) адна з 1361 года, і з Нікола II Сануда Спецабанда (Spezzabanda) з 1364 года.

---

130 William Miller: «The Latins in the Levant», стар. 371.

Нікола III дэла Карчэры (della Carceri) з 1371 года.

---------

Франчэска I Крыспа (Francesco Crispo) з 1383 года.
Джакомо I (Giacomo) з 1397 года.
Джыавані II з 1418 года.
Джакомо II з 1433 года.
Джыян Джакомо (Gian Giacomo) з 1447 года.
Гюльельма II з 1453 года.
Франчэско II з 1463 года.
Джакомо III з 1463 года.
Джыавані III з 1480 года.
Прамое венецыянскае кіраванне (з 1494 да 1500 года).
Франчэско III з 1500 года.
Прамое венецыянскае кіраванне (з 1511 да 1517 года).
Джыавані IV з 1517 года.
Джакомоа IV з 1564 па 1566 года.
Ёсіф Назі (Ioseph Nasi) з 1566 да 1579 года.

* * *

Такім чынам, Грэцкі Архіпелаг існаваў у якасьці рэспублікі венецыянскага тыпу на працягу 372 гадоў, пад непасрэдным уплывам культурнай і заможнай Венецыі.

Адзін венецыянскі дакумент таго часу[131] паведамляе, што на кожнай выспе існавалі ўмацаваныя замкі нашчадкаў крыжацкіх рыцараў, ад якіх потым захаваліся толькі руіны замка на выспе Андрос. Пабудаваны на скале пры ўваходзе ў гавань, ён злучаўся з астатняй часткай берага адна-аркавым каменным мастам, супрацьстаяўшаму, пасьля яго пакідання рыцарамі, бурам і непагадзям на працягу сямі стагоддзяў, і пры ўваходзе на яго ўзвышалася статуя Мяркурыя[132].

Мы бачым із гэтага, што статуі «паганскім багам» узводзіліся ў грэцкіх герцагствах нават і пад час эпохі крыжовых паходаў, а таму патрэбна зрабіць выснову, што і тады там існавалі свае Фідыі і Праксіцелі. А наколькі пышным было жыццё ў Архіпелагу, мы бачым із апісання сьвяткавання, суправаджаўшага ў 1480 годзе на выспе Мелас шлюб Даменіка Пізані, сына герцага Крыцкага, з дачкой герцага Наксоскага, які даў ім у якасьці пасага выспу Сантарын, дзе 23 гады назад было моцнае вывяржэнне падводнага вулкана.

«Ніколі яшчэ не было, – паведамляе аўтар, – такога пышнага сьвята за ўсю гісторыю герцагства. Увесь Мілоскі Замак гудзеў ад весялосьці вясельных гасьцей, калі маладая пара высадзілася на бераг. Бацька нявесты, герцаг Джакомо III, скакаў ад радасьці, таньчыў і спяваў, а народ крычаў: «viva Pizani!» Пераехаўшы пасьля гэтага на Сантарын, новы ўладальнік, схіліўшы калена перад суправаджаўшым яго герцагам, атрымаў із яго рук жазло, ключ ад брамы замка і спісаны скрутак, вызначаючы яго правы. У вежу замка потым заходзілі па чарзе васалы выказаць ушанаванне новаму гаспадару, і ў іхным ліку былі прадстаўнікі двух найстарых радоў на Сантарыне, латынізаваўшыяся грэцкія архонты»[133].

I.

---

[131] Hopf: Chroniques, 175.
[132] Bartholomeo dalli Sonetti, Periplus, 21; Hopf: Andros, 161; W. Miller, 575.
[133] Там жа, стар. 613.

Ён хутка перайшоў пад венецыянскі пратэктарат, але і ў ім мела месца інтэнсіўнае аўтаномнае грамадзянскае жыццё, як пра гэта сведчыць дайшоўшы да нашых дзён «Эўбейскі зборнік законаў», складаючыся із 219 параграфаў і із 8 падпараграфаў, напісаны на венецыянскай гаворцы[134].

J.

Храналагічныя вехі
гісторыі дэспатата і рэспублікі Корфу, якія існавалі амаль шэсць стагоддзяў пад венецыянскім уплывам ці кіраваннем (ад 1206 да 1797 года).

Спачатку ў ім было непасрэднае кіраванне із Венецыі, ад 1206 да 1214 года, а потым былі «эпірскія спадары» (дэспаты па-грэцку) ад 1214 да 1259 года:

Манфрэд Сіцылійскі ад 1259 да 1266 года.
Кінардо (Chinardo) з 1266 года.
Карл I Анжуйскі з 1267 года.
Карл II Анжуйскі з 1285 года.
Піліп I Таронцкі з 1294 года.
Кацярына Валуа і Роберт Тарантцкі з 1331 года.
Роберт Таронцкі з 1346 года.
Піліп Таронцкі з 1364 года.
Яна Неапалітанская з 1364 года.
Жак дэ Бо (Jackes de Baux) з 1380 года.
Карл III Неапалітанскі ад 1382 да 1386 года.

А пасьля яго існавала чыстая рэспубліка, пад пратэктаратам Венецыі, на працягу чатырохсот гадоў (ад 1386 да 1797 года).

* * *

Такім чынам, дэспатат, ці рэспубліка, Корфу існавала пад культурным венецыянскім уплывам ці кіраваннем без малога 600 гадоў, амаль да 1800 года нашай эры.

Кіраванне тут пасьля абвяшчэння рэспублікі было спачатку арыстакратычным. Пад час першага перыяду на чале рэспублікі стаялі дэкархі, г.азн. дзесяць абіраемых шляхетных грамадзянаў із землеўласнікаў, тое ж самае, што рымскія класічныя дэкурыёны. Цікава, што імя аднаго із іх Вістоні (Bistoni), паходзячае ад яго маёнтка Істона, тоесна з Істонам, які згадваецца ў Фукідыда пры апісанні Карынфскага паўстання, якое дапасуецца гісторыкамі да часу за 2000 гадоў да гэтага і больш ніводнага разу не згадваемага за такі доўгі прамежак, а таксама і пазней: ён зараз мае назву Сайта Дэка[135]. Старажытны гісторык гэтай выспы, Мармары[136], сведчыць, што гаспадары ўпрыгожылі яго выдатнымі пабудовамі і прыпісвае ім «Замак св. Анёла».

Потым у XV стагоддзі кіраванне моцна дэмакратызавалася. Кожны год на прыканцы кастрычніка склікаўся Ўсенародны сход із італьянскіх, грэцкіх, а потым нават з далучыўшыхся да іх кефалонскіх і албанскіх грамадзянаў, абіраць «раду ста пяцідзесяці» із ліку сваіх сябраў, у будынку паміж горадам і «Старым Умацаваннем», упрыгожаным насьценнай выявай царэўны Наўсікаі вітаючай

[134] Satas, III, 225.
[135] Satas, III, стар. 514.
[136] Marmori: Delia Historia di Corfu, p. 210.

Адысея, зведаўшага караблекрушэнне каля яе берагоў[137]. Гэтая рада і зацвярджала штогадова адказных кіраўнікоў рэспублікі.

Акрамя жыдоў, тут былі тут і цыгане, меўшыя назву афігане (ἀθίγανοι), падпарадкаваныя выключна юрысдыкцыі асобнага барона, пасада якога лічылася вельмі прыбытковай і ганаровай. Цыгане кожную вясну прыходзілі вітаць яго пад яго сьцягамі, са спевамі сваіх песень пад гукі флейтаў і барабанаў.

Вышэйшых школ на Корфу, вядома, не было, але ўсе янійцы венецыянскіх асад без іспытаў залічваліся ў Падуянскі ўніверсітэт, і таму ў XVI стагоддзі было нямала пісьменнікаў-карфыётаў: паэты Эпарх, географ Нукіас, тэолаг Кртанас і г.д. Карфыёт Флангінэс заснаваў у Венецыі ў 1621 годзе школу Флангінейён, якая шмат спрыяла пашыранню грэцкай мовы і адукацыі на Захадзе, існуючая і да гэтага часу на набярэжнай S. Georgio dei Greci. Прыватныя дамовы пісаліся натарывусамі па-грэцку, а афіцыйныя паперы па-італійску і на-лаціне.

Самым знакамітым храмам на Корфу быў храм Касапавай Мадоны, якай прыносілі падзяку вяртаючыяся маракі за шчасьлівае плаванне і якая, – кажуць нам, – замяніла храм Зеўса Алімпійскага, адкуль Нярон, быццам бы, пачаў сваё падарожжа па Грэцыі[138].

Тут жа была і шыкоўная Сядзіба Аўраама (Ἀβράμ) на беразе, упрыгожаная выдатнымі мармуровымі статуямі, і тут жа паказвалі скалу, «якую Пліній Старэйшы прызнаў за акамянеўшы карабель Адысея»[139].

К.

Спіс

Астатніх венецыянскіх асад, на грэцкім Усходзе паміж 1206 і 1745 гадамі нашай эры.

Горад Аргас (ад 1388 да 1463 гады).
Выспа Андрас (ад 1437 да 1440 і ад 1507 да 1514 гады).
Выспа Аморгас (частка ад 1370 да 1446 гады).
Выспа Зантэ (ад 1482 да 1797 годы).
Выспа Крыт (ад 1204 да 1668 гады).
Горад Леванта (ад 1407 да 1499 гады).
Выспа Міконас (Mikonos) (ад 1390 да 1537 гады).
Горад Манемвазія (ад 1464 да 1540 гады).
Гарады Мадон і Карон на паўднёвым захадзе Пелапанэса (ад 1206 да 1500 гады).
Горад Наўпліа (ад 1388 да 1540 гады).
Горад Неграпонтэ на Евбэі (ад 1209 да 1470 гады).
Выспа Наксас (ад 1494 да 1500 і ад 1511 да 1517 гады).
Горад Птэлаен (ад 1423 дп 1470 год).
Горад Патрас (ад 1408 да 1413 і ад 1417 да 1419 гады).
Выспа Паром(с) (ад 1518 да 1520 і ад 1531 да 1536 гады).
Выспы Спарады Паўночныя (ад 1453 да 1458).
Выспа Тэнас (ад 1390 да 1715 гады).
Выспа Цэгіра (ад 1363 да 1797 гады).

[137] Marmora, там жа стар. 312, 313.
[138] W. Miller, 545.
[139] Faber, III, 344 (W. Miller, 547).

Выспа Эпіна (ад 1451 да 1537 гады).

* * *

Із іх асада Мадон на паўднёвым захадзе Марэі з выдатнай гаванню была, – згодна са сведчаннем гісторыкаў, – Порт-Саідам «Французкай Грэцыі», важнай палову-шляхавай гаванню паміж Венецыяй і «Сьвятой Зямлёй», у ёй спыняўся кожныя падарожнік на Ўсход. Адзін із іх распавядае, як ён быў здзіўлены таўшчынёй сьцен, глыбінёй іравоў і магутнасьцю веж яе крамля, «Вы знойдзеце там, – усклікае ён, – караблі з усіх бакоў сьвету, таму што гэта палова шляху для кожнай сушы і кожнага мора». Жыды займаліся там вырабам шаўковых тканін, цыгане тоўпіліся на гандлёвым пляцы яго прыгарада, і навакольныя мусульмане, яшчэ не сварыўшыяся з гяурамі, прадавалі ім свінней. Адсюль у Яўрапу выпраўлялі апельсіны, мальвацыю і мушкатнае віно, пра якое патэр Фаер усклікае: «адна думка пра мадонскі мушкат дае мне адчуванне асалоды»[140].

Грамадзкае ўладкаванне венецыянскіх асад засноўвалася на падзеле насельніцтва на плебеяў, гараджанаў і шляхетных, із якіх спачатку толькі апошнія дапускаліся да грамадзкіх пасад, а потым гэтага права дамаглася і дэмакратыя[141].

Такой з’яўляецца кароткая храналогія і палітычная характарыстыка Грэцкага Ўсходу пасьля знікнення Візантйскай імперыі пад напорам крыжакоў у 1204 годзе і да заваявання крыжацкіх латынізаваных дзяржаваў туркамі, якое закончылася толькі ў XVIII стагоддзі. На гэтай падставе і была створана ўся псеўда-класічная гісторыя Эллады.

Чытач сам бачыць, што тут быў час, існавалі ўмовы і была магчымасць стварыць усю класічную літаратуру і пабудовы, руіны якіх мы і знаходзім зараз. А за дзве тысячы гадоў да таго, пры аркадзкіх пастухах і пастушках (ці – як некаторыя лічаць, – «трагладытах»), не магло існаваць нічога падобнага.

Толькі ў XIII стагоддзі тут стварыўся тонус грамадзкага жыцця, якраз прыдатны для камедый і драм Сафокла і Арыстафана, толькі дробныя ўрыўкі якіх я меў магчымасць паказаць у гэтым томе майго агульнага дасьледавання, не рызыкуючы павялічыць яго памеры да памераў Хеопсавай піраміды, якую ў адным із наступных тамоў мне давядзецца, грунтуючыся на астранамічных і чыста гістарычных меркаваннях, дапасаваць, разам з усімі ягіпецкімі псеўда-паганскімі пабудовамі, да часоў візантыйскага валадарства ў Ягіпце, да яго захопу мусульманамі пад імем гіксосаў, а Рамзэса II атаясаміць з евангельскім Хрыстом. Толькі ў XIII-XV стагоддзях, пры змаганні паміж рымскім каталіцызмам і візантыйскім праваслаўем, якія выкрывалі недарэчнасьці адзін аднаго, узніклі ўмовы для стварэння вальнадумных міфаў, вальнадумнай філасофіі, напалову фантастычнай гісторыі сваіх урадаў за межамі сярэдніх стагоддзяў і нават для абвяшчэння атэізму, вядома, пад псеўданімамі старажытных прыдуманых мудрацоў, як дзеля большай значнасьці, так і каб пазбегнуць асуджэння абодвух цэркваў і ўсяго веруючага насельніцтва.

У гэтым лаціна-грэцкім катле, які да апошняга часу чамусьці гісторыкі абыходзілі, лепш чым у нейкім іншым месцы пераварваліся сумесна з грэцкай народнай гаворкай царкоўная латынь каталіцкага набажэнства, лёгка разумелая і без спецыяльнага вывучэння для італійскага і французкага шляхетнага насельніцтва, ператвараючыся ў літаратурную мову Авідыя і Апулея. Тут жа пераварваецца і царкоўна-грэцкая мова візантыйскіх папасаў, якія лічылі сябе

[140] Там жа, стар. 495.

[141] Там жа стар. 501.

равнасьвятымі з рымскімі папамі, не менш зразумелая для мясцовых дэмакратычных, а дзякуючы пастаянным стасункам з імі, і для арыстакратычных станаў. Застаючыся яшчэ даволі грубай у тым апендыксе былой Вялікай Візантыі, які працягваў існаваць ў яе Канстантынопальскім сляпым атажылку, пасьля часовага збягання ад крыжакоў у Нікею ў 1204 годзе, гэтая візантыйская мова дзякуючы стасункам з лацінскай літаратурай і з заходнімі краінамі на венецыянскіх і генуэзскіх ветразёвых караблях, хутка ператварылася ў Марэі і на Архіпелагу ў вядомую нам зараз класічную грэцкую мову. Перанесеная дзякуючы вялікаму гістарычнаму непаразуменню ў глыб стагоддзяў, яна і стварыла перад намі міраж старажытнай культуры Эллады і старажытнага магутнага Рыма, а потым і той «Усходні міраж», які вымушаў заходніх навукоўцаў аж да XIX стагоддзя шукаць карані ўсіх навук не ў сябе дома, а ў далёкіх краінах Сірыі, Месапатаміі, Індыі і нават самога Кітая, які тады зачыніўся за сваёй Вялікай Сьцяной[142].

Ўжо аднаго беглага праглядання прыведзеных мной храналагічных абрысаў і імёнаў вярхоўных валадароў дастаткова для таго, каб пабачыць, што так званы Чацьвёрты крыжовы паход, натхнёны графам Конці, пасьля таго як ён перайменаваўся ў пану Інакенція III, меў на мэце зусім не «вызваленне труны гаспода ў Палестыне ад няверных мусульманаў», а прама на распаўсюджванне лацінскай культуры на грэцкі ўсход. Згадаем, што той жа Інакенцій III арганізаваў крыжовы паход і супраць Тулузскага графства ў Францыі за тое, што там з XII стагоддзя пануючай рэлігіяй і царквай было альбігойства, адмаўляўшае каталіцкае царкоўнае кіраўніцтва і яго сакрамэнты, і ён жа наладзіў яшчэ адзін «крыжовы паход» супраць хрысьціянаў-вальдэнсаў, у Дафінэ і П’ямонце, якія дазвалялі, – кажуць, – свабоду тлумачэння Бібліі і таксама не прызнавалі кіруючую ролю папскай улады. Усё гэта была адна і тая ж палітыка распаўсюджвання каталіцкай тэалогіі і вучэння паўсюдна.

Дык як жа можна думаць, што пасьля больш чым двухсотгадовага кіравання Грэцкім Усходам, маючы ў сваім распараджэнні вялізныя ўласныя і яшчэ большыя царкоўныя сродкі, каталіцкі прывілеяваны стан і каталіцкія ордэны не пабудавалі на Усходзе шматлікіх грунтоўных грамадзкіх будынкаў, накшталт храмаў, цыркаў і тэатраў? Самі найменні апошніх выяўляюць іхнае рэлігійнае паходжанне[143], а архітэктурныя тэрміны – янічны, дарыйскі, карынфскі і тасканскі для храмаў нагадваюць назвы аналагічных рыцарскіх і манаскіх ордэнаў таго часу.

А калі грэцкія рыцары будавалі ўсё гэта, як будаваліся ў той жа час Калізей, цыркі і тэатры на захадзе, то дзе ж парэшткі пабудоваў пасьля выгнання каталікоў сумеснымі намаганнямі грэцкага і мусульманскага сьвятарства, якія абвясьцілі храмавыя і наогул усі іншыя статуі ідаламі, а саміх каталікоў – паганцамі? У цікавай ананімнай грэцкай кнжцы «Афінскія тэатры і школы», напісанай не раней 1460 года, таму што ў ёй гаворыцца пра герцагаў ужо ў мінулым часе, вельмі цікава чытаць пра тое, чым лічыліся на прыканцы XV стагоддзя тыя помнікі старажытнасьці, якім зараз прыпісваюць ледзь ці не дапатопнае паходжанне.

---

[142] Я не магу тут не згадаць пра навейшыя высновы германскага навукоўцы, праф. Губерта Шмідта, што нават і кітайская старажытная культура, а за ёю і японская, – еўрапейскага паходжання і бярэ пачатак на балканскай поўначы, у Бесарабіі, Галіцыі, Венгрыі, Румыніі і Ўкраіне, як паказвае на гэта надзвычайнае падабенства малюнкаў керамікі і некаторыя іншыя меркаванні. Я толькі лічу час пераносу нашмат больш познім, чым праф. Шмідт.

[143] Лацінскае circus, рускае – царква, нямецкае – кірха, грэка-лацінскае тэатр (theo-atrium) – уваход багоў, свецкая камедыя і царкоўная прас-камідзія і т. д.

Тое, што ў нашы дні мае назву манумент Лісістрата, у XV стагоддзі мела назву «ліхтар Дэмасфена», Багіня Вятроў мела назву Школа Сакрата. Брама Афіны Архігецкай – палац Фемістокла, Адэон Перыкла, рэстаўраваны нанова (г. азн. скажам прама: пабудаваны) пры рыцарах, меў назву школа Арыстафана, палац Ірада Атыка – палац Клеаніда і Мільтыяда, храм Ніцы Аптэрас – музычная школа Піфагора. Школа Арыстоцеля памяшчалася даведнікамі ў тэатр Дыёніса, дзе быў сонечны гадзіннік, і аўтар згадвае, што галава Гаргоны, ад погляду якай тапіліся караблі, была за кратамі тут жа ў нішы паміж двума калонамі помніка Трасілу. Школа Сафокла пазначалася на захад ад Акропаля, і па-за Афінамі, згодна з агульнымі запэўніваннямі, знаходзіліся: Акадэмія ў Базіліцы, Элеатычная школа ў Амбелакетах і платанічная ў Патэзіі (Парадэцыі). І ўсё гэта «падцверджваецца» «Апісаннем Атыкі»[144], складзенай каля 1628 года.

Такім чынам, у XV стагоддзі агульнавядомыя грэцкія пабудовы паказваліся навукоўцам-падарожнікам так, як калі б класічныя пісьменнікі жылі не дзве тысячы гадоў таму, а максімум за адно або за два стагоддзі ...

Дык дазволь жа мне, чытач, закончыць гэты раздзел майго дасьледавання словамі Вільяма Мілера, кнігу якога «Латыняне на Ўсходзе» я тут так часта цытаваў.

«Суровы класік глядзіць на заходне-еўрапейскіх герцагаў грэцкага архіпелага, як на простых захопнікаў старажытнай элінскай тэрыторыі. Ён разбурыў бы вежы іхных замкаў так жа бязлітасна, як Сануда або Крыспа разбурыў бы старажытныя храмы; венецыянскі крылаты евангельскі леў танней для яго чым гліняны чарапок ад гаршка Перыкла, але ўсё ж рамантызм і паэзія грэцкага жыцця пад час сярэдніх стагоддзяў былі непараўнальна больш высокімі, велічнымі і разнастайнымі, чым пад час старажытнасьці».

І яны паднімуцца яшчэ вышэй, – дадам я, – калі мы даддзім да іх і класічную літаратуру і класічныя парэшткі.

# Раздзел IV

## Заключэнне.

Адзін із нашых візантыйскіх першакрыніц Лампрас, згодна са словамі Вільяма Мілера[145], скардзіцца, што, пры самым ўважлівым дасьледаванні было немагчыма знайсьці ў яго час у Афінах ніякіх сьлядоў ні ад класічнага Геліэя ў гонар бога Сонца, ні ад Ліцэя, у якім, паводле паданняў, чытаў свае лекцыі мудры Арыстоцель, ні ад Перыпатаса, дзе вучылі перыпатетікі.

А з нашага пункту гледжання так і павінна было быць: усе яны былі апокрыфамі Эпохі Адраджэння, або ў крайнім выпадку – заканчэння сярэдніх стагоддзяў ніяк не раней XI стагоддзя ... Але вось і сапраўдныя руіны ... І што ж мы бачым пры безстароннім вывучэнні іхнага стану пад час XII-XIII стагоддзяў?

Знакаміты Партэнон існуе ў XII стагоддзі ў якасьці дзейнічаюга «лацінская храм» афінскай панны Марыі, «нібы толькі-што пабудаванага»[146], якім ён, вядома,

---

[144] Philadelphus; Περί τῆς Ἀττικῆς, I. 189

[145] William Miller: «The Latins in the Levant», 1908, London, p. 16.

[146] As if it bad only just been built, — паўтарае Вільям Миллер словы Лампраса по-англельску (The latins in the Levant, стр. 16).

тады і быў. «Яго метопы, пэдыменты і фрызы цалкам цэлыя»; ... А на сьценах красуюцца хрысьціянскія фрэскі, зробленыя, – сведчаць нам візантыйскія аўтары той эпохі, – царом Васілём II (памёр каля 1025 г.) у якасьці падзякі «Афінскай Багародзіцы» за перамогу над баўгарамі. Ды і само імя той багіні, у гонар якай Партэнон, быццам бы, быў пабудаваны ў спрадвечныя часы, з'яўляецца Атэнайя Партэнас. Яно няправільна вымаўляецца на ўсіх мовах як Афіна Партэнас. Такога слова па-грэцку не існуе, і Атэнайя Партэнас азначае літаральна – Афінская Панна цалкам у тым жа сэнсе, як у нас кажуць: Казанская Багародзіца-Панна, Іверская Панна Марыя і г. д. Над ахвярнікам гэтага хрысьціянскага храма ў XII стагоддзі вісіць «вечна махаючы сваімі крыламі залаты голуб», які адлюстроўвае сьвятога духа, а перад ахвярнікам гарыць лампада, у якой «ніколі не заканчваецца алей да вялікага здзіўлення пілігрымаў». Як быццам двайнік статуі паганскай «Афінскай панны, працы Фідыя», там стаіць статуя каталіцкай панны Марыі часоў афінскага герцага Атона дэ ля Рош (1205-1224 гг.) I, магчыма, не горшага выканання, чым тыя статуі, якія ў нашым уяўленні прыпісваюцца Фідыю.

Із рэчаіснай гісторыі Партэнона нам вядома толькі тое, што лацінскі сьвятар (praetor-praiter) Афінскага герцагства прызначыў для яго завяршэння для горада Афіны такія вялікія падаткі, што не толькі ўсе лісты на дрэвах, але і кожны валасок на галовах жыхароў былі пералічаны[147]. А потым ўжо ў 1393 годзе феадал Нерыо загадаў ададраць з яго брамы сярэбраныя лістовыя вокладкі, каб выкупіцца із палону, у які ён трапіў дзякуючы неасьцярожнасьці[148].

Гэта азначае што Партэнон у якасьці храма панны Марыі існаваў цэлым, хаця і без срэбных лістоў на браме, нават і ў XV стагоддзі нашай эры аж да таго часу, калі туркі захапілі каталіцкае Афінскае княства ў 1460 годзе, пасьля чаго, з сыходам каталікоў, Партэнон, як іхны храм, быў, відавочна, сумесна разрабаваны і закінуты праваслаўным і мусульманскім сьвятарствам, і сама мадонна Фідыя або псеўда-Фідыя, якая знаходзілася ў ім, была разбіта разам з астатнімі каталіцкімі статуямі.

Вось і ўсё, што нам вядома із дакладнай гісторыі гэтага храма. А нас запэўніваюць, быццам бы ён быў пабудаваны яшчэ за паўтары тысячы гадоў да таго часу, калі для яго толькі-што згаданага завяршэння «быў абкладзены падаткам кожны валасок на галовах бедалажных афінян», і быццам бы пабудавалі яго тады знакамітыя архітэктары Іктын і Калікрат пры знакамітым аратары і вайсковым правадыру Перыклу, правадыру дэмакратычнай партыі, якая ўзнікла ў Афінах яшчэ ў V стагоддзі да пачатку нашай эры і памёрла разам са сваім правадыром ад чумы «ў 429 годзе да Нараджэння Хрыста».

Дзе ж гэты храм хаваўся на працягу паўтары тысячы гадоў, і дзякуючы якой шчасьлівай нагодзе афінская паганская Мадоннаператварылася ў каталіцкую пасьля пятнадцацістагоддзевага нябыту? З нашага боку гледжання ўся старажытная гісторыя Партэнона – міф. Разгледзім жа сьцісла і некаторыя іншыя знакамітыя «класічныя» пабудовы.

Вось у XIII стагоддзі існуе ў спраўнасьці ў афінскім Акропалі другі, параўнальна невялікі, храм прысьвечаны афінскай багародзіцы-панне, у якім здзяйсняюцца каталіцкія набажэнствы. Гэта азначае што і ён таксама мае не тысячагадовы ўзрост. Пазней, і магчыма ўжо пры турках, яго парэшткі набылі назву Эрэхтэйон, і нашы класічныя першакрыніцы (існуючыя толькі ў рукапісах не

[147] Λαμπρος Μιχαήλ Άκομινάτου, I. 308, 309, 325.
[148] W. Miller, там жа, стар. 342.

раней XV стагоддзя) зараз запэўніваюць нас быццам бы яго пабудаваў старажытны афінскі цар Эрэхтэй (Ερεχθευς), напалову чалавек і напалову змяя, заснаваўшы набажэнства Афінскай прачыстай Панне яшчэ за тысячагоддзе да таго, як яна з'явілася ў каталікоў на сьвет. Ці павінны мы верыць такому сведчанню? Настолькі ж, наколькі і існаванню самога цара Эрэхтэя – напалову чалавека, напалову змяі.

Вось у рэчаіснасьці стаіць і дзейнічае ў XIII стагоддзі ў Афінах храм Рыгора Перамаганосца, якога Мікіта Акамінат, згодна з Лампрасам, называе Св. Рыгорам Керамейскім. Яго настаяцель – мніх Лука, і на яго слупах напісаны, як рабілася і ў іншых сярэднявечных храмах, імёны яго розных хрысьціянскіх абатаў[149].

А нашы першакрыніцы Эпохі Адраджэння пераконваюць нас, што гэты храм быў пабудаваны цалкам не ў якасьці ўшанавання Рыгора Перамоганосца, а яшчэ ў спрадвечныя часы для ўшанавання знакамітага Тэзея, таго самага які забіў Мінатаўра, пажыраўшага людзей у лабірынце; заснаваўшага істмійскія спаборніцствы на пярасмыку каля знікшага пазней храма Пасяйдона; паспяхова змагаўшагася з амазонкамі; плаваўшага ў Калхіду разам з арганаўтамі, адплыўшымі ад існуючага і зараз горада Аргаса на Пелапанесе за золатымі баранавымі скурамі; перамогшага Цэнтаўра, і апускаўшагася праз жарало вулканаў ў падземны сьвет, каб вызваліць із яго Персефону. Вызвалены адтуль Геркулесам, ён быў кінуты, нарэшце, у мора скіроскім царом Лакамедам, дзе і патануў.

Ці павінны мы верыць такому датаванню? З боку гледжання новай храналогіі ўвесь гэты тэзэйён толькі фантастычны дадатак да парэшткаў каталіцкага храма ў Афінах, прысьвечанага толькі аднаму Рыгору. Ды і імя Тэзей, хутчэй усяго з'яўляецца адным із варыянтаў слова Тэос-Зеўс, г.азн., бог Грамабой.

Вось цэлым стаіць у XIII стагоддзі і Акропаль, як дзейнічаючае ўмацаванне абараняючае сталіцу Афінскага феадальнага герцагства XII-XIV стагоддзяў, і як біскупская лацінская рэзідэнцыя, а на вядучых у яго Прапілеях красуецца фрэска, малюючая архянёлаў Гаўрыіла і Міхала як абаронцаў горада на выпадак пранікнення у Прапілеі іншаверцаў[150]. Мяне запэўніваюць: гэтая фрэска зроблена пазьней ... Але ж вельмі цяжка зрабіць фрэскі, г. азн. малюнкі пісаныя вадзянымі фарбамі, на сьценах, якія зведалі больш чым тысячагадовае ўздзеянне наваколля ...

Вось вытанчаная дзейнічаючая хрысьціянская царква XIII стагоддзя прысьвечаная Ніцы Аптэрас[151], пабудова якай таксама дапасуецца невядома чаму да паганскіх часоў, і вось, нарэшце, парэшткі вялізнага храма прысьвечанага богу-бацьку (па-грэцку Зеўсу Алімпійскаму), на калонах якога напісаны не паганскія, а хрысьціянскія малітвы ...

У наступным томе я памяшчу і іншыя паведамленні нашых першакрыніц пра стан «класічных» руін у XIII стагоддзі, але і таго нешматлікага, што я тут прывёў, дастаткова для таго, каб лічыць эпоху крыжовых паходаў за час пабудовы іх усіх у складзе стварыўшыхся тады на Блізкім Усходзе феадальных лацінскіх каралеўстваў або рэспублік.

Мы толькі павінны цьвёрда памятаць адно: хрысьціянства таго часу, як згодна са сваёй тэагоніяй, так і згодна з рытуалам, і маральным вучэннем, і жывапісам, і скульптурай не было цалкам адпавядаючым сучаснаму каталіцтву ці праваслаўю. У ім, як і ў Біблії, акрамя бога-стваральніка неба і зямлі, існавалі яшчэ і іншыя багі, ды і сам бог-бацька не цураўся чалавечых заахвочванняў: ён злаваўся і

---

149 W. Miller, там жа, стар. 17.

150 W. Miller, там жа, стар. 17.

151 Νική — перамога, Ἄπτερος — бязкрылы, г. азн. без бакавых каланад, меўшых назву крылаў пабудовы.

мілаваўся, захапляўся і каяўся ў сваіх здзяйсненнях, і іcнавала шмат разнастайных сект і ордэнаў, аж да хлыстоўшчыны, знішчаных толькі пазней інквізіцыяй і самаўладнымі манархіямі, якія не прызнавалі ніякіх іншых сектаў, акрамя сваёй.

Сапраўдны ход эвалюцыі хрысьціянства пад час Эпохі Адраджэння і перад ёю высветліцца толькі тады, калі мы трывала станем на бок гледжання новай храналогіі і, акрамя таго, будзем цьвёрда памятаць наступны асноўны гісторыка-псіхалагічны факт, пра які я ўжо мімаходзь не адзін раз згадваў з нагоды розных выпадкаў.

Звычайны чалавек трывала і надоўга памятае толькі выключныя выпадкі свайго ўласнага жыцця, закранаючыя яго тыя ці іншыя істотныя асабістыя інтарэсы, і ўжо значна менш захоўвае ў памяці такія ж выпадкі із жыцця асабіста блізкіх яму людзей, а выпадкі із жыцця невядомых яму людзьмі забываюцца як снабачанні. Вось вы самі, напрыклад, калі цікавіліся грамадзкімі справамі, напэўна чыталі час-ад-часу газеты гады два таму назад і ледзь не штодня даведваліся із іх пра незвычайныя, нярэдка нават жудасныя падзеі із жыцця асабіста вам незнаёмых людзей, якія вы тады абмяркоўвалі са сваімі сябрамі, і вам здавалася, што вы ніколі пра іх не забудзецеся. А ці зможаце вы зараз – усяго толькі праз два гады – аднавіць у памяці тагачасныя газеты? Калі вы літаратурна адукаваная жанчына, то вы пад час юнацтва, хутчэй усяго, чыталі шмат новых і цікавых раманаў, а што вы скажаце, калі я вас папрашу паведаміць мне зараз пра іхны змест? Вы, хутчэй усяго, не згадаеце нават імёнаў іх дзеючых асоб, за выключэннем тых агульнавядомых, якія вам надалі ў свядомасць староннім уздзеяннем у школе. Усё, што вы чулі або чыталі, пра асабіста вам незнаёмых людзей некалькі гадоў таму назад, ужо забылася вамі, знікла як учарашняе снабачанне і псіхалагічна ўжо нічым не адрозніваецца ад яго.

Тое ж самае можна сказаць і пра гісторыю старажытных пабудоваў. Я ўжо меў выпадак паказаць, што амаль ва ўсіх нашых вёсках існуюць цэрквы, і, калі пры іх захаваліся архіўныя запісы, то вы заўсёды з іх даведаецеся, што іх пабудавала тры-чатыры пакаленні таму назад бліжэйшая заможная памешчыца на свае, не заўсёды добраахвотна і ахвотна аддаваўшыяся прыбыткі ад прыгонных сялян, а ў гарадах іх будавалі ніяк не на добраахвотныя ахвяраванні гараджан, а мясцовае сьвятарства на свае зборы з прыхажан, або ўрад за кошт дзяржаўных прыбыткаў, або заможныя купчыхі на свае прыбыткі ад продажу тавараў. А калі архіў або запісы пра час і акалічнасьці будавання адсутнічаюць, то ўжо ніхто на сьвеце, нават і сам яе сьвятар, не паведаміць вам, хто і калі яе пабудаваў, хаця б гэта і было не больш за сто гадоў таму назад.

І я зноў паўтараю: там дзе не існуе запісаў сведкаў сучасных ім падзей, там няма гісторыі, там цалкам – фантазія. Апавяданні пра вусныя традыцыі, беражліва перадаваўшыя на працягу стагоддзяў ад пакалення да пакалення, годныя толькі для дадавання ў раман Яўгена Сю «Вечны Жыд», і недапушчальныя ў сур'ёзным навуковым творы. Яны нагадваюць кучы пяску, у якія страусы, згодна з паведамленнямі аўстралійскіх падарожнікаў, хаваюць свае галовы, калі бачаць, што не могуць збегчы ад пагоні. І калі мы не будзем рабіць, як гэтыя птушкі, то зараз жа пабачым, што ўся дагістарычныя гісторыя атычных пабудоваў – партэнонаў, акропаляў, цыркаў Дыёніса, а з імі і рымскага Калізея, – з'яўляецца чыстым міфам, цэментуючым іхную разарваную рэчаісную гісторыю, як злучаючая тканка, замацоўваючая першапачатковыя валокны перарэзанага мяза. А усё праўдзівае пра іх забылася, як даўнішняе снабаанне бацькоў, ужо на працягу трэццяга пакалення

пасьля пабудовы, калі яны яшчэ былі ў поўнай захаванасьці і функцыянавалі адпаведна свайму прызначэнню.

Праўда, што акрамя звычайных, згодна з прыродай не доўга памятаючых людзей, час-ад-часу з'яўляюцца і выключныя індывіды, душа якіх ахоплівае ўсё чалавецтва і нават увесь сьвет, і якія аднолькава ставяцца як да сваіх, так і да чужых радасьцей і засмучэнняў. Але яны да вынаходніцтва кнігадрукавання былі настолькі ізаляванымі адзін ад аднаго і ў прасторы і ў часе, што не маглі мець ніякай сваёй асобнай вуснай традыцыі, як і мы самі не мелі магчымасьці слухаць размовы паміж людзьмі ў аддаленым горадзе да вынаходніцтва радыё-тэлефона.

Такім чынам, рэчаісная гісторыя «класічных» пабудоў на блізкім Усходзе не выходзіць далей за час узнікнення там рыцарскіх феадальных герцагстваў і графстваў, уяўляўшых цэлую дзяржаўную мазаіку ў грэчаскіх, малаазійскіх і сірыйскіх краінах, пачынаючы ад XI-XII стагоддзяў. Із прыкладзенага мной храналагічнага канспекта, чытач бачыць, што іхны культурны стан быў вельмі высокім, так як там нават існавала і жаночае раўнапраўе. Думаць, што ўсе памянёныя ў вышэйпрыведзеным мною храналагічным спісе герцагі і герцагіні, графы і графіні, прынцы і прынцэсы, толькі і займаліся паходамі, можа толькі той хто не мае разумення пра рэчаіснае жыццё.

У рэчаіснасьці ж тут, як і ўсюды, у падмурку было штодзённае асабістае жыццё з яго радасьцямі і бедамі, з захапленнямі і разчараваннямі, з будаўніцтвам прыватных і грамадзкіх будынкаў, падобна таму, як гэта рабілі ўсе астатнія магнаты. Там нават існавала выключна яскравае жыццё, пра якое можна напісаць шмат цікавых раманаў. І калі гісторыкі Эпохі Адраджэння, якіх добрасумленна капіруюць і сучаснікі, пакінулі ад яе на месцы адны крыжаносныя ногі, то толькі таму, што ўсе астатнія часткі цела і ў асаблівасьці душу, яны дзякуючы аднабаковасьці, а, магчыма, і рэлігійнаму фанатызму, адкінулі за паўтары тысячы гадоў назад, пры гэтым адны кавалкі патрапілі ў пятае, другія ў шостае, а некаторыя (як паэзія і музыка) нават «у дзявятае стагоддзе да Нараджэння Хрыста».

Задачай сучаснага гісторыка з'яўляецца: зноў злучыць гэтыя адарваныя часткі цела і, паліўшы іх жывой вадай сучаснай пыродазнаўчай навукі, напоўніць жыццём перад нашымі вачамі цікавую эпоху, поўную рамантызму і закончыўшуюся вялікай і незаслужанай трагедыяй.

Шляхетныя дамы і кавалеры Заходняй Яўропы, прынцы і прынцэсы, выхаваныя на песьнях мінезінгераў і рыцараў-трубадураў, апяваўшых сваіх каханак пад акампанемент арфаў і віёлаў, а таксама і пад уплывам распаўсюдзіўшыхся тады ж сентыментальных евангельскіх паданняў і сведчанняў падарожнікаў пра «цуды Ўсходу», ледзь ці не на палову пераехалі сюды на шматлікіх да гэтага часу генуэзскіх і венецыянскіх ветразёвых гандлёвых караблях, тым больш, што і працягласць шляху не перавышала некалькі тыдняў. Яны марылі, што пасяліўшыся ў грэцкіх і сірыйскіх краінах, у якасьці пануючага грамадзкага стану і пашыраючы ў іх лацінскую культуру, яны ад пакалення да пакалення будуць атрымліваць яшчэ прыбыткі і са сваіх пакінутых у Яўропе маёнткаў. Яны пачалі будаваць тут велічныя храмы і пабудовы, лічачы сябе цалкам абароненымі папскай булай, якая забараняла каму б там ні было пад пагрозай адлучэння ад царквы забіраць у іх еўрапейскія маёнткі.

А рэчаіснае жыццё ішло сваім шляхам.

Яны самі і іх давераныя і блізкія людзі ў Яўропе паступова выміралі, а нашчадкі апошніх толькі смяяліся калі незнаёмыя ім і ніколі не бываўшыяся ў Яўропе дзеці ранейшых уладальнікаў працягвалі патрабаваць ад іх перасылання ў Грэцыю прыбыткаў і грошай. Не атрымліваючым больш нічога з боку новым валадарам лацінскіх княстваў на блізкім Усходзе давялося абкладаць падаткамі мясцовае грэцкае насельніцтва, канкурыруючы ў гэтым з ужо манапалізаваўшым сабе такое права праваслаўным сьвятарствам. А яно абвясьціла іх паганцамі і прагнала, заключыўшы хаўрус з мусульманамі, са сваёй краіны разам з іхнай паэзіяй, і навукай і рамантызмам, патрапіўшы за гэта пад азіяцкае валадаранне.

Інакш не магло і быць.